Электронная кніга падрыхтавана па выданні:

**Гужалоўскі, А. А.**
Чырвоны аловак : нарысы па гісторыі цэнзуры ў БССР. У 2 кн. Кн. 1. 1919–1941 гг. / А. А. Гужалоўскі. — Мінск : Рэдакцыя газеты «Звязда», 2012. — 304 с.: іл.

ISBN 978-985-90303-1-4.

На падмурку вялікага аб'ёму архіўных дакументаў, перыёдыкі, сучасных даследаванняў у кнізе ўпершыню паказана гісторыя стварэння і функцыянавання сістэмы партыйна-дзяржаўнага інфармацыйнага кантролю ў БССР у 1919–1941 гг. Чытачы зазірнуць у «святая святых» савецкай ідэалогіі — Галоўлітбел і Галоўрэперткам, якія доўгія гады ажыццяўлялі інфармацыйную і культурную палітыку камуністычнай партыі, даведаюцца пра цэнзурныя лёсы літаратурных і мастацкіх твораў, сродкаў масавай інфармацыі і культурнай спадчыны Беларусі.

Кніга адрасавана гісторыкам, філолагам, журналістам, культуролагам, студэнтам гуманітарных спецыяльнасцей, а таксама шырокаму колу чытачоў, якія імкнуцца глыбей зразумець гісторыю Беларусі.

# ДА ЧЫТАЧА

Калі не выказаны супрацьлеглыя думкі,
то няма з чаго выбраць лепшае.
*Герадот*

Глабалізацыя медыяпрацэсаў, развіццё сродкаў сувязі, выкарыстанне новых тэхналогій у сферы перадачы і захавання інфармацыі — гэта найважнейшыя фактары, што абумовілі з’яўленне ў XXI ст. новага светапогляду. Пашырэнне камунікатыўных магчымасцей прывяло да размыцця межаў паміж краінамі, пашырэння абмену і ўзаемадзеяння розных культур, а галоўнае — да фарміравання новага, адкрытага грамадства. Здавалася б, у ім няма месца такой з’яве як цэнзура. Кожны грамадзянін мае права атрымліваць любую інфармацыю, калі яна не з’яўляецца дзяржаўнай альбо ваеннай тайнай.

Артыкул 33 раздзела І Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. забараняе цэнзуру ў нашай краіне. Адпаведна артыкулу 17 «Закона аб інфармацыі, інфарматызацыі і абароне інфармацыі Рэспублікі Беларусь», «…да інфармацыі, распаўсюджванне і (або) прадстаўленне якой абмежавана, адносіцца: інфармацыя аб прыватным жыцці фізічнай асобы і персанальныя даныя; звесткі аб дзяржаўных сакрэтах; інфармацыя, якая змяшчае камерцыйную і прафесійную тайну; інфармацыя, якая маецца ў справах аб адміністрацыйных правапарушэннях, матэрыялах і крымінальных справах органаў крымінальнага пераследу і суда да заканчэння вытворчасці па справе; іншая інфармацыя, доступ да якой абмежаваны заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь» [3].

Тым не менш, і сёння існуюць абмежаванні доступу да інфармацыі, не закрытай заканадаўствам.

Цэнзура (палітычная, ваенная, царкоўная) — гэта з’ява,

працэс альбо канкрэтна-гістарычны адзінкавы акт. Яна можа разглядацца як частка дзяржаўнай палітыкі, грамадскага жыцця і адначасова цалкам самастойны сацыяльны феномен, які ў СССР набыў усеагульны, татальны характар. Аўтар разумее цэнзуру як у вузкім (праца Галоўлітбела — Аддзела ваеннай цэнзуры і Галоўліта БССР, а таксама Галоўрэперткама), так і ў шырокім сэнсе — як сістэматычную дзейнасць партыйных і дзяржаўных інстытуцый па абмежаванні доступу да інфармацыі. У кнізе зроблена спроба высвятлення ідэалагічных прынцыпаў дзейнасці цэнзуры ў БССР, рэканструкцыі сістэмы цэнзурных органаў, аналізу асноўных напрамкаў, формаў і метадаў іх работы, даследавання ролі вышэйшага палітычнага кіраўніцтва, спецслужбаў і выдавецтваў у ажыццяўленні цэнзурнай палітыкі.

Органы цэнзуры ў БССР пільна ахоўвалі сапраўдныя, а ў большасці імі ж штучна створаныя дзяржаўныя тайны. У 1920– 1930-я гг. яны бесперапынна вышуквалі «варожыя» вылазкі на старонках друку і ў радыёперадачах, на кадрах кіна-, фотастужак і на грампласцінках, у экспазіцыйных залах і замежнай карэспандэнцыі.

Слова «цэнзура», якое ў грамадскай свядомасці ўжо набыло да таго часу негатыўны сэнс, зрэдку ўжывалася тымі, хто ёю кіраваў і хто яе ажыццяўляў на практыцы. Звычайна карысталіся больш нейтральным тэрмінам — «палітычны кантроль».

Цэнзура ў БССР была пазазаконнай, яна будавала сваю дзейнасць на падмурку сакрэтных партыйных і ведамасных дакументаў, якія дасылаліся з Масквы. А таму з’яўлялася тайнай, безадказнай і суб’ектыўнай. Яна была непараўнальна больш жорсткай за царскую. Каб у гэтым упэўніцца, дастаткова ўзгадаць пра тое, як у 1908 г. царскі суд адмяніў рашэнне Пецярбургскага камітэта па справах друку[1] аб арышце зборніка Янкі Купалы «Жалейка».

Падобнае ў разглядаемы час уявіць было проста немагчыма.

Месцазнаходжанне матэрыялаў справаводства Галоўлітбела — Аддзела ваеннай цэнзуры і Галоўліта БССР у 1922–1941 гг. невядома. Найбольш верагодна тое, што часткова яны былі знішчаны ў 1937 г., часткова загінулі падчас вайны. Таму крыніцазнаўчай асновай для напісання гэтай кнігі з’явіліся справаздачная дакументацыя Галоўлітбела — Аддзела ваеннай цэнзуры і Галоўліта БССР, а таксама Галоўрэперткама, якая дасылалася ў ЦК КП(б)Б, а таксама рашэнні бюро і пастановы ЦК КП(б)Б адносна палітычнага кантролю за інфармацыйным забеспячэннем грамадства. Аўтар таксама выкарыстаў нешматлікія захаваныя пратаколы пасяджэння калегіі Галоўлітбела, а таксама матэрыялы перапіскі ЦК КП(б)Б з АДПУ–НКУС. Каштоўныя сведчанні ўдзельнікаў падзей таго часу знаходзяцца ў перыёдыцы 1920–1930-х гг. і мемуарнай літаратуры[2].

Цэнзура ў БССР была адной з табуіраваных тэм у беларускай савецкай гістарыяграфіі. Таму першыя працы па гісторыі савецкай цэнзуры напісаны беларускімі даследчыкамі-эмігрантамі [1]. Беларускія аўтары на радзіме звяртаюцца да гэтай тэмы ўжо пасля набыцця краінай незалежнасці [2].

На працягу 1920–1930-х гг. у СССР адбывалася эвалюцыя ідэі абмежавання тэксту. Да 1922 г. фармулявалася задача абмежавання буржуазнага і рэлігійнага тэксту. З часу стварэння Галоўліта і на працягу 1920-х гг. да гэтай задачы дабавілася і паступова выйшла на першы план задача абмежавання іншапартыйнага і ўнутрыпартыйнага фракцыйнага тэксту. Нарэшце, 1930-я гг. былі часам абмежавання кананічнага партыйнага тэксту. У БССР на гэтую эвалюцыйную схему накладвалася барацьба з нацыяналдэмакратызмам, якая прывяла да вынішчэння беларускай інтэлігенцыі.

Большасць забароненых і пакрэсленых цэнзурай тэкстаў не была свядома накіравана супраць сацыяльнага ладу альбо палітычнай сістэмы, якія існавалі ў СССР. Цэнзары, асабліва ў 1930-я гг., сутыкаліся пераважна з няздольнасцю аўтараў падладзіцца пад хутка зменлівыя ідэалагічныя патрабаванні альбо выкаранялі памылкі друку.

Галоўліт прад'яўляў прэтэнзіі не толькі да зместу аўтарскага тэксту, але таксама да яго стылістычных асаблівасцей, што прывяло да поўнага абязлічвання вынікаў літаратурный працы. Гэта найбольш яскрава праявілася ў стылістыцы газетных матэрыялаў 1930-х гг. Некаторым кнігам давялося прайсці праз чыстку цэнзуры двойчы і болей разоў. Са з'яўленнем новых ідэалагічных задач узнікалі новыя і новыя прэтэнзіі да іх аўтараў. Так, напрыклад, было з перавыданнямі ў 1920-я гг. падручніка Язэпа Лёсіка «Беларуская мова. Правапіс», які ў 1930-я гг. быў увогуле забаронены да друку.

Галоўнымі ахвярамі дзейнасці цэнзурнай сістэмы ў БССР ў 1920–1930-я гг. сталі людзі. Наогул, страты тэкстаў, фільмаў, п'ес, а таксама архіўна-музейнай і бібліятэчнай спадчыны падчас макулатурных кампаній і чыстак — непапраўныя. Але найвялікшую шкоду цэнзура нанесла грамадскай свядомасці, сфарміраваўшы ў жыхароў БССР цэнзурную ментальнасць (самацэнзуру), якая выключала з поля зроку цэлыя пласты нацыянальнай і сусветнай гісторыі і культуры. Спачатку прымусова, а потым ужо агрэсіўна-добраахвотна стваральнікі беларускай савецкай культуры і яе спажыўцы збудавалі ўтапічную прастору, закрытую ад навакольнага свету і ад саміх сябе. Галасы нязгодных з гэткім станам рэчаў ужо не былі чутны да канца разглядаемага часу.

Савецкая цэнзура значна паўплывала на фарміраванне гістарычнай і нацыянальнай самасвядомасці, светаўспрыманне ў цэлым некалькіх пакаленняў беларусаў.

Знаёмства з яе гісторыяй і механізмамі функцыянавання дае адзін з адказаў на пытанне: чаму мы такія сёння?

**Літаратура**

1. Адамовіч, А. Якуб Колас у супраціве саветызацыі / А. Адамовіч. — Мюнхен : Інстытут для вывучэння гісторыі культуры СССР, 1955. — 62 с.

2. Герасімаў, В. М. Гісторыя цэнзуры друку на Беларусі: стагоддзе за стагоддзем / В. М. Герасімаў // Матэрыялы першых кнігазнаўчых чытанняў (Мінск, 15 верасня 1998 г.). — Мінск : Нацыянальная бібліятэка Беларусі, 2000. — С. 23–34; Касцюк, М. П. Бальшавіцкая сістэма ўлады на Беларусі / М. П. Касцюк. — Мінск : ВП «Экаперспектыва», 2000. — 307 с.; Лукашук, А. «За кіпучай чэкісцкай работай». З жыцця катаў / А. Лукашук. — Мінск : Беларускі гуманітарны фонд «Наша ніва», 1997. — 190 с.; Матох, В. БССР у 1920-я гг. : усталяванне татальнай цэнзуры і ідэалагічнага кантролю / В. Матох // Arche. — 2009. — № 1–2. — С. 249–273; Матох, В. М. Дзейнасць Галоўліта БССР у 1920-я гады / В. М. Матох // Беларускі гістарычны часопіс. — 2008. — № 6. — С. 13–20; Матох, В. Цензура в БССР / В. Матох // Абажур. — 2007. — № 7–8 (62–63). — С. 44–47; Осинская, С. А. Цензура на страже советской власти в Беларуси / С. А. Осинская // 90 лет истории белорусской государственности : тезисы докл. науч.-теор. конф. Минск, 23 дек. 2008 г. / редкол. : А. Н. Алпеев [и др.]. — Минск : МГЭИ, 2009. — С. 108–116; Протько, Т. С. Становление советской тоталитарной системы в Беларуси (1917– 1941 гг.) / Т. С. Протько. — Минск : Тесей, 2002. — 688 с.; Пурышева, Н. М. Становление и деятельность органов литературной цензуры в БССР в 1920-х гг. / Н. М. Пурышева // Куляшоўскія чытанні : матэрыялы Міжнар. навук.-практ. канф., 26–27 красавіка 2007 г. — Магілёў, 2007. — С. 222–224; Ракашевич, В. К. Главлит БССР

(1923– 1991) / В. К. Ракашевич // Беларускі археаграфічны штогоднік. — Мінск : БелНДІДАС, 2000. — Вып. 1. — С. 178–189; Сумко, А. В. Дзейнасць Галоўнага ўпраўлення па справах выдавецтваў БССР (1922–1941 гг.) / А. В. Сумко // Вестник Полоцкого государственного университета : науч.-теор. ежемес. журн. — Серия А, Гуманитарные науки. — 2005. — № 1. — С. 67–71; Сумко, Е. Источники по истории советской цензуры в БССР 1920–1930-х гг. в архивах Беларуси / Е. Сумко // Архівы і справаводства. — 2004. — № 4. — С. 99–102.

3. Национальный реестр правовых актов Респ. Беларусь. 28 ноября 2008 г. — № 279 (1839). — С. 14–27.

# ГАЛОЎЛІТБЕЛ У СІСТЭМЕ ІНФАРМАЦЫЙНАГА КАНТРОЛЮ ГРАМАДСТВА

Цэнзура ўведзена для таго, каб перашкаджаць распаўсюджванню ідэй, шкодных для веры, маральнасці, існуючага ладу праўлення і спыняць асобы.
*Фадзей Булгарын*

Яшчэ да абвяшчэння ССРБ, 25 кастрычніка 1917 г. загадам № 1 Мінскі савет рабочых і сялянскіх дэпутатаў увёў цэнзураванне ўсіх газет, якія выдаваліся ў горадзе і прыходзілі па пошце, з мэтай «папярэджвання распаўсюджвання чутак, якія хвалююць насельніцтва» [3, с. 31]. Бальшавікі ўспрымалі як небяспеку не толькі чуткі, але перш за ўсё ідэалогію праціўніка, выкладзеную ў кнігах, прэсе, улётках.

З моманту ўтварэння ССРБ і да 1922 г. за палітычны кантроль друку на тэрыторыі рэспублікі адказвалі чырвонаармейскія аддзелы цэнзуры, функцыі якіх з часам былі перададзены ў аддзелы ваенна-палітычнай цэнзуры Усерасійскай надзвычайнай камісіі. Кантроль за распаўсюджваннем друкаванай прадукцыі ў БССР ажыццяўлялі органы, створаныя ў рамках Народнага камісарыята асветы — Галоўпалітасвета і палітычны аддзел Беларускага дзяржаўнага выдавецтва (БДВ). Цэнзура у той час у ССРБ, як і ў іншых савецкіх рэспубліках была дэцэнтралізавана. Яна не рэгулявалася ніякімі дзяржаўнымі юрыдычнымі актамі. У такіх умовах аўтарам і выдаўцам яшчэ магчыма было знаходзіць міжведамасныя «праходы» і выдаваць літаратуру, непажаданую для ўлады.

З пачаткам правядзення ў 1921 г. новай эканамічнай

палітыкі сітуацыя з кантролем за друкаваным словам у савецкіх рэспубліках абвастрылася. Узнікненне вялікай колькасці кааператыўных і прыватных выдавецтваў і кнігарняў стварала небяспеку з'яўлення «шкоднай» друкаванай прадукцыі, якая несла ліберальную ідэалогію. Гэта выклікала занепакоенасць вышэйшага партыйнага кіраўніцтва, і асабіста Леніна, які неаднаразова ўздымаў пытанне аб арганізацыі належнага кантролю за друкам. Пасля непрацяглага перыяду барацьбы розных ведамстваў за манапольнае права кіраўніцтва друкам у СССР гэта пытанне было вырашана на пасяджэнні Палітбюро ЦК РКП(б) 22 сакавіка 1922 г., дзе абмяркоўваліся спосабы і ўмовы аб'яднання ўсіх відаў цэнзуры. А на пасяджэнні СНК РСФСР 6 чэрвеня 1922 г. новаму органу знайшлі назву — «Галоўнае ўпраўленне ў справах літаратуры і выдавецтваў» (Галоўліт) і вызначыліся з яго ведамаснай падпарадкаванасцю — ён стаў структурнай часткай Народнага камісарыята асветы. Рашэнне аб стварэнні цэнзурнага органа ў складзе Наркамасветы было прадыктавана тым, што ў абавязкі апошняга ўжо ўваходзіў кантроль за ўсёй выдавецкай прадукцыяй.

Падобны шлях арганізацыі кантролю за распаўсюджваннем інфармацыі быў абраны партыйным кіраўніцтвам БССР. Найважнейшым інструментам ЦК КП(б)Б па ажыццяўленні цэнзуры ў БССР у 1920–1930-я гг. стала «Галоўнае ўпраўленне ў справах літаратуры і выдавецтваў БССР» (Галоўлітбел). Створанае па маскоўскім узоры пастановай СНК БССР ад 5 студзеня 1923 г., яно фактычна распачало працу ўжо ўвосень 1922 г. у Мінску па адрасе: пляц Волі (зараз плошча Свабоды), дом 23 — у будынку, які займаў Народны камісарыят асветы.

На Галоўлітбел і яго мясцовыя органы ўскладаліся наступныя пытанні:

– папярэдні прагляд усіх прымеркаваных да друку

альбо распаўсюджвання літаратурных твораў як рукапісных, так і друкаваных, здымкаў, малюнкаў, карт;

– выдача дазволаў на права выдання асобных твораў;

– складанне спісаў твораў друку, забароненых да продажу і распаўсюджвання;

– выданне правіл, распараджэнняў і інструкцый па справах друку, абавязковых для ўсіх органаў друку, выдавецтваў, друкарняў, бібліятэк і кнігарняў.

Галоўлітбел забараняў выданне і распаўсюджванне твораў, якія змяшчалі агітацыю супраць савецкай улады, выдавалі ваенную тайну, узбуджалі нацыяналістычны і рэлігійны фанатызм, альбо тыя, якія мелі парнаграфічны характар. Ад цэнзуры вызваляўся партыйны камуністычны друк. Барацьба з распаўсюджваннем твораў, не дазволеных Галоўлітбелам, даручалася Дзяржаўнаму палітычнаму ўпраўленню (ДПУ). Асобны артыкул пастановы СНК БССР «Аб Галоўліце» прадугледжваў стварэнне Цэнтральнай рэпертуарнай камісіі пры Народным камісарыяце асветы, перайменаванай у 1927 г. у Галоўны камітэт па кантролі за рэпертуарам (Галоўрэперткам). У якасці яго галоўнай мэты вызначаўся кантроль за тэатральнымі і відовішчнымі мерапрыемствамі. Гэтымі аб’ектамі абмяжоўвалася дзейнасць цэнзурных органаў БССР на працягу першых гадоў іх існавання [49, арк. 1].

9 лістапада 1922 г. Наркамасветы зацвердзіў палажэнне і штаты Галоўлітбела ў складзе старшыні (Р. К. Шукевіч-Траццякоў[3]), намесніка (супрацоўнік ДПУ), члена (прадстаўнік ваеннага ведамства) і сакратара. Была сфарміравана калегія Галоўлітбела ў складзе 31 чалавека, якія працавалі па сумяшчальніцтве і збіраліся некалькі разоў на месяц. У яе ўвайшлі вядомыя навукоўцы, літаратары, дзеячы мастацтва, у т. л. А. В. Баліцкі, У. М. Ігнатоўскі, С. М. Некрашэвіч, З. Х. Жылуновіч (Цішка Гартны), У. І. Пічэта, М. М. Нікольскі і інш. Для кантролю за

работай калегіі ў яе склад уключылі прадстаўніка ЦК КП(б)Б. На членаў калегіі ўскладалася адказная задача азнаямлення з матэрыяламі, якія паступалі на цэнзураванне, адпаведна сваёй спецыяльнасці і іх прадстаўленне на пасяджэннях калегіі. Трэба адзначыць, што ўсе члены калегіі Галоўлітбела былі перагружаны сваёй асноўнай працай і не маглі істотна ўплываць на работу цэнзурнага органа. Але нават абмежаваны ўдзел лепшых прадстаўнікоў навукі і культуры забяспечваў кампетэнтнасць, уносіў элемент дэмакратызму ў гэту работу.

Фармальна Галоўлітбел падпарадкоўваўся Народнаму камісарыяту асветы БССР, але насамрэч выконваў інструкцыі, загады і быў справаздачны Галоўліту РСФСР (з якім займаў роўнае па статусе становішча) і быў палітычна падкантрольны ЦК КП(б)Б (што афіцыйна засведчыла бюро ЦК сваёй пастановай 17 снежня 1926 г.) [64, с. 178]. З Масквы ў Галоўлітбел рэгулярна прыходзілі цыркуляры з пералікам забароненых для публікацыі звестак: пра ваенны бюджэт, работу Дзяржплана, пра алмазны фонд, павышэнне цэн, замежныя канцэсіі, Салавецкія канцлагеры Аб’яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (АДПУ) і інш. З 1922 па 1927 г. Галоўлітбел працаваў на аснове фінансавай самаакупнасці. Выдача дазволаў і прагляд рукапісаў былі платныя — за гэтыя «паслугі» выдавецтвы, установы і прыватныя асобы ўносілі аплату ў памеры 1 рубель за прагляд аднаго друкаванага аркуша, а таксама гербавы збор. Ужо з 1922 г. пачалося стварэнне нізавых цэнзурных органаў. На пасяджэнні калегіі Галоўлітбела 21 лістапада 1922 г. былі зацверджаны інструкцыі павятовым прадстаўнікам цэнзурнага ведамства. Звестак пра іх работу, на жаль, не захавалася.

У лістападзе 1922 г. у Смаленску быў створаны Аблітзах — рэгіянальны цэнзурны орган РСФСР, у кампетэнцыю якога ўваходзіў кантроль за дзейнасцю выдавецкіх і

відовішчных ўстаноў, а таксама бібліятэк і кніжных крам у межах трох губерній — Смаленскай, Віцебскай і Гомельскай. Дагэтуль на ўсходнебеларускіх землях кантроль друкаванага слова ажыццяўлялі пададдзелы паліткантролю ў складзе губерскіх аддзелаў АДПУ, а за ідэалагічны ўзровень відовішчаў адказвалі губернскія аддзелы палітасветы. Аблітзах прыкладаў вялікія намаганні да арганізацыі ў Віцебску і Гомелі гублітаў, наладжванні іх эфектыўнай работы, перадачы ім часткі цэнзарскіх функцый ДПУ і палітасветы. Але з-за фінансавых цяжкасцей вынікі гэтых намаганняў былі абмежаваныя. Да 1924 г. супрацоўнікі віцебскага губліта (нават яго загадчык С. І. Рубін) выконвалі свае абавязкі па сумяшчальніцтве. Папярэдняя цэнзурура ажыццяўлялася супрацоўнікамі рэдакцый, улік выдавецтваў праводзіўся павярхоўна, былі выпадкі пропуску на сцэну ідэалагічна нявытрыманага матэрыялу.

Яшчэ горшымі былі вынікі па арганізацыі работы губліта ў Гомелі (загадчык — Лунінскі), пачатковыя звесткі пра які датуюцца снежнем 1922 г. [7, арк. 1–113].

Пасля першага ўзбуйнення БССР і ўвядзення ў 1924 г. новага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу арганізацыйная структура Галоўлітбела набыла наступны выгляд: цэнтральны апарат у Мінску — акруговыя аддзелы (акрліты) — раённыя ўпаўнаважаныя. Калі кандыдатуры на пасаду старшыні Галоўлітбела абмяркоўваліся ў вышэйшым партыйным кіраўніцтве рэспублікі, то акрі райліты прызначаліся адпаведнымі партыйнымі камітэтамі па прадстаўленні Галоўлітбела і пасля ўзгаднення з органамі ДПУ. Рэканструяваць кола абавязкаў акрліта дае магчымасць мандат загадчыка аршанскага акрліта, які прыводзіцца ніжэй:

«Мае сілу да 30 жніўня 1926 г.

МАНДАТ

Гэты дадзен тав. Храменкову Г. І. у тым, што ён сапраўды з’яўляецца Загадчыкам Варшанскага Акруговага Аддзелу па справах літаратуры і выдавецтва (Акрліт) з прычыны чаго на тав. Храменкова ўскладаецца:

вядзеньне палітычнага кантролю як папярэдняга, гэтак і наступнага над усімі друкарскімі творамі, выходзячымі ў сьвет у межах Варшанскае акругі.

Кантроль над усімі друкарнямі, бібліятэкамі, кнігарнямі як дзяржаўнымі, гэтак і прыватна-грамадзянскімі.

Кантроль над рэпертуарам тэатраў, кіно, канцэртаў, клюбаў (як ваенных, гэтак і грамадзянскіх) і featнага роду відовішчаў.

З прычыны вышэйпамянёнага тав. Храменкову прадстаўляюцца наступныя правы:

а) бесперашкодны ўваход ва ўсе памянёныя вышэй мейсцы, пры чым адміністрацыя апошніх павінна прадстаўляць па першаму патрабаваньню т. Храменкова ўсе неабходыя дзеля кантроля весткі і матэрыялы.

б) вынящце з ужывання розных кнігаў і друкарскіх твораў, распаўсюджваньне якіх не дазваляецца па закону.

в) забарона і закрыцьцё ўсякага роду відовішчаў, калі з боку апошніх будуць дапушчаны якія ліба парушэньні.

Ворганам Рабоча-Сялянскай Міліцыі належыць аказваць т. Храменкову усякую дапамогу пры выкананьні ім службовых абавязкаў.

Вышэйпамянёны подпісам ды прыкладаемай пячаткай сьведчыцца.

Падстава: Пастанова СНК БССР ад 5/I-23 г. Збор законаў № 1-2. ст. 7

Заг. Галоўліту БССР
Арэшнікаў

Сэкратар Суднік» [51, арк. 15].

Анкетныя даныя аршанскага акрліта Г. І. Храменкова адсутнічаюць. Але ў фондзе Наркамасветы ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захаваліся анкеты ўпаўнаважаных Галоўлітбела па раёнах Аршанскай акругі. Гэта былі людзі з сярэдняй і нясконечанай сярэдняй адукацыяй, пераважна партыйныя і савецкія функцыянеры ніжэйшага ўзроўню, якія выконвалі цэнзарскія абавязкі на грамадскіх пачатках. Яны прызначаліся на месцах райкамамі партыі і праходзілі падрыхтоўку ў выглядзе інструктажу ў акрліце.

Да канца 1924 г. персанальныя і структурныя змены адбыліся і ў цэнтральным апараце Галоўлітбела. Р. К. Шукевіча-Траццякова на пасадзе старшыні (у далейшым яна будзе мець назвы «загадчык» і «начальнік») змяніў

П. Л. Арэшнікаў[4]. Спадзяванні на тое, што вучоныя і нацыянальна-культурныя дзеячы старой фармацыі, з якіх пераважна складалася першая калегія Галоўлітбела, будуць эфектыўна выконваць цэнзарскія абавязкі не спраўдзіліся. Тады ў ім з’явілася дваццаць пасад палітрэдактараў, дзесяць з якіх былі прыкамандыраваны да рэспубліканскіх газет, дзесяць працавала з літаратурай па наступных напрамках: эканоміка, тэхніка, сельская гаспадарка, кааперацыя, медыцына, гісторыя, грамадазнаўства, мастацтва, белетрыстыка. Яны працавалі па сумяшчальніцтве, атрымліваючы ганарары за кожны прагледжаны друкаваны аркуш. На пасады палітрэдактараў, якія цяпер замест членаў калегіі выконвалі ўсю чарнавую, падрыхтоўчую работу, што папярэднічала рашэнню Галоўлітбела аб забароне ці дазволу публікацыі, прызначаліся ўжо пераважна маладыя партыйныя і камсамольскія вылучэнцы [15, арк. 184]. У наступныя гады колькасць літаратурных палітрэдактараў (якіх будуць называць «паліткантралёрамі») павялічвалася з адначасовым

памяншэннем лічбавага складу калегіі.

У кастрычніку 1927 г. Наркамасветы распрацаваў новае палажэнне аб Галоўлітбеле, згодна з якім у калегію ўваходзіла пяць асоб (загадчык Галоўлітбела, якім стаў І. Д. Гурскі[5], сакратар, а таксама прадстаўнікі аддзела друку ЦК, ДПУ і Беларускай ваеннай акругі), а колькасць палітрэдактараў узрасла за кошт новых напрамкаў — прыродазнаўства, філасофіі, педагогікі, правазнаўства, ваеннай справы, партыйнай, антырэлігійнай і дзіцячай літаратуры, а таксама літаратуры на замежных мовах [22, арк. 8]. У гэтым пераліку адзначым з'яўленне ў сферы дзейнасці Галоўлітбела новага цэнзурнага напрамку — партыйнай літаратуры, якая згодна з пастановай СНК БССР «Аб Галоўліце» 1923 г. не падлягала галоўлітаўскай цэнзуры. Пастановай сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 11 лістапада 1929 г. у штат Галоўлітбела былі ўведзены дзве новыя адзінкі інструктараў па справах друку, а таксама павялічана аплата працы палітрэдактараў, кандыдатуры якіх цяпер зацвярджаліся ў сакратарыяце ЦК [23, арк. 7]. У 1928 г. у сярэднім у месяц сакратар Галоўлітбела т. Груша падпісваў дазволы на выданне 60 кніг агульным аб'ёмам 12,5 тыс. старонак, на ажыццяўленне 180 тэатральных і кінапастановак, на выхад 450 нумароў газет, на размяшчэнне 30 фотаздымкаў у вітрынах атэлье. Акрамя таго, цэнзары Галоўлітбела давалі дазвол на вываз за межы СССР кніг, карцін і інш., экстранныя дазволы і кансультацыі [52, арк. 1].

Першыя рашэнні Галоўлітбела мела ліберальны характар. У той час задачай цэнзараў, не менш важнай, чым забароны і адабранні, лічылася тлумачальная работа, пошук кампрамісу з аўтарамі. Пра гэта сведчыць рашэнне ад 9 лістапада 1922 г. адносна друкавання граматыкі Я. Лёсіка: «Наперадзе тэкста буйнымі тлустымі літарамі на каляровай паперы зазначыць у прадмове і пасляслоў'і, што яно, г. зн. выдавецтва прынцыпова не згодна з ідэямі, што праводзіць

аўтар».

Але з цягам часу ліберальныя падыходы саступаюць месца жорсткім забаронам. Гэта можна прасачыць на прыкладзе цэнзурнага лёсу кніг і падручнікаў таго ж аўтара, па якіх вучылася ў 1920-я гг. уся рэспубліка: было забаронена распаўсюджванне кніг «Аўтаномія Беларусі» як «шавіністычнага характару» (26 снежня 1922 г.), «Наша крыніца» (9 лютага 1923 г.) як «вытрыманая ў рэлігійна-шавіністычным духу». У рукапісе падручніка «Беларуская мова. Правапіс» у ліпені 1923 г. зрабілі больш за 60 цэнзурных правак, а другое выданне было дазволена пасля больш за 140 правак. Рукапіс падручніка «Сінтаксіс» быў падпісаны да друку 27 сакавіка 1924 г. пасля 80 правак. Артыкул «Асноўны матыў у творчасці М. Багдановіча» 22 лістапада 1924 г. быў прызнаны «шкодным, які праводзіць контррэвалюцыйныя ідэі» [17, арк. 3].

Школьныя падручнікі выклікалі асаблівую заклапочанасць цэнзуры. Перад паступленнем у Галоўлітбел рукапісы падручнікаў павінны былі быць ухвалены навукова-метадычным камітэтам Наркамасветы і аддзелам друку ЦК. Разумеючы сваю адказнасць за фарміраванне, а лепш сказаць — дэфармацыю нацыянальнай і гістарычнай свядомасці дзяцей, чыноўнікі Галоўлітбела імкнуліся пазбегнуць нават самага дробнага недагляду падчас чыткі рукапісаў падручнікаў.

У 1925 г. Галоўлітбел забараніў да друку чацвёртае выданнне падручніка «Кароткі курс геаграфіі Беларусі» А. Смоліча, які ўпершыню ўбачыў свет у Вільні ў 1919 г. Па гэтай забароне П. Л. Арэшнікаў падрыхтаваў спецыяльнае данясенне ў ЦК. У ім мы знаходзім падрабязны пералік палітычных памылак аўтара, а таксама прапанову, якая была б немагчымай ужо праз некалькі год — абмеркаваць на калегіі Галоўлітбела пытанне аб трактоўцы дзяржаўных межаў Беларусі ў друку [14, арк. 169]. У лютым 1926 г.

Галоўлітбел забараніў карыстанне ў навучальных установах БССР падручнікам М. В. Азбукіна «Геаграфія Еўропы», выдадзеным у Беларускі дзяржаўным выдавецтве (БДВ) у 1924 г. [50, арк. 3]. У 1929 г. з рукапісу «Беларускага правапісу» Я. Лёсіка пасля яго абмеркавання на калегіі Галоўлітбела знікла наступнае: «У родным краі як у раі», «Даўней на Беларусі былі царкоўныя брацтвы», «Занімай, Беларусь маладая мая, свой пачэсны пасад між славянамі», «Ня шукай ты шчасьця долі ў чужым далёкім полі», «Да Вялікай Расійскай Рэвалюцыі на Беларусі была партыя Беларускае Сацыялістычнае грамады», «Як ты бедна, як ты цёмна, родная краіна», «Сьвятаполк-Мірскі», «Беларускія баяры (з часам яны сталі называцца шляхтаю) сутыкаліся з польскімі магнатамі, ім падабаліся прывілеі і правы польскае шляхты», «Клімент Смаляціч (жыў у XVII веку) вызначаўся як грамадскі дзеяч, палітык і філёзоф», «Родную песьню ціха сьпявае сын Беларусі — мужык» [18, арк. 35].

Зонай павышанай увагі былі навукова-папулярныя кніжкі агульнаадукацыйнага зместу, адрасаваныя шырокаму малапісьменнаму чытачу, пераважна сялянам. Пасля абмеркавання ў 1925 г. у Галоўлітбеле рукапісу кніжкі М. Байкова і С. Некрашэвіча пад назвай «Наша сіла — ніва да машына» са змешчанага ў ім апавядання «Што дала Савецкая ўлада працоўным» зніклі наступныя сказы: «Цяпер рабочыя пачалі працаваць не на фабрыкантаў, а на ўвесь народ. У іх 8-мі гадзінны працоўны дзень і ніхто не мае права прымушаць іх працаваць болей 8 гадзін у суткі. Рабочыя, якія ўжо ня могуць працаваць, атрымоўваюць ад дзяржавы грашовую забясьпеку. Забясьпека выдаецца і безпрацоўным». З апавядання «Хто кіруе нашай Рэспублікай» знік сказ «Завецца яна эспублікай патаму што ў ёй улада належыць не да адной якой-небудзь асобы, як напрыклад, цара, або караля, а да ўсяго народа». З апавядання «Чырвоная армія» — сказ «Служба ў Чырвонай

Арміі на адзін год карацейшая чым у быўшай царскай арміі». Са сказа «…як бараніцца ад паноў і багатыроў, як зьнішчыць вайну, як дабіцца зямлі і волі» ў апавяданні «Свята першага мая» зніклі апошнія чатыры словы. У вершы Янкі Купалы «Беларусь» скасавалі радкі «Усё гэта Беларусьсю завецца і да нас належыць» [18, арк. 23–24].

Ідэалагічны кірунак работы цэнзурнага ведамства відавочны праз праўкі, унесеныя ў творы беларускіх аўтараў, прынятыя да друку ў 1923 г. Так, «Пачатковую геаграфію» М. А. Грамыкі дазволілі друкаваць з умовай што радкі «пра любоў да Радзімы» будуць выкрэсленыя, і наадварот, будзе дададзена, што «акрамя беларусаў каталікоў і праваслаўных ёсць яшчэ беларусы-атэісты (яны — найбольш свядомыя)». Ад аўтара запатрабавалі ўзяць у двукоссе словы «дэмакратычныя свабоды», таму што яны нібыта выкарыстоўваюцца для абдурвання працоўных. Якубу Коласу ў якасці ўмовы выдання яго аповесці «У палескай глушы» паставілі напісанне слова «Бог» і назваў рэлігійных свят з малой літары [48, арк. 8–9]. Пурытанізм савецкай цэнзуры праявіўся ў 1926 г., калі праца А. К. Сержпутоўскага «Казкі і апавяданьні беларусаў з Слуцкага павета» была дазволена да друку ў выдавецтве Інбелкульта пры ўмове адабрання з яе «шэрагу парнаграфічных выказванняў». Тыраж кнігі быў абмежаваны 350 экзэмплярамі, мінімальны яе кошт вызначаны 10 рублямі, бясплатнае распаўсюджванне забаронена [19, арк. 230].

На пасяджэнні калегіі Галоўлітбела 12 мая 1927 г. пасля абмеркавання было вырашана дазволіць выданне ў БДВ адрыўнога календара на 1928 г. пры ўмове пазбаўлення яго функцыі ўжо «ня модных» рэвалюцыйных святцаў — у першым варыянце кожнаму дню года ў календары адпавядала рэвалюцыйнае імя (Дэкабрына, Паліграф, Марксіна, Будзёна, Радыё, Савета, Комса, Молат, Аўтанома, Спайка, Сталіна, Плуг, Праца, Рэвалюцыя, Інтэрна, Сьценка-

Разіна, Калекта, Стачка і інш.). Акрамя таго, укладальнікі календара павінны былі выдаліць згадкі шэрагу гістарычных падзей, у т. л.: «1746. Нарадзіўся Тадэўш Касьцюшка»; «1887. Нарадзіўся беларускі поэта Алесь Гарун»; «1921. Паміж Расіяй і Польшчай падпісана Рыская ўмова, згодна якой Беларусь падзелена на дзьве часткі — Усходняя (сучасная Савецкая Беларусь) і Заходняя (цяпер пад Польшчай)» [21, арк. 159].

Галоўлітбел не толькі забараняў ці дазваляў, але рэгуляваў тыражы выданняў. Так, у кастрычніку 1927 г. загадчык Галоўлітбела І. Д. Гурскі прапанаваў БДВ скараціць тыражы дрэннай па якасці мастацкай літаратуры да 1,5 тыс. экзэмпляраў і ўстрымацца ад яе перавыданняў. І. Д. Гурскі не вызначыў крытэрыяў аднясення таго ці іншага мастацкага твора да якасна дрэннага, пакінуўшы права іх адбору палітрэдактарам выдавецтва [21, арк. 193].

У 1924 г. з'явіўся яшчэ адзін напрамак дзейнасці Галоўлітбела: кантроль над распаўсюджваннем твораў Леніна і яго партрэтаў.

З 1927 г. у галоўлітаўскіх цыркулярах, якія дасылаліся з Масквы, пачала з'яўляцца фраза: «Галоўліт паведамляе, што ўсякае парушэнне выкліча прыцягненне да адказнасці па суду па арт. 58-10 КК РСФСР» (перадача звестак, не падлягаючых апавяшчэнню, каралася зняволеннем тэрмінам да трох гадоў).

У 1926 г. у Маскве было распрацавана «Агульнае палажэнне па дастаўцы замежнай літаратуры (перыядычнай і неперыядычнай) без папярэдняга прагляду Галоўлітам». У БССР права на вольнае атрыманне замежнай інфармацыі мелі партыйныя, савецкія, прафсаюзныя і камсамольскія органы (але не ніжэй акруговага ўзроўню), а таксама Акадэмія навук, Камуністычны ўніверсітэт, тэлеграфнае агенцтва, цэнтральныя выдавецтвы і рэдакцыі. Без абмежаванняў можна было ўвозіць замежную навукова-

тэхнічную, гандлёва-прамысловую, а таксама камуністычную літаратуру. Тыя, хто не ўваходзіў у склад вышэйшай партыйна-савецкай, прафсаюзна-камсамольскай наменклатуры альбо не займаў кіраўнічых пасад у журналісцка-выдавецкім цэху, маглі атрымаць замежную літаратуру толькі з пісьмовага дазволу Галоўліта [19, арк. 183].

Што тычыцца рускамоўнай і беларускамоўнай літаратуры і перыёдыкі, выдадзенай за мяжой, то да 1926 г. значная частка гэтых выданняў свабодна прапускалася праз кардон. У кожным разе цэнзар быў павінен абгрунтоўваць тую ці іншую забарону. Гэта практыка скончылася ў 1926 г., калі аддзел друку ЦК УсеКП(б) забараніў увоз у СССР усёй эмігранцкай літаратуры. З Масквы гэта дырэктыва была даслана ў беларускі цэнзурны орган, і неўзабаве на яе аснове склалі сакрэтны спіс адрасатаў, якім было дазволена атрымліваць замежныя выданні, у т. л. беларускамоўныя. У спісе, з якім акрамя І. Д. Гурскага працавалі загадчык аддзела друку ЦК А. А. Сянкевіч і прадстаўнік ДПУ Міхайлаў і ў які ўвайшлі вышэйшыя партыйна-савецкія органы, рэдакцыі пяці цэнтральных газет і БДВ, не знайшлося месца нават для буйнейшых навуковых бібліятэк рэспублікі. Забарона дзейнічала няўхільна. На пасяджэнні калегіі Галоўлітбела 11 мая 1926 г. было вырашана выслаць назад у адрас адпраўшчыка 250 кніг, атрыманых Беларускай дзяржаўнай бібліятэкай з прычыны наяўнасці сярод іх выданняў са старой рускай арфаграфіяй, варожых сацыялістычнаму будаўніцтву, выдадзеных у замежных выдавецтвах, якія байкатуюцца ў СССР, а таксама «класікаў, якія нацыяналізаваны [забаронены. — *А. Г.*] Савецкім урадам» [18, арк. 241]. Падобная практыка адсылак і знішчэння эмігранцкай літаратуры працягвалася надалей. Галоўлітбел ажыццяўляў кантроль не толькі за кнігамі, часопісамі, музычнымі нотамі, грамафоннымі пласцінкамі,

фотакарткамі і кінаплёнкамі, якія прыходзілі ў БССР з-за мяжы, але таксама і тымі, што вывозіліся. У 1929 г. Галоўлітбел забараніў адсылку за мяжу з мэтай апублікавання рукапісу выключанага з Беларускай акадэміі навук (БАН) акадэміка М. М. Дурнаво з-за таго, што ў ім «… тэндэнцыйна апісвалася цяжкае становішча вучоных у С.С.С.Р.» [23, арк. 17].

Беларускае аддзяленне Галоўнага мытнага ўпраўлення Наркамзнешгандлю СССР у маі 1927 г. зменшыла норму «безліцэнзійнага ўвозу ў пасылках асабістакарыстальніцкага характару» кніг, часопісаў, карцін, геаграфічных карт, нот і г. д. з дзвюх да аднаго экзэмпляра кожнага найменне [62, арк. 6]. Друкарскія машынкі, радыёпрыёмнікі і фотаапараты ўвозіліся з-за мяжы прыватнымі асобамі паводле спецыяльнага дазволу [63, арк. 29].

Адмова ад ідэі НЭПа і пераход да «вялікага скачка» ў выглядзе індустрыялізацыі і калектывізацыі прывялі да росту апазіцыйных Сталіну настрояў як у кіраўніцкім складзе партыі, так і ў непартыйных структурах. Сталін змагаўся з ліберальнай, буржуазнай па сутнасці ідэалогіяй дзвюма спосабамі: рэпрэсіямі і ўсталяваннем татальнага партыйнага кантролю над усімі формамі інфармацыйнага забеспячэння грамадства.

Сутнасць апошняга спосабу тлумачыў у 1931 г. у сваім выступленні перад крайабллітамі начальнік Галоўліта РСФСР П. І. Лебедзеў-Палянскі: «Нашы лозунгі і ўстаноўкі ў бягучы час ужо не тыя чатыры пункты, якія існуюць у палажэнні Галоўліта: барацьба з кантррэвалюцыяй, барацьба з парнаграфіяй, барацьба з макулатурай, барацьба з накіраванасцю на нацыянальнасці і г. д. Не гэтыя чатыры пункты будуць знаходзіцца ў аснове нашай дзейнасці, але наша генеральная лінія партыі. Усё ад яе павінна паходзіць… Трэба зразумець, што генеральную лінію партыі мы павінны разглядаць не толькі ў галіне чыстай

палітыкі, чыстай эканомікі, але мы павінны здолець сутнасць генеральнай лініі партыі распаўсюдзіць на ўсе галіны практычнай дзейнасці, на ўсе галіны нашай ідэалогіі і на сацыялогію, і на гісторыю, і на філасофію, і на медыцыну, і на сельскую гаспадарку, і на мастацкую літаратуру, і на дзіцячую літаратуру, словам, на ўсе галіны нашай дзейнасці, на ўсе віды нашых выданняў» [8, с. 361].

Узмацненне кантролю над ідэалагічнай сферай жыцця ў СССР на мяжы 1920–1930-х гг. абумовіла павелічэнне аб'ёму працы, якую выконвала цэнзурнае ведамства, а таксама змены ў яго структуры і дзейнасці. Пачынаючы з гэтага часу і да канца разглядаемага перыяду дзясяткі дырэктыў і распараджэнняў патрабавалі ад цэнзуры ўзмацніць пільнасць, дысцыпліну і якасць працы.

5 кастрычніка 1930 г. СНК РСФСР прыняў пастанову «Аб рэарганізацыі Галоўліта», якая была прадубліравана СНК іншых рэспублік. У гэтым дакуменце былі афіцыйна замацаваны новыя паўнамоцтвы цэнзурнага монстра, якімі ён валодаў, у параўнанні з 1922 г. На Галоўліт ускладалася «агульнае кіраўніцтва ўсімі відамі кантролю палітыка-ідэалагічнага, ваеннага і эканамічнага», што скрыжоўвалася з прэрагатывай культпрападдзела ЦК. Кантроль яго распаўсюджваўся не толькі на рукапісы і на друкаваныя творы, карціны, фотаздымкі і г. д., але і на радыёвяшчанне, лекцыі і выстаўкі. Пры дзяржаўных і грамадскіх выдавецтвах, радыёвяшчальных арганізацыях, тэлеграфных агенцтвах, паштамтах і мытнях уводзіліся пасады ўпаўнаважаных Галоўліта, якія ажыццяўлялі папярэдні кантроль і ўтрымліваліся за іх кошт [8, с. 300]. Такім чынам, да 1930 г. Галоўліт значна пашырыў свае функцыі, зафіксаваныя ў дэкрэце СНК РСФСР 1922 г. Цяпер асноўным звяном папярэдняга кантролю над друкаванай прадукцыяй стаў інстытут упаўнаважаных, якія прызначаліся Галоўлітам па ўзгадненні з ЦК.

15 жніўня 1931 г. сакратарыят ЦК КП(б)Б прыняў пастанову «Аб узмацненні працы Галоўліта па паліткантролю за выпускаемым перыядычным і неперыядычным друкам». Гэты дакумент дубліраваў адпаведную пастанову палітбюро ЦК УсеКП(б) і быў прысвечаны пераважна рэгламентацыі працэдуры папярэдняга цэнзурнага кантролю. Цяпер папярэдні кантроль афіцыйных урадавых дакументаў, а таксама матэрыялаў, якія тычыліся абароны, міжнародных адносін, экспарту-імпарту, транспарту, сродкаў сувязі, ажыццяўляўся цэнтральным апаратам Галоўлітбела, яго ўпаўнаважанымі альбо палітрэдактарамі пры выдавецтвах і друкарнях, райупаўнаважанымі ў тых раёнах, дзе былі друкарні. Вышэйпералічаныя матэрыялы прымаліся да друку пры ўмове наяўнасці дзвюх віз — наркама альбо кіраўніка ведамства і Галоўліта. За парушэнне гэтых правіл уводзілася партыйная і крымінальная адказнасць. Паводле гэтай пастановы кіраўнікі рэспубліканскіх ведамстваў абавязваліся штомесяц дасылаць у Галоўлітбел пералікі звестак, якія з'яўляліся дзяржаўнай тайнай. На іх аснове цэнзары штоквартальна абнаўлялі спісы звестак, забароненых да друку [29, арк. 243–244].

Тым жа 1931 г. датуецца апошняя дакументальная ўзгадка пра калегію Галоўліта, якая сімвалізавала сувязь савецкай цэнзуры з грамадствам.

У лістападзе 1933 г., пасля стварэння інстытута Упаўнаважанага СНК СССР па ахове ваенных тайнаў у друку, ведамства атрымала назву Упраўленне Упаўнаважанага СНК СССР па ахове ваенных тайнаў у друку і начальніка Галоўліта. У БССР Галоўлітбел быў перайменаваны ў Галоўліт і Аддзел ваеннай цэнзуры (АВЦ) БССР пры Упаўнаважаным СНК СССР (на апошніх старонках кніг з іх выпускнымі данымі побач з дазвольным нумарам па-ранейшаму ставілася пазнака «Галоўлітбел»).

Галоўліт забараняў распаўсюджваць звесткі ваенна-тэхнічнага характару і раней. Першы ўсесаюзны пералік ваенных звестак, забароненых да друку, ён прыняў у 1924 г. Забаранялася друкаваць не толькі звесткі аб назвах і аб'ёме вытворчасці, колькасці рабочых і адміністрацыйна-тэхнічнага персаналу, транспартных камунікацыях і геаграфічных аб'ектах, але і тыя, з якіх можна было выбраць вышэйзгаданыя звесткі шляхам лагічных разважанняў, супастаўлення або праз падлік. Тады ж ЦК УсеКП(б) прыняла рашэнне аб вывядзенні Галоўлітаў РСФСР і іншых саюзных рэспублік са складу Народных камісарыятаў асветы і падпарадкаванні іх непасрэдна СНК СССР. Гэтыя структурныя пераўтварэнні адлюстроўвалі дзве тэндэнцыі тагачаснага грамадска-палітычнага развіцця краіны — яе ваенізацыю і цэнтралізацыю намаганняў па ўсталяванні аднадумнасці.

З 1 чэрвеня 1935 г. загадам Наркама абароны ў арміі і на флоце было ўведзена новае палажэнне «Аб арганізацыі ваеннай цэнзуры ў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі». Такім чынам, была ўзноўлена цэнтральная ваенная цэнзура (8-мы аддзел Рэгістрацыйнага ўпраўлення Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі) у рамках арміі, якая раней знаходзілася ў складзе органаў дзяржбяспекі. Паліткантроль ДПУ–АДПУ па-ранейшаму сачыў за працай друкарняў, кнігарняў, тэатраў, кінатэатраў, праглядаў замежную і вывазную паліграфічную і кінапрадукцыю, а таксама правяраў карэспандэнцыю замежнікаў, што жылі ў СССР, паштовыя адпраўленні да запатрабавання, карэспандэнцыю канкрэтных асоб па аператыўных спісах.

У 1934 г. са складу Галоўліта і АВЦ БССР быў вылучаны Галоўрэперткам, які першапачаткова ўтварыў самастойнае ўпраўленне Наркамасветы, а з 1936 г. стаў структурнай часткай Галоўмастацтва.

У 1935 г. пасля рэарганізацыі работы Радыёкамітэта

БССР пры ім была створана самастойная цэнзарская група з упаўнаважаным Галоўліта і АВЦ БССР для ажыццяўлення папярэдняга кантролю над радыёвяшчаннем. Цэнтральнаму апарату Галоўліта і АВЦ БССР была даручана наступная цэнзура цэнтральных радыёперадач і кіраўніцтва кантролю нізавога мясцовага радыёвяшчання. Асобны ўпаўнаважаны Галоўліта і АВЦ БССР з'явіўся таксама ў Камуністычным інстытуце журналістыкі.

Да 1936 г. адносяцца першыя звесткі аб арганізацыі палітычнага кантролю за музейнымі экспазіцыямі і выстаўкамі, што ў пасляваенны час стане неад'емнай часткай работы Галоўліта: «Сядзеў разам са мною ў мінскай турме супрацоўнік Беларускага гістарычнага музея[6] (прозвішча не памятаю) за арганізацыю экспазіцыі, прысвечанай легендарнаму Гаю. Зразумела, экспазіцыя была створана задоўга да абвяшчэння Гая "ворагам народа". Пасля гэтага ніхто не рызыкнуў бы, ведаючы становішча ў краіне, папулярызаваць імя і заслугі героя грамадзянскай вайны. Органы канфіскавалі экспазіцыю з музея і знішчылі яе. Аднак нейкі службіст-энкэвэдзіст дакапаўся, відаць не без дапамогі даносчыкаў, да таго, хто ствараў экспазіцыю. Такім чынам, чалавек пацярпеў з прычыны таго, што не валодаў здольнасцю прадбачання і не змог наперад угадаць, якая палітычная трансфармацыя адбудзецца з славаю Гая» [67, с. 50].

9 жніўня 1938 г. Галоўліт РСФСР разаслаў па Галоўлітах саюзных рэспублік цыркуляр № 1036, які прапанаваў ім падрыхтаваць пераход цэнзуры з мірнага часу да ваеннага, што прадугледжвала закрыццё адных перыядычных выданняў і павелічэнне тыражу другіх. Гэты мабілізацыйны план быў падрыхтаваны пасля ўзгаднення з аддзелам прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б [44, арк. 1].

Пасля пабудовы ў Мінску Дома ўраду ў 1934 г. Галоўліту і АВЦ БССР быў выдзелены ў ім кабінет пад нумарам 809. У

пачатку 1941 г. Галоўліт і АВЦ БССР перавялі ў Дом друку, дзе цэнзары і даведаліся аб пачатку вайны. Умовы працы цэнзараў нізавога ўзроўню былі больш сціплыя. У сваім дакладзе сакратару ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнку, падрыхтаваным у жніўні 1938 г., І. Л. Ахрамовіч так апісваў умовы работы цэнзараў раённага ўзроўню: «У большасці выпадкаў райцэнзары не маюць асобных ізаляваных пакояў, працуюць абы дзе. Нават захаванне сакрэтных дакументаў цяпер перададзена ім і яны павінны ўтрымліваць іх пры сябе, у выніку чаго маюцца выпадкі страты "Пераліка звестак складаючых дзяржаўную тайну"» [42, арк. 49]. У 1939 г. пад жорсткую крытыку начальніка Галоўліта і аддзела ваеннай цэнзуры БССР трапіла работа Віцебскага аблліта. Яго скарга на падначаленых, накіраваная першаму сакратару ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнку цікавая перадусім апісаннем умоў працы віцебскіх цэнзараў: «У адным пакойчыку пры віцебскай друкарні працуе 5 чалавек аблліта. Сюды заходзяць шмат наведвальнікаў па розных пытаннях. Сталы і паліцы завалены адабранай літаратурай. У гэтым жа пакоі захоўваюцца сакрэтныя матэрыялы, з якімі работнікі аблліта вымушаны працаваць у прысутнасці пабочных асоб» [44, арк. 14].

Тэхналагічна Галоўлітбел — Галоўліт і АВЦ БССР на працягу 1930-х гг. ажыццяўляў трохузроўневую цэнзуру — папярэднюю, наступную і канфіскацыйную. Папярэдняя цэнзура зводзілася да прачытання рукапісу і ўнясення ў яго змен. Апошнія фіксаваліся ў пашпарце, які заводзіўся на кожны твор. Адзін папраўлены машынапісны экзэмпляр твора заставаўся ў справаводстве Галоўліта, другі аддавалі рэдакцыйнаму рэдактару і пасля ўзгаднення з аўтарам вярталі ў Галоўліт, адкуль пасля атрымання дазвольнай візы ён накіроўваўся ў друкарню. Такім чынам, магчымасці асабістых кантактаў паміж цэнзарам і аўтарам у 1930-я гг. былі цалкам выключаны. Цэнзары пераўтварыліся ў

міфічныя законспіраваныя асобы, на якія можна было вусна спасылацца, але якіх ніхто не бачыў. Мясцовыя «літы» рэгулярна адсылалі ў Мінск месячныя зводкі знойдзеных і папраўленых памылак і скажэнняў, а Галоўліт БССР накіроўваў іх у абагульненым выглядзе ў Галоўліт РСФСР і рэспубліканскаму партыйнаму кіраўніцтву. У снежні 1932 г. загадчык культпропа ЦК КП(б)Б М. А. Ляўкоў нагадваў Галоўлітбелу пра правілы папярэдняй цэнзуры: дазваляць твор да публікавання, забараняць яго альбо даваць магчымасць аўтару выправіць зробленыя заўвагі (рабіць праўкі ў рукапісах без згоды аўтара цэнзарам фармальна забаранялася) [32, арк. 206].

У дырэктыўных дакументах Галоўліта шматразова адзначалася важнасць папярэдняй праверкі інфармацыі, прызначанай для публічнага распаўсюджвання. Аднак кантролю матэрыялаў на наступным узроўні так сама надавалася асаблівая ўвага. Да яго правядзення прыцягваліся найбольш вопытныя і адукаваныя супрацоўнікі. Кошт памылкі цэнзараў, якія ажыццяўлялі наступную цэнзуру, быў надта высокі. З маральна-палітычнага пункту гледжання яна азначала публічную пляму на мундзіры ведамства, з эканамічнага — выдаткі, звязаныя з затрымкай і канфіскацыяй тыражу. Імкненнем пазбегнуць падобнай фатальнай памылкі тлумачыцца катэгарычная забарона галоўлітаўскага начальства ажыццяўляць адной асобе папярэднюю і наступную цэнзуру. А з 1935 г. наступны кантроль ажыццяўляўся ўжо не па сігнальных экзэмплярах гатовых тыражоў кніг, часопісаў і інш., а па падпісаных рэдактарам і цэнзарам аркушах вёрсткі. Нягледзячы на ўсе гэтыя меры перасцярогі, ва ўмовах палітычных рэпрэсій другой паловы 1930-х гг. і з’яўлення ўсё новых «ворагаў народа» канфіскацыі тыражоў працягваліся.

Цэнзура становіцца ўсеабдымнай, татальнай, яна робіцца складанай часткай свядомасці ўсяго савецкага

грамадства — ад напаўпісьменнага калгасніка да партакрата найвышэйшага ўзроўню. Адной з яскравых праяў цэнзурнага мыслення было з'яўленне добраахвотных цэнзараў, якія сігналізавалі вышэйшым пра палітычныя памылкі, што, на іх думку, праслізгвалі на старонкі друкаванай прадукцыі ці ў радыёперадачы. У малюнку на абгортцы пячэння яны бачылі схаваныя хрысціянскія крыжы і зоркі Давіда. На вокладцы вучнёўскага сшытка — заклік «Далой УсеКП(б)». На пачку запалак — ахоплены полымем твар М. І. Калініна. Аднак выкрывальніцкая дзейнасць цэнзараў-аматараў, якая набывала паранаідальныя формы, як правіла, не знаходзіла падтрымкі ў прафесіяналаў.

У сакавіку 1938 г. начальнік Сіроцінскага райліта Віцебскай вобласці дакладаў начальніку Галоўліта — АВЦ БССР пра дыскусію раённага партыйна-камсамольскага актыву, арганізаваную двума мясцовымі партыйнымі і савецкімі функцыянерамі нізавога ўзроўню, тэмай якой была якасць друкавання партрэтаў партыйных і савецкіх правадыроў на аркушах адрыўнога календара на 1938 г. У прыватнасці, арганізатары дыскусіі сцвярджалі, што на партрэце Леніна, змешчаным на аркушы ад 22 красавіка, гальштук нагадвае галаву сабакі; на аркушы ад 5 мая Сталін курыць дзве люлькі; на аркушы ад 8 лістапада, дзе паказана, як Ленін і Сталін размаўляюць па тэлефоне, — Сталін закрывае рот рабочаму. Разумеючы гэтыя інтэрпрэтацыі як праявы псіхічных надломаў людзей, якія жылі ў разгар сталінскіх рэпрэсій, адзначым у іх абарону, што якасць савецкага масавага друку 1930-х гг., якая значна саступала не толькі тагачаснай замежнай, але таксама расійскай дарэвалюцыйнай паліграфіі, давала падставу для домыслаў. Невядома, як праходзіла дыскусія, ці падтрымалі яе ўдзельнікі пільнасць арганізатараў альбо, наадварот, зганілі іх. Вядома толькі тое, што начальнік Сіроцінскага райліта ахарактарызаваў аматарскія інтэрпрэтацыі каляндарных

аркушаў як «контррэвалюцыйную хлусню», а паводзіны арганізатараў абмяркоўваліся на бюро райкама [42, арк. 21].

У 1930-я гг. адбываецца далейшая палітызацыя цэнзуры. Фрагменты аўтарскіх тэкстаў, якія раней выклікалі незадавальненне галоўлітаўскіх цэнзараў з маральна-этычных меркаванняў, цяпер выкрэсліваюцца па палітычных матывах. Так, з рукапісу надрукаванага ў 1937 г. артыкула М. І. Галадца «Год работы Бабруйскага начнога супроцьвенерычнага пункту» былі зняты радкі, якія знаёмілі чытача з пазіцыяй працаўнікаў супроцьвенерычнай прафілактыкі («індывідуальная прафілактыка рознымі мазямі і растворамі дэмаралізуе моладзь і вядзе яе да распусты»). Аргументацыя цэнзара супраць абмеркавання гэтай далікатнай тэмы мела нечакана палітызаваны характар: «…паўстае пытанне, навошта савецкі ўрад стварае ўстановы [маюцца на ўвазе супроцьвенерычныя пункты. — *А. Г.*], якія дэмаралізуюць моладзь». У тым жа артыкуле ў сказе, дзе прыводзіліся даныя пра колькасць наведвальнікаў пункта, якія мелі кантакты з прастытуткамі, слова «прастытуткі» заменена на «выпадковыя знаёмыя». З надрукаванага варыянта артыкула таксама знікла статыстыка і тапаграфія платнага кахання ў тагачасным Бабруйску: «мелі палавыя зносіны за месяц — на вуліцы 87, у яе 134, у сябе 25, у парку 8 чалавек» [39, арк. 147].

Адбор супрацоўнікаў для работы ў Галоўліце пасля «вялікага пералому» можна параўнаць толькі з аналагічным адборам ў органы дзяржбяспекі. Калі першымі начальнікамі Галоўліта ў 1920-я гг. прызначаліся журналісты, праверменаыя на працы ў камуністычных выданнях, то ў 1930-я гг. цэнзурай кіравалі былыя палітработнікі, камсамольскія работнікі, ваенныя, якія мелі пралетарска-сялянскае паходжанне (пераважна сяляне, якія прайшлі «абкатку» ў гарадскім асяроддзі) і няскончаную сярэднюю альбо сярэднюю адукацыю. Кандыдатуры начальнікаў Галоўліта

(як і найбольш важныя пытанні работы ведамства) абмяркоўваліся на пасяджэннях бюро ЦК КП(б)Б. У ідэале ўсе цэнзары павінны былі быць членамі партыі, прынамсі, кандыдатамі ў яе, маладыя — членамі камсамола. Падчас выканання службовых абавязкаў яны былі павінны не толькі кіравацца класавай пільнасцю і пералікамі звестак, якія не падлягалі публікацыі, але таксама сачыць за публікацыямі «Праўды» і іншых партыйных выданняў. Не вартымі быць цэнзарамі лічыліся асобы, якія мелі партспагнанні, знаходзіліся пад следствам ці мелі сваякоў за мяжой. Кіраўніцтва Галоўліта дабілася для цэнзараў пэўных дробных прывілеяў, напрыклад вызвалення ад абавязковай ваеннай службы. Супрацоўнікі цэнтральнага апарата Галоўліта ўваходзілі ў наменклатуру ЦК, а з 1937 г. цэнзары ўсіх узроўняў былі ўключаны ў наменклатуру партыйных органаў адпаведнага ўзроўню[7]. Трэба адзначыць, што жыццё ўносіла значныя карэктывы ў кадравую палітыку, якую праводзіла партыйные кіраўніцтва ў адносінах да цэнзурнага ведамства.

Пасля І. Д. Гурскага ў 1930 г. Галоўлітбелам нядоўгі час кіраваў нейкі Якшэвіч. Фрагментарныя звесткі пра яго дзейнасць на гэтай пасадзе маюцца ў лісце старшыні ДПУ БССР Р. Я. Рапапорта другому сакратару ЦК КП(б)Б І. А. Васілевічу, датаваным 8 красавіка 1930 г.: «У працэсе назірання за Галоўлітам і сумеснай з ім працы, мы канчаткова ўпэўніліся, што загадчык Галоўлітам тав. Якшэвіч у далейшым утрыманым на гэтай рабоце быць ня можа. Да справы ставіцца надта халатна, працуе нядбайна, без усякай зацікаўленасці і ініцыятывы, часу галоўлітаўскай рабоце ўдзяляе мала, хаця іншымі абавязкамі не нагружаны. У Галоўліце застаць яго можна зрэдку, дзякуючы чаму з боку кліентуры гэтай установы маюцца зусім справядлівыя нараканні. Празмерна злоўжывае спіртнымі напоямі, на што ў яго ўходзіць большая частка працоўнага часу. Дзякуючы

гэтаму, у вачах многіх, хто меў справу з Галоўлітам, аўтарытэт Якшэвіча моцна падарваны. Сыходзячы з гэтага, мы просім магчыма хутчэй Якшэвіча з працы ў Галоўліце зняць. Найбольш падыходзячым кандыдатам на яго месца мы лічым работніка Галоўліта тав. Гурскага, як маючага ў гэтай рабоце дастатковы вопыт, задавальняюча развітага і цалкам вытрыманага» [25, арк. 25].

І. А. Васілевіч у сваім адказе Р. Я. Рапапорту прапанаваў падабраць іншую кандыдатуру, таму што І. Д. Гурскі, які ўзначальваў Галоўлітбел з 1927 г., ужо быў прызначаны на той час старшынёй Галоўмастацтва БССР і членам калегіі Наркамасветы. 16 кастрычніка 1931 г. бюро ЦК прызначыла загадчыкам Галоўлітбела Яфіма Ізраілевіча Сініцкага, таксама ўвёўшы яго ў склад калегіі Наркамасветы БССР. Да гэтага Я. І. Сініцкі працаваў у Галоўпалітасвеце, якая спыніла свае існаванне ў 1930 г.

Ліст Р. Я. Рапапорта і рэакцыя на яго цікавыя не столькі апісаннем маральнага аблічча галоўнага цэнзара рэспублікі (хоць факт прызначэння на гэту адказную пасаду прыхільніка Бахуса дае ўяўленне пра кадравы дэфіцыт у разгар арыштаў па справе «Саюза вызвалення Беларусі»), колькі тым, што ён паказвае механізм прызначэння кіраўніка цэнзурнага ведамства. Кандыдатуры на пасаду загадчыка Галоўлітбела прапанавала кіраўніцтва АДПУ–НКУС, пасля чаго яны зацвярджаліся (альбо не зацвярджаліся) бюро ЦК. А пачынаючы з лістапада 1931 г., пасля пастановы Палітбюро УсеКП(б) «Аб неадкладным узмацненні апарату Галоўліта», ЦК КП(б)Б пачаў разглядаць таксама кандыдатуры шараговых супрацоўнікаў цэнтральнага апарата Галоўлітбела [30, арк. 324].

Ніжэй прадстаўлены штатны расклад цэнтральнага апарата Галоўлітбела ў красавіку 1932 г., пасля кадравых чыстак 1930–1931 гг., якія не абмінулі таксама «міністэрства праўды».

Як вынікае з аналізу табліцы, партыйнае кіраўніцтва ў якасці ідэальнага цэнзара бачыла маладога партыйнага вылучэнца-беларуса, які меў вышэйшую адукацыю і хоць бы невялікі стаж прапагандысцкай, журналісцкай альбо педагагічнай работы. Вось некаторыя вытрымкі з характарыстык на супрацоўнікаў: «Розін — спраўляецца добра, тэарэтычна падрыхтаваны, залічаны асьпірантам Інстытуту гісторыі партыі, што значна перашкаджае яго рабоце па паліткантролю. Каган — праяўляе вельмі слабую зацікаўленасьць да гэтай працы, няўважлівы, няма патрэбных тэмпаў у рабоце. Ізох — агульная падрыхтоўка зусім дастатковая для кантролю за газетамі. Работай зацікаўлены, уважлівы, пільны. Недастаткова працуе над сабой у сэнсе тэарэтычнай падрыхтоўкі» [26, арк. 245–250].

| Прозвішча | Пасада | З якога часу працуе | Сацыяльны стан | Партстаж | Нацыянальнасць | Год нараджэння | Адукацыя | Што скончыў | Стаж прапагандысцкай, газетнай, педагагічнай работы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сініцкі Я. І. | Начальнік Галоўлітбела | Люты 1931 | Служачы | 1925 | Яўрэй | 1904 | Вышэйшая | БДУ (эканаміст) | з 1925 |
| Гарбуз І. П. | Інспектар па мастацкай літаратуры | Кастрычнік 1930 | Служачы | б/п | Беларус | 1907 | Вышэйшая | БДУ (педагог) | з 1926 |
| Варановіч А. А. | Інспектар па сацыяльна-эканамічнай літаратуры | Люты 1932 | Служачы | 1930 | Беларус | 1905 | Вышэйшая | Вышэйшы педагагічны інстытут | з 1927 |
| Іванскі І. М. | Інспектар па кантролю за газетамі | Кастрычнік 1931 | Служачы | 1927 | Беларус | 1908 | Сярэдняя | Магілёўскі палітасвет-тэхнікум | з 1927 |
| Сікорская Я. І. | Сакратар | 1925 | Служачая | б/п | Беларуска | 1905 | Сярэдняя | Гімназія | |
| Шакінка | Упаўнаважаны Галоўліта па Дзяржаўнаму выдавецтву Беларусі | Студзень 1932 | Служачы | 1924 | Беларус | 1900 | Вышэйшая | Вышэйшая партшкола | з 1929 |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Каган Е. М. | Палітрэдактар Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі | Студзень 1932 | Служачы | 1926 | Яўрэй | 1887 | Вышэйшая | БДУ | з 1918 |
| Вайцошэня А. Ф. | Палітрэдактар Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі | Студзень 1932 | Служачы | 1924 | Беларус | 1896 | Вышэйшая | КамВУЗ | з 1927 |
| Розін | Палітрэдактар Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі | Студзень 1932 | Служачы | 1919 | Беларус | | Вышэйшая | БДУ | з 1924 |
| Сютаў Т. А. | Упаўнаважаны Галоўліта па тэхнічнаму выдавецтву | красавік 1932 | Служачы | 1928 | Беларус | 1902 | | Вышэйшы педагагічны інстытут | |
| Ізох П. Р. | Упаўнаважаны Галоўліта па друкарні імя Сталіна | кастрычнік 1931 | Рабочы | 1920 | Беларус | 1898 | Нясконченая вышэйшая | Саўпартшкола | з 1928 |
| Пугачоў С. А. | Упаўнаважаны Галоўліта па друкарні КамВУЗа | лістапад 1931 | Рабочы | 1926 | Беларус | 1904 | Вышэйшая | КамВУЗ | з 1931 |
| Саўчанка А. | Упаўнаважаны Галоўліта па Радыёцэнтру | лістапад 1931 | Селянін | 1920 | Беларус | 1901 | Вышэйшая | КамВУЗ | з 1926 |

[26, арк. 251].

Неўзабаве пасля з’яўлення «Ліста 15-ці» і яго абмеркавання на літаратурнай нарадзе ў ЦК КП(б)Б, 3 лютага 1933 г. у «Праўдзе» з’явіўся артыкул, напісаны мінскім карэспандэнтам газеты пра нацдэмаўскія вылазкі, зробленыя з дазволу Наркамасветы БССР на старонках беларускага перыядычнага друку. Гэты артыкул выклікаў спецыяльную пастанову бюро ЦК КП(б)Б, згодна з якой аддзел культуры і прапаганды ленінізму абавязваўся ўзмацніць кантроль над усёй друкаванай прадукцыяй і

правесці праверку кадравага складу Галоўлітбела, а таксама дзяржаўнага выдавецтва. Пастанова ўводзіла персанальную адказнасць аўтара, рэдактара і выдаўца за выпускаемую прадукцыю, абавязковыя папярэднія рэдактарскія палітрэцэнзіі, рэгулярныя нарады палітрэдактараў. Асобны пункт патрабаваў правесці праверку кніг і часопісаў, выдадзеных у БССР у 1931–1933 гг., «…з улікам уменьня класавага ворага манэўраваць, маскавацца» [9].

Тады ж пад агонь публічнай знішчальнай крытыкі трапіў Галоўлітбел. Галоўная партыйная газета рэспублікі пісала: «Галоўліт ня выканаў дырэктыў партыі, ён ня справіўся з тымі задачамі, якія на яго ўскладзены… Шляпы, якія сядзелі ў Галоўліце, капаліся ў дробязях, шукалі клясавага ворагу на плякатах і не заўважылі адкрытых выступленьняў яго. Прытупленьне партыйнай пільнасьці даходзіла да анэкдатычных фактаў. Упаўнаважаны Галоўліту ВАЙЦІШЭНЯ у творы [“Журавіны” М. Нікановіча. — А. Г.] зьвярнуў увагу на тое, што апісваючы працэс работы на будаўніцтве Нікановіч прывёў такі вобраз, што рабочы стаяў у трусіках і біў молатам па жалезе. Вайцішэня … прышоў да заключэньня, што гэта… контррэваюцыя. “Няўжо ў нас так дрэнна пастаўлена рабочае забесьпячэньне, — заяўляе Вайцішэня, што рабочы не мае штаноў”, — вось па якіх ідыёцкіх прычынах ён быў праціўнікам друкаваньня “Журавін”.Папярэдні кантроль Галоўліту па ўсіх без выключэньня друкарнях не адпавядае элементарнейшым запатрабаваньням. Можна было б прывесьці рад фактаў, калі ў цэлым радзе шматтыражак, асобных дробных выданьнях і г. д. з санкцыі Галоўліту працягваліся проста контррэвалюцыйныя рэчы… На чале кіраўніцтва Галоўлітам стаяў “камуніст” [маецца на ўвазе Я. І. Сініцкі. — А. Г.], які не апраўдаў давер’я партыі — страціў клясавую пільнасьць. Гэты чалавек падабраў у апарат Галоўліта нейкага Гарбуза, які фактычна кіраваў усёй

работай Галоўліту ў галіне мастацкай літаратуры… за апошнія 6–7 месяцаў ячэйка і калегія НКА ні разу не заслухалі даклад работнікаў Галоўліту» [6]. Аўтары гэтага разгромнага артыкула таксама ўзгадалі Галоўлітбелу пропуск у друк шостага тома збору твораў Я. Купалы, а таксама шэрага твораў С. Баранавых, М. Нікановіча і А. Сідарэнкі-Пеначкіна.

Ва ўмовах масавых рэпрэсій супраць інтэлігенцыі БССР па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра», партыйнае і савецкае кіраўніцтва рэспублікі зрабіла шэраг захадаў, накіраваных на арганізацыйнае і кадравае ўзмацненне «міністэрства праўды». 26 лістапада 1933 г. рашэнне аб паляпшэнні працы Галоўліта прымае ЦК КП(б)Б. Адразу ж за ім 4 і 23 снежня 1933 г. з’яўляюцца дзве пастановы СНК БССР, прысвечаныя арганізацыі папярэдняй цэнзуры і наступнага кантролю па ахове дзяржтайн у друку. Нарэшце, 3 красавіка 1934 г. ЦК КП(б)Б і СНК БССР прынялі сумесную пастанову «Аб узмацненні аховы дзяржаўных тайнаў у друку БССР», дзе ў канстатуючай частцы паведамлялася аб недаўкамплектаванасці апарата Галоўліта і АВЦ БССР, адсутнасці цэнзуры выданняў на мовах нацменшасцей, слабым прыцягненнем да паліткантролю навукова-партыйнага актыву. Адзначаўся таксама дрэнны стан кантролю за раённымі друкарнямі. З 20 штатных пасад раённых цэнзараў былі заняты толькі 7, прычым некаторыя з іх былі беспартыйныя, мелі партспагнанні, належалі раней да іншых палітычных партый. Да таго ж умовы працы раённых цэнзараў былі надта складаныя. У распарадчай частцы пастановы было сказана пра неабходнасць тэрміновага ўкамплектавання цэнтральнага апарата цэнзурнага ведамства, а найперш штатных пасад райлітаў, а таксама сумяшчальнікаў, якіх трэба было шукаць сярод упаўнаважаных АДПУ і райваенкамаў (ні ў якім разе — ні ў рэдакцыі ці ў друкарні). Сумяшчальнікі, паводле задумы

аўтараў пастановы, прызначаліся ў 51 раёне БССР, дзе мясцовыя газеты выдаваліся невялікімі тыражамі [34, арк. 410–414].

2 чэрвеня 1934 г. нанова прызначаны галоўны цэнзар рэспублікі З. А. Давідовіч[8] дакладаў свайму шэфу — загадчыку аддзела прапаганды ленінізму і масавай агітацыі Д. Ю. Коніку аб тым, што з 24 раёнаў, дзе павінны працаваць штатныя цэнзары (Мінск, Віцебск, Гомель, Орша, Бабруйск, Шклоў, Магілёў, Слуцк, Полацк, Барысаў, Горкі, Мазыр, Клімавічы, Лепель, Рагачоў, Рэчыца, Капыль, Дзяржынск, Жлобін, Заслаўе, Старыя Дарогі, Ушачы, Лагойск, Чырвоная Слабада), апошнія маюцца толькі ў 11, а з 51 раёна, дзе цэнзары павінны былі працаваць па сумяшчальніцтве, друк правяраўся толькі ў чатырох. Гэта азначала, што пастанова партыі і ўрада ад 3 красавіка 1934 г. фактычна не была выканана [33, арк. 105–107]. Можна меркаваць, што даклад З. А. Давідовіча выклікаў прыняцце 22 ліпеня 1934 г. новай пастановы ЦК КП(б)Б «Аб рабоце цэнзуры ў друку», якая была накіравана на паляпшэнне работы цэнзараў нізавога ўзроўню. Неўзабаве ўвосень таго ж года З. А. Давідовіч арганізаваў шырокамаштабную праверку выканання гэтай пастановы райлітамі з выездам на месцы. Праверка паказала, што ў Бешанковічах, Суражы і Чашніках райлітаў не было ўвогуле. У вялікай колькасці раёнаў штатныя і пазаштатныя цэнзары не адпавядалі займаемым пасадам. У большасці раёнаў адсутнічалі намеснікі. У справаздачы З. А. Давідовіча чытаем: «У Чэрыкаўскім раёне райлітам да апошняга часу быў загадчык РайАНА т. Чэрнякоў. Ніякага кантролю над райгазетай і іншым друкам не ажыццяўляў. Дырэктывы Галоўліта аб канфіскацыі не выкананы… З дырэктыўнымі матэрыяламі Галоўліта азнаёміўся павярхоўна, іх не засвоіў» [34, арк. 500]. Падобная сітуацыя склалася таксама ў Шклоўскім, Аршанскім, Любанскім, Крычэўскім, Талачынскім,

Лагойскім, Парычскім раёнах. Па выніках праверкі Д. Ю. Конік накіраваў у цыркулярным парадку сакратарам райкамаў ліст, у якім у дэталях прагаворваў субардынацыю службовых узаемадачыненняў паміж рэдактарамі газет, райлітамі і сакратарамі райкамаў партыі. Ліст замацоўваў поўную падпарадкаванасць рэдактараў цэнзурнаму ведамству, але партыйныя ідэёлагі пакуль яшчэ дазвалялі газетам, як і ў папярэднія гады, абскарджваць ужо выкананыя імі заўвагі цэнзараў у партыйных органах [33, арк. 98].

У студзені 1935 г. ЦК КП(б)Б і СНК БССР прынялі сумесную пастанову «Аб узмацненні ваеннай цэнзуры ў друку БССР», у якой гутарка таксама пераважна ішла пра ўмацаванне кадравага патэнцыялу цэнзурнага ведамства [34, арк. 526]. На думку аўтараў пастановы, найбольш слабым звяном у яго рабоце па-ранейшаму быў кантроль за друкаванымі матэрыяламі на нізавым, раённым узроўні. Кандыдатуры цэнзараў трэба было падбіраць з «правераных партыйцаў» кіраўнікам адпаведных райкамаў партыі і райвыканкамаў [33, арк. 6–7].

Да пачатку 1937 г. намаганнямі партыйных і савецкіх органаў арганізацыйная структура Галоўліта — АВЦ БССР умацавалася. Штат цэнтральнага апарату пашырыўся з 13 да 37 чалавек, утрыманне якіх абыходзілася бюджэту рэспублікі ў 139 тыс. рублёў у год (прызначаны ў студзені таго ж году начальнік Галоўліта БССР І. Л. Ахрамовіч[9] атрымліваў 700 руб. у месяц, што было роўна месячнаму заробку рабочага-стаханаўца альбо лейтэнанта Чырвонай Арміі). З’явіліся новыя аддзелы — ваеннай і замежнай цэнзуры, новыя пасады — інспектара па Акадэміі навук, Партвыдату, яўрэйскай і польскай літаратуры, кантролю за бібліятэкамі, кнігагандлёвай сетцы, загадчыка сакрэтнай часткі, сакратара аддзела ваеннай цэнзуры, эканаміста, бухгалтара. Былі ўведзены штатныя пасады цэнзараў у

рэдакцыях усіх абласных газет. Паводле новага раскладу, штатныя адзінкі начальнікаў абллітаў уводзіліся ў Мінску, Магілёве, Мазыры, Полацку, начальнікаў гарлітаў — у Мінску, Віцебску, Гомелі, начальнікаў райлітаў — у Слуцку, Лепелі, Барысаве, Бабруйску, Дзяржынску, Рэчыцы, Старых Дарогах, ва Ушачах, у Рагачове, Заслаўі, Оршы, Чырвонай Слабадзе, Горках, Жлобіне, Клімавічах, Капылі, Плешчаніцах. Яшчэ ў 33 раёнах БССР начальнікі райлітаў выконвалі свае абавязкі па сумяшчальніцтве [37, арк. 68–73].

Але ўжо 2 лістапада 1937 г. загадчык аддзела друку ЦК УсеКП(б) Л. З. Мехліс накіраваў у ЦК УсеКП(б) і СНК СССР запіску аб палітычным становішчы ва Упраўленні Упаўнаважанага СНК СССР па ахове ваенных тайнаў у друку і начальніка Галоўліта, якая справакавала буйныя кадравыя чысткі і рэпрэсіі ў гэтым ведамстве. Гэта быў час, калі Галоўліт панёс самыя вялікія кадравыя страты. Корпус цэнзараў абнавіўся амаль поўнасцю. Каб арыштаваць цэнзара, НКУС было дастаткова яго любой, нават дробнай памылкі, якая вельмі хутка пераўтваралася ў сур’ёзную палітычную дыверсію. Так, напрыклад, было ў 1938 г. у Слуцку, дзе мясцовага райліта арыштавалі за тое, што ён прагледзеў у санітарна-асветнай брашуры сказ пра вялікую смяротнасць ад сыпнога тыфу на вёсцы.

І. Л. Ахрамовіч ужо летам 1937 г. дакладаў загадчыку аддзела друку ЦК М. В. Казюку, што «…у бягучы момант апарат Галоўліта БССР складаецца з 2-х чалавек» [39, арк. 58]. Неўзабаве ў лісце да першага сакратара ЦК КП(б)Б В. Ф. Шаранговіча ён ужо канстатаваў, што «Галоўліт і АВЦ БССР не ў стане выконваць і не выконвае па-сапраўднаму свае функцыі ў сувязі з тым, што лінія Убарэвіча — Галадзеда і Дзякава была накіравана на ліквідацыю органаў цэнзуры ў БССР. У значнай ступені яны гэта дасягнулі» [39, арк. 120]. Якую рэакцыю выклікаў ліст галоўнага цэнзара ў сакратарыяце ЦК — невядома, але наўрад ці В. Ф.

Шаранговіч паспеў зрабіць нешта для кадравага ўмацавання апарата цэнзуры ў рэспубліцы. Ужо праз месяц пасля свайго звароту ў сакратарыят І. Л. Ахрамовіч быў вымушаны загадаць цэнзарам адбіраць з кнігагандлёвай сеткі і бібліятэк усе брашуры і партрэты арыштаванага партыйнага кіраўніка [39, арк. 122].

Аб крытычнай сітуацыі з цэнзарскімі кадрамі ў той час у рэспубліцы сведчыць чарговая сакрэтная пастанова ЦК КП(б)Б «Аб умацаванні цэнзуры ў друку БССР» (жнівень 1938 г.). У ёй мы, у прыватнасці, чытаем:

«У Журавіцкім і Талачынскім раёнах толькі ў бягучым годзе цэнзары змяняліся тры разы», «У Чавускім раёне цэнзарам выдзелены тав. Сорын, які меў строгую вымову ад Камісіі партыйнага кантроля ЦК УсеКП(б) у 1937 годзе, быў 2 гады па-за шэрагаў партыі, меў судзімасць — 8 месяцаў прымусовых работ» [42, арк. 51]. Некаторыя цэнзурныя падраздзяленні ўвогуле прыпынілі сваю работу. Так, на працягу 1938 г. дзейнасць Галоўрэперткама (з 1936 г. аддзела Упраўлення па справах мастацтва пры СНК БССР з трыма штатнымі адзінкамі ў цэнтры і па адной у кожнай вобласці) забяспечваў адзін «недастаткова кваліфікаваны» чалавек [41, арк. 5].

Партыйнае кіраўніцтва імкнулася вырашыць кадравае пытанне ў цэнзурным ведамстве не толькі адміністрацыйнымі, але таксама педагагічнымі метадамі. З гэтай мэтай пачынаючы з 1936 г. на базе Галоўліта БССР праводзіліся курсы для начальнікаў гарі райлітаў, а таксама газетных цэнзараў. Слухачы курсаў, тэрмін якіх не перавышаў тыдня, вывучалі метадычныя пытанні цэнзарскай працы, а таксама знаёміліся з апошнімі пералікамі дзяржаўных і ваенных тайнаў, дасланымі з Масквы. Апошнія (у разглядаемы час) курсы начальнік Галоўліта БССР П. Я. Фралоў[10] правёў з дазволу сакратара ЦК КП(б)Б па ідэалогіі У. Н. Маліна ў Мінску ў Доме ўрада з

23 лістапада па 3 снежня 1940 г.

Захаваныя архіўныя матэрыялы дазваляюць скласці агульнае ўяўленне пра кадравы склад беларускага «міністэрства праўды» напярэдадні пачатку вайны. Акрамя цэнтральнага апарата ў Мінску, які складаўся з 42 чалавек, у абласцях БССР у 1940 г. дзейнічала 117 штатных цэнзараў. Слабая падрыхтоўка цэнзараў, асабліва на нізавым узроўні (т. зв. «райупаўнаважаныя») прыносіла шмат непрыемнасцей кіраўніцтву. Вербаваліся яны з асяроддзя мясцовых партыйцаў, з тых, хто быў пад рукой, і зацвярджаліся на сваіх пасадах райкамамі партыі. Як правіла, гэта былі маладыя малаадукаваныя людзі, якія мелі беззаганнае мінулае — з прычыны свайго ўзросту яны не паспелі ўзяць удзел у нацыянальным адраджэнні 1920-х гг. У раёнах пасады цэнзараў займалі па сумяшчальніцтве пераважна інструктары, прапагандысты, загадчыкі парткабінетаў райкамаў КП(б)Б. Цэнзарамі-сумяшчальнікамі былі таксама настаўнікі, культработнікі і нават работнікі гандлю, але большасць (79 чалавек) былі партапаратчыкі. Прысутнасць жанчын на цэнзарскіх пасадах разглядалася партыйным кіраўніцтвам як выключэнне. З папраўкай на тое, што па некаторых прозвішчах немагчыма высветліць палавую прыналежнасць, у спісах 1940 г. значыцца толькі шэсць жанчын. Суровы «цэх» цэнзараў амаль не дапускаў да сваіх таямніц слабы пол. Цэнзары з усходніх і заходніх абласцей рэспублікі на курсах займаліся паасобку.

Курсы павышэння кваліфікацыі цэнзараў 1940 г. праводзіліся ў Мінску ў наступным складзе:

**МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

| №№ | РАЁН | ПРОЗВІ ШЧА | АСНОЎНАЯ ПРАЦА |
|---|---|---|---|
| 1. | Барысаў | Чарнуха | Райупаўнаважаны абпліта |
| 2. | Барысаў | Крамень | Сакратар гаркама Міжнароднай арганізацыі дапамогі рабочым |
| 3. | Бегомль | Салін | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 4. | Грэск | Тарасевіч | Загадчык аддзела ўліку райкама КП(б)Б |
| 5. | Дзяржынск | Апраніч | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 6. | Заслаўе | Фядчун | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 7. | Капыль | Жылко | Упаўнаважаны Наркамата нарыхтовак |
| 8. | Чырвоная Слабада | Ганчарык | Памочнік сакратара райкама КП(б)Б |
| 9. | Крупкі | Бачышча | Настаўнік |
| 10. | Лагойск | Ковенскі | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 11. | Любань | Падліпскі | Другі сакратар райкама КП(б)Б |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 12. | Плешчаніцы | Хамякоў | Інструктар райкама КП(б)Б |
| 13. | Пухавічы | Стасенка | Прапагандыст райкама КП(б)Б |
| 14. | Мінск | Белязняк | |
| 15. | Слуцк | Марон | Райупаўнаважаны абдліта |
| 16. | Смалявічы | Красоўскі | Памочнік сакратара райкама КП(б)Б |
| 17. | Старыя Дарогі | Каждан | Работнік райкама КП(б)Б |
| 18. | Рудзенск | Фінскі | Раённы аддзел міліцыі |
| 19. | Старобін | Лукін | Загадчык аддзела ўліку райкама КП(б)Б |
| 20. | Узда | Фрыдман | Прапагандыст райкама КП(б)Б |
| 21. | Халопенічы | Ларыёненка | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 22. | Чэрвень | Трэсцінскі | Прапагандыст райкама КП(б)Б |

## ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

| №№ | РАЁН | ПРОЗВІШЧА | АСНОЎНАЯ ПРАЦА |
|---|---|---|---|
| 1. | Бешанковічы | Глікман | Загадчык аддзела прапаганды і агітацыі райкама КП(б)Б |
| 2. | Ветрына | Малкін | Загадчык аддзела прапаганды і агітацыі райкама КП(б)Б |
| 3. | Гарадок | Гольдберг | Загадчык аддзела прапаганды і агітацыі райкама КП(б)Б |
| 4. | Дуброўна | Генькін | Культработнік абутковай арцелі |
| 5. | Дрыса | Цалушка | Бухгалтар прамкамбіната |
| 6. | Лепель | Шнітка | Райупаўнаважаны аблліта |
| 7. | Лёзна | Пастухоў | Загадчык аддзела прапаганды і агітацыі |
| 8. | Мехава | Бажонак | Загадчык аддзела прапаганды і агітацыі |
| 9. | Орша | Жалезнякоў | Райупаўнаважаны аблліта |
| 10. | Полацк | Шчокін | Загадчык аддзела прапаганды і агітацыі |
| 11. | Расоны | Сцепаненка | Загадчык аддзела прапаганды і агітацыі |
| 12. | Багушэўск | Шчарбакоў | Загадчык аддзела кадраў райкама КП(б)Б |
| 13. | Сураж | Мачульскі | Прапагандыст райкама КП(б)Б |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 14. | Вушачы | Кавалеўскі | Загадчык аддзела прапаганды і агітацыі райкама КП(б)Б |
| 15. | Талочын | Савік | Сакратар райвыканкама |
| 16. | Асвея | Чапкевіч | Памочнік сакратара райкама КП(б)Б |
| 17. | Чашнікі | Ліўшыц | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 18. | Сянно | Рухман | Памочнік сакратара райкама КП(б)Б |
| 19. | Сіроціна | Амбразевіч | Загадчык аддзела ўліку райкама КП(б)Б |

## ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

| №№ | РАЁН | ПРОЗВІШЧА | АСНОЎНАЯ ПРАЦА |
|---|---|---|---|
| 1. | БудаКашалёва | Бунараў | Начальнік аддзела райваенкамата |
| 2. | Ветка | Духвалаў | Загадчык райаддзела народнай адукацыі |
| 3. | Добруш | Воўна | Райупаўнаважаны аблліта |
| 4. | Жлобін | Генчанок | Райупаўнаважаны аблліта |
| 5. | Журавічы | Агеенка | Работік райваенкамата |
| 6. | Карма | Маркаў | Інструктар аддзела ўліку райкама КП(б)Б |
| 7. | Лоеў | Дундукоў | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 8. | Рагачоў | Навакоў | Старшыня райаддзела сацыяльнага забеспячэння |
| 9. | Рэчыца | Заранік | Райупаўнаважаны аблліта |
| 10 | Свяцілавічы | Балтоўскі | Дырэктар школы |
| 11. | Церахоўка | Кабаеў | Загадчык гаргандлю |
| 12. | Чачэрск | Юрчанка | Загадчык аргаддзела райкама КП(б)Б |
| 13. | Стрэшын | Кураўскі | Загадчык аддзела прапаганды і агітацыі райкама КП(б)Б |

## МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

| №№ | РАЁН | ПРОЗВІ ШЧА | АСНОЎНАЯ ПРАЦА |
|---|---|---|---|
| 1. | Бабруйск | Кананава | Райупаўнаважаны аблліта |
| 2. | Бабруйск | Малахоў скі | Кіраўнік справамі райкама КП(б)Б |
| 3. | Быхаў | Хаўкін | Дырэктар школы |
| 4. | Горкі | Фабры стаў | Райупаўнаважаны аблліта |
| 5. | Дрыбін | Палянскі | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 6. | Кіраўск | Карпенка | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 7. | Клічаў | Заяц | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 8. | Касцюковічы | Брыскер | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 9. | Краснаполле | Васілеўскі | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 10. | Круглае | Майсейкоў | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 11. | Клімавічы | Аўсянка | Прапагандыст райкама КП(б)Б |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 9. | Краснаполле | Васілеўскі | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 10. | Круглае | Майсейкоў | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 11. | Клімавічы | Аўсянка | Прапагандыст райкама КП(б)Б |
| 12. | Крычаў | Маліцікаў | Прапагандыст райкама КП(б)Б |
| 13. | Мсціслаў | Назараў | Прапагандыст райкама КП(б)Б |
| 14. | Асіпавічы | Кірыновіч | Райупаўнаважаны абдліта |
| 15. | Прапойск | Шурыгін | Райупаўнаважаны абдліта |
| 16. | Хоцімск | Мельнік | Прапагандыст райкама КП(б)Б |
| 17. | Чавусы | Масарскі | Дырэктар кінатэатра |
| 18. | Шклоў | Хомчанка | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 19. | Бялынічы | Валодзька | Загадчык спецчасткі леспрамгаса |
| 20 | Чэрыкаў | Фрыдман | Загадчык райаддзела народнай адукацыі |
| 21. | Беразіно | Залуцкі | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |

## ПАЛЕСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

| №№ | РАЁН | ПРОЗВІШЧА | АСНОЎНАЯ ПРАЦА |
|---|---|---|---|
| 1. | Брагін | Новік | Загадчык аддзела ўліку райкама КП(б)Б |
| 2. | Васілевічы | Раманенка | Інструктар Дзяржбанка |
| 3. | Глуск | Скрыпскі | Загадчык аддзела райкама КП(б)Б |
| 4. | Даманавічы | Маліноўская | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 5. | Ельск | Кузняцоў | Загадчык аддзела прапаганды райкама КП(б)Б |
| 6. | Жыткавічы | Скрыпко | Работнік райкама КП(б)Б |
| 7. | Камарын | Максіменка | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 8. | Капаткевічы | Малікін | Старшыня сельсавета |
| 9. | Лельчыцы | Сукач | Загадчык аддзела ўліку райкама КП(б)Б |
| 10. | Нароўля | Хініч | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 11. | Парычы | Шпітальнік | Работнік райкама КП(б)Б |
| 12. | Тураў | Меднік | Упаўнаважаны наргасуліку |
| 13. | Хойнікі | Кулакоўскі | Начальнік спецчасткі райвыканкама |
| 14. | Петрыкаў | Можар | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |

## БАРАНАВІЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ

| №№ | РАЁН | ПРОЗВІШЧА | АСНОЎНАЯ ПРАЦА |
| --- | --- | --- | --- |
| 1. | Ліда | Яфанчык | Райупаўнаважаны абкліта |
| 2. | Навагрудак | Клімаў | Райупаўнаважаны абкліта |
| 3. | Валожын | Лойка | Загадчык аддзела ўліку райкама КП(б)Б |
| 4. | Слонім | Шавінскі | Загадчык аддзела ўліку райкама КП(б)Б |
| 5. | Шчучын | Северцаў | Загадчык аддзела прапаганды райкама КП(б)Б |
| 6. | Нясвіж | Мякшыла | Загадчык аддзела прапаганды райкама КП(б)Б |
| 7. | Стоўбцы | Арэнсон | Інструктар райкама КП(б)Б |

**БЕЛАСТОЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

| №№ | РАЁН | ПРОЗВІШЧА | АСНОЎНАЯ ПРАЦА |
|---|---|---|---|
| 1. | Гродна | Кадышэвіч | Упаўнаважаны абдліта |
| 2. | Гродна | Хейман | Прапагандыст гаркама КП(б)Б |
| 3. | Ломжа | Маёрава | Упаўнаважаны абдліта |
| 4. | Ломжа | Янкоўская | Інструктар гаркама КП(б)Б |
| 5. | Аўгустова | Якубоўскі | Інструктар гаркама КП(б)Б |
| 6. | Бельск | Тараканаў | Загадчык аддзела ўліку райкама КП(б)Б |
| 7. | Ваўкавыск | Левіна | Упаўнаважаны абдліта |
| 8. | Граева | Кузняцоў | Загадчык райаддзела народнай адукацыі |
| 9. | Саколка | Несцярэнка | Загадчык аддзела прапаганды райкама КП(б)Б |
| 10. | Лапы | Захараў | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |

## БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ

| №№ | РАЁН | ПРОЗВІШЧА | АСНОЎНАЯ ПРАЦА |
|---|---|---|---|
| 1. | Косава | Гаравы | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 2. | Кобрын | Берасцень | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 3. | Пружаны | Годкін | Загадчык аддзела прапаганды райкама КП(б)Б |

## ВІЛЕЙСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

| №№ | РАЁН | ПРОЗВІШЧА | АСНОЎНАЯ ПРАЦА |
|---|---|---|---|
| 1. | Ашмяны | Урэвіч | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 2. | Маладзечна | Гурбо | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 3. | Браслаў | Тамковіч | Загадчык райаддзела народнай адукацыі |
| 4. | Свянцяны | Валынко | Загадчык аддзела прапаганды райкама КП(б)Б |
| 5. | Глыбокае | Сідарэнка | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 6. | Паставы | Драгуноў | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |

**ПІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

| №№ | РАЁН | ПРОЗВІШЧА | АСНОЎНАЯ ПРАЦА |
|---|---|---|---|
| 1. | Лунінец | Лешчанкова | Райупаўнаважаны абпліта |
| 2. | Столін | Тамашкевіч | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |
| 3. | Драгічын | Савіч | Загадчык парткабінета райкама КП(б)Б |

[43, арк. 31–36].

* * *

Галоўліт — АВЦ БССР быў найважнейшым, але не адзіным інструментам цэнзуры ў БССР у 1920–1930-я гг. Асобнае месца ў гэтай справе ў розныя часы належала партыйным і дзяржаўным структурам. На думку вядомага расійскага даследчыка цэнзуры А. В. Блюма, да 1930-х гг. у

СССР паступова сфарміравалася пяціярусная кантралюючая машына, дзе Галоўліт адыгрываў значную ролю:

1. Самацэнзура — своеасаблівы самаабарончы механізм, які ўвасабляўся ў імкненні аўтара ўгадаць ідэалагічныя, палітычныя, эстэтычныя і іншыя прэтэнзіі, што мог сустрэць яго рукапіс падчас праходжання ў афіцыйных кантралюючых інстанцыях. «Унутраны цэнзар» паступова робіцца сааўтарам абсалютнай большасці аўтараў, разбурае іх творчы патэнцыял, прычым у шэрагу выпадкаў ён робіцца больш суровы, чым цэнзар афіцыйны;

2. Рэдактарская цэнзура ажыццяўлялася супрацоўнікамі рэдакцый выдавецтваў, часопісаў, газет, радыё. Палітрэдактары, якія прызначаліся з ліку партыйных работнікаў, вылучэнцаў, падвяргалі тэксты жорсткай ідэалагічнай праўцы, якая не саступала ў гэтым сэнсе ўласна цэнзурным інстанцыям. Найбольшую падазронасць рэдактараў выклікаў падтэкст твора, эзопава мова, якую шукалі нават там, дзе яе не было;

3. Галоўлітаўскі кантроль адыгрываў цэнтральную ролю, паколькі ўласна ён і яго мясцовыя аддзяленні выконвалі ўсю практычную работу, пастаўлялі матэрыял наверх аб антысавецкіх, шкодных настроях і выпадах у літаратурным і ўвогуле інфармацыйным асяроддзі;

4. Галоўліт дзейнічаў у шчыльным супрацоўніцтве з органамі дзяржбяспекі (нават карыстаўся фельдсувяззю НКУС). Цяжка правесці мяжу, якая падзяляла сферы дзейнасці Галоўліта і гэтых органаў;

5. Партыйнаму кіраўніцтву належала першае і апошняе вырашальнае слова, якое вызначала лёсы аўтараў і іх твораў, а таксама выдавецтваў, часопісаў, газет і іншых сродкаў інфармацыі. Яно давала ідэалагічныя ўстаноўкі, якія няўхільна выконваў Галоўліт, прызначала яго кіруючы склад, каардынавала ўзаемаадносіны з іншымі ведамствамі (перш за ўсё АДПУ– НКУС) [2, с. 14–25].

Гэта сістэма арганізацыі інфармацыйнага кантролю грамадства мела ўніверсальны ў межах СССР характар, і яна лёгка накладаецца на беларускія тагачасныя рэаліі.

1. Цэнзура як інструмент татальнага палітычнага кантролю мастацкай літаратуры выхоўвала ў «інжынераў чалавечых душ» найгоршыя сервільныя якасці, перш за ўсё самацэнзуру як сродак фізічнага і прафесійнага выжывання. Адразу ж пасля масавых арыштаў па справе СВБ тыя літаратары, якія засталіся на волі, імкнуліся «выправіцца», адмежавацца ад «нацдэмаў». Зм. Жылуновіч выкрываў іх у публіцыстычных артыкулах. К. Крапіва атакаваў сваіх арыштаваных нядаўніх сяброў у паэме «Хвядос — Чырвоны Нос». Зм. Бядуля знявечыў свой раман «Язэп Крушынскі». К. Чорны спыніў працу над раманам «Вецер і пыл».

Даведацца пра метады выхавання новага савецкага пісьменніка, патрэбнага ўладзе, дазваляюць стэнаграмы партыйных чыстак у пісьменніцкай арганізацыі. На працягу 1933 г. у БССР, як і ва ўсёй краіне, з мэтай ізаляцыі старых бальшавікоў пад лозунгам ачышчэння ад «спадарожнікаў» праходзіла чыстка УсеКП(б). У верасні 1933 г. падчас раскруткі справы па «Беларускім нацыянальным цэнтры» чысцілі партарганізацыю беларускіх пісьменнікаў. Гэты метад публічнай лупцоўкі меў сваёй непасрэднай мэтай не толькі прымусіць творцу да пакаяння, прызнання і адмежавання ад сваіх, выкрытых Галоўлітбелам «памылак», але засцерагчыся ад іх у будучым. Партчыстка М. Хведаровіча (Чарнушэвіча)[11] праходзіла наступным чынам:

«Доўга спыняецца Х. на сваім дзяцінстве, як ён памагаў у гаспадарцы бацьку, як да рэвалюцыі цяжка жылося яму і яго бацькам. Аб гэтым усім т. Х. апавядае гучным голасам, плаўна. Але вось т. Х. пераходзіць да апавядання аб сваёй практычнай грамадскай працы, да абмалёўкі свайго партыйнага твара. Тут яго гучны голас зніжаецца, плаўнасць апавядання чапляецца…

— Працаваў я сакратаром часопісу “Большэвік Беларусі”. — З 1932 г. працаваў рэдактарам часопісу “Чырвоная Беларусь”. Тут я страціў класавую пільнасць. Надрукаваў у часопісу класава-варожыя — нацдэмаўскія творы Сідарэнкі, Нікановіча і Калюгі. Чытаў, будучы ў рэдакцыі контррэвалюцыйны твор Нікановіча “Журавіны” і аб гэтым не паведаміў фракцыю Аргкамітэта ССПБ. Таксама я не паведаміў фракцыю аб тым, што чытаў групавы ліст “15”. У камсамольскай ячэйцы ДзВБ, куды мяне прымацавала партячэйка, я не працаваў, бо ўсё быў у камандыроўках...

А ці быў хоць на адным камсамольскім сходзе? — пытаюць з залі.

Не, не быў.

У маёй творчасці, — працягвае далей т. Х., — маецца шэраг нацыяналістычных зрываў… Я, безумоўна, не даў яшчэ для нашай літаратуры таго, што павінен быў бы даць, як пісьменнік-камуніст.

А які ў цябе, як партыйца ўплыў на беспартыйных і ўзаемаадносіны з імі? — пытанне з залі.

Узаемаадносіны ў мяне з беспартыйнымі… Часамі я сярод беспартыйцаў не помніў, што я партыец, не то што не помніў, а неяк.

Вы хочаце сказаць, што страчвалі партыйны твар, — папраўляе старшыня камісіі т. Пэдар.

Ну, так…

Як вы працуеце над падвышэннем свайго палітычнага і творчага ўзроўню — пытае член камісіі т. Пугачоў.

Я чытаю белетрыстыку, чытаю Леніна, Сталіна…

Камісія ставіць т. Х. шэраг пытанняў, просяць яго даць ацэнку контррэвалюцыйнай сутнасці нацыянал-дэмакратызму, а таксама расказаць, як стаіць нацыянальнае пытанне ў статуце партыі. Тут Х. блытаецца, дае зусім неправільныя альбо агульныя адказы.

Калі тав. Х. гаварыў пра сваю грамадска-творчую дзейнасць, не раскрыў перад камісіяй і прысутнымі ўсёй палітычнай сутнасці тых варожых вывіхаў, якія маюцца ў яго грамадскай і творчай практыцы. На ва ўпор пастаўленыя Х. пытанні: як ён змагаўся з контррэвалюцыйным нацдэмакратызмам, з групаўшчынай — Х. адказвае адным шаблённым адказам: "Я надрукаваў у час. "Чырвоная Беларусь" артыкул".

Выступаюць пісьменнікі і работнікі ДзВБ, якія ў парадку жорсткай крытыкі гавораць аб памылках і зрывах Х.

У сваім заключным слове, як і ва ўступе, т. Х. па-большэвіцку не раскрытыкаваў сваіх антыпартыйных учынкаў. Тыя праўдзівыя факты, якія высоўваліся выступаючымі ў спрэчках таварышамі Х. імкнуўся звесці да нуля, імкнуўся засланіць аб'ектыўнымі прычынамі» [11, с. 1].

Можна меркаваць, што арганізатары такіх мерапрыемстваў, як паездка дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала летам 1933 г. таксама ставілі перад сабой выхаваўчыя мэты. Мяркуючы па ўражаннях пісьменнікаў ад будоўлі, гэтыя мэты былі дасягнуты, прынамсі, з вонкавага боку. Вось як апісваў убачанае Я. Купала: «Я вельмі і вельмі шчаслівы, што дажыў да тэй пары, калі здолеў убачыць сваімі вачыма вялікі Беламорска-Балтыйскі водны шлях, гэта нябачанае цуда. Створанае рукамі большэвікоў-чэкістаў па ініцыятыве геніяльнага правадыра пролетарыята непараўнанага будаўніка тав. Сталіна. Прыехаўшы ў Беларусь савецкую я раскажу наколькі ў мяне хопіць сілы, большэвіцкую праўду аб гэтым гераічным будаўніцтве, якое не мае сябе роўных ва ўсім свеце, аб будаўніцтве, якое сведчыць аб неперагоможнай хадзе соцыялістычнага ладу, соцыялістычнай перакоўцы людзей — былога злачынца ў сумленнага савецкага грамадзяніна. Я раскажу аб слаўных чэкістах тт. Ягодзе,

Фірыне, Успенскім і інш., аб тым як яны аддана і разумна будавалі гэты шлях і перавыхоўвалі людзей» [10, с. 4].

Важным сродкам выхавання творчага сэрвілізму былі рэгулярныя сходы пісьменнікаў БССР, на якіх апошнія атрымлівалі ідэалагічныя інструкцыі, пажаданыя тэмы твораў і каяліся. П. Броўка ў сваім выступленні на сходзе пісьменнікаў БССР 25 сакавіка 1937 г. казаў: «…У сваёй паэме "Так пачыналася маладосць" я дапусціў грубую палітычную памылку. Героем гэтай паэмы ў гады камсамольскага падполля я вывеў Олікера[12], які аказаўся прахвостам і трацкістам. Я мушу сказаць, што гэту сваю вялікую палітычную памылку я выправіў некалькі месяцаў таму назад, перапрацаваўшы сваю паэму» [12, с. 3].

2. Размова пра рэдактарскую цэнзуру вымагае кароткага агляду ўсталявання ў БССР палітычнага кантролю над выдавецкай справай. Калі ўлада надавала асаблівае значэнне кантролю за друкам як найважнейшым у той час інфармацыйным каналам, дык не меншую яе ўвагу прыцягвалі выдавецтвы, якія ажыццяўлялі падрыхтоўку і выпуск усёй друкаванай прадукцыі.

У 1917–1920 гг. у Беларусі ва ўмовах сацыяльных катаклізмаў і баявых дзеянняў выдавецкай дзейнасцю займаліся цывільныя і ваенныя ўстановы — ад Мінскага савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў да Саюза спажывецкіх таварыстваў. У лютым 1918 г. СНК Паўночна-Заходняй воб-

ласці і фронту прыняў дэкрэт аб нацыяналізацыі кніжных і газетных кіёскаў, а таксама прыватных кантор па продажы друкаванай прадукцыі па ўсёй Заходняй вобласці. Да гэтага часу напрыканцы 1917 г. Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняга фронту ўжо нацыяналізаваў друкарню Мінскага губернскага праўлення. А пасля ўтварэння БССР Мінскі савет нацыяналізаваў усе друкарні горада.

Пачынаючы са студзеня 1921 г., калі Прэзідыум ЦВК БССР прыняў пастанову «Аб стварэнні Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі (ДВБ) і цэнтралізацыі друку», у ім канцэнтравалася ўся літаратурна-выдавецкая дзейнасць, а таксама распаўсюджванне друкаванай прадукцыі ў рэспубліцы. Яго палітычны аддзел ажыццяўляў функцыі цэнзурнага органа друкаванай прадукцыі ў БССР. Без візы загадчыка ДВБ, на пасаду якога быў прызначаны Я. І. Эйдэльман, да друку не прымаўся ніводны матэрыял. Пра пільны партыйны кантроль, пад які трапіла ДВБ ад часу яго ўтварэння, сведчыць наступны факт. Ужо ў лютым 1921 г. ЦК КП(б)Б забараніў друкаванне ў ДВБ матэрыялаў партыі Паалей-Цыён [68, s. 154]. БДВ таксама ўсталявала кантроль за дванаццаццю перыядычнымі выданнямі і нацыяналізаванымі друкарнямі. Пасля стварэння Галоўлітбела дзейнасць ДВБ перайшла пад яго пільны кантроль. Так, на пасяджэнні калегіі Галоўлітбела 21 лістапада 1922 г. было вырашана выказаць меркаванне ў ЦК КП(б)Б пра тое, што «...Дзяржвыдат захапіўся выпускам філасофскай літаратуры і белетрыстыкі, у той час як варта было б звярнуць увагу на выпуск марксісцкай літаратуры і падручнікаў» [48, арк. 5].

Але ўжо ў наступным, 1922 г. ва ўмовах НЭПа ДВБ часова прыпыніла сваю дзейнасць, а замест яго ў БССР паўстаў шэраг новых дзяржаўных і кааператыўных выдавецтваў. У красавіку па ініцыятыве Інбелкульта пачало сваю работу выдавецкае кааператыўнае таварыства «Адраджэнне» (увосень таго ж года рэарганізавана ў выдавецтва «Савецкая Беларусь»), якое ставіла на мэце выданне кніг па беларусазнаўстве, навучальных дапаможнікаў па ўсіх галінах ведаў, мастацкай літаратуры і інш. У маі адкрылася кааператыўнае выдавецтва «Наперад», асноўнай задачай якога быў выпуск прапагандысцкай літаратуры і часопіса «Наперад». На дзяржаўнае выдавецтва

«Белтрэстдрук» партыйнае кіраўніцтва рэспублікі ўскладала задачу выпуску масавай сялянскай, камсамольскай, а таксама партыйнай літаратуры, у т. л. твораў Леніна. Акрамя гэтага, выдавецтва «Белтрэстдрук» было манапалістам у справе выпуску ўсяго перыядычнага друку БССР. У наступныя гады з’явіліся выдавецтвы Цэнтральнага савета прафсаюзаў Беларусі, наркамата земляробства, БДУ і некаторыя іншыя. Найбольш плённа працавала выдавецтва «Савецкая Беларусь», што ў значнай ступені было абумоўлена асобай яго кіраўніка — вядомага дзеяча беларускага нацыянальнага руху, публіцыста і пісьменніка, рэдактара часопіса «Полымя» З. Х. Жылуновіча (Цішкі Гартнага).

Партыйнае кіраўніцтва БССР аператыўна адрэагавала на з’яўленне новых дзяржаўных і кааператыўных выдавецтваў. У 1922 г. з мэтай усталявання над імі ідэалагічнага і цэнзурнага кантролю ў структуры агітацыйна-прапагандысцкага аддзела ЦК КП(б)Б быў утвораны пададдзел друку з дарадчым органам — саветам друку, куды ўвайшлі прадстаўнікі кіраўнічых структур камуністычнай партыі, камсамола, прафсаюзаў, наркамасветы, цэнтральных газет і інш.

Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі адрадзілася з іншай структурай і крыху зменевай назвай ужо ў 1924 г., калі на красавіцкай нарадзе аддзела друку ЦК УсеКП(б) у Маскве быў заслуханы даклад пададдзела друку агітацыйна-прапагандысцкага аддзела ЦК КП(б)Б. Пасля яго абмеркавання «ў мэтах рэалізацыі дырэктыў партыі ў галіне нацыянальнай палітыкі» было вырашана максімальна скараціць выпуск у БССР рускамоўнай літаратуры; асаблівую ўвагу ў выдавецкіх планах звярнуць на пытанні мясцовага жыцця; узгадніць выдавецкую дзейнасць у рэспубліцы з агульнасаюзнай. Вынікамі рашэнняў, прынятых на маскоўскай нарадзе, было зліццё 26 чэрвеня

1924 г. выдавецтваў «Савецкая Беларусь» і «Белтрэстдрук» у адзінае «Беларускае дзяржаўнае выдавецтва» (БДВ). Афіцыйным тлумачэннем такога заходу была няздольнасць выдавецтваў «Савецкая Беларусь» і «Белтрэстдрук» паспяхова выконваць задачы нацыянальнага будаўніцтва паасобку. БДВ, якое ўзначаліў З. Х. Жылуновіч, стваралася як паявое таварыства, статут якога прадугледжваў прыцягненне ў пайшчыкі як дзяржаўных, грамадскіх установ і арганізацый, так і прыватных установ і асоб. Асноўным пайшчыкам выдавецтва быў Наркамасветы БССР, паем якога з'яўляўся ўвесь капітал БДВ на момант яго стварэння. У тым жа 1924 г. пададдзел друку быў пераўтвораны ў самастойны аддзел друку ЦК КП(б)Б. Па яго ініцыятыве ў БДВ з'явілася рэдакцыйная камісія, праз палітрэдактуру членаў якой праходзіў кожны рукапіс. Да 1927 г. БДВ не мела ў сваім штаце творчых супрацоўнікаў, таму літаратурнае рэдагаванне кніжнай прадукцыі ажыццяўлялі пераважна супрацоўнікі Наркамасветы. Праз год, па маскоўскім ўзоры, з'явіўся яшчэ адзін дзяржаўны орган па наглядзе за друкам — Камітэт па справах друку і паліграфічнай прамысловасці пры СНК БССР.

На пасяджэнні калегіі аддзела друку ЦК КП(б)Б 31 сакавіка 1926 г. было вырашана ўсю планава-выдавецкую работу ў БССР сканцэнтраваць у Інбелкульце, рэдакцыйна-выдавецкім аддзеле рэспубліканскага прафсаюзнага кіраўніцтва (скасаваны ў лістападзе 1926 г.) і БДВ з тым, каб першы выдаваў навуковую літаратуру, другі — прафесійную літаратуру, а трэці — рэшту. Усе рэдакцыйна-выдавецкія планы гэтых выдавецтваў зацвярджаліся ў аддзеле друку ЦК КП(б)Б. Тады ж Камітэт па справах друку быў перападпарадкаваны СНК БССР (раней знаходзіўся ў структуры Наркамгандлю БССР — ведамстве, якое не мела ніякага дачынення да выдавецкай дзейнасці).

БДВ па-ранейшаму знаходзілася ў складзе

Наркамасветы. Пры размеркаванні наборных аркушаў па мовах выдання ў БДВ на 1925–1926 гг. партыйнае кіраўніцтва рэспублікі вызначыла наступныя суадносіны: 70 % аркушаў — беларускамоўная літаратура, 15 % — на мове ідыш, 8 % — рускамоўная, 5 % — польскамоўная, 2 % — на мове іншых нацыянальных меншасцей. Уся беларускамоўная літаратура па жанрах размяркоўвалася наступным чынам:

падручнікі — 350 аркушаў (з іх 150 — палітычныя); мастацкая — 170 аркушаў;

ленінская — 125 аркушаў;

папулярна-палітычная — 100 аркушаў; музычная — 100 аркушаў;

сялянская — 80 аркушаў;

камсамольская і піянерская — 50 аркушаў; жаночая — 20 аркушаў;

ваенная — 15 аркушаў [20, арк. 13–14].

У 1927 г. ЦК КП(б)Б абраў курс на скарачэнне колькасці выдавецтваў шляхам іх аб'яднання вакол буйнейшых, максімальнае скарачэнне выдання ведамаснай літаратуры ў наркаматах, увязку выдавецкіх планаў з задачамі сацыялістычнага будаўніцтва [13, с. 110]. Было вырашана лічыць немэтазгодным арганізацыю кааператыўных кніжных выдавецтваў, а таксама аўтарскіх выданняў. З 1928 г. пачалі рэгулярна практыкавацца перагляды тэматычных планаў выдавецтваў, кадравыя чысткі ў складзе рэдкалегій. На рэдактараў выдавецтваў ускладаўся абавязак сачыць за тым, каб змест публікуемых матэрыялаў адпавядаў ідэалагічным установкам партыі. Гэты курс на працягу 1928–1929 гг. праводзіў у жыццё Камітэт па справах друку пры СНК БССР.

Важныя прапановы, якія можна разглядаць як апошнюю арганізаваную спробу беларускай творчай інтэлігенцыі пераламаць тэндэнцыю на згортванне адноснай свабоды

друку, прагучалі на нарадзе палітрэдактараў БДВ, якая адбылася 20 кастрычніка 1929 г. у агітыцыйна-прапагандысцкім аддзеле ЦК КП(б)Б. На ёй было вырашана прасіць ЦК зняць з палітрэдактараў абавязкі праглядаць і даваць заўвагі па выданнях Беларускай Акадэміі навук, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і іншых навуковых устаноў, а таксама ВНУ. Акрамя таго, палітрэдактары прасілі зняць грыф сакрэтнасці з іх дзейнасці, з тым каб яна мела не толькі рэпрэсіўны, але выхаваўчы характар. Прапаноўвалася публікаваць рэцэнзіі палітрэдактараў на старонках перыядычнага друку. У выпадках, калі погляды палітрэдактараў БДВ і Галоўлітбела на той ці іншы рукапіс разыходзіліся, пытанне павінна было вырашацца калегіяльна пры ўдзеле прадстаўніка агітацыйна-прапагандысцкага аддзела ЦК. Дэмакратычная накіраванасць гэтых прапаноў стане зразумелай, калі ўлічыць, што палітрэдактарамі ў БДВ у той час працавалі С. М. Некрашэвіч, М. Чарот (М. С. Кудзелька), П. Р. Галавач, Я. П. Каранеўскі, М. І. Бялуга і іншыя дзеячы беларускага нацыянальнага руху 1920-х гг. Варта таксама ўзяць пад увагу дэмакратычнае па характары «Палажэнне аб выдавецтвах, якія ствараюцца дзяржаўнымі органамі і грамадскімі арганізацыямі», зацверджанае ўсесаюзным ЦВК у якасці закона 28 студзеня 1929 г. Рэакцыя ЦК КП(б)Б на гэтыя прапановы невядома, але, зыходзячы з таго, што ўжо ў наступным годзе на пасады палітрэдактараў у выдавецтвы былі прызначаны штатныя ўпаўнаважаныя Галоўлітбела, яны не былі пачуты [24, арк. 18].

Палітрэдактары вырашалі пытанне аб мэтазгоднасці выдання той ці іншай кнігі, сачылі за ідэалагічнай вытрыманасцю тэксту, давалі адпаведныя ўказанні наконт неабходных выпраўленняў. Змест і стыль працы штатных «галоўлітаўскіх» палітрэдактараў выдавецтваў перадае наступны ўрывак з дакладной запіскі інспектара

Галоўліта БССР Шульмана ў аддзел друку ЦК КП(б)Б, датаванай 23 вераснем 1937 г. У прыватнасці, ён піша:

«Са зборніка апавяданняў Самойленка “Дачка партызана” знята апавяданне “Асноўная ідэя”. Змест апавядання зводзіцца да наступнага: член партыі Кіслоўскі, удзельнік грамадзянскай вайны падчас аднаго з баёў разбурае шляхецкую сядзібу, у якой знаходзіцца штаб белых. Па заканчэнні грамадзянскай вайны партарганізацыя накіроўвае яго арганізоўваць на месцы разбуранай сядзібы ўзорны саўгас. “Вось яна асноўная ідэя... Ён разбураў, каб прагнаць ворага і пабудаваў, каб не пусціць”. Лічу, што гэтая асноўная ідэя не з′яўляецца слушнай. Асноўнай ідэяй нашага сацыялістычнага будаўніцтва з′яўляецца забеспячэнне пераможнай пабудовы камунізма ў нашай краіне... Звядзенне асноўнай ідэі нашага сацыялістычнага будаўніцтва выключна да задач абароны нашай краіны, такім чынам, з′яўляецца шкодным» [39, арк. 130–131].

Акрамя штатных палітрэдактараў Галоўлітбела да цэнзарскай працы прыцягваліся пазаштатныя палітрэдактары. Так, у партыйным выдавецтве БССР апошніх было каля шасцідзесяці, якія прадстаўлялі ЦВК, Гістпарт, БелАН, Камвуз, Вярхоўны суд, Наркамасветы, Наркамфін, Дзяржплан і інш. За парушэнне правіл друкавання рукапісных матэрыялаў кіраўнікі установаў, а таксама палітрэдактары падлягалі крымінальнай і партыйнай адказнасці [29, арк. 244].

Напрыканцы 1929 г. у БССР налічвалася пяць рэспубліканскіх выдавецтваў: БДВ, газетна-часопіснае выдавецтва ЦК КП(б)Б «Звязда», газетна-часопіснае выдавецтва ЦК ЛКСМБ «Чырвоная змена», газетна-часопіснае выдавецтва «Савецкая Беларусь», выдавецтва ЦСПСБ. Акрамя таго дзейнічалі газетна-часопісныя выдавецтвы пры пяці абласных газетах, а таксама восем рэдакцыйна-выдавецкіх аддзелаў (АН БССР, Беларускай

сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках, Наркамземе, НДІ імя Леніна, Кніжнай палаце БССР, Беларускім паляўнічым саюзе, Каапбанку, Ветэрынарным інстытуце ў Віцебску). З 1929 па 1931 г. у Мінску таксама дзейнічала аддзяленне Цэнтральнага выдавецтва народаў СССР, якое спецыялізавалася на выданні літаратуры на мовах нацменшасцей БССР. На БДВ прыпадала 80 % усёй кніжнай прадукцыі, якая выдавалася ў рэспубліцы. За першыя пяць гадоў працы агульны аб'ём кніжнай прадукцыі БДВ склаў каля 7,3 млн экзэмпляраў кніг, у т. л. 3 млн падручнікаў, 2 млн масавай літаратуры, 700 тыс. — мастацкай, 600 тыс. — дзіцячай і 100 тыс. часопісаў і інш. [1, с. 3].

У 1930 г., у разгар падрыхтоўкі справы «Саюза вызвалення Беларусі» адбылося абследаванне работы БДВ камісіяй ЦК КП(б)Б. Падчас абследавання былі выяўлены «сур'ёзныя недахопы» па ўсіх кірунках работы выдавецтва: масавы выпуск нацыянал-дэмакратычнай літаратуры, прапаганда ў падручніках класава-варожых поглядаў, адсутнасць сувязі з грамадскасцю, дрэннае абслугоўванне паліткампаній, нізкая кваліфікацыя палітрэдактараў, нізкая рабочая (5 %) і партыйная (15 %) праслойка ў апараце, дрэнная гаспадарчая дзейнасць [27, арк. 146–151]. Па выніках абследавання была прынята сумесная пастанова прэзідыума Цэнтральнай кантрольнай камісіі КП(б)Б і Рабоча-сялянскай іспекцыі БССР, у якой работа БДВ прызнавалася «зусім незадавальняючай і праваапартуністычнай». Неўзабаве пачаліся праверкі кадравага складу і друкаванай прадукцыі галоўнага выдавецтва БССР. Як нацдэмы былі звольнены з працы і асуджаны загадчык выдавецтва І. І. Шыпіла, яго намеснік П. В. Ільючонак, загадчык выдавецкага аддзела І. І. Цвікевіч. Арыштавалі таксама былых афіцэраў царскай арміі — загадчыка выдавецкага аддзела К. Д. Ламаку і супрацоўніка таго ж аддзела Ц. Я. Адзярыху. Адначасова праводзілася

«ўмацаванне» штатаў рэдакцый БДВ партыйнымі кадрамі — пры выдавецтве быў створаны рабочы рэдакцыйны савет, Наркамасветы даручалася выдзеліць «педагогамарксіста» для кіравання сектарам юнацкай і дзіцячай літаратуры. Выпрацоўваліся новыя прыярытэты ў выпуску прадукцыі БДВ [25, арк. 30].

Кожная новая хваля рэпрэсій забірала з сабой таксама пазаштатных палітрэдактараў БДВ, якія зрабілі фатальныя памылкі ў выглядзе пропуску кніг рэпрэсаваных аўтараў. Напрыклад, у 1936 г. быў арыштаваны ўжо выключаны да таго часу з партыі былы намеснік наркама асветы, кіраўнік Галоўмастацтва, галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» і грамадскі палітрэдактар БДВ Х. М. Дунец за «трацкісцка-зіноўеўскую прапаганду» у выглядзе рэцэнзавання кніг А. Юдэльсона «Граніца» (1934) і Л. Зіcканда «Пралетарыі Берліна» (1934). Справа Х. М. Дунца рыхтавалася загадзя, на яго мэтанакіравана збіраўся кампрамат, накшталт гэтых дзвюх рэцэнзій.

На пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б 6 кастрычніка 1931 г. была прынята пастанова «Аб рабоце Белдзяржвыдавецтва», згодна з якой Беларускае дзяржаўнае выдавецтва зноў перайменоўвалася ў Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі (ДВБ). У ім ствараліся асобныя сектары па галінах кніжнай прадукцыі з перспектывай арганізацыі на іх аснове самастойных выдавецтваў: партыйнай і палітмасавай; вучэбнай і педагагічнай; сельскагаспадарчай; мастацкай; юнацкай і дзіцячай; эканамічнай, прававой, прафсаюзнай і сацыялістычнага будаўніцтва; вайсковай, фізкультурнай і спартыўнай. Асаблівую ўвагу кіраўніцтва ДВБ было павінна звярнуць на выданне твораў класікаў марксізму-ленінізму, палітмасавай літаратуры, падручнікаў, якія спрыялі інтэрнацыянальнаму выхаванню, кніг і брашур па сельскай гаспадарцы з прапагандай калгаснага будаўніцтва і, нарэшце, мастацкіх літаратурных твораў, якія ўсхвалялі б

гераізм сацыялістычнага будаўніцтва і класавага змагання, перайначванне грамадскіх адносін і новых людзей. Для тэарэтыка-метадычнага абслугоўвання індустрыялізацыі рэспублікі ў Мінску стваралася самастойнае Дзяржаўнае выдавецтва тэхнічнай літаратуры, падпарадкаванае непасрэдна Вышэйшаму савету народнай гаспадаркі. Для дапамогі «выхаванню і вучобы новых аўтарскіх кадраў» пры ДВБ, а таксама буйнейшых прамысловых прадпрыемствах, калгасах і саўгасах адкрываліся кансультацыйныя бюро. Адпаведна з пастановай, рэдактары газет «Звязда» і «Савецкая Беларусь» павінны былі друкаваць штомесячныя крытычныя агляды літаратуры ДВБ. Асобны пункт пастановы вызначыў дзве арганізацыі, якім было дазволена займацца кнігагандлем у БССР — ДВБ і Белкаапсаюз [28, арк. 44].

У 1935–1936 г. кіраўніцтва мінскага гаркама КП(б)Б учыніла разгром ДВБ, зачэпкай да якога паслужыў арышт у 1935 г. вядомага ваеннага дзеяча Г. Д. Гая, з якім некалькі кіраўніцкіх супрацоўнікаў выдавецтва сябравалі з часоў Грамадзянскай вайны. Кіраўніцтва галоўнага выдавецтва БССР абвінавацілі ў нацыяналізме і русафобіі (са 120 назваў кніжак, выдадзеных у 1935 г., толькі 6 былі рускамоўныя). Менавіта гэтым партыйныя ідэёлагі тлумачылі цяжкае фінансавае становішча, у якім апынулася ДВБ. У тым жа 1935 г. агульны кошт нерэалізаванай кніжнай прадукцыі, большасць якой складалі забракаваныя падручнікі, дасягнуў рэкорднай лічбы ў 1,7 млн рублёў. Другім пунктам абвінавачвання былі фінансавыя парушэнні і анархія ў ганарарнай палітыцы, што дазваляла аказваць фінансавую падтрымку аўтарам — «ворагам народа».

Выконваючы партыйнае даручэнне, у сакавіку 1935 г. следчыя НКУС выкрылі ў ДВБ «групу трацкістаў» на чале з дырэктарам выдавецтва, былым савецкім і дыпламатычным работнікам Ф. А. Браўковічам[13]. «Трацкісцкую групу»

вінавацілі ў наўмысным выпуску няякаснай літаратуры, якая з цягам часу спісвалася ў макулатуру. Падчас масавых арыштаў у ДВБ на базе выдавецтва было знойдзена незапатрабаваных кніг ужо на суму ў 3 млн рублёў. Усе яны былі падзелены на наступныя катэгорыі: шкодныя, састарэлыя, перавыдаваныя, нізкаякасныя, няходкія і дарагія. У выніку ў 1935 г. з базы выдавецтва пайшло на макулатуру 110 тон друкаванай прадукцыі [36, арк. 82].

На працягу 1935 г. былі звольнены з працы, выключаны з партыі, арыштаваны 36 супрацоўнікаў ДВБ, у 1936 г. — яшчэ 46 супрацоўнікаў з наступнымі фармулёўкамі: «як трацкіст», «за прытупленне класавай пільнасці», «як неадпавядаючы (сын кулака)», «як прагульшчыца (дачка контррэвалюцыянера Ластоўскага)», «за сувязь з высланым мужам», «як рэгент царкоўнага хору» і інш. [37, арк. 36–37]. Нягледзячы на пакаянныя лісты у ЦК, сумны лёс не абмінуў дырэктара выдавецтва П. П. Шастакова («эсэр, служыў у царскай арміі»), які ў 1936 г. быў выключаны з партыі і зняты з работы. Многія са звольненых былі пазней рэпрэсаваны. Неўзабаве ЦК КП(б)Б пайшоў на крайнюю меру — роспуск партыйнай арганізацыі ДВБ.

Водгукі разгрому ДВБ мы знаходзім на старонках мемуарнай літаратуры: «У камеры мінскай турмы перад этапным стартам [у канцы 1936 — пачатку 1937 г. — А. Г.] знаходзіліся і працаўнікі Белдзяржвыдаву — пачынаючы ад наборшчыка і заканчваючы чамусьці галоўным мастаком. Пасадзілі іх за нейкую памылку друку, расцэненую як ідэалагічная дыверсія, нягледзячы на тое, што далей сігнальнага паасобніка гэтая памылка не пайшла. Казалі, быццам пры друкаванні твораў Маякоўскага радок у вершы “Я волком бы выгрыз бюрократизм” быў надрукаваны ў наступным выглядзе: “Я волком бы выгрыз бюро крайкома”» [67, с. 50].

У сваім лісце сакратару ЦК УсеКП(б) М. І. Яжову ад 17

верасня 1936 г. першы сакратар ЦК КП(б)Б М. Ф. Гікала скардзіўся на вельмі цяжкае становішча з кадрамі, якое склалася ў ДВБ. Адсутнічалі дырэктар выдавецтва, загадчыкі сектарамі мастацкай, сацыяльна-эканамічнай літаратуры, нацсектара, а таксама пяць рэдактараў. Масавыя рэпрэсіі, якія не абмінулі Галоўлітбел, прывялі да таго, што ў найбуйнейшых выдавецтвах БССР адсутнічалі палітрэдактары ад цэнзурнага ведамства [38, арк. 19]. Палепшыць сітуацыю было заклікана рашэнне бюро ЦК КП(б)Б — перадаць Дзяржаўнае выдавецтва БССР з падпарадкавання Народнаму камісарыяту асветы БССР у распараджэнне СНК БССР (на правах упраўлення па выдавецкіх справах), прынятае 26 верасня 1938 г. [40, арк. 22].

У сярэдзіне 1930-х гг. партыйнае кіраўніцтва БССР звярнула таксама ўвагу на выдавецкую дзейнасць, якая ажыццяўлялася па-за межамі ДВБ. У лютым 1935 г. бюро ЦК КП(б)Б прыняло пастанову «Аб скажэннях у перакладах на беларускую мову прац класікаў марксізму-ленінізму, выдадзеных БелАН», вынікам якой было звальненне з працы сакратара партарганізацыі акадэміі і вынясенне вымовы прэзідэнту БелАН, дырэктару Інстытута гісторыі П. В. Горыну.

Узброенае праверанымі партыйнымі рэдактарскімі кадрамі партыйнае выдавецтва БССР у меншай ступені падпадала пад цэнзарскі прэс Галоўлітбела — АВЦ БССР. Але пачынаючы з сярэдзіны 1930-х гг. цэнзурныя канфлікты адбываюцца і там. У папрок Партвыдату былі пастаўлены памылкі, недакладнасці і нават контррэвалюцыйныя вылазкі пры перакладзе на беларускую мову класікаў марксізму-ленінізму. Была прынята спецыяльная пастанова бюро ЦК «Аб мерапрыемствах па паляпшэнні выдавецкай работы Белпартвыдата і Гістпарта». Для пазбаўлення магчымых памылак пры Белпартвыдаце ствараласа спецыяльная камісія на чале з сакратаром ЦК КП(б)Б Д. І.

Валковічам.

Гэты захад быў выкліканы рэзкім павелічэннем выдання марксісцкай літаратуры, у т. л. на беларускай мове.

Так, калі за перыяд 1924–1928 гг. у БССР было выдадзена 28 назваў твораў Маркса, Энгельса, Леніна і Сталіна агульным тыражом 194 тыс., то з часу заснавання Белпартвыдата ў сярэдзіне 1933 г. да канца 1934 г. — 107 назваў агульным тыражом 1,2 млн [34, арк. 309, 324]. Увосень 1937 г., падчас уздыму хвалі масавых рэпрэсій, пытанне пра беларускамоўныя выданні класікаў марксізму-ленінізму паўстала зноў, але ўжо ў сувязі з прадмовамі і каментарыямі да іх, зробленымі «ворагамі народа» — В. Г. Кнорыным, У. М. Ігнатоўскім, А. І. Дзякавым, В. Ф. Шаранговічам і інш. Тады ж, у кастрычніку 1937 г. як «вораг народа» быў арыштаваны і расстраляны былы дырэктар ДВБ вядомы журналіст П. П. Шастакоў.

У 1934 г. ліквідавалі Дзяржаўнае выдавецтва тэхнічнай літаратуры, у сакавіку 1935 г. — Ваеннае выдавецтва БССР, у 1938 г. — Партвыдат пры ЦК КП(б)Б. Працягвалі дзейнасць выдавецтвы «Звязда», дзе акрамя аднайменнай газеты выходзілі часопісы «Бальшавік Беларусі» і «Работніца і калгасніца», а таксама «Советская Белоруссия», дзе выдавалася аднайменная газета. У Мінску таксама існавала беларускае аддзяленне агульнасаюзнага Дзяржвыдата.

**Статыстыка кніжных выданняў БССР у гады другой пяцігодкі [4, с. 125]**

| Гады | Колькасць назваў | Тыраж (тыс.) |
|---|---|---|
| 1933 | 1264 | 10 253 |
| 1934 | 1213 | 9 728 |
| 1935 | 1009 | 8 437 |
| 1936 | 938 | 9 097 |
| 1937 | 639 | 8 833 |

З табліцы бачна, што калі за гады другой пяцігодкі колькасць назваў выдадзеных кніг у БССР скарацілася ўдвая, то скарачэнне агульнага тыражу амаль непрыкметнае. Гэта тлумачыцца выпускам у 1936–1937 гг. у гіганцкіх аб'ёмах «сталінскай канстытуцыі», а таксама класікаў марксізму-ленінізму і тагачасных партыйных правадыроў. З 8,8 млн экзэмпляраў кніг, выдадзеных у 1937 г., 3 млн адносіліся да палітыка-партыйнай літаратуры. Падобная выдавецкая палітыка, адшліфаваная двума папярэднімі дзесяцігоддзямі цэнзарскай работы, ніяк не была звязана ні прапарцыянальна, ні па змесце з сапраўдным попытам чытача і з'яўлялася адной з формаў ідэалагічнага прымусу.

Трэба адзначыць, што разам са звычайнымі выдавецкімі функцыямі ДВБ надавалася права кантролю над усім працэсам друку ў краіне. Манапалізацыя ў руках ДВБ выдавецкай дзейнасці прывяла да ўсталявання суцэльнага партыйнага дыктату і цэнзурнага кантролю друкаванай прадукцыі, і як вынік — да знішчэння свабоды слова і крытычнай думкі. Нездарма ў кулуарах пісьменнікі называлі ДВБ «могілкамі кніг».

3. Галоўлітаўскі кантроль.

4. Удзел АДПУ–НКУС у наглядзе за распаўсюджваннем інфармацыі ўключаў:

— прафілактыку, папераджальныя дзеянні, персанальны нагляд за пісьменнікамі і журналістамі, нават вельмі адданымі рэжыму. Для гэтага стваралася сетка добраахвотных памагатых, якія ўкараняліся ў творчыя

саюзы, рэдакцыі, друкарні;

— нагляд за бібліятэчнымі чысткамі ад контррэвалюцыйнай літаратуры — у кожную тройку па ачыстцы бібліятэк абавязкова ўваходзіў супрацоўнік АДПУ–НКУС. Былі выпадкі, калі знаходжанне ў спісе забароненых аўтараў было падставай для атрымання ярлыка «ворага народа».

Вырашальнае значэнне мела думка дзяржбяспекі адносна кандыдатур на пасады цэнзараў і рэдактараў, якія

праходзілі праверку наконт «ідэалагічнай і палітычнай адпаведнасці». У выпадку «палітычных прарываў», асабліва ў 1930-я гг., яны часта падлягалі не толькі вымовам і звальненням, але і арышту па палітычных абвінавачваннях.

Яшчэ больш значную ролю адыгрывалі гэтыя органы ў справах замежнай цэнзуры, якая адказвала за допуск, а дакладней, нядопуск замежных друкаваных выданняў у СССР. Да ўсіх цэнзарскіх пунктаў на мытнях і Галоўпаштампце былі прыкамандзіраваны работнікі НКУС, якія сачылі за работай цэнзараў, а таксама фіксавалі адрасатаў прысылкі замежных выданняў.

Карную цэнзуру ў органах АДПУ–НКУС ажыццяўляў спецыяльны аддзел паліткантролю. Утвораны 21 снежня 1921 г., першапачаткова ён займаўся перлюстрацыяй паштова-тэлеграфнай карэспандэнцыі. Пасля скасавання ваеннай цэнзуры і аб’яднання ў 1925 г. аддзела паліткантролю з інфармацыйным аддзелам у аддзел інфармацыі і паліткантролю яго паўнамоцтвы пашырыліся. Акрамя перлюстрацыі і адбору карэспандэнцыі па аператыўных спісах супрацоўнікі аддзела назіралі за работай друкарняў, кнігарняў, праглядалі друкаваныя творы, што ўвозіліся з-за мяжы, нарэшце, ажыццяўлялі паліткантроль дзейнасці тэатраў, кіно і інш. У 1931 г. аддзел інфармацыі і паліткантролю быў аб’яднаны з сакрэтным аддзелам у сакрэтна-палітычны аддзел АДПУ. З красавіка

1935 г., пасля зацвярджэння ЦВК БССР новай рэдакцыі 121-га артыкула Крымінальнага кодэкса («Парушэнне правіл, устаноўленых для выпуску і размнажэння твораў друку, а таксама правіл фотакінацэнзуры, выклікае пазбаўленне волі да трох гадоў альбо папраўча-працоўныя работы да аднаго года») сакрэтна-палітычны аддзел НКУС займаўся гэтым ужо на прававой аснове [47, арк. 6].

У ідэале ўзаемаадносіны паміж органамі дзяржбяспекі і Галоўлітам былі павінны выглядаць наступным чынам: АДПУ–НКУС караў парушальнікаў цэнзурных забарон і за гэта атрымліваў ад удзячных цэнзараў кампрамат на выкрытых імі «варожых элементаў». Гэтая ідэальная схема ўзаемаадносін двух ведамстваў добра спрацоўвала на працягу дзесяцігоддзяў. Напрыклад, калі ў 1931 г. у Слуцку былі выкрыты выдаўцы падпольных трацкісцкіх улётак. Супрацоўнікі АДПУ выкарыстоўвалі галоўлітаўскія зводкі падчас следства над пісьменнікамі-«ўзвышэнцамі». Але іншым разам супрацоўнікі дзяржбяспекі парушалі гэты статус-кво і бралі на сябе функцыі звышцэнзуры. Шэраг выданняў, якія былі дазволены да друку Галоўлітбелам, забараняліся АДПУ, і галоўлітаўскія цэнзары мусілі каяцца ў прытупленні класавай пільнасці. Так было ў 1928 г., калі органы АДПУ арыштавалі неадменнага сакратара Інбелкульта В. Ю. Ластоўскага і старшыню аддзела гуманітарных навук С. М. Некрашэвіча за змяшчэнне ў адным з тамоў «Запісак…» інстытута, дазволеным да друку Галоўлітбелам, мовазнаўчага артыкула Я. Станкевіча (першы як неадменны сакратар Інбелкульта ставіў дазвольны подпіс на ўсю яго друкаваную прадукцыю, а другі з’яўляўся рэдактарам гэтага тома) [66, с. 242–246]. У 1936 г., падчас разгрому сіламі НКУС Дзяржаўнага выдавецтва БССР атрымалі вымовы або былі звольнены ўсе ўпаўнаважаныя Галоўліта па гэтым выдавецтве: С. Я. Гайдук — за тое, што «…затрымліваючы кнігі па Галоўліту не рабіў

палітычныя высновы пра асобы, якія апрацоўвалі і прасоўвалі гэтыя кнігі», Ц. П. Шакінка — за «пропуск у друк нацдэмаўскіх кніг», Д. М. Орхіс — за «пропуск у друк кнігі "Пралетарыі Берліна" Л. Зіскінда», Е. Б. Ліўшыц — як асоба, якая «не можа быць упаўнаважаным Галоўліта» [37, арк. 61–68].

Ад звышцэнзуры АДПУ–НКУС цярпелі не толькі цэнзары, але і літаратурныя крытыкі, вядомыя сваёй адданасцю ўладзе. 5 красавіка 1932 г. начальнік аддзела паліткантролю АДПУ БССР Зубрыцкі накіраваў сакрэтны ліст у культпроп ЦК КП(б)Б наступнага зместу: «Даводзім да Вашага ведама аб наступным: у падручніку "Літаратурная чытанка" для 5 гр. ФЗС і ШСМ, выданай пад рэдакцыяй Л. Бэндэ на 73-й старонцы зьмешчана пад назвай "Ворагі" — вытрымка з аповесьці П. Галавача "Спалох на загонах". У гэтай вытрымцы з аповесьці П. Галавача, якая займае 6 старонак, па сутнасьці справы падаецца выключна мэтад кулацкай барацьбы з Савецкай уладай і ў прыватнасьці з калектывізацыяй. Прычым, шкоднасьць гэтай вытрымкі, адарванай ад усяго кантэксту аповесьці, асабліва відавочна ў сувязі з тым, што да гэтай вытрымкі з аповесьці рэдактарам не дадзена (акрамя кантрольных пытаньняў у канцы) ніякіх камэнтарыяў. Гэтыя акалічнасьці прывялі да таго, што разьбірая вышэйпамяненую вытрымку з аповесьці П. Галавача "Спалох на загонах", вучні 5 групы Урыцкай ШСМ, Гомельскага Прыгараднага раёну цалкам запісалі ў свае сшыткі, без усякіх камэнтарыяў антысавецкую праклhistoricamацыю, якая падаецца ў першай частцы вытрымкі "Ворагі"» [31, арк. 114].

Вядома, што ў ролі палітцэнзараў спрабавалі свае сілы нават найвышэйшыя чыны органаў дзяржбяспекі. 18 сакавіка 1940 г. наркам унутраных спраў БССР Л. Ф. Цанава сігналізаваў першаму сакратару ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнку аб нядбайнай падрыхтоўцы літаратуры і

плакатаў да выбараў дэпутатаў у Вярхоўныя Саветы СССР і БССР ад заходніх абласцей БССР у мінскай друкарні імя Сталіна. У прыватнасці, ён казаў аб памылцы ў брашуры Л. П. Берыя «Найвялікшы чалавек сучаснасці», прысвечанай Сталіну. У данясенні Л. Ф. Цанавы называліся таксама вінаватыя – дырэктар друкарні Чыпчын, а таксама начальнікі цэхаў Берковіч і Словуш (апошні ўжо быў да таго часу асуджаны) [45, арк. 22].

5. Вышэйшай інстанцыяй, дзе вырашаліся пытанні палітычнага кантролю інфармацыйнага забеспячэння грамадства, быў апарат ЦК УсеКП(б). Усёй агітацыйна-прапагандысцкай і культурнай работай, якая праводзілася партыйнымі, савецкімі, прафесійнымі, кааператыўнымі і іншым арганізацыямі, кіраваў агітацыйна-прапагандысцкі аддзел (АПА) ЦК, дзе ў 1921 г. быў створаны пададдзел друку. У 1924 г. пытанні кантролю за цэнзурай адышлі ад АПА ЦК да самастойнага аддзела друку ЦК, створанага на аснове былога пададдзела АПА ЦК. Праз чатыры гады, падчас структурнай перабудовы органаў партыйнага кіравання, у мэтах эканоміі сродкаў АПА і аддзел друку былі зліты ў аддзел агітацыі, прапаганды і друку. На працягу 1930-х гг. абавязкі куратараў Галоўліта ў ЦК выконвалі паслядоўна аддзел культуры і прапаганды ленінізму, аддзел агітацыі і прапаганды ленінізму, аддзел друку і выдавецтваў. Нарэшце, на XVIII з’ездзе УсеКП(б), які адбыўся ў сакавіку 1939 г., па ініцыятыве Сталіна было прынята рашэнне аб’яднаць аддзел прапаганды і агітацыі і аддзел друку ў адзіным Упраўленні прапаганды і агітацыі ў складзе ЦК УсеКП(б). Начальнікам новага ўпраўлення быў прызначаны А. А. Жданаў, якога ў наступным годзе змяніў Г. Ф. Аляксандраў[14]. Ва ўпраўленні было створана пяць аддзелаў: партыйнай прапаганды, марксісцка-ленінскай падрыхтоўкі кадраў, друку, агітацыі і культурна-асветніцкіх устаноў. Упраўленне прапаганды і агітацыі ЦК уяўляла

сабой разгалінаваную магутную структуру, якая кантралявала ўсё культурнае жыццё краіны, у т. л. механізм яго цэнзуравання.

Аналагічныя змены адбываліся ў структурах ЦККП(б)Б, якія адказвалі за інфармацыйнае забеспячэнне грамадства. Галоўлітбел — Галоўліт і АВЦ БССР курыравалі аддзел культуры і прапаганды ленінізму (загадчыкі М. А. Ляўкоў, Д. Ю. Конік і інш.), аддзел друку і выдавецтваў (загадчыкі А. Ф. Адамовіч, М. В. Казюк, У. Н. Малін і інш.), нарэшце, аддзел агітацыі і прапаганды (загадчыкі А. І. Дзякаў, П. Д. Ладыжын і інш.). Усе яны падпарадкоўваліся сакратару ЦК, які курыраваў ідэалагічную сферу. Менавіта з гэтых структур зыходзілі дырэктыўныя ўказанні, якія няўхільна выконваліся цэнзурнымі органамі, сігналы, якія вызначалі пачатак той ці іншай палітычнай кампаніі. Са свайго боку Галоўлітбел дасылаў у ЦК зводкі, якія выкарыстоўваліся для напісання разгромных артыкулаў, накіраваных супраць творчай інтэлігенцыі [5].

У экстранных выпадках цэнзурныя забароны зыходзілі з ЦК непасрэдна ў выдавецтвы, абмінаючы Галоўлітбел. Напрыклад, у лютым 1927 г. аддзел друку ЦК КП(б)Б прыпыніў распаўсюджванне спеўніка, выдадзенага вайсковай камісіяй Інбелкульта, патрабуючы зменаў у тэкстах шэрага песень і маршаў [21, арк. 20]. У 1931 г. дырэктар Беларускага дзяржаўнага выдавецтва А. Я. Некрашэвіч атрымаў сакрэтнае распараджэнне наступнага зместу:

«Культпроп ЦК КП(б)Б прапануе Вам забараніць распаўсюджваньне казкі Я. Коласа “Як пеўнік ратаваў курачку”, як контррэвалюцыйную”» [65, с. 73]. Неўзабаве пасля пераезду ў БССР П. К. Панамарэнка праявіў звышпільнасць, прыпыніўшы распаўсюджванне ў рэспубліцы надрукаванага ў Маскве агітацыйнага плаката галоўнага ўпраўлення ашчадных кас, які, на думку

партыйнага правадыра, заклікаў калгаснікаў схаваць ад дзяржнарыхтовак хлеб і садавіну [46, арк. 236].

У другой палове 1930-х гг. ініцыятыва цэнзурных забарон пачынае зыходзіць таксама з нізавых партарганізацый. Напрыклад, у 1935 г. творы Я. Крачкоўскага «Замак Любельскі» і «Пабег Стаха» былі забаронены да распаўсюджвання рашэннем Мінскага гаркама КП(б)Б з-за «хлуслівых сцвярджэнняў па адрасу польскай камуністычнай партыі» [35, арк. 9]. Праз два гады распараджэннем сакратара Бабруйскага райкама партыі была адабрана з абарачэння брашура «Лагер ваеннапалонных» з-за яе нібыта антыпартыйнага характару. Брашуру, дзе, між іншым, узгадвалася дзейнасць арганізацыі ПаалейЦыон па падтрымцы ваеннапалонных чырвонаармейцаў, якія ўтрымліваліся ў Бабруйскай крэпасці ў 1920 г., не ўратавала нават тое, што яе выдаўцом быў Гістпарт [60, арк. 1–5].

ЦК КП(б)Б меў уласную цэнзурную структур ў выглядзе Інстытута гісторыі КП(б)Б і рэвалюцыйнага руху на Беларусі, створанага ў 1929 г. на падмурку Гістпарта. Яго цэнзурная дзейнасць, скіраваная пераважна на гістарычную веду, не перакрыжоўвалася з галоўлітаўскай. Трэба адзначыць, што Гістпарт ужо ў 1920-я гг. спрабаваў свае сілы ў «мяккім» цэнзураванні гістарычнай веды, пакуль што яшчэ з маральна-этычных меркаванняў. Напрыклад, у 1925 г. загадчык Гістпарта С. Х. Агурскі ставіў пытанне перад маскоўскім кіраўніцтвам аб магчымасці даваць у друк матэрыялы аб небальшавіцкай дарэвалюцыйнай палітычнай дзейнасці членаў УсеКП(б) [53, арк. 6]. У 1930-я гг. такіх пытанняў ужо не паўставала. Інстытут гісторыі партыі праводзіў жорсткую палітычную цэнзуру ў адносінах да гістарычнай літаратуры, якая друкавалася не толькі ў партыйных, але і ў дзяржаўных выдавецтвах. Інстытут сачыў за тым, каб забароненыя дакументы ні ў якім выглядзе не

ўзгадваліся на старонках гістарычных даследаванняў. Кола забароненых першакрыніц было досыць шырокім — ад лістоў Леніна да жандармскага справаводства. Ён таксама сачыў за тэарэтычным асэнсаваннем фактаў і падзей, патрабуючы ад аўтараў замены ўласных думак палітыка-партыйнымі штампамі, якія змяняліся ў адпаведнасці са сталінскім палітычным курсам.

Дырэктар Інстытута гісторыі партыі С. Х. Агурскі імкнуўся стварыць у падначаленай установе сістэму палітрэдактуры, праз якую б праходзілі рукапісы прац беларускіх гісторыкаў. Гэта было выклікана неаднаразовай жорсткай крытыкай прац гісторыкаў з боку партыйнага кіраўніцтва рэспублікі. Напрыклад, сакратар ЦК КП(б)Б В. Ю. Жаброўскі ў 1932 г. ахарактарызаваў працы супрацоўнікаў Гістпарта і Інстытута гісторыі БАН М. С. Югава, Е. І. Рыўліна, У. Ю. Гесэна, М. А. Поташа, К. І. Кернажыцкага, В. Карніенкі як «наглыя вылазкі на гістарычным фронце» [55, арк. 5]. Работа палітрэдактара, асабліва гісторыка-партыйнай літаратуры, была вельмі складаная і небяспечная. Палітычныя памылкі, якія з-за частых змен палітычнага курсу сталінскага кіраўніцтва былі непазбежныя, каштавалі рэдактарам вельмі дарага[15], не кажучы пра маральна-этычны аспект падобнага занятку. Таму гісторыкі, тыя, што працавалі як у Гістпарце, так і ў БАН, па розных падставах імкнуліся альбо перастрахавацца, прыдумляючы палітычныя недахопы прац, альбо пазбавіцца ад палітычнага рэдагавання прац сваіх калег, пра што С. Х. Агурскі казаў на нарадзе супрацоўнікаў Гістпарта 2 лістапада 1933 г. [55, арк. 5].

Тым не менш, сістэма гістпартаўскай палітрэдактуры была створана. Інструкцый па цэнзураванні гістарычных прац не існавала. Таму рэдактар быў вымушаны абапірацца на ўласныя марксісцкую тэарэтычную падрыхтоўку і класавае чуццё. Адным з найбольш суровых партыйных

рэдактараў-рэцэнзентаў быў намеснік загадчыка аддзела друку ЦК КП(б)Б В. А. Сербента. Са шматлікіх рукапісаў гістарычных і філасофскіх прац, якія прайшлі праз яго папярэднюю цэнзуру, найбольшую вядомасць атрымала забарона «Гісторыі Беларусі» М. В. Доўнар-Запольскага. Рукапіс кнігі стаў першай сур'ёзнай ахвярай барацьбы з гістарычнай навукай, распачатай партыйным кіраўніцтвам БССР. Пасля рэцэнзіі В. А. Сербенты з'явіліся дзве пастановы бюро ЦК КП(б)Б, спецыяльна прысвечаныя кнізе М. В. Доўнар-Запольскага. У выніку славутаму гісторыку было прапанавана пакінуць БДУ, а неўзабаве і БССР [61, арк. 597–607].

В. А. Сербента працягваў выконваць ролю цэнзара гістарычных прац ужо на пасадзе дырэктара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б. Так, у 1931 г. ён асабіста даў дазвол на публікацыю рускамоўнага рукапісу кнігі С. Х. Агурскага «Рэвалюцыйны рух на Беларусі» ў БДВ з агаворкай, што яна мае «…цэлы шэраг метадалагічных памылак і патрабуе значнай перапрацоўкі» [54, арк. 1]. У тым жа годзе ён забракаваў як «не адпавядаючы сучаснасьці» артыкул аб БССР, падрыхтаваны супрацоўнікамі БАН для Малой савецкай энцыклапедыі [54, арк. 76].

Атмасферу, што панавала ў Інстытуце гісторыі партыі, перадае падрыхтаваная ў 1930 г. М. А. Каралём і П. Я. Юргелевічам рэцэнзія на дапаможнік Ю. Н. Майзеля і М. І. Шапавалава «Кароткі нарыс гісторыі КП(б)Б» пад знішчальнай назвай «Супроць антыбальшавіцкай канцэпцыі ў гісторыі КП(б)Б». Рэцэнзія, якая заняла 42 старонкі, заканчвалася высновай, што кніга «…ні ў якім разе ня можа лічыцца бальшавіцкай гісторыяй партыі і павінна быць адабрана з усіх школ, бібліятэк, як падручнік» [56, арк. 1–42].

У 1934 г. партвыдат пры ЦК УсеКП(б) «выкрыў»

палітычныя памылкі ў зборніку «КП(б)Б у рэзалюцыях» (Мінск. Ч. 1. 1934), укладзеным супрацоўнікам Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б Ю. Н. Майзелем і выдадзеным пад рэдакцыяй намесніка дырэктара той жа ўстановы А. І. Зюзькова. Рашэннем дырэкцыі інстытута зборнік, дзе знайшлі рэзалюцыі меншавіцкага характару, быў адабраны з продажу, а на Ю. Н. Майзеля і А. І. Зюзькова накладзены партспагнанні (першы загінуў у 1942 г. у ГУЛАГУ, другі ў 1938 г. расстраляны) [57, арк. 26–31].

У другой палове 1930-х гг. Гістпарт займаўся не толькі рэцэнзаваннем гісторыка-партыйных даследаванняў, але і праглядам і адабраннем раней выдадзенай шкоднай літаратуры па гісторыі КП(б)Б і рэвалюцыйнага руху на Беларусі. У 1937 г. дырэктар інстытута С. У. Пасэ звярнуўся да першага сакратара ЦК КП(б)Б М. Ф. Гікалы і загадчыка аддзела прапаганды ленінізму і масавай агітацыі Д. Ю. Коніка з прапановай адабрання кніг рэпрэсаваных аўтараў альбо іх укладальнікаў: С. Х. Агурскага («Рэвалюцыйны рух на Беларусі, 1863–1917». Менск, 1925 [на ідыш]; «Кастрычніцкая рэвалюцыя на Беларусі. Зборнік артыкулаў і ўспамінаў». Менск, 1927 [на ідыш]); В. К. Шчарбакова («Кастрычніцкая рэвалюцыя на Беларусі і белапольская акупацыя». Менск, 1930); Н. М. Прусліна («Барацьба за Кастрычнік у Полацку: Успаміны». Менск, 1934); М. Шульмана («1905 год у Беларусі: Зборнік артыкулаў, успамінаў і матэрыялаў». Менск, 1925); М. А. Поташа («Народніцкі сацыялізм». Масква, 1930 [на рус. мове]). Не абмяжоўваючыся гэтым, С. У. Пасэ прапанаваў зрабіць крытычныя публікацыі ў друку пра ўжо адабраныя Галоўлітам БССР кнігі рэпрэсаваных Б. Л. Олікера і Л. Я. Розенблюма «Нарысы па гісторыі камсамолу Беларусі» (Менск, 1927) і Ю. Н. Майзеля і М. І. Шапавалава «Кароткі нарыс гісторыі КП(б)Б» (Менск, 1929), таму што тая крытыка гэтых кніг, якая з'явілася ў 1933 г., недастатковая [59, арк. 14–

18].

У бібліятэцы Гістпарта існаваў «закрыты фонд», дзе захоўваліся кнігі, выдадзеныя пад грыфам «сакрэтна», а таксама забароненая літаратура, пераважна працы Троцкага, Каменева, Зіноўева, Бухарына, Рыкава, Томскага і інш. Кнігамі гэтага фонду маглі карыстацца навуковыя супрацоўнікі Гістпарта з дазволу дырэкцыі інстытута. У 1937 г. «закрыты фонд» Гістпарта быў перададзены Галоўліту і АВЦ БССР [58, арк. 40].

## Літаратура


1. Беларускае дзяржаўнае выдавецтва за 5 год: Матар’ялы для дакладчыкаў. — Менск : БДВ, 1929. — 32 с.
2. Блюм, А. В. За кулисами «министерства правды» / А. В. Блюм. — СПб. : Академический проект. — 2000. — 303 с.
3. Великая Октябрьская Социалистическая революция в Белоруссии : документы и материалы : Т. 2. / ред. коллегия: Т. С. Горбунов [и др.]. — Минск : Госиздат БССР, 1957. — 1068 с.
4. Волк, А. А. Книгоиздательское дело в Белоруссии / А. А. Волк, А. И. Ракович. — Минск : Изд-во БГУ им. Ленина, 1977. — 280 с.
5. Давідзюк, Я. Пад фальшыва-нацыянальным сцягам / Я. Давідзюк // Зьвязда. — 1933. — 6 лют.
6. Джэлюк, А. Умацаваць кіраўніцтва Наркамасьветы, ачысьціць яго апарат ад гнілых лібэралаў і клясава-варожых элементаў / А. Джэлюк, Юр. Такарчук, М. Шаткін // Зьвязда. — 1933. — 3 сак.
7. Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці. — Ф. 246. — Воп. 1. — Спр. 316.
8. Зеленов, М. В. Аппарат ЦК РКП(б) — ВКП(б), цензура и историческая наука в 1920-е годы / М. В. Зеленов. — Н. Новгород : ГИПП «Нижполиграф». — 2000. — 538 с.

9. Зьвязда. — 1933. — 3 сак.
10. Купала, Я. Цуда, створанае большэвікамі / Я. Купала // Літаратура і мастацтва. — 1933. — 18 верас. — № 25 (50).
11. Літаратура і мастацтва. — 1933. — № 25. — 18 верас.
12. Літаратура і мастацтва. — 1937. — 6 крас.
13. Матар'ялы да справаздачы ЦК на XI з'ездзе КП(б)Б. — Менск : выданьне ЦК КП(б)Б, 1927. — 161 с.
14. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). — Ф. 4п. — Воп. 1. — Спр. 1280.
15. Тамсама. — Спр. 1800.
16. Тамсама. — Спр. 1907.
17. Тамсама. — Спр. 1964.
18. Тамсама. — Спр. 2332.
19. Тамсама. — Спр. 2354.
20. Тамсама. — Спр. 2356.
21. Тамсама. — Спр. 3546.
22. Тамсама. — Спр. 4192.
23. Тамсама. — Спр. 4339.
24. Тамсама. — Спр. 4596.
25. Тамсама. — Спр. 4720.
26. Тамсама. — Спр. 5029.
27. Тамсама. — Спр. 5036.
28. Тамсама. — Спр. 5116.
29. Тамсама. — Спр. 5126.
30. Тамсама. — Спр. 5129.
31. Тамсама. — Спр. 5442.
32. Тамсама. — Спр. 6106.
33. Тамсама. — Спр. 6898.
34. Тамсама. — Спр. 6902.
35. Тамсама. — Спр. 7739.
36. Тамсама. — Спр. 9173.
37. Тамсама. — Спр. 10702.
38. Тамсама. — Спр. 10867.

39. Тамсама. — Спр. 12149.
40. Тамсама. — Спр. 12467.
41. Тамсама. — Спр. 13004.
42. Тамсама. — Спр. 13152.
43. Тамсама. — Спр. 13867.
44. Тамсама. — Спр. 14763.
45. Тамсама. — Спр. 15510.
46. Тамсама. — Воп. 21. — Спр. 1492.
47. Тамсама. — Ф. 6. — Воп. 1. — Спр. 2987а.
48. Тамсама. — Ф. 42. — Воп. 1. — Спр. 134.
49. Тамсама. — Спр. 201. — Арк. 1.
50. Тамсама. — Спр. 1569.
51. Тамсама. — Спр. 1570.
52. Тамсама. — Спр. 1907.
53. Тамсама. — Ф. 60-п. — Воп. 1. — Спр. 19.
54. Тамсама. — Спр. 72.
55. Тамсама. — Спр. 143.
56. Тамсама. — Спр.271.
57. Тамсама. — Спр. 284.
58. Тамсама. — Спр. 287.
59. Тамсама. — Спр. 290.
60. Тамсама. — Спр. 291.
61. Тамсама. — Воп. 3. — Спр. 126.
62. Тамсама. — Ф. 129. — Воп. 1. — Спр. 929.
63. Тамсама. — Спр. 1011.
64. Перед крутым поворотом: тенденции в политической и духовной жизни Беларуси (1925–1928 гг.). Отражение времени в архивных документах / авт.-сост. Р. П. Платонов [и др.]; под ред. Р. П. Платонова. — Минск : БелНИИДАД. — 2001. — 310 с.
65. Рублевская, Л. Время и бремя архивов и имен / Л. Рублевская, В. Скалабан. — Мінск : Літаратура і мастацтва — 2009. — 190 с.
66. Станкевіч, Я. Дыспаляталізацыя l у беларускай мове

/ Я. Станкевіч // Інстытут беларускай культуры. Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Кн. 2. Працы клясы філялёгіі. Т. 1 / пад агул. рэд. С. Некрашэвіча. — Менск, 1928.

67. Шыдлоўскі, В. Рысы майго пакалення / В. Шыдлоўскі. — Мінск : Белфранс, 2001. — 215 с.

68. Głogowska, H. Białoruś. 1914–1929. Kultura pod presią polityki /

H. Głogowska. — Białystok : Białorus. T-wo Hist. Orthdruk, 1996. — 238 s.

# ПАРНАС ПАД ЦЭНЗУРНЫМ ПРЫГНЁТАМ

Ідзежэ несць ні Бэнды, ні Глаўліта,
але агульнае лабызанне і лікаванне.

*З неафіцыйных размоў беларускіх*
*пісьменнікаў 1930-х гг.*

Беларуская літаратура падвяргалася цэнзурным нападкам ад самага пачатку яе існавання. У 1858 г. не ўбачыў свет пераклад В. Дуніна-Марцінкевіча «на гаворку беларускую» лацінкаю паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш» [40, с. 131–136]. Праз сорак гадоў пасля забароны «Пана Тадэвуша» Віленскі цэнзурны камітэт адмовіўся даць дазвол на друкаванне ўжо кірыліцай зборніка «Беларускія апавяданні Бурачка» Ф. Багушэвічу [3, с. 104–114]. Падобныя прыклады можна доўжыць. Перафразуючы М. Я. Салтыкова-Шчадрына, можна сказаць, што беларуская літаратура з’явілася на свет па недаглядзе цэнзуры.

Пасля 1917 г. справу барацьбы збеларускім мастацкім словам працягнула савецкая цэнзура, значна лепш арганізаваная і больш жорсткая. У адносінах да літаратурных твораў у БССР дзейнічала папярэдняя і

наступная (канфіскацыйная) цэнзура. Былі выпадкі, калі творы забараняліся да друку на этапе аўтарскай карэктуры. Так было з найлепшай паэмай Ул. Дубоўкі «Штурмуйце будучыні аванпосты» аб праблемах калектывізацыі, якія абмяркоўваліся ў вострай форме. Часам цэнзары самастойна дапісвалі неабходнае, з іх пункту гледжання. Альбо здымалі прысвячэнні вершаў, як гэта было з вершам Я. Купалы «Суд ідзе», прысвечаным Б. Тарашкевічу, якога расстралялі ў 1938 г. як «польскага шпіёна». Існавалі лагодныя формы цэнзурных забарон — абмежаванне тыражу ці недазвол перавыданняў. Час ад часу Галоўлітбел сам рабіўся аб’ектам суровай крытыкі з боку партыйнага кіраўніцтва за «…выпадкі забароны твораў, якія па свайму зьместу не зьяўляліся варожымі» і ў той жа час за «…пропуск у друк такіх твораў як “Лісты да сабакі” Яз. Пушчы» [31, арк. 1027]. Ва ўмовах жорсткіх цэнзурных абмежаванняў беларускія савецкія літаратары маглі выбіраць паміж супрацівам (адкрытым ці прыхаваным), маўчаннем (унутранай эміграцыяй) альбо сэрвілізмам (прынамсі, яго лагоднай формай — самацэнзурай). У рэальным творчым жыцці ў розныя часы гэтыя тры лініі паводзін спалучаліся, перапляталіся ў розныя, падчас неверагодныя камбінацыі.

Калі ў 1920-я гг. расчараванасць савецкай рэчаіснасцю ў асяроддзі сяброў «Маладняка», «Узвышша», «Полымя» адкрыта выказвалася падчас «тэатральнай дыскусіі», у «лісце трох», на старонках літаратурных твораў, такіх як раман М. Зарэцкага «Крывічы»[16], то ў 1930-я гг. магчымасці адкрытага супраціву ўладнай палітыцы ў галіне літаратуры былі зведзены да нуля. Тым каштоўней для нас кожнае сведчанне пра яго. Вось як перадае гісторык і літаратуразнавец А. Т. Калубовіч выступленне Я. Коласа на дыскусіі, прысвечанай фармалізму ў літаратуры, якая адбывалася ў Мінску ў Доме пісьменніка 28 сакавіка 1936 г.: «Ужо чацьвёрты вечар мы таўчэм ваду ў ступе. Усё не можам дашукацца фармалізму ў

нашай літаратуры. І фармалістычных твораў… А я ведаю такі твор: мая аповесць “Адшчапенец”. Сырая, схематычная, нерэальная. А чаму? Таму, што наша крытыка, а галоўна Бэндэ, з аглаблёю ў руках бегаў за мною і патрабаваў, каб я як найхутчэй адгукнуўся на калектывізацыю. Дык вось я і адгукнуўся! Цяпер я публічна адмаўляюся ад яе» [12, с. 103].

У сталінскай БССР ледзь не адзіным спосабам публічнага выказвання апазіцыйных думак (схаванага супраціву) было стварэнне мастацкіх тэкстаў. Тайнае распаўсюджванне рукапісаў (напрыклад, забароненых паэмы Ул. Дубоўкі «Штурмуйце будучыні аванпосты», верша А. Дудара «Пасеклі наш край папалам» альбо эпіграм К. Крапівы), а таксама публікацыі за мяжой вершаў Я. Купалы не атрымалі водгуку ў шырокага кола беларускага чытача. Магчымасці для апазіцыйных выступленняў у савецкіх падцэнзурных выданнях, хай сабе ў прыхаванай, алегарычнай форме стваралі, з аднаго боку, вобразная спецыфіка мастацкага слова, з другога — нізкая кваліфікацыя цэнзараў.

Вядомы літаратуразнаўца і публіцыст А. Я. Адамовіч выдзяляе наступныя шляхі абыходу цэнзуры, маскіровачныя прыёмы, якія на практыцы ўжывалі беларускія савецкія пісьменнікі: 1. Метад алегорыі, які меў абмежаваныя магчымасці, таму што быў добра вядомы савецкім цэнзарам, як і ўсёй аўдыторыі чытачоў з-за яго шырокага ўжывання яшчэ з часоў царскай Расіі; 2. Метад «пераапранання», калі тагачасныя мясцовыя з’явы і людзі пераносіліся ў іншы бяспечны часовы і прасторавы кантэкст. Асабліва ўдала яе выкарыстаў Зм. Бядуля ў аповесці «Салавей», дзе перанёс савецкія жыццёвыя рэаліі ў эпоху прыгонніцтва; 3. Метад «перададзенай трыбуны», калі аўтар укладаў адкрыта апазіцыйныя выказванні ў вусны сваіх герояў, асуджаючы іх ад свайго імя альбо з дапамогай «станоўчых» персанажаў. Гэты метад яскрава прасочваецца ў рамане М. Зарэцкага

«Крывічы»; 4. Метад двухсэнсавасці, які быў ужыты, напрыклад, у радках паэта Я. Туміловіча: «…Апантаных паноў мы завесілі, / і сьмялей можна ўзяцца за Маркса», — дзе слова «ўзяцца» — двухсэнсоўнае; 5. Метад графічнай шыфроўкі ідэй і выказванняў. Напрыклад, назва паэмы Я. Пушчы «Цень консула» ў сваіх пачатковых літарах зашыфроўвала Цэнтральны Камітэт партыі, праводзячы паралель паміж ім і консулам, які правіць акупіраванай калоніяй [1, с. 735–742].

У першай палове 1920-х гг. друкаванае мастацкае слова ў БССР характарызавалася адноснай свабодай, якую прынеслі папярэднія рэвалюцыйныя падзеі. Паўсталі самастойныя пісьменніцкія арганізацыі. Кожная з іх мела сваю праграму, якая дэкларавала разнастайнасць мастацкіх мэт і ідэалагічных перакананняў. Такія групы, як «Узвышша», смела абвяшчалі свае намеры весці літаратурны працэс без дзяржаўнага кантролю («палітасьвета для палітасьветных установ, літаратурныя згуртаваньні — для развіцьця літаратуры»). Аднак свабода літаратурнай дзейнасці ў 1920-я гг. мела свае межы. Іх адчула група нацыянальна арыентаваных беларускіх пісьменнікаў ужо ў снежні 1922 г., калі ім было адмоўлена ў дазволе стварыць літаратурнае таварыства «Вір».

У партыйным кіраўніцтве прыхільнікам правядзення нацыянальна арыентаванай ліберальнай культурнай палітыкі — нацыянал-камуністам А. Р. Чарвякову, У. М. Ігнатоўскаму, З. Х. Жылуновічу супрацьстаялі пралеткультаўцы на чале з В. Г. Кнорыным. Дваістаць пазіцыі партыі ў пытанні кантролю над літаратурай была звязана з сацыяльна-эканамічнымі ўмовамі таго часу, барацьбой за ўладу ўнутры партыі. Першыя праявы рознагалоссяў у кіраўніцтве БССР па праблемах літаратурнай палітыкі праявіліся ў 1922 г. у завочнай палеміцы В. Г. Кнорына і У. М. Ігнатоўскага наконт паэмы

М. Чарота «Босыя на вогнішчы». Гэтыя добра вядомыя партыйныя і ўрадавыя чыноўнікі публічна выказалі свае думкі адносна ідэалагічных напрамкаў развіцця беларускай літаратуры. Калі ў поглядах першага былі выразна бачны пралеткультаўскія настроі, якія падзяляліся часткай літаратурнай моладзі, то другі падкрэсліваў пераемнасць культурных працэсаў і традыцый як аснову літаратурнай палітыкі [43, с. 98]. Дваістаць партыйнай палітыкі адбівалася на рабоце Галоўлітбела, які пакуль што забараняў да друку творы, якія без сумневу адносіліся да «варожых».

У якасці першага беларускага літаратурнага твора, забароненага савецкай цэнзурай, А. Я. Адамовіч называе верш Я. Купалы «Перад будучыняй» [2, с. 40]. Верш быў забаронены да друку загадам Галоўлітбела ў 1922 г. у органе Інбелкульта «Адраджэнне». Але згодна са звесткамі, якія падае вядомы крытык і літаратуразнаўца У. В. Гніламёдаў, першай ахвярай яшчэ дагалоўлітбелаўскай савецкай цэнзуры напачатку таго ж 1922 г. стаў паэтычны зборнік Я. Купалы «Спадчына». Савет друку пры пададдзеле друку ЦК выкінуў з палітычных меркаванняў вершы зборніка «Паўстань» і «Жыды» [7, с. 225–242]. А ў вершы «Наша гаспадарка», надрукаваным у гэтым зборніку, у радках «І душыць кліч: ці доўга будзе нам заломам / Варшава панская і царская Масква!?» замест двух апошніх слоў цэнзары паставілі кропкі [17, с. 82]. Замена непажаданых слоў кропкамі была прыёмам, запазычаным у царскіх цэнзараў. Неўзабаве гэты архаічны прыём, які сведчыў аб публічнасці цэнзуры знікне з практыкі работы Галоўлітбела, ахутанага заслонай сакрэтнасці.

У 1924 г. зборнікі Я. Купалы «Жалейка» і «Гусляр», спазнаўшыя шмат цэнзурных перашкод у царскія часы, зноў сталі аб'ектам увагі, але ўжо савецкіх цэнзараў. З гэтых зборнікаў, прапанаваных Я. Купалам выдавецтву «Совецкая Беларусь», Галоўлітбел выкрасліў усе радкі, якія змяшчалі

словы «Бог», «малітва», «крыж», «царква», «неба» [27, арк. 12]. На пасяджэнні калегіі Галоўлітбела 21 лістапада 1925 г. з прадмовы да другога тома «Збору твораў» Я. Купалы былі выкінуты радкі: «Бо як кажа сам паэта:

Яшчэ ня ўся работа зроблена,
Ня ўсё жніво ў нас пажата.
Яшчэ краіны стан пагорблены
Як быў, застаўся ён гарбатым.

Яшчэ здзесь здрадна ласка панская
На беларускім ездзе карку
І круціць подласьцю паганскаю
На свой лад нашу гаспадарку»

[28, арк. 26].

Пратэстныя вершы «Царскія дары», «Каб», «Акоў паломаных жандар…» з нізкі вершаў, напісаных песняром у Акопах летам 1926 г. і надрукаваных тады ж у перыядычным друку БССР, у 1930-я гг. таксама трапілі пад жорсткую забарону.

Я. Купала быў прынаднай здабычай літаратурных паліткантралёраў — з яго кніг у розныя гады выкрэсліваліся радкі, адбіраліся старонкі, канфіскоўваліся цэлыя тамы са збору твораў. Узгадваючы сумны вопыт змагання з расійскай імперскай цэнзурай і нібыта прадчуваючы з’яўленне новых, савецкіх цэнзараў, у кастрычніку 1919 г. у акупіраваным палякамі Мінску пясняр адрасаваў ім верш «Паэта і цэнзар»:

Цяпер ці калісьці — не ўцямлю,
А толькі не лгу ні на міг, –
Паэты пісалі паэмы,
А цэнзары рэзалі іх.

Паэмы (ужо не паэтаў)

Сек цэнзар, як вецце пастух
Аж трэскі-паперкі ляцелі
У чыстае поле, як пух.

І доўга цягнулася гэта,
Як баіць народная весць,
На згубу бунтарскіх паэтаў,
На цэнзарскі гонар і чэсць.

І шлі так гады за гадамі
Пад воклікі чорных імшоў,
Ішоў за паэтам паэта,
За цэнзарам цэнзар ішоў…

[18, с. 71–75]

Не меншы непакой у цэнзараў і літаратуразнаўцаў у цывільным выклікала творчасць другога класіка беларускай літаратуры — Я. Коласа. Ужо на адным з першых пасяджэнняў калегіі Галоўлітбела 19 снежня 1922 г. шэраг яе членаў выступілі супраць кансерватыўнага духу аповесці «У Палескай глушы», у 1924 г. — апавядання «Адгукнуўся» і зборніка «Беларускіх народных казак» [27, арк. 3]. А ў дакладной запісцы сакратару ЦК КП(б)Б А. І. Крыніцкаму, датаванай 28 снежня 1924 г., намеснік паўнамоцнага прадстаўніка АДПУ па Заходнім краі І. К. Апанскі наўпрост называе Коласа «…папутчыкам, інтэлегентам-шавіністам, які ўносіць у літаратуру настроі, чужыя Рэвалюцыі» [27, арк. 2].

З рэдакцыі паэмы Я. Коласа «Сымон-музыка» 1925 г.[17] зніклі месцы з рэлігійным і нацыяналістычным адценнем. Падчас яе цэнзуравання ў 1924 г. Галоўлітбелам былі выкінуты ўсе радкі, якія змяшчалі словы «Бог», «святы», «крыж», «царква», «неба», «маскаль» і нават «яўрэй» [27, арк. 13]. Пра сваё «сааўтарства», якое знізіла не толькі мастацкія якасці паэмы, але ў шэрагу яе месцаў і сэнс, адкрыта пісаў у

сваім артыкуле Р. К. ШукевічТраццякоў [8, с. 144]. Вось некалькі прыкладаў аўтарскіх тэкстуальных перарэдагаванняў, зробленых Я. Коласам пад ціскам цэнзуры:

ПЕРШАЯ РЭДАКЦЫЯ
Сам Бог, мусіць, для спакусы
Гэты край наш адзначаў…
Бог на то і розум даў,
Каб загадкі, што спрадвеку
Ў кнігі чорныя ўпісаў
Хтось рукою няўчытанай
І прыбіў на іх пячаць,
Мог ён сілай, Богам данай,
Адгадаць і разгадаць…
Эге-ж, хлопча: не забыта
Богам праўда на зямлі…
— Божа! дзе я? Што зы мною?...
— Казкі — зьявішчы дарогі!
Колькі мар у далячыне!
Хай-жа Бог цаліць вас, ногі,
Што вы носіце мяне!

РЭДАКЦЫЯ 1925 г.
Сам лёс, мусіць, для спакусы
Гэты край наш адзначаў…
І той розум, хлопча, дан,
Каб ён мог зганяць туман,
Што гняце яго спрадвеку,
І каб змог ён, позна-рана,
Зьняць няведаньня пячаць,
А той напіс няўчытаны
Растлумачыць, адгадаць…
Эге-ж хлопча, не забыта

Тая праўда на зямлі…
— Тфу ты, ліха! Што зы мною?...
*Выкінута зусім*

[2, с. 44]

Не абмежаваўшыся тэкстуальнымі праўкамі, Галоўлітбел прымусіў Я. Коласа зрабіць таксама змены ў сюжэце паэмы, якія прывялі да яе дэрамантызацыі.

Аўтарытарна-бюракратычныя падыходы ў партыйнай літаратурнай палітыцы пераважалі пасля прызначэння на пасаду першага сакратара ЦК КП(б)Б у 1924 г. А. І. Крыніцкага. У 1925 г. на I з'ездзе «Маладняка» ён дабіўся ўключэння ў рэзалюцыю з'езда заявы аб поўнай падтрымцы членамі гэтай арганізацыі палітыкі партыі і абяцання працаваць пад яе кіраўніцтвам. Тады ж у структуры ЦК КП(б)Б была створана літаратурная камісія, якая ажыццяўляла сувязь (чытай — ідэалагічнае кіраўніцтва) кіруючых парторганаў з літаратурнымі арганізацыямі. Часопіс «Маладняк» набыў статус органа ЦК КП(б)Б і ЦК ЛКСМБ.

Ліберальны кірунак у дзяржаўнай літаратурнай палітыцы ў той час праводзіў Наркамасветы праз свае ўстановы — Інбелкульт і Белдзяржвыдавецтва. Загадчык апошняга З. Х. Жылуновіч пры падтрымцы наркама асветы А. В. Баліцкага і загадчыка аддзела друку ЦК КП(б)Б А. Ф. Адамовіча здолеў наладзіць выпуск лепшых твораў беларускай літаратуры. Падобная палітыка выдавецтва працягвалася І. І. Шыпілам, які ўзначальваў яго з 1927 г. Розныя погляды партыйна-дзяржаўнага кіраўніцтва рэспублікі на развіццё беларускай літаратуры прывялі да крызісу «Маладняка» і яго расколу вясной 1926 г. Лёс «Маладняка» вырашыўся на двух пасяджэннях літаратурнай камісіі ЦК, якія праводзіліся пад старшынствам А. І. Крыніцкага. Пісьменнікам, якія выйшлі з арганізацыі,

дзякуючы падтрымцы А. В. Баліцкага, У. М. Ігнатоўскага і А. Ф. Адамовіча дазволілі стварыць новую ўласную арганізацыю пад назвай «Узвышша». Неўзабаве ствараюцца новыя нядоўгачасовыя групоўкі — «Агняцвет», «Беларуская літаратурна-мастацкая камуна», «Пробліск».

Ва ўмовах вострага літаратурнага супрацьстаяння 1926–1927 гг. ЦК КП(б)Б вонкава захоўваў нейтралітэт. Гэта пазіцыя прасочваецца па дырэктыўных дакументах цэнзурнага ведамства. Напрыклад, у кастрычніку 1927 г. Галоўлітбел разаслаў сваім палітрэдактарам рашэнне сваёй калегіі: «лічыць існаваньне літаратурнай палемікі па прынцыповых пытаньнях літаратуры зьявішчам нармальным» [34, арк. 199 адв.]. Але і ў часы мяккай формы ідэалагічнага кіраўніцтва літаратурным працэсам галасы прыхільнікаў жорсткай лініі былі добра чутны. На пашыраным пасяджэнні літаратурнай каміссіі ЦК у снежні 1926 г. інструктар аддзела друку ЦК В. А. Сербента ў сваім дакладзе назваў Я. Купалу і Я. Коласа «ідэолагамі заможнага сялянства», Зм. Жылуновіча прылічыў да «спадарожнікаў», прапанаваў перагледзець стаўленне да іншых пісьменнікаў, патрабаваў стварыць «здаровую крытыку» і ўзмацніць цэнзуру. Новы загадчык аддзела друку ЦК А. А. Сянкевіч падтрымаў дакладчыка і прапанаваў ацэньваць беларускую літаратуру з класавых пазіцый [29, арк. 39–40].

На калегіі Галоўлітбела 21 лістапада 1925 г. з апавядання К. Крапівы «Вясна» выкінулі сказ «Дзесяць раз яны [журналісты. — *А. Г.*] абяшчалі ўсясьветную рэвалюцыю і дзесяць раз адмянялі яе» [28, арк. 26]. У 1928 г. забаранілі друкаваць яго вершы «Канцэрт» і «Бараны» як «…злосную алегарычную саціру на 10 зьезд і палітыку партыі ў галіне друку» [31, арк. 1041].

У 1926 г. Галоўлітбел выкінуў са зборніка «Жыцьцёвыя ўсьмешкі» М. Чарнушэвіча вершы «Пасьля рабінавай ночкі», «Дзянькі», «Зараз», «Бацьку». У 1928 г. забараніў яго

ж вершы «Дзіва», «А калі, калі ты прыдзеш», «Слава табе, сонейка», «Выйдзеш, выйдзеш...» як «упадніцкія»

[31, арк. 1041]. З апавядання М. Нікановіча «У дзень першага мая» прыбралі сказ: «Наш сягоньня Вялікдзень — дзень 1 мая». З п'есы А. Гаротнага «Перамена» выкінулі словы бацькі «Расейцы прыйшлі, нас заваявалі, а ты кажаш беларус будзе вольны», а з рэплікі Юрася «Вось тагды ўсе беларусы зажывуць па брацку, працуючы для сваёй уласнай дзяржавы» выкраслілі апошнія пяць слоў. Пасля рашэння аб забароне друкаваць у 1926 г. п'есу Ул. Галубка «Пісаравы імяніны», калегія Галоўлітбела раіла аўтару яе перапрацаваць, дадаўшы «…рысы сацыяльнага шаржа некаторым персанажам: папу, ураднiку, пісару» [28, арк. 173–175].

На пасяджэнні 11 мая 1926 г. калегія Галоўлітбела выкрасліла з успамінаў М. Гарэцкага «На імпэрыялістычнай вайне» шэраг непажаданых выказванняў салдат-беларусаў кшталту ніжэйпададзенага: « — А яшчэ кажуць: рускі чалавек. — іранізаваў нейкі бывалы беларус-каталік, паказваючы за рог хаты, дзе салдат з тыпова вялікарускаю бародкаю і ўсім тварам, ня гледзячы на пратэсты гаспадара, сядзеў на кукярэчках і "апраўляўся" — уваччу ўсяе грамады.

— Яны ўсе такія … сьвіньне: дзе есць, там і робіць… А лаюцца — божа ты мой мілы. Я пакуль прывык, — ах. А ў іх гэта ладне…

— Вось няма вятлівейшага народу над жыда і паляка…» [28, арк. 243].

У 1928 г. былі забаронены вершы М. Гарэцкага «Жалобная камедыя» і «Памінкі», а таксама першая кніга М. Хведаровіча «Настроі», як «упадніцкія» [31, арк. 1041].

Да найбольш значных цэнзарскіх забарон гэтага года таксама адносяцца п'еса Ул. Галубка «Рвачы», вершы Т. Кляшторнага «За брамай» («яскрава антысавецкі зьмест»), «Вершы аб Вільні» («шовіністычны і рэлігійны зьмест»),

вершы П. Глебкі «Ня ведаю, чаму мне люба Беларусь» і «Уладзіміру Дубоўку» са зборніка «Шыпшына» («шовіністычныя») [31, арк. 1041].

У 1926 г. Галоўлітбел забараніў распаўсюджванне «Выбраных вершаў» Я. Коласа, выдадзеных у серыі «Мастацкая літаратура для вёскі», таму што «...усе яны былі напісаны аўтарам у перыяд 1908–1913 гг., прасякнуты песімізмам, зараз састарэлі па настроях і акрамя незадаволенасці нічога чытачу не дадуць» [28, арк. 230]. Акрамя таго, у 1928 г. цэнзары забаранілі «Ваяцкі марш» Я. Коласа, як «шовіністычны» [31, арк. 1041]. «Казкі жыцця», «Новая зямля» — гэтыя творы таксама былі зменены аўтарам па патрабаванні цэнзараў. У паэму «Новая зямля», «каб у некаторай ступені знізіць зачараванасць уласнай зямлёй», Коласам было ўнесена каля 700 правак [24, с. 283].

Нарэшце пад цэнзурныя абмежаванні ў гэты час трапілі творы беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, якія былі створаны ў XIX — пачатку XX ст. Напрыклад, «Выбраныя вершы» Ф. Багушэвіча, якога забараняла яшчэ царская цэнзура, члены калегіі Галоўлітбела друкаваць дазволілі, але пры ўмове, што ў прадмове да кніжкі будзе патлумачана, калі жыў аўтар і чаму яго вершы карысныя для сялянства [28, арк. 230].

Пасля XV з’езда УсеКП(б), які адбыўся ў снежні 1927 г. партыяй быў абвешчаны курс на правядзенне «культурнай рэвалюцыі», што азначала ідэалагічнае наступленне на інтэлігенцыю, якая займала нейтральнае становішча альбо знаходзілася ў апазіцыі. Асноўнай задачай літаратурнай палітыкі стала забеспячэнне гегемоніі пралетарскай літаратуры [16]. У студзені 1928 г. пачалася кампанія крытыкі творчасці членаў літаратурнага аб’яднання «Узвышша». Яна адкрылася артыкулам загадчыка аддзела друку ЦК КП(б)Б А. А. Сянкевіча ў газеце «Звязда» [47]. З гэтага часу кампаніі супраць асобных літаратурных груп і пісьменнікаў сталі адным з інструментаў усталявання

аднадумства сярод творчай інтэлігенцыі.

Важны сігнал зверху беларускія пісьменнікі, крытыкі і, канешне, Галоўлітбел атрымалі 26 мая 1928 г., калі бюро ЦК КП(б)Б прыняла рэзалюцыю «Аб беларускай літаратурнай, мастацкай і тэатральнай крытыцы». У ёй, у прыватнасці, чытаем: «…у сувязі з павялічэньнем ролі кулака ў апошнія гады, узростам гарадской дробнай буржуазіі, а таксама і з прычыны невыстарчальнай працы па выхоўваньню пісьменьніцкага маладняка, сярод паасобных пісьменьнікаў пачаліся хістаньня, адзначылася з боку некаторых пісьменьнікаў набліжэньня да гэтых пластоў насельніцтва, гэта выявілася ў паяўленьні паасобных твораў чужых сучаснасьці, а падчас варожых дыктатуры пралетарыяту, пралетарскаму сьветапогляду і працоўным масам». І далей: «Марксыцкая крытыка павінна адыгрываць вялізарную ролю ў справе выхоўваньня пісьменьнікаў, паглыбленьня іх марксыцкага сьветапогляду, дапамагаючы ім стаць у творчасьці на шлях пролетарскай літаратуры… беларуская літаратурная і мастацкая крытыка не адыгрывае ў сучасны момант той ролі, якую яна павінна і магла бы адыграць» [33, арк. 371–374].

Дададзім, што перад Галоўлітбелам падобная задача выхоўвання пісьменнікаў «з яшчэ неафармаванай ідэолёгіяй» была пастаўлена на пасяджэнні бюро ЦК ужо 30 сакавіка таго ж года [31, арк. 1027]. У справаздачы Галоўлітбела за 1928 г. І. Д. Гурскі малюе ідылічную карціну ўзаемаадносін паміж падначаленым яму ведамствам і пісьменнікамі, якія «…вельмі часта дзеляцца сваімі думкамі з работнікамі Галоўліту і іншы раз раюцца на конт тых ці іншых сваіх твораў» [31, арк. 1030]. На жаль, прыкладаў падобнага творчага супрацоўніцтва ў справаздачы няма, а вось пералік забароненых твораў уражвае. У 1928 г. Галоўлітбел забараніў вершы Я. Купалы «Чужым» і «Над Нёманам», як «шовіністычныя і антысавецкага зьместу» [31,

арк. 1041]. У наступным 1929 г. пайшоў «пад нож» увесь тыраж аднатомніка выбраных твораў паэта, напісаных ім за дзесяць гадоў савецкай улады. Старонкамі купалавых выбраных твораў, як і «Крывічамі» М. Зарэцкага, на працягу года загортваліся харчовыя тавары ў крамах Мінска [42, с. 6]. У 1928 г. ахвярай выхаваўчай работы Галоўлітбела стаў аўтар п'есы «Запяюць верацёны» А. Міровіч. Ён мусіў выправіць уласны твор, у якім была «…карыкатурна пададзена рабочая маса, не выведзена роля партыйнай арганізацыі на прадпрыемстве, …тып дырэктара ў аўтарскай трактоўцы залішне акарыкатураны» [34, арк. 2].

Вось як перадаў у сваім вершы крыўду на цэнзараў«педагогаў» Якуб Колас:

Я ад ранку і да вечара араў,
А ральлю маю рэдактар падабраў.
Назьляталася і галак, і гракоў
Ратаваць маю зямлю ад чарвякоў.

Ратавалі, талачыліся на ёй
І бяды мне нарабілі, оё-ёй!
«Зямля новая» пакрыта дырваном,
І замоўк «Сымон-музыка» са званом.

«У глушы», «Глыбі Палесься» толькі пні,
«Адшчапенец» мой закончыў свае дні.
Над «Распусьнікам Савосем» стаіць крыж,
Эх, нядоўга жыў на сьвеце ты, малыш.

Нічагусенькі няма на «Рубяжы»,
«Казкі жыцьця» мае леглі пад нажы,
Глушыць ніву маю дзікая трава,
Засталася ад мяне адно «Дрыгва».

Я ўстрывожаны спыняюся, стаю

І з журбой гляджу на спадчыну сваю,
А старанныя «рэдактар», «пэдагог»
У няшчаснай маёй музы ловяць блох.

Вытрасаюць зь яе, беднае, духі,
Няхай Бог ужо даруе ім грахі
Ды павузіць прагавітую іх пасьць
І хоць трошкі болей розуму ім дасьць.

[25, с. 215].

Адкрыты здзек над цэнзурай мы знаходзім у серыі сатырычных дарожных замалёвак М. Лужаніна пад агульнай назвай «Случчына», якія былі вельмі папулярныя ў тагачаснага чытача і крытыкі. У раздзеле, дзе крытыкуецца русіфікацыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, аўтар выкарыстаў прыём уяўнага цэнзурнага пропуску: «А Б.Дз.У. можна казаць… перафарбаваныя прафэсары… выпадкі… ага шовінізму… душна…» [22, с. 62]. У тым жа нумары «Узвышша», дзе была апублікавана «Случчына» М. Лужаніна, пачала друкавацца сатырычная аповесць А. Мрыя «Запіскі Самсона Самасуя» [26, с. 31–56, 48–62, 33–70]. У ёй А. Мрый яскрава і праўдзіва праз вобразы дзяржаўных і партыйных функцыянераў адлюстраваў савецкую сістэму ва ўсёй яе непрыгляднасці. Першай адрэагавала на непрыхаваную антысавецкасць аповесці цэнзура, яна забараніла друкаваць працяг, пасля загаварыла і крытыка. А. Мрый знішчыў забароненую трэцюю частку свайго твора і больш не надрукаваў ні слова. Апазіцыйнасцю вызначаўся вялікі раман Л. Калюгі «Нядоля Заблоцкіх», забаронены цэнзурай пасля публікацыі першых дзвюх частак [43, с. 3–37, 69–90]. У 1929 г. забаранілі «Лісты да паэтаў» Я. Пушчы, насычаныя празрыстымі алегорыямі дыктату Масквы, савецкага паэта і грамадзяніна наогул [1, с. 954].

Вось як выглядала цэнзарская работа Галоўлітбела ў галіне мастацкай літаратуры за няпоўнае паўгоддзе на

пачатку «вялікага пералому».

«С П Р А В А З Д А Ч А
аб працы Галоўліта за час з 11 мая па 1 лістапада 29 г.

За справаздачны тэрмін Галоўлітам забаронена 15 паасобных твораў з якіх асабліва трэба адзначыць наступныя:

1. М. ЗАРЭЦКАГА “Крывічы” (роман);

Роман Зарэцкага пастурaў вясною г.г. у Галоўліт часткамі з рэдакцыі “Полымя”. Першая частка была дапушчана да друку. Другая ж, дзеля таго што ў ёй ужо намячалася шкодная ідэолізацыя нацыянал-дэмократычнай інтэлігенцыі, а тыпы савецкай грамадзкасьці падаваліся ў параўнаньні з першымі ў тэндэнцыйна адмоўным асьвятленьні, было запатрабавана ад рэдакцыі даставіць у Галоўліт увесь роман, без чаго ня будзе дадзен дазвол на далейшае друкаваньне. З трэцяе часткі ўжо было ясна відаць, што роман па яго зьместу можна кваліфікаваць як варожы да сучаснага, і Галоўліт рашыў не разглядаць роман паасобнымі часткамі і адклаў гэта да таго часу калі будзе прадстаўлен увесь роман, пасьля чаго ў Галоўліт больш матар’ялаў не паступала.

2. ПУШЧА — зборнік вершаў, якія калісьці былі забаронены і новыя, якія таксама ўпадніцкага антыпролетарскага напрамку.

3. ДУДАР — Канец Тупарылава. Апавяданьні, частка з якіх калісьці друкавалася ў “Полымі”, частка новых. З прычыны таго, што гэты твор паступіў пасьля высылкі ДУДАРА за яго контррэволюцыйнае выступленьне, Галоўліт лічыў немагчымым дазволіць да друку.

4. Вершы КРАПІВЫ — сатыра на сучаснае ўнутрыпартыйнае становішча.

5. Тры вершы ЛУЖАНІНА — упадніцтва і маральная гніль.

6. Верш ЖЫЛКІ — упадніцтва, якое мяжуецца з контррэвалюцыйнымі настроямі.

7. І яшчэ цэлы шэраг драбнейшых твораў. Апрача таго забаронен і твор сэктанскага напрамку “Плотник Иошуа” і два творы выходзячы з меркаваньняў заховы эканамічнавайсковых тайн.

8. За гэты жа час Галоўлітам забаронены ў 97 выпадках паасобныя месцы ў розных артыкулах і літаратурных творах па розным меркаваньням.

9. Не падлягаюць вучоту тыя выпадкі, калі Галоўліт ужываў усялякія парады і гутаркі з аўтарамі, пасьля чаго аўтарамі рабіліся адпаведныя зьмены ў сваіх творах.

Загадчык Галоўліту Гурскі»

[35, арк. 16].

Пасля трыумфу Сталіна над Троцкім і з пачаткам першай пяцігодкі партыя адчула магчымасць прасунуцца далей у кірунку кантролю над літаратурай. Было вырашана адмовіцца ад падтрымкі канкурэнцкіх літаратурных груп на карысць створанай у лістападзе 1928 г. Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП) на чале з бездакорным у палітычных адносінах пісьменнікам-камуністам Я. Ліманоўскім. Але на першым устаноўчым з’ездзе гэтай арганізацыі высветлілася, што і ў партыйным кіраўніцтве рэспублікі і сярод пісьменнікаў па-ранейшаму існуюць рознагалоссі. Калі другі сакратар ЦК І. А. Васілевіч, блізкі да нацыянал-камуністаў, лічыў вядучай у літаратурна-палітычным жыцці БССР групу «Полымя», то А. А. Сянкевіч ролю гегемона адводзіў БелАПП. У выніку перамог апошні пункт погляду, і рознагалоссі паступова сціхалі [30, арк. 77].

Са стварэннем БелАППа фактычна спыніў існаванне «Маладняк». На працягу 1931–1932 гг. у выніку ідэалагічных кампаній таксама прыпынілі сваю дзейнасць літаратурныя групы «Узвышша» і «Полымя». У гэты час белаппаўцы,

атрымаўшы вялікі кантроль над літаратурай, самаўпэўнена распрацоўвалі ўласную тэорыю літаратуры. Дзякуючы партыйнай падтрымцы неўзабаве яны ўсталявалі кантроль над літаратурнымі часопісамі і ДВБ, ізаляваўшы такім чынам тых, хто адмаўляўся ў сваёй творчасці выконваць сацыяльны заказ пяцігадовага плана. У той жа час БелАПП абараняла літаратуру, прысвечаную рэалістычнаму і псіхалагічнаму вобразу «жывога чалавека» і «зрыванню масак» савецкага жыцця, паказу як плюсаў, так і мінусаў савецкай рэчаіснасці. З цягам часу партыя ўжо не магла трываць падобную пазіцыю і пасля некалькіх незаўважаных папярэджванняў у красавіку 1932 г. БелАПП была ліквідавана.

27 мая 1932 г. выйшла пастанова ЦК КП(б)Б «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый БССР», прынятая ў адпаведнасці з рашэннем ЦК УсеКП(б). Гутарка ў ёй ішла пра стварэнне Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР, што дало надзею некаторым беларускім пісьменнікам на пачатак «новага літаратурнага НЭПа». Гэта надзея ў палемічнай форме ўвасобілася ў іх звароце да партыйнага кіраўніцтва пад назвай «Ліст 15-ці», або «Заява беспартыйных». Зварот абмяркоўваўся на літаратурнай нарадзе ў ЦК КП(б)Б, якая праходзіла 25 кастрычніка 1932 г. пад старшынствам сакратара ЦК В. Ю. Жаброўскага. Па выніках нарады была прынята спецыяльная пастанова ЦК КП(б)Б ад 28 студзеня 1933 г. «Аб фактах прасочваньня клясава-варожых, нацыянал-дэмакратычных уплываў у мастацкай літаратуры БССР» [9]. Яна мела жорсткі, карны харктар. Суровыя вымовы атрымалі наркам асветы А. М. Платун і дырэктар ДВБ А. Я. Некрашэвіч, зняты з пасады загадчык Галоўлітбела Я. І. Сініцкі, была распушчана рэдкалегія часопіса «Беларусь калгасная», а пытанне аб яго рэдактары пісьменніку Р. Мурашку перададзена на разгляд ЦКК КП(б)Б. Адзін з кіраўнікоў «Маладняка» і БелАПП,

член ЦВК БССР П. Галавач за пропуск у друк нацыяналістычных вершаў Я. Купалы і літаратуразнаўчых артыкулаў аб ім атрымаў суровую вымову. Да партадказнасці прыцягнулі рэдактара часопіса «Чырвоная Беларусь» М. Хведаровіча (Чарнушэвіча). Атрымалі вымовы таксама крытыкі А. Кучар і В. Вольскі.

Існавала яшчэ адна прычына правядзення гэтай нарады — «варожыя палітычныя вылазкі» падчас святкавання 50-годдзя Я. Купалы. Сітуацыя ўскладнялася тым, што гэтыя «вылазкі» былі зроблены не толькі ў БССР, але і ў Заходняй Беларусі. У Вільні адбылася ўрачыстая канферэнцыя ў гонар юбіляра, выйшла кніга А. Луцкевіча «Я. Купала — прарок Адраджэння». Гэта выклікала насцярожанасць і раздражнёнасць у партыйных вярхах у Мінску. З-за цэнзурных нападкаў не пабачыла свет манаграфія Л. М. Клейнбарта пра Янку Купалу. Цэнзары крэслілі хрэстаматыі, у якіх давалася станоўчая ацэнка дарэвалюцыйнай творчасці песняра, нават з агаворкай пра яе «нацыяналістычныя тэндэнцыі». 2 лютага 1933 г. адзін з найбольш палітычна надзейных пісьменнікаў П. Галавач быў вымушаны напісаць пакаянны ліст у ЦК КП(б)Б, дзе тлумачыў: «…імпрэсію “Матчын сын” ніхто з рэдакцыі “ЛІМа”[18] не чытаў перад яго надрукаваннем… Мая памылка ў сувязі з Сідарэнкам[19] усугубляецца яшчэ тым, што я фактычна падвёў упаўнаважанага Галоўліта т. Шакінку, калі на яго пытанне пра артыкул сказаў, што “артыкул нічога сабе, можна друкаваць”» [19, с. 316].

Пасля 1932 г. з вершаў Я. Купалы «У лесе» і «Па даўгінаўскім гасцінцы» знікаюць строфы, якія нагадвалі пра Рыжскую мірную дамову 1921 г. [44, с. 13]. У кола пільнай увагі цэнзуры ў гэты ж час трапіў Зм. Бядуля. У 1935 г. папярэдняй цэнзурай былі не дапушчаны да друку ў БДВ аповесць Ю. Віцьбіча «Ціхая руба», «...як засмечаная нацдэмаўскай лексікай, пейзажам, пададзеным у

саматужным нацдэмаўскім стылі». Падобны лёс напаткаў другі том збора твораў К. Крапівы, «...які змяшчаў палітычна шкодныя і груба-натуралістычныя творы», тры зборнікі песень на беларускай мове, «...як састарэўшыя і змяшчаючыя палітычна-шкодныя выказванні», і напісаны згодна «вульгарна-сацыялагічным устаноўкам» раман Ц. Гартнага «Перагуды» [38, арк. 65–67]. Калі ў 1922 г. Галоўлітбел параіў М. Зарэцкаму зборнік апавяданняў «У віры жыцця» перапрацаваць, дык «Падарожжа на Новую зямлю» каштавала яму ў 1929 г. членства ў партыі, а раман «Вязьмо», прысвечаны 15-й гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі і адзначаны прэміяй на рэспубліканскім конкурсе, — арышту і жыцця ў 1937 г.

Адначасова з акцыямі рэпрэсіўнага характару партыйнае кіраўніцтва рабіла захады па стварэнні адзінага Саюза Савецкіх Пісьменнікаў (ССП)[20]. Яго палітычныя задачы акрэсліў сакратар ЦК КП(б)Б В. Ю. Жаброўскі на пашыраным пленуме аргкамітэта ССП БССР, які адбыўся 28 лютага 1933 г. [10]. Думкі В. Ю. Жаброўскага былі развіты на першым Усебеларускім з’ездзе пісьменнікаў 8 чэрвеня 1934 г. у дакладзе загадчыка аддзела культуры і прапаганды ленінізму ЦК КП(б)Б Д. Ю. Коніка. У яго дакладзе на 126 старонках даваліся не толькі ідэалагічныя кірункі развіцця беларускай літаратуры, але літаратуразнаўчы аналіз канкрэтных твораў Я. Купалы, Я. Коласа, М. Лынькова, К. Крапівы, П. Глебкі, М. Чарота і інш. [15]. Пасля стварэння Саюза Савецкіх Пісьменнікаў БССР усе іншыя літаратурныя групы самараспусціліся, а беларуская савецкая літаратура развівалася выключна ў рэчышчы татальнага партыйнага дыктату.

Значную ролю ва ўсталяванні кантролю партыі над літаратурай адыграла савецкая літаратурная крытыка. Асноўным прызначэннем яе было дапаўняць цэнзуру, «сыгналізаваць» наверх пра ўсе прапушчаныя цэнзурай па

недаглядзе ці разумовай абмежаванасці небяспечныя апазіцыйныя выпады альбо папярэджваць магчымасць іх узнікнення ў будучым. З іншага боку, крытыкі мабілізавалі грамадства на барацьбу з апазіцыйнымі праявамі, стваралі атмасферу варожасці, недаверу, вынікам чаго было з'яўленне шматлікіх добраахвотных крытыкаў-цэнзараў.

Фарміраванне ў БССР літаратурнай крытыкі ў сталінскім разуменні гэтага тэрміна пачалося пасля публікацыі ў 1928 г. артыкула першага сакратара ЦК КП(б)Б В. Г. Кнорына «Аб рашаючых "дробязях" у вялікім пытаньні (да пытаньня аб палітыцы беларусізацыі)». У гэтым артыкуле В. Г. Кнорын усклаў кантроль за якасцю выканання літаратарамі партыйных дырэктыў на марксісцкую крытыку. Тагачасныя кадры беларускіх крытыкаў, на думку аўтара, замест класавага аналізу твораў разглядалі эстэтычныя якасці твораў, што, вядома ж, было дрэнна [11]. Лінія на палітызацыю беларускай літаратурнай крытыкі была замацавана ва ўзгаданай вышэй рэзалюцыі бюро ЦК КП(б)Б «Аб беларускай літаратурнай, мастацкай і тэатральнай крытыцы» ад 26 мая 1928 г. У ёй, у прыватнасці, ставілася тэрміновая задача падрыхтаваць групу крытыкаў-партыйцаў, знаёмых з літаратурнай работай [33, арк. 371].

Падобная група (Л. Бэндэ, А. Кучар, І. Барашка, Я. Бранштэйн, М. Клімковіч, А. Канакоцін і інш.) утварылася ўжо напрыканцы 1920-х гг. Прадстаўнікі гэтага кола, якія выйшлі з БелАПП, захапіўшы манаполію на літаратурную крытыку, выпрацоўвалі афіцыйную лінію цэнзуры, а таксама забяспечвалі ідэалагічны падмурак фізічнай расправы з творцамі. Неўзабаве іх рэцэнзіі і артыкулы сталі сігналам не толькі для цэнзурнага, але нават судовага праследу літаратараў. Вядома, што Л. Бэндэ выступаў як грамадзянскі абвінаваўца на палітычных працэсах 1930-х гг., а падчас допытаў паэта В. Маракова, расстралянага ў 1937 г., следчы карыстаўся «распрацоўкамі» А. Кучара [4, арк. 1–26].

Літаратурным экспертам у НКУС вершаў М. Сяднёва пасля яго арышту ў 1936 г. быў Я. Бранштэйн [50, с. 223]. Праз месяц пасля напісання ў снежні 1935 г. намеснікам Інстытута гісторыі партыі М. А. Поташам рэцэнзіі «Аб літаратурных працах Пятровіча»[21], апошні быў выключаны з партыі і праз год расстраляны. Па злавеснай іроніі лёсу аўтар рэцэнзіі, які па заданні кампетэнтных органаў расшукаў у творах Я. Нёманскага «варожы бальшавізму народніцкі дух», у тым жа 1937 г. быў арыштаваны і асуджаны да 8-мі гадоў папраўча-працоўных лагераў.

Імкнучыся пазбегнуць галоўлітаўскай забароны, пісьменнікі прапанавалі свае творы на папярэднія абмеркаванні ў Доме пісьменнікаў, на якіх выносіла свой прысуд афіцыйная літаратурная крытыка. Станоўчыя водгукі крытыкаў звужалі магчымасці Галоўлітбела забараніць ці адправіць на дапрацоўку той ці іншы літаратурны твор. Але станоўчыя водгукі ў 1930-я гг. былі вялікай рэдкасцю.

Ад крытыкаў шмат цярпелі народныя паэты Я. Купала і Я. Колас. Напачатку 1930-х гг. перавыданне «Новай зямлі» Я. Коласа затрымалася на тры гады з-за адсутнасці прадмовы Л. Бэндэ. З гэтай нагоды Колас напісаў верш «Аўтару прадмоў да твораў “старых” пісьменнікаў»:

Піша, піша Бэндэ,
Крытык наш суровы,
Да паэм даўнейшых
Грозныя прадмовы

Час ідзе, і твораў
Тых не знойдзеш з свечкай,
І аб іх заціхлі
Гутаркі і спрэчкі.

«Новая зямелька»

Сталася старою,
Выраслі калгасы
Гэтаю парою

А наш крытык піша,
Піша і сівее,
Мабыць і напіша,
Калі Колас стлее

Новая эпоха
І кірунак новы…
Можа ці патрэбны
Бэндавы прадмовы?

[25, с. 215]

Неўзабаве Бэндэ на Беларусі не стала, яго шматлікія хрэстаматыі па беларускай літаратуры самі сталі прадметам цэнзурных забарон, але ў якасці літканваіра Я. Коласу прыставілі самога сябе. У сваёй прадмове да выдання «Новай зямлі» 1934 г. ён быў вымушаны напісаць: «Паэма…, бясспрэчна, гучыць дысанансам нашай эпосе, эпосе пабудовы соцыялізму, эпосе калектыўнай працы. Тэндэнцыі ўласніцтва, паложаныя ў аснову паэмы, асабліва выпінаюцца на фоне калгаснага будаўніцтва сёнешняга дня» [14, с. 3].

Я. Купала, якога звычайна крытыкавалі за яго старыя творы, у 1935 г. быў абвінавачаны Я. Бранштэйнам ў дробнабуржуазных поглядах, знойдзеных нават у напісанай па партыйным заказе паэме «Над ракой Арэсай» [20].

Аб’ектам жорсткіх, варожых крытычных рэцэнзій станавілася творчасць маладых аўтараў. Падобныя рэцэнзіі адных пачаткоўцаў ставілі на мяжу творчага крызісу, іншых — прымушалі замаўчаць назаўсёды. Ул. Хадыка мусіў «адхрышчвацца» ад ярлыкоў «ясеніншчыны» і «клюеўшчыны». Я. Скрыган так апісваў уласны стан

творчага крызісу, у які яго загналі паліткантралёры ад літаратуры: «Крытыка таго часу нямала шкодзіла: яна хацела спрасціць літаратуру, выкінуць з яе душу. Я сам быў у адчаі: як жа навучыцца пісаць так, каб было правільна? Здаецца, і тэму браў самую сучасную — калгасы, але не: дробнабуржуазны ўхіл, корпанне ў чалавечай душы. А як жа напісаць без душы, без чалавека? Спрабаваў, і выйшла дрэнь — "Недапісаны профіль" або другія апавяданні, падобныя на фактаграфічныя нарысы» [46, с. 22]. К. Крапіва перадаў уласны вопыт адбіцця атак крытыкаў у іранічнай форме:

Ходзіць пуга па хвасьце —
Не балуй, папутнік.
На пятнаццатай вярсьце
Не сьцярпеў пакутнік:
— Крытык, родненькі, даруй
Мне і маёй музе!
Кіраваць — то ты кіруй,
Ды ня вельмі тузай.

[48, с. 17]

Адносіны паміж партыйнай літаратурнай крытыкай і цэнзурай, нягледзячы на падобныя задачы, складваліся няпростыя. І крытыкі, і цэнзары імкнуліся даказаць уладзе сваю адданасць, неабходнасць заняць першае месца ля трона.

У справаздачы Галоўлітбела за 1929 г. галоўны цэнзар рэспублікі І. Д. Гурскі спрабуе адвесці ад сябе публічныя абвінавачванні крытыкаў у пропуску да друку шэрагу «не зусім вытрыманых з боку ідэолёгіі» матэрыялаў. Свае памылкі ён тлумачыць адсутнасцю афіцыйных, дакладна вызначаных крытэрыяў (накшталт дасыланых з Масквы «Спісаў забароненых кніг»), якія цэнзары маглі б ужываць падчас работы з беларускімі літаратурнымі тэкстамі. А таму

выпадала карыстацца адным, але надта ёмістым крытэрыем — адбіраць усё, што было «…накіравана на падрыў дыктатуры пралетарыята, супроць існуючага ладу» [35, арк. 18]. Канешне, падобная сітуацыя рабіла палітычныя памылкі цэнзараў непазбежнымі.

Разгромнымі пасажамі, накіраванымі супраць літаратурных і мастацкіх крытыкаў перапоўнены «Агляд літаратурна-мастацкіх перыядычных выданняў БССР»[22], падрыхтаваны ў 1932 г. начальнікам Галоўліта БССР Я. І. Сініцкім [36, арк. 17–45].

У 1934 г. крытыкі выявілі факт перадачы ў эфір польскім аддзелам беларускага радыё апавядання «На немца» Ул. Рэйманта (рэдактар — Мараўскі, укладальнік і аўтар прадмовы — Кавальскі, Галоўлітбел — Квапінскі). «Не кажучы ўжо пра тое, што прадмова напісана з радам палітычна-шкодных думак (напрыклад, аб росце польскай буржуазнай літаратуры) — перадача гэтага апавядання — была палітычна шкодная. Змест апавядання Рэймонта — паказ “адзінага” нацыянальнага фронту вёскі ўнутранай Польшчы». На гэты раз крытыка святкавала перамогу. Партыйныя камітэты радыё і

ССПБ наклалі на Мараўскага і Кавальскага спагнанні «за злачыннае нядбайства». З Квапінскім разбіраліся ў Галоўліце [13, с. 1].

Сітуацыю са свабодай слова, якая склалася ў сярэдзіне 1930-х гг. у беларускім прыгожым пісьменстве, дапамагае ўзнавіць мемуарная літаратура. Беларускі эмігрант, у той час малады супрацоўнік рэдакцыі газеты «Калгаснік Беларусі» С. Шаўцоў так апісвае сваю размову з К. Чорным пасля таго, як той прачытаў яго дарожныя нататкі, дзе згадваўся галадамор ва Украіне: «— Паказваў гэты рукапіс каму-небудзь у Доме Пісьменьнікаў?

— Не, нікому не паказваў.

— Вось што — параіў наш знакаміты пісьменьнік, —

схавай свой рукапіс так, каб і сам не ведаў, дзе ён. Нікому не паказвай. Было гора, ёсць і будзе. Цяпер ня час друкаваць гэткае. Небясьпечна. Мажліва, прыйдзе час, калі такое можна будзе даць да друку…» [48, с. 18]. К. Чорны ведаў, пра што казаў. У той час савецкія пісьменнікі накіроўваліся ў творчыя камандзіроўкі, брыгадныя паездкі, падарожжы са спецзаданнем для «нарыхтоўкі» матэрыялаў па іншых маршрутах — на гіганты сацыялістычнай індустрыі, у перадавыя калгасы, вайсковыя часці. Найбольш упартыя ў справе адлюстравання праўды жыцця мелі магчымасць асэнсаваць свае «памылкі» на адлегласці ад Радзімы.

На працягу 1920-х гг. прыцягненне беларускіх літаратараў да супрацоўніцтва з уладай спалучалася са сталым наглядам за палітычнымі настроямі ў іх асяроддзі, зборам кампраметуючых матэрыялаў, складаннем палітычных характарыстык. «Знакам бяды» для беларускай літаратуры стала высылка ў 1928 г. у Смаленск аднаго з лідэраў «Маладняка» паэта А. Дудара (ён жа літаратурны крытык Т. Глыбоцкі) за верш «Пасеклі наш край папалам». Канчатковы пераход ад лагоднай да рэпрэсіўнай уладнай палітыкі ў адносінах да літаратараў вызначыў даклад вядомай камісіі на чале са старшынёй ЦКК КП(б)У У. П. Затонскім, падрыхтаваны ў чэрвені 1929 г. У дакладзе, сярод іншага, былі выказаны крытычныя заўвагі ў адрас Я. Купалы, А. Дудара, М. Зарэцкага, аб дзейнасці літаб’яднанняў «Маладняк» і «Узвышша». У. П. Затонскага абурыла, што паэта Купалу ў школах ведалі ўсе вучні, а пра Леніна чуў далёка не кожны.

Высновы камісіі У. П. Затонскага падрыхтавалі глебу для ўжо запланаванай расправы з творчай інтэлігенцыяй БССР. Атмасферу падчас арыштаў па справе Саюза вызвалення Беларусі перадае верш дваццацігадовага паэта Зм. Астапенкі «Інквізіцыя», напісаны ў сакавіку 1930 г. і прыняты да друку рэдакцыяй часопіса «Маладняк» у ліпені

1931 г.:

З гішпанскаю ночкай чатыры сьцяны
Здружыліся моцна і слаўна…
Апоўначы ціха прыходзяць яны —
Кожны ў чорнай сутане

Прыходзяць як здані, як сны ўначы
У муры гарацешнай цямніцы…
З малітваю дзынкнуць чатыры ключы —
Спіць — інквізіцыя…

Таемныя маскі і сьвет ліхтароў,
І складзены вусны ў гімне…
А заўтра на полымя боскіх кастроў
Пацягнуць у Мадрыдзе, у Рыме…

У славу Марыі, у славу Хрыста,
У вечную Боскую памяць!..
Трагічныя бляскі жывога кастра
Зямлю і стагоддзі заплямяць.

Рэзалюцыя Галоўлітбела на рукапіс — такая: «Верш быў напісаны ў часе арыштаў нацдэмаў… намі забаронены да друку». Сам Зм. Астапенка будзе арыштаваны пазней, у 1933 г., па справе «Беларускай народнай грамады» [37, арк. 87].

За першым ударам 1930 г. рушыла ўслед чарада новых кампаній і палітычных працэсаў па ачышчэнні пісьменніцкага асяроддзя ад «класава-чужых элементаў».

13 лютага 1934 г. беларускі паэт Зміцер Невель, асуджаны ў 1933 г. калегіяй АДПУ на тры гады як нацдэм, звярнуўся з Захсіблагу з лістом да сакратара ЦК КП(б)Б В. Ю. Жаброўскага з просьбай надрукаваць у газеце «Літаратура і мастацтва» ўласны верш-пакаянне. Зм. Невель пісаў: «На Беларусі больш не будзе нацдэмаў. Я — апошні з моладзі, якая дала сябе атруціць і зьвесці ілжывым ідэям

нацдэмакратызму. Працягніце мне руку дазволам на зьяўленьне ў друку гэтага вершу. Я ўпаў, але падымаюся, балюча, цяжка падымаюся, паверце, — поўны надзей яшчэ жыць, закрэсліўшы мінулае і тварыць на карысьць соцыялізму. Ці магу я спадзявацца, што мяне не адштурхнуць?

**Словы прысягі**

…Не шкадуйце ілюзій, што ўжо спарахнелі
Не давайце ілгаць ім, атручваць і звадзіць
На апошні рэдут ледзяной паралелі
На пяскі Кара-Кумаў, на пекла бязводдзяў
У буру дзён. У смагу творчасці, прагі і працы,
Каб істота
з работай
зраслася,
злілася
Перараблівацъ, перарабляцца,
Каб стаць годным,
Стаць вартым найвышае класы».

[37, арк. 7]

Як паставіўся тагачасны галоўны партыйны ідэолаг БССР да ліста паэта, даведзенага да адчаю гулагаўскім пеклам, невядома. Затое вядома, што ўжо праз тры гады пасля атрымання гэтага ліста В. Ю. Жаброўскі сам атрымае таўро «ворага народа» і будзе расстраляны.

Свайго апагея палітыка тэрору ў адносінах да беларускай літаратуры дасягнула ў ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 г., на свята 20-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі ў мінскай унутранай турме НКУС («амерыканка») былі расстраляны 22 літаратары. Сярод іх стваральнікі беларускай нацыянальнай літаратуры — М. Чарот, А. Дудар, М. Зарэцкі, А. Вольны, В. Маракоў і іншыя

[23, с. 3].

У перыяд разгулу сталінскага тэрору яго ахвярамі сталі не толькі сотні паэтаў і пісьменнікаў, але таксама іх творы. Ахвярай наступнай цэнзуры былі, як правіла, усе рукапісы і кнігі рэпрэсаваных літаратараў. Такі лёс напаткаў кнігі вальнадумцаў Ул. Дубоўкі, Я. Пушчы і Ц. Гартнага, М. Чарота, якія не напісалі за ўсё жыццё нічога відавочна апазіцыйнага. Крывавай ночы на 30 кастрычніка папярэднічала яшчэ адна паказальная падзея. 1 жніўня 1937 г. на агромністым вогнішчы ў двары «амерыканкі» былі спалены дзясяткі тысяч старонак рукапісаў арыштаваных беларускіх літаратараў: С. Баранавых, П. Галавача, Ц. Гартнага, С. Дарожнага, Т. Кляшторнага, І. Харыка і іншых. Рукапісы твораў разам з іншым кампраматам адбіраліся падчас арыштаў пісьменнікаў. Так, напрыклад, знікла ўжо збрашураваная другая частка рамана Я. Нёманскага (І. А. Пятровіча) «Драпежнікі» [45, с. 7]. Кніга «Матчын дар» А. Гаруна фігуравала як рэчавы доказ у справе М. Сяднёва [50, с. 223].

Мець кнігі, аўтары якіх абвяшчаліся «ворагамі народа», было небяспечна. Вось што піша наконт гэтага вядомы беларускі бібліяфіл, палітвязень В. А. Шыдлоўскі: «У атмасферы ўсеагульнага страху, якая панавала ў краіне, людзі вымушаны былі бесперапынную, перманентную “чыстку” асабістых бібліятэк і знішчаць іншы раз вельмі каштоўныя выданні, надрукаваныя ў Савецкім Саюзе дзяржаўнымі і кааператыўнымі выдавецтвамі ў 20-я і на пачатку 30-х гадоў, аўтары якіх былі рэпрэсаваныя. І бяда чакала таго, хто да вымушанага знішчэння кнігаў ставіўся не так сур’ёзна, як таго патрабаваў момант. Такі чалавек, апынуўшыся ў руках органаў, атрымліваў стандартнае абвінавачванне, іншы раз адзінае: “захаванне, чытанне і папулярызацыя ці распаўсюджванне контррэвалюцыйнай літаратуры”. Варыяцыі маглі быць рознымі, але вынік адзін

— тэрмін і лагер» [49, с. 199].

У другой палове 1930-х гг. у літаратуры БССР адбыліся змены. Частка паэтаў і пісьменнікаў знікла ў лагерах і ссылках альбо была расстраляна. Тыя, хто засталіся на волі, маўчалі, пісалі «ў стол» альбо каяліся ў мінулых грахах і засвойвалі метад сацыялістычнага рэалізму. Але і ў гэтых умовах літаратурныя паліткантралёры знаходзілі для сябе справу. Напрыклад, лейтматывам усіх выступленняў на сходзе пісьменнікаў БССР, які адбыўся 25 сакавіка 1937 г., было выкрыццё «паслядоўнікаў Бухарына — ворагаў народа» Зм. Жылуновіча, В. Сташэўскага, В. Шашалевіча, А. Дудара, Т. Кляшторнага, М. Багуна, М. Зарэцкага, Б. Мікуліча, Ул. Хадыкі і іншых. З вуснаў намесніка старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР А. Александровіча гучалі абвінавачванні калег па цэху, якія даходзілі да прамых зняваг [21, с. 3].

Сталінскі рэжым у адносінах да інжынераў чалавечых душ праводзіў палітыку пугі й перніка. Іх прадстаўлялі да ўрадавых узнагарод. Аўтарскія ганарары ў СССР лічыліся ці не найвышэйшымі ў свеце. Да сярэдзіны 1930-х гг. склалася сістэма прывілеяў для пісьменнікаў. Канешне, гэты залаты дождж падаў на абраных. Вось як у 1938 г. апісваў працу Саюза пісьменнікаў БССР Зм. Бядуля: «Дом у тры паверхі, чацверты паверх — напоўпадвальнае памяшканне. Дзве легкавыя машыны, адзін грузавік. У доме швейцары, вартаўнікі, прыбіральшчыцы, дырэктары, загадчыкі і падзагадчыкі, свая паліклініка з штатам дактароў і прафесароў. Некалькі бухгалтэрый, кас і г. д. і г. д. Шмат нагадвае, паводле свайго размаху, кіраўніцтва фабрыкі альбо завода ў тысячу чалавек. Калі дадаць да гэтага яшчэ не малы жыллёвы дом і домікі, цэлую ферму на раёне са сваім штатам, даволі вялікім, дык пачынаеш адносіцца з нейкай жахлівай павагай да гэтай вялікай па размаху ўстановы. Працы тут даволі шмат. “Грамадскай нагрузкі” таксама

салідная колькасць: заявы аб дапамозе, кожнагадовыя рамонты дома, дамоў і домікаў, часам па два разы на год, абгаварэнне рамонтаў, прыём рамонтаў, планы на новыя рамонты. Зацвярджэнне камандыровачных справаздач, новыя камандыроўкі, 1001-шы раз чытанне дзякаўскім тонам доўгага спісу нявернутых даўгоў, і г. д. і г. д. Людзей тут навучылі быць актыўнымі. На сходы прыходзяць акуратна. Паспрабуй хто не з'явіцца — ого! Тады малодшы загадчык старэйшага падзагадчыка дасць табе такі наганяй, што не будзеш ведаць, дзе дзецца. Сядзіш на гэтых сходах па 4, 6, і больш гадзін і слухаеш да абалдзення прамовы аб такіх надакучлівых гаспадарчых справах, якія не сніліся і тваёй прабабцы і не будуць сніцца твайму праўнуку. І сам ты павінен выступаць на такім сходзе не адзін раз, а тры-чатыры разы. У праціўным выпадку ты не актыўны. Кожны раз пасля такога сходу прыходзіш дамоў стомлены, як д'явал, і два дні не здольны напісаць ні аднаго радка. У галаве туман гаспадарчых спраў: лічбы, пазыкі, бензін, дэфіцыты. Прашу прабачэння. Я не сказаў спачатку, што гэта гаворыцца аб Доме пісьменніка і працы Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР» [5, с. 2].

Можна меркаваць, што гэты крытычны артыкул быў напісаны Зм. Бядулем па заказу вышэйшага беларускага партыйнага кіраўніцтва. Заказ гэты, у сваю чаргу, быў выкліканы чарговым паваротам сталінскай палітыкі ў бок нязначнага змякчэння рэпрэсіўных метадаў кіраўніцтва краінай, імітацыі свабоды слова, якія намеціліся ў 1938 г. Выкарыстоўваючы магчымасць крытычнага выступлення, пісьменнік узняў у ім пытанне аб літаратурнай крытыцы (чытай, аб палітычнай цэнзуры літаратурных твораў)[23]: «Хоць нашыя крытыкі і ўзялі на сябе ролю правадыроў пісьменнікаў, але, каб пісьменнікі паслухаліся розных парад крытыкаў раўняцца па таму ці іншаму з любімых імі, крытыкамі, у свой час "геніяў", — было б вельмі і вельмі

кепска. Бо некаторыя з такіх “геніяў” аказаліся ворагамі народа… Я раіў-бы нашым крытыкам праглядзець усе свае творы спачатку да канца і праверыць свае ўласныя супрацьлеглыя погляды ў ацэнцы адных і тых самых пісьменнікаў. Гэта цікавы эксперымент. Думаю, што яны, крытыкі, нямала чырванелі б» [5, с. 2].

Неўзабаве на старонках беларускага перыядычнага друку з’явілася яшчэ больш смелая філіпіка, на гэты раз на адрас цэнзараў: «Трапіла ў рукі аднаго з такіх рэдактараў [палітрэдактар Галоўліта па Дзяржаўным выдавецтве БССР. — *А. Г.*], тав. Ладыжына, выдатная паэма Якуба Коласа “Сымон Музыка”. Рэдактар прабегся па паэме і задумаўся. Чуў тав. Ладыжын, што калісьці існавала нацыяналістычная контррэвалюцыйная арганізацыя, якая іменавалася “Беларускай грамадой”. Але некаторыя людзі хоць часта чуюць звон, рэдка ведаюць, дзе ён. Так здарылася і з тав. Ладыжыным. У сваёй глыбокадумнай рэцэнзіі ён напісаў: “Аўтар “Сымона Музыкі” ідэалізуе і ўсхваляе беларускую нацыяналістычную грамаду”. А хто не верыць рэцэнзенту, таму тав. Ладыжын раіць прачытаць такія радкі:

Сціхлі госці і музыкі,
З іх застыглай **грамады**
Працiскаецца на клікі
Наш музыка малады…

Адно толькі слова “грамада” прымусіла баязлівую душу тав. Ладыжына схавацца ў пяткі. На рэцэнзента-рэдактара напаў такі жах, што ён не мог ужо апамятавацца і ў кожным радку стаў бачыць толькі “крамолу”. Асабліва моцнае ўражанне ўтварыла на тав. Ладыжына слова “хутар”, якое некалькі разоў сустракаецца ў паэме. Ад вялікага жаху “крытык” забыўся нават на тое, што да рэвалюцыі ў Беларусі не было і не магло быць… калгасаў. Так нарадзілася ў рэцэнзіі абвінавачанне Якуба Коласа… у

ідэалізацыі хутарскай сістэмы… У канцы сваёй рэцэнзіі тав. Ладыжын пералічае “нацдэмаўскія словы”, якія ён знайшоў у паэме. На думку рэцэнзента, словы гэтыя такія: “зык, бядак, лайдак, блукаць, жабрак, чары, гайда ў пуць, небажаткі, жвір, дах, здань, насілкавацца, зрок”… Адным словам, чаго не знайшоў занадта пільны рэцэнзент тав. Ладыжын у паэме Якуба Коласа! Не знайшоў ён толькі слоў для правільнай ацэнкі аднаго з самых буйных і лепшых твораў дарэвалюцыйнай беларускай літаратуры.

У даволі брудных галошах прайшлася па некаторых творах Якуба Коласа тав. Дашкевіч, якая працавала ў Белдзяржвыдавецтве рэдактарам мастацкай літаратуры. Яна затрымала перавыданне паэмы “Сымон-музыка” на цэлы год. Рэдактарская дейнасць тав. Дашкевіч патрабуе спецыяльнага даследавання. Покуль-што мы абмяжуемся абнародваннем асобных яе заўваг аб казцы Якуба Коласа “Міхасёвы прыгоды”. Дашкевіч з самым сур’ёзным выглядам піша: “Дзецям трэба даваць казкі аб героіцы нашых дзён. А “Міхасёвы прыгоды” здзіўляюць сваёй непраўдападобнасцю”. “Хіба можна згадзіцца, — абураецца Дашкевіч, — што:

Надакучыла дзецям зіма –
Хваробы зімою
Ідуць чарадою:
То свінка, ангіна,
Адзёр, шкарлаціна
І біч-жываглот
Люты, злы дыфтэрыт…

Ці ж гэта паказ нашай рэчаіснасці?”

Трусы і перастрахоўшчыкі з Дзяржаўнага выдавецтва БССР не толькі “ходзяць у галошах” па творах нашых сучасных пісьменнікаў. Вядома ж, што перад тым, як выдаць творы Караленка, дырэктар Белдзяржвыдавецтва тав.

Рэпінскі наводзіў спраўкі… ці не рэпрэсіраван гэты пісьменнік, ці няма ў яго раскулачаных і высланых сваякоў і г. д. Нажаль, гэта не анекдот, як не анекдот і тое, што творы Клаузевіца ДВБ не хацела друкаваць таму, што Клаўзевіц быў… баронам» [6, с. 3]. Крытыку цэнзарскай дзейнасці рэдактараў Дзяржаўнага выдавецтва БССР мы знаходзім таксама ў некаторых іншых артыкулах, якія з’явіліся ў тагачаснай перыёдыцы[24].

Нязначнае паслабленне мёртвай ідэалагічнай хваткі у канцы 1930-х гг. не змяняла варожага ў цэлым стаўлення таталітарнага рэжыму да нацыянальных літаратур, якія заставаліся пад падазрэннем. Неўзабаве пасля прыбыцця ў БССР 21 лістапада 1938 г., першы сакратар ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнка ў данясенні Сталіну наступным чынам апісваў маральна-палітычнае аблічча беларускага літаратурнага цэха: «Атрымалася так, што ўся гэта зграя нацдэмаўскіх заправіл, захавалася да сённяшняга дня. Яны друкавалі і друкуюць знешне патрыятычныя вершы і творы, наскрозь фальшывыя, але неабходныя для выказвання савецкасці (іх літаральнае выказванне). Янка Купала кажа, што напісанае ім пры Савецкай уладзе не творчасць, а дрындушкі. Яны кажуць аб тым, што цяпер літаратура зведзена да ролі дадатка, які тлумачыць і ўхваляе, што гэта не творчасць, а ілюстрацыя. У літаратуры нельга нічога ставіць і вырашаць, таму што партыя ўсё ўжо вырашыла на шмат гадоў наперад, план складзены, ілюструй тое, што прайшло.

У выніку разгрома ворагаў, якія заступаліся за пісьменнікаў-нацыяналістаў, у выніку таго, што народ іх “не ацаніў” і творы іх ляжаць на паліцах, а да чытача даходзяць толькі абавязковыя ў беларускіх школах хрэстаматыі, запоўненыя іх творчасцю, у выніку пустэчы, якая ўтварылася навокал іх, сярод іх пануе разгубленасць і раззлаванне. Пачалі дзіка піць — заліваць віном тугу па “Вольнай Беларусі”.

Янка Купала нядаўна сказаў: “Усе нашы карты біты, лепшыя людзі вынішчаны, трэба самому рабіць харакіры” (ён ужо спрабаваў аднойчы скончыць жыццё самагубствам). Другім разам ён пачаў скардзіцца (у сваім коле) на нестрымальную тугу аб тым, што ніякай Беларусі навокал сябе ён не бачыць, што яго жыццё прайшло дарма, што ён хутка памрэ з такой жа тугою па Беларусі, з якой пачынаў свае жыццё ў маладосці.

Гэтыя настроі разгубленасці, творчай пасіўнасці, асуджанасці характэрныя і для іншых беларускіх пісьменнікаў, што аддалі даніну (у рознай ступені) нацдэмаўшчыне. Канешне, сярод іх ёсць і тыя, каго палітычныя падзеі апошняга часу моцна ацвярозілі, і накіраваць іх для шчырай работы магчыма і неабходна» [39, арк. 26].

У той час як П. К. Панамарэнка пісаў гэтае данясенне, у Мінску рыхтаваліся арышты Коласа і Купалы. У НКУС БССР былі сабраны дзясяткі паказанняў пра іх «шпіёнскую» работу [39, арк. 28]. Але замест пугі Сталін гэтым разам вырашыў выкарыстаць пернік і ўзнагародзіў абодвух у 1939 г. вышэйшай узнагародай краіны — ордэнам Леніна.

Прынящце аргбюро ЦК УсеКП(б) 26 лістапада 1940 г. пастановы «Аб літаратурнай крытыцы і бібліяграфіі» дало старт новай кампаніі па барацьбе са шкоднай літаратурай і літаратарамі і адпаведна ўзмацніла цэнзурныя абмежаванні. Скончылася непрацяглая адліга і ў літаратурным жыцці БССР.

## Літаратура

1. Адамовіч, А. Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры (1917–1957) / А. Адамовіч // Да гісторыі беларускай літаратуры / А. Адамовіч; склад. і рэд. В. Булгакаў. — Менск : Колас, 2005. — 1463 с.

2. Адамовіч, А. Якуб Колас у супраціве саветызацыі / А.

Адамовіч. — Мюнхен : Інстытут для вывучэння гісторыі культуры СССР, 1955. — 62 с.

3. Александровіч, С. Х. Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст. Хрэстаматыя крытычных матэрыялаў / С. Х. Александровіч, В. С. Александровіч. — Мінск : БДУ, 1978. — 256 с.

4. БДАМЛМ. — Фонд 66. — Воп. 1. — Спр. 358.

5. Бядуля, З. Аб нашых недахопах / З. Бядуля // Літаратура і мастацтва. — 1938. — № 8.

6. Герцовіч, Я. Пісьменнік і рэдактар / Я. Герцовіч // Літаратура і мастацтва. — 1939. — № 20.

7. Гніламёдаў, У. Апантаны беларускім лёсам / У. Гніламёдаў // Полымя. — 1994. — № 7.

8. Дзяржынскі, У. Якуб Колас у літаратурнай крытыцы: Да дваццацігадовага юбілею яго літаратурнай дзейнасці / У. Дзяржынскі. — Менск : Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1926. — 164 с.

9. Зьвязда. — 1933. — 3 сак.

10. Зьвязда. — 29 сак.

11. Зьвязда. — 1928. — 19 крас.

12. Калубовіч, А. Якуб Колас і Янка Купала / А. Калубовіч // На суд гісторыі / уклад., прадм. і звест. пра аўтараў Б. І. Сачанкі. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1994. — 303 с.

13. Клімковіч, М. Вышэй класавую пільнасць, таварышы пісьменнікі і мастакі! / М. Клімковіч, І. Гурскі, М. Модэль // Літаратура і мастацтва. — 1934. — 31 жн.

14. Колас, Я. Новая зямля : паэма / Я. Колас. — 3-е выд. — Менск : Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1934. — 335 с.

15. Конік, Д. Ю. Беларуская савецкая літаратура на ўздыме / Д. Ю. Конік. — Менск : Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1934. — 126 с.

16. Кнорын, В. За культурную рэвалюцыю / В. Кнорын // Зьвязда. — 1928. — 21 студз.

17. Купала, Я. Спадчына / Я. Купала. — Менск : Бел. кооп.-выд. тавва «Адраджэньне», 1922. — 221 с.
18. Купала, Я. Поўны збор твораў : у 9 т. / Я. Купала. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1997. — Т. 4 : Вершы, пераклады 1915–1929. — 446 с.
19. Купала, Я. Поўны збор твораў : у 9 т. / Я. Купала; рэдкал.: Э. А. Золава, М. І. Мушынскі, В. У. Скалабан. — Мінск : Мастацкая літаратура, 2003. — Т. 9. — Ч. 2. — 414 с.
20. Літаратура і мастацтва. — 1935. — 26 студз.
21. Літаратура і мастацтва. — 1937. — 6 крас.
22. Лужанін, М. Случчына (зіма і лета 1928 году) / М. Лужанін // Узвышша. — 1929. — № 3.
23. Маракоў, Л. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі, 1794– 1991 / Л. Маракоў // Энцыклапедычны даведнік : у 3 т. — Мінск : ATHENEUM, 2004. — Т. 1. — 480 с.
24. Міцкевіч, М. Пад бацькоўскім дахам: Успаміны пра Якуба Коласа / М. Міцкевіч // Дзеяслоў. — 2008. — № 1.
25. Міцкевіч, Д. Любіць і помніць: Успамінае сын Якуба Коласа / Д. Міцкевіч. — Мінск : Полымя, 2000. — 286 с.
26. Мрый, А. Запіскі Самсона Самасуя / А. Мрый // Узвышша. — 1929. — № 3, 4, 6.
27. НАРБ. — Ф. 4п. — Воп.1. — Спр. 1964.
28. Тамсама. — Спр. 2332.
29. Тамсама. — Спр. 2350.
30. Тамсама. — Спр. 2498.
31. Тамсама. — Спр. 3122.
32. Тамсама. — Спр. 3546.
33. Тамсама. — Спр. 3751.
34. Тамсама. — Спр. 4192.
35. Тамсама. — Спр. 4339.
36. Тамсама. — Спр. 6295.
37. Тамсама. — Спр. 6996.
38. Тамсама. — Спр. 9173.

39. Тамсама. — Спр. 13201.
40. Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. / уклад. Г. В. Кісялёў / Акад. навук БССР, Ін-т літ. імя Я. Купалы. — Мінск : Навука і тэхніка, 1977. — 544 с.
41. Полымя. — 1931. — Кн. 6–7, 9.
42. Пруднікаў, П. Далёкае, але не забытае : успаміны / П. Пруднікаў. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1988. — 175 с.
43. Пурышава, Н. Дзяржаўная літаратурная палітыка ў БССР у 20-я гг. / Н. Пурышава // Беларускі гістарычны часопіс. — 1998. — № 3.
44. Рагойша, В. Вяршыні: З невядомага і забытага пра Янку Купалу, Якуба Коласа і Максіма Багдановіча / В. Рагойша. — Мінск : Універсітэцкае, 1991. — 199 с.
45. Савік, Л. Талент поўны і разнастайны… / Л. Савік // Літаратура і мастацтва. — 1990. — 6 крас.
46. Скрыган, Я. Некалькі хвілін чужога жыцця : апавяданні, успаміны, роздум / Я. Скрыган. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1990. — 358 с.
47. Сянкевіч, А. Сацыяльныя матывы творчасьці, або сабачыя лісты паэты Язэпа Пушчы / А. Сянкевіч // Звязда. — 1928. — 11 студзеня.
48. Шаўцоў, С. Мая адысея / С. Шаўцоў. — Вільня : Рунь, 1999. — 135 с.
49. Шыдлоўскі, В. Рысы майго пакалення / В. Шыдлоўскі. — Мінск : Белфранс, 2001. — 215 с.
50. «Я толькі кропля ў акіяне…»: Гутарка Барыса Сачанкі з Масеем Сяднёвым // На суд гісторыі / уклад., прадм. і звест. пра аўтараў Б. І. Сачанкі. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1994. — 303 с.

# МЕТАМАРФОЗЫ ЧАЦВЁРТАЙ УЛАДЫ: АД МАЗАІКІ ДА МАНАЛІТА

Вольны друк бывае добры і дрэнны,
гэта слушна. Але яшчэ больш слушна тое,
што залежны друк бывае толькі дрэнны.
*А. Камю*

Журналістыка ў строгім тэрміналагічным сэнсе ўладай не з’яўляецца. Аднак гэта не перашкаджае ёй быць уплывовай сілай, прычым настолькі ўплывовай, што метафара «чацвёртая ўлада» ў адносінах да яе цалкам правамерна. Як від чалавечай дзейнасці журналістыка займае асобнае становішча ў соцыуме. З аднаго боку яна ўключана ў адносіны кіравання ў грамадстве: яе месца — паміж уладай і народам. Яна інфармуе аб уладных рашэннях, распаўсюджвае і тлумачыць іх, абнародуе рэакцыю мас на іх, а таксама патрабаванні народа да ўлады. З іншага боку, СМІ акрамя адносін кіравання ўключаны непасрэдна ў адносіны грамадскай свядомасці і быцця, г. зн. выступаюць як самастойнае звяно ў механізмах самарэгуляцыі грамадства. У гэтай сваёй ролі СМІ павінны даваць людзям адэкватную інфармацыю аб рэчаіснасці, быць форумам для вольнага абмену думкамі, насычаць масавыя інфармацыйныя патокі матэрыяламі, якія маюць розныя варыянты ведаў, нормаў і каштоўнасцей. Такое двайстае прызначэнне робіцца аб’ектыўнай асновай для дзвюх супрацьлеглых тэндэнцый у журналістыцы: тэндэнцыі прыналежнасці да ўлады і тэндэнцыі незалежнасці ад яе.

Цэнзурны канфлікт з уладамі «ахрысціў» само нараджэнне беларускай прэсы, калі з пяці выдадзеных у

1906 г. нумароў «Нашай долі» чатыры былі канфіскаваныя за «заклік да ўзброенага паўстання для перамены дзяржаўнага ладу». Тады ж Віленская судовая палата пакарала рэдактара адным годам турэмнага зняволення.

У СССР свабода слова, друку абвяшчалася ва ўсіх партыйных праграмах і канстытуцыях. Яна падкрэслівалася ў партыйных і дзяржаўных дакументах, выступленнях кіраўнікоў партыі і ўрада. Свабода друку лічылася адным з галоўных дасягненняў сацыялістычнай дэмакратыі. Увага камуністычнай партыі да пытанняў павелічэння колькасці перыядычных выданняў, павышэння іх эфектыўнасці як сродкаў прапаганды была бесперапыннай. Па падліках расійскага даследчыка Б. І.Варэцкага, за 70 гадоў існавання савецкай улады выйшла 130 пастаноў ЦК партыі па перыядычным друку [2, с. 88].

1920–1930-я гг. у гісторыі савецкага перыядычнага друку займаюць вызначальнае месца. НЭП, нацыянальнае будаўніцтва, індустрыялізацыя, калектывізацыя, культурная рэвалюцыя, палітычныя рэпрэсіі — усе гэтыя працэсы як у люстэрку ўвасобіліся ў газетных і часопісных публікацыях, адначасова сфарміраваўшы прынцыпы савецкага перыядычнага друку на некалькі дзесяцігоддзяў наперад. Адным з рашаючых фактараў фарміравання савецкіх СМІ была цэнзура, якая ўтварае частку вялікай, поўнай драматызму тэмы — «журналістыка ва ўмовах таталітарызму».

Падмурак ва ўзаемаадносінах паміж уладай і СМІ ў СССР заклаў «Дэкрэт аб друку» ад 26 кастрычніка (9 лістапада) 1917 г., які выклікаў шквал пратэстаў нават з боку прадстаўнікоў сацыялістычнага друку. Па задуме аўтараў дэкрэта, жорсткія меры ў адносінах да іншадумцаў, выкладзеныя ў ім, павінны былі мець часовы характар. Але ўжо ў сакавіку 1919 г. VIII з’езд РКП(б) у рэзалюцыі «Аб партыйным і савецкім друку» канстатаваў: «…прэса

з’яўляецца магутнай зброяй прапаганды, агітацыі і арганізацыі, незаменным сродкам уздзеяння на самыя шырокія масы». Упершыню быў вызначаны асноўны метад кіраўніцтва савецкай прэсай — «партыйныя камітэты павінны даваць рэдакцыям агульныя палітычныя дырэктывы і ўказанні і сачыць за выкананнем дырэктыў». Усе рэдакцыі партыйных і савецкіх газет тэрмінова трэба было умацаваць вопытнымі партыйнымі работнікамі, якія «…абавязаны фактычна весці работу ў газеце» [3, с. 436–437]. Становішча і задачы друку актыўна абмяркоўваліся на XI і XII з’ездах РКП(б), у т. л. пытанні дыферэнцыяцыі друку ў мэтах найлепшага абслугоўвання разнастайных груп чытачоў, з’яўлення руху рабочых і сялянскіх карэспандэнтаў, фабрычна-заводскіх і насценных газет. Распрацоўка галоўнага курсу развіцця газет і часопісаў у разглядаемы перыяд была завершана рэзалюцыяй XIII з’езда РКП(б) «Аб друку» (1924), у якой пералічваліся тыпы газет, якія павінны былі ўтварыць адзіную сістэму друку краіны. Гутарка ішла аб умацаванні сялянскага, вайсковага, маладзёжнага, жаночага друку, пераходзе прэсы рэспублік на нацыянальныя мовы, фінансаванні СМІ, прафесійнай падрыхтоўцы журналісцкіх кадраў [58, с. 647–655].

Ні ў адным з пералічаных вышэй дакументаў мы не знойдзем нават узгадкі пра цэнзуру. Само слова «цэнзура» было табуіравана, цэнзурнае ведамства хавалася пад мала каму зразумелай назвай Галоўліт, а цэнзары, якія працавалі ў перыядычных выданнях, называлі сябе палітрэдактарамі. У першыя гады савецкай улады папярэдняй цэнзуры перыядычных выданняў не існавала. Дарэвалюцыйныя газеты і часопісы наўпрост закрывалі з прычыны іх контррэвалюцыйнасці. Сітуацыя змянілася пасля стварэння ў 1922 г. Галоўліта, у задачы якога ўваходзіла забарона друку антысавеччыны, дзяржаўных тайнаў і парнаграфіі, што азначала ўвядзенне папярэдняй цэнзуры.

Пасля ліквідацыі «буржуазнай» прэсы і іншых апазіцыйных выданняў («Сацыяліст-рэвалюцыянер», «Мінскае жыццё», «Мінскі веснік») у БССР пачаўся працэс па стварэнні савецкай журналістыкі. У ліпені 1917 г. у Мінску пачала выходзіць першая на Беларусі легальная масавая бальшавіцкая газета «Звезда» (орган ЦК КП(б)Б). З 1920 г. у Мінску выходзілі газета «Савецкая Беларусь» (орган ЦВК БССР), з 1921 г. — «Беларуская вёска» (орган ЦК КП(б)Б), з 1921 г. — «Чырвоная змена» (орган ЦК ЛКСМБ), з 1927 г. — «Рабочы» (орган ЦК КП(б)Б), шэраг цэнтральных газет на мовах нацыянальных меншасцей. З 1917 г. у Віцебску пачалося выданне газеты «Зара Захаду» (орган Віцебскага абласнога і гарадскога камітэтаў КП(б)Б і гарадскога савета народных дэпутатаў), з 1917 г. у Гомелі — «Палеская праўда» (орган Гомельскага абласнога і гарадскога камітэтаў КП(б)Б, гарадскога і абласнога савета народных дэпутатаў), з 1918 г. у Магілёве — «Саха і молат» (орган Магілёўскага абласнога і гарадскога камітэтаў КП(б)Б, гарадскога і абласнога савета народных дэпутатаў).

У 1920 г. Наркамасветы БССР пачаў выдаваць літаратурна-мастацкі і навуковы часопіс «Вольны сцяг», у 1922 г. кааператыўнае выдавецтва «Совецкая Беларусь» — літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс «Полымя», у 1923 г. ЦК ЛКСМБ — літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс «Маладняк», у 1925 г. Цэнтральнае бюро краязнаўства — часопіс «Наш край», у 1927 г. літаратурна-мастацкае аб’яднанне «Узвышша» — літаратурна-мастацкі часопіс «Узвышша». У 1921 г. у Мінску выдавалася 13 газет і часопісаў на чатырох мовах агульным тыражом 66,5 тыс. экзэмпляраў.

Абсалютнымі лідарамі былі «Беларуская вёска» (15 тыс.) і «Звязда» (10 тыс.). У павятовых гарадах БССР выходзіла 10 газет агульным тыражом 18,2 тыс. экзэмпляраў [57, с. 197]. У 1917–1922 гг. у адсутнасці цэнтралізаванай цэнзуры, у т. зв.

«дагалоўлітаўскі перыяд» змест беларускіх перыядычных выданняў кантраляваўся рознымі ведамствамі — Рэўваенсаветам, Галоўпалітасветай, ДПУ.

На працягу 1920-х гг. развіццю беларускай савецкай прэсы перашкаджаў недахоп паперы, слабая паліграфічная база, адсутнасць прафесійных журналісцкіх кадраў. У найбольш складанай сітуацыі апынуліся раённыя газеты, дзе ўсю работу, пачынаючы ад збору матэрыялаў да выпуску і распаўсюджвання тыражу, які часта не перавышаў тысячы экзэмпляраў, выконваў адзін рэдактар. Але ў той час было галоўнае — адносная свабода слова, абумоўленая ліберальным нэпаўскім перыядам. Менавіта тады атрымалі развіццё амаль усе формы работы, якія выкарыстоўваліся на працягу ўсёй гісторыі айчыннай журналістыкі савецкага перыяду. Многія з іх нарадзіліся падчас барацьбы за рэжым эканоміі, зніжэнне розклічных цэн, за рацыяналізацыю вытворчасці. Да найбольш папулярных формаў масавай работы адносіліся вытворчыя агляды, пераклічкі, выязныя рэдакцыі. Неад'емнай часткай кампаніі па рацыяналізацыі народнай гаспадаркі з'яўлялася барацьба за эканамічны дзяржаўны апарат, за спрашчэнне яго структуры. У сувязі з гэтым беларускі савецкі перыядычны друк распачаў масавы «паход супраць бюракратызму».

Лепш зразумець інтэлектуальную атмасферу ў БССР на працягу кароткага ліберальнага НЭПаўскага перыяду дазваляе рэзалюцыя, прынятая на пасяджэнні аддзела друку ЦК КП(б)Б, якое адбылося 23 снежня 1925 г. і было прысвечана абмеркаванню работы часопіса «Полымя». Па выніках абмеркавання яго ўдзельнікі вырашылі дазволіць публікаваць у часопісе навуковыя артыкулы вучоных-немарксістаў і літаратурныя творы аўтараў, якія належалі да ўсіх літаратурных плыняў, пры ўмове публікацыі рэдактарскага каментарыя да кожнага з «ідэалагічна варожых» матэрыялаў [20, арк. 1]. Іншадумцы пакуль што

мелі шанец быць пачутымі чытацкай публікай. Але ўжо праз год ахвярай жорсткай партыйнай крытыкі стаў літаратурны дадатак да газеты «Беларуская вёска» — часопіс «Чырвоны сейбіт». Яго рэдакцыю на чале з Р. К. Шукевічам-Трацц яковым вінавацілі ў скажэнні партыйнай лініі ў пытаннях літаратуры, а асабіста рэдактара ў тым, што ён пераўтварыў часопіс у рупар дробнабуржуазнага нацыяналізму. Як бачым, шлях ад цэнзара да яго ахвяры ў БССР быў вельмі кароткі.

Кажучы пра лібералізацыю друку ў сярэдзіне 1920-х гг., неабходна таксама мець на ўвазе дзейнасць Галоўлітбела, які забараняў друкаваць у газетах матэрыялы пра час і месца выступленняў членаў палітбюро ЦК і ўрада, мясцовыя бюджэты, ураджай, бандыцкія налёты, падвышэнне цэн, дэвальвацыю чырвонца, пажары, гвалтаванні і інш. У жніўні 1926 г. з’явіліся «Правілы па прагляду абвестак замежных гандлёвых і прамысловых фірмаў», згодна з якімі ў газетах забаранялася рэкламаваць замежныя адзенне, абутак, харчовыя тавары, інструменты, фота- і радыётавары, медыцынскія прэпараты і інш. [19, арк. 161– 181]. 7 красавіка 1928 г. Галоўлітбел цыркулярна разаслаў у акруговыя літы і палітрэдактарам газет спіс дзяржаўных тайнаў. Усяго тайнаў было 41. Яны тычыліся бюджэту, работы наркаматаў, біржаў працы, назваў вайсковых частак, міжнародных зносін, вынаходніцтваў і інш. [22, арк. 3].

Першапачаткова дзеянні галоўлітаўскіх цэнзараў прыводзілі да адкрытых канфліктаў з галоўнымі рэдактарамі газет. Так, 11 чэрвеня 1924 г. галоўны рэдактар газеты «Звязда» звярнуўся да старшыні АДПУ па БССР Ф. Д. Мядзведзя і загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б А. І. Дзякава з пратэстам супраць забароны друкаваць матэрыялы пра выкрыццё падпольнага манетнага двара і павелічэнне абаротных сродкаў беларускай канторы Дзяржбанка [16, арк. 3].

Сталінскі «круты паварот» накіраваў развіццё савецкай журналістыкі ў бок яе поўнага і канчатковага адзяржаўлівання, надання ёй класічных таталітарных якасцей. Аднак, тэндэнцыі да гэтага вызначыліся ўжо ў 1927–1928 гг., пра што сведчаць матэрыялы справаводства рэдакцый перыядычных выданняў. Пытанні аб адкрыцці альбо закрыцці беларускіх рэспубліканскіх газет узгаджаліся з аддзелам друку УсеКП(б). Творчай работай рэдакцый газет БССР цалкам кіравала вышэйшае партыйнае кіраўніцтва рэспублікі. Гэта праяўлялася ў кантролі за кадравымі прызначэннямі, рассылцы ў рэдакцыі дырэктыўных лістоў, а таксама правядзенні рэгулярных рэдактарскіх нарад у аддзеле друку ЦК. Рэдактарам даваліся падрабязныя інструкцыі адносна таго, як асвятляць у газетах работу вышэйшых оранаў улады, унутраную і знешнюю палітыку СССР, выбары, рэвалюцыйныя святы і дробныя пытанні, накшталт ураджаю ільну альбо выступлення Папы Рымскага. Рэдакцыям неаднаразова нагадвалася аб неабходнасці больш актыўнага прыцягнення адказных савецкіх і партыйных работнікаў да выступаў у газетах, абавязковага ўзгаднення з аддзелам друку ЦК усіх змен і скарачэнняў у іх артыкулах. Акрамя таго, аддзел друку праводзіў «налёты» (незапланаваныя праверкі) на рэдакцыі газет і часопісаў.

Незразумелыя сучаснаму мысленню тагачасныя ідэялагемы, у межах якіх мусілі працаваць творчыя работнікі рэдакцый, дапамагае ўзнавіць наступная вытрымка з аператыўнага цыркулярнага ліста ЦК, разасланага ў рэдакцыі газет БССР у 1930 г.: «У "Беларускай Вёске" № 9 дана шапка "Ураджай залежыць ад машын". Шапка гэта ня верна, бо яна дае выхад паражэнчаскім настроям, што без машын нічога зрабіць нельга… "Чырвоная Зьмена" № 31 дае шапку "Зломім і ліквідуем клясу кулакоў". Партыя гаворыць аб зьнішчэньні кулацтва,

як клясы, а не так як фармулюе “Чырвоная Зьмена”, таму што партыя не ўзводзіць кулацтва ў новы кляс… У газэце “Камуніст” № 16 загаловак аддзелу “Больш жыцьця, больш баявых тэмпаў”, але ні слова няма ў загалоўку аб кулаку, ні слова аб установцы на арганізацыю беднаты і саюзе з серадняком. Уся старонка — беспартыйная». Далей у апаратыўным лісце рэдактараў папракаюць за змяшчэнне ў газетах аб’яў, у т. л. пра тэхнічныя навінкі ў беспартыйным асвятленні. Палітычнае значэнне надавалася нават шрыфтам [28, арк. 23–30].

Пачынаючы з 1929 г. галоўная газета рэспублікі «Звязда» акрамя прапагандысцкай ужо выконвала таксама цэнзарскую функцыю. Так, у верасні 1929 г. у «Звяздзе» быў надрукаваны артыкул «Некалькі запытанняў рэдакцыі “Савецкай Беларусі”», у якім рэдакцыя апошняй абвінавачвалася ў тым, што пераўтварыла газету ў рупар нацыяналізму (публікавала артыкулы З. Жылуновіча (Цішкі Гартнага), Т. Глыбоцкага (Алеся Дудара) і інш.) [25, арк. 301]. У лістападзе таго ж года па разгромных артыкулах, апублікаваных у «Звяздзе», была прынята пастанова сакратарыята ЦК КП(б)Б «Аб памылках газеты “Беларуская вёска”», згодна з якой быў зменены амаль увесь кіраўнічы склад рэдакцыі [26, арк. 229]. У газеце існавала патайная частка, дзе захоўвалася сакрэтная і выключна сакрэтная перапіска, якую супрацоўнікам рэдакцыі нельга было пакідаць у сваіх сталах. Усе чарнавікі і адпрацаваная капіравальная папера спальваліся [27, арк. 40].

Тэхнічна працэс цэнзуравання перыядычных выданняў у 1930-я гг. выглядаў наступным чынам. Штатны рэдакцыйны цэнзар рэспубліканскай альбо абласной газеты (райліт у раённых газетах) ставіў дазвольны нумар на канчаткова звярстаных і выпраўленых палосах газеты, на якіх ужо меўся подпіс рэдактара «да друку». Пасля падрыхтоўкі першага сігнальнага экзэмпляра цэнзар мусіў

упэўніцца, што ў ім няма хібаў як з пункту гледжання палітыка-ідэалагічнага, так і тэхнічнага (якасць клішэ, друкарскіх знакаў і г. д.). Пасля выпуску тыражу яго зноў правяралі палітрэдактары Галоўліта БССР.

Наступную цэнзуру ў газетах ажыццяўлялі тры палітрэдактары па газетах у складзе апарата Галоўліта, а папярэднюю — упаўнаважаныя па газетах «Звязда», «Рабочы», «Кастрычнік», «Чырвоная змена», «Піянер Беларусі», «Дэр юнгер ленінец»[25], «Орка»[26], «Раўдонайсіс артояс»[27], «ЛіМ», «Палеская праўда» (Гомель), «Віцебскі пралетарый» (Віцебск), «Камунар Магілёўшчыны» (Магілёў). Упаўнаважаныя, якія ажыццяўлялі папярэднюю цэнзуру, утрымліваліся за кошт рэдакцый газет. Такім чынам, усе матэрыялы, што выходзілі на старонках перыядычнага друку БССР у 1930-я гг., праходзілі тры цэнзурныя фільтры: рэдакцыйны і галоўлітаўскі (папярэдні і наступны). Акрамя таго, існаваў таксама чацвёрты, нябачны цэнзурны бар’ер у выглядзе аўтарскай самацэнзуры — своеасаблівага самаабарончага механізма, які ўвасабляўся ў імкненні аўтара прадбачыць ідэалагічныя, палітычныя, эстэтычныя і іншыя прэтэнзіі, якія можа напаткаць яго рукапіс падчас праходжання ў афіцыйных кантралюючых інстанцыях.

Нягледзячы на ўсталяванне ў пачатку 1930-х гг. жорсткай цэнзурнай іерархіі, канфлікты паміж рэдактарамі газет і цэнзурным ведамствам працягваліся. 5 чэрвеня 1937 г. начальнік Галоўліта і АВЦ пры Савеце Міністраў БССР І. Л. Ахрамовіч накіраваў першаму сакратару ЦК КП(б)Б В. Ф. Шаранговічу і старшыні СНК БССР Д. І. Валковічу (копія — начальніку Галоўліта РСФСР

С. Б. Інгулаву) скаргу на дзеянні адказнага рэдактара газеты «Звязда» Д. В. Юркова. У скарзе апісваўся выпадак, калі Д. В. Юркоў адмовіўся выконваць загад упаўнаважанага па «Звяздзе» цэнзара Коржыкава аб забароне друку нататкі

«Пакуты пасажыраў», у якой узгадвалася вузкакалейка ў Лельчыцкім пагранраёне. 30 мая 1937 г. нататка была надрукавана, у выніку чаго «польскі шпіён… атрымаў магчымасць знайсці… бясплатна… сакрэтныя звесткі» [43, арк. 116]. Скарга І. Л. Ахрамовіча была пачута, і ў кастрычніку 1937 г. Д. В. Юркова знялі з работы.

У 1932 г. у БССР цэнзуравалася ўжо 201 газета гадавым тыражом у 1 135 000 асобнікаў, у т. л. 13 цэнтральных, 76 раённых, 113 шматтыражных і 28 часопісаў, гадавы тыраж якіх склаў каля 1,5 млн асобнікаў. Цэнзуры падлягалі таксама насценгазеты [7, с. 106].

Уяўленне пра адносіны ўладных структур да пішучай беларускай інтэлігенцыі, пра змены ў інтэлектуальным клімаце рэспублікі напярэдадні новай хвалі рэпрэсій па справе «Беларускай народнай грамады» 1933 г. даюць два агляды зместу беларускіх часопісаў, падрыхтаваныя для ЦК КП(б)Б начальнікам Галоўліта БССР Я. І. Сініцкім. Першы агляд храналагічна ахоплівае 1932 г. і прысвечаны літаратурна-мастацкім выданням. Незадавальненне галоўнага цэнзара рэспублікі выклікала надрукаваная ў «ЛіМе» імпрэсія С. Баранавых «Матчын сын», прысвечаная Я. Купалу: «Купала ў ім паказваецца як адзіны пакутнік за беларускі народ... Купала — мэсія, збавіцель, прарок». На думку аўтара агляду, артыкулы аб тэатры, якія былі апублікаваны ў часопісе «Мастацтва і рэвалюцыя», характарызаваліся лявацкай трактоўкай спектакляў. Да прыкладу, спектакль «Свята ў Касрылаўцы», пастаўлены ў БДТ паводле аповедаў Шалом Алейхема, трактаваўся як «ідэалізацыя яўрэйскага мястэчкавага побыту ў святле дробнабуржуазнага, сузіральнага гумару». Часопіс «Чырвоная Беларусь», паводле меркавання Я. І. Сініцкага, знаходзіўся на вельмі нізкім мастацкім і палітычным узроўні, у ім не было шырока разгорнутага паказу людзей сацыялістычнага будаўніцтва, герояў пяцігодкі. Аглядальнік

ілюструе гэта абвінавачанне фрагментам верша С. Грахоўскага «Так пачынаецца вясна», апублікаванага ў чацвёртым нумары часопіса:

І ў ночы па рэйках
вільготных і сьлізкіх
паімчаць цягнікі
эшалёнаў таварных хвасты —
гэта шле Гомсельмаш
трыеры, каб засеяць чыстым,
каб ніводнага каліва не пасеяць пустым.

«Гомсельмаш вырабляе цэлы рад машын па пераапрацоўцы кармоў для буйной сацыялістычнай жывёлагадоўлі і ніякіх трыераў не выпушчае. Гэта ня лішнім было б ведаць і поэту Грахоўскаму і Чырвонай Беларусі», — абураўся цэнзар. У часопісе «Маладняк», на яго думку, панавала «стыхія, абязлічка, самацёк». А вакол часопіса «Беларусь калгасная» згуртаваліся былыя пісьменнікі-нацдэмы: Я. Купала, М. Лужанін, А. Дудар, М. Зарэцкі, Ул. Хадыка. У восьмым нумары часопіса, прысвечаным 15-годдзю Кастрычніцкай рэвалюцыі, была надрукавана «наскрозь варожая» паэма М. Нікановіча «Журавіны», дзе «паказваецца безвыходнай доля селяніна... рабочыя заняты катаржна цяжкай работай і адпіхваюць ад сябе прадстаўнікоў інтэлігенцыі» [32, арк. 17–43].

Другі агляд таксама ахопліваў 1932 г., але быў прысвечаны часопісам, якія спецыялізаваліся ў галіне гаспадарчага будаўніцтва БССР. Я. І. Сініцкі разглядаў размяшчэнне на старонках часопіса «Шляхі калектывізацыі» матэрыяла пра яўрэйскі нацыянальны калгас у в. Карпачы Клімавіцкага раёна як шкодніцкі выпад рэдакцыі. Аглядальнік, у прыватнасці, абураўся прыведзенымі ў артыкуле выказваннямі жыхароў навакольных вёсак: «з вашае працы нічога не будзе», «лепш пакіньце гэтую

мужыцкую справу», «якія з вас земляробы». Не меншае абурэнне цэнзара выклікала публікацыя ў часопісе інфармацыі кшталту «трактарыст Рабухін перарэзаў рамень у машыне для таго каб зрабіць дзень адпачынку» альбо «старшыня калгасу “Пяцігодка” Ізох згнаіў каля 1,5 тыс. пудоў бульбы». У часопісе «Паляўнічы Беларусі» палітычныя артыкулы, на думку Я. І. Сініцкага, былі таксама нізкага ўзроўню — за цэлы год дадзены толькі адзін артыкул ваенізуючага зместу. А артыкул А. Сідарэнкі, які даводзіў, што ў БССР вядзецца драпежніцкая паляўнічая гаспадарка, на думку цэнзара, з’яўляўся «выступленнем класавага ворагу». У перадавым артыкуле, змешчаным у першым нумары часопіса «Тэхніка масам» непісьменны аўтар сцвярджаў, што «Маркс, Энгельс, Ленін былі вялікімі тэарэтыкамі, а Сталін з’яўляецца вялікім практыкам». Нарэшце, часопіс «Савецкая краіна» (былы «Наш край») таксама зрабіўся трыбунай нацдэмаў кшталту У. Гесэна — аўтара артыкула «Барацьба сялянства на Беларусі напярэдадні 19 лютага 1861 г.». Сініцкі крытыкаваў трацкісцкія высновы У. Гесэна «пра адносную слабасць сялянскай барацьбы напярэдадні 19 лютага..., спецыфічныя асаблівасці становішча беларускага сялянства». Аўтар праграмы вывучэння сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў калгасах, змешчанай у першым нумары часопіса, С. Шчуцкі цікавіўся пытаннем, колькі заможнікаў сярод ударнікаў, а таксама пазначыў у праграме і такі пункт: «антысавецкія выступленні ўдарнікаў». Нарэшце, А. Васільеў у артыкуле «Тарфяныя рэсурсы БССР» напісаў, што «з належным вырашэннем пытання электрыфікацыі звязана не толькі павелічэнне прадукцыйных сіл краіны, але і эканамічнае і культурнае адраджэнне яе». У гэтым сказе цэнзара збянтэжыла слова «адраджэнне», якое ён разумеў як нацдэмаўскае, кантррэвалюцыйнае [35, арк. 13–41].



Народны камісарыят асветы, дзе з 1922 г. да сярэдзіны 1930-х гг. знаходзіўся Галоўлітбел (трохпавярховы будынак за вежай езуіцкага калегіума)



Будынак ЦК КП(б)Б. 1932 г.



Будынак АДПУ–НКУС. 1926 г.



Р. К. Шукевіч-Траццякоў.
Пачатак 1920-х гг.



Першы рад – В. Ф. Вольскі, С. С. Шамардзіна.
Першы злева ў другім радзе – І. Д. Гурскі. 1931 г.



*Для служебного пользования*

Экз. № 145

# ПРИКАЗ

Нач. Главного Управления по делам литературы и издательств

(Главлит БССР)

№ 12 (2)

МИНСК — 1940 г.

Сакрэтны загад упаўнаважанага СНК БССР па ахове ваенных тайнаў у друку і начальніка Галоўліта БССР. 1940 г.


Б. С. С. Р.
Н. К. А.
ГАЛОЎНАЕ ЎПРАЎЛЕНЬНЕ
па справах
ЛІТАРАТУРЫ І ВЫДАВЕЦТВА
(ГАЛОЎЛІТБЕЛ)
„......“ ............ 193.. г.
№ ..........
г. Менск, пл. Волі № 23/2
Тэл. № 628.

т. Бенде.

В книге Годкевича „Грамадзянаўства" для IV груп, издаваемой в последний момент нужна маленькая поправка.
В разделе о сел. хоз. дается разница между „ТОЗам, артелью і коммуной. О коммуне говорится, что ее члены не имеют личного подсобного хозяйства. Недавно ЦИК СССР издал решение что коммунарам разрешается иметь в личное пользование корову, мелкий скот, птицу. Очень прошу тебя, найти это место в книге и внести эту поправку.
З. Давидович

17/VII 33

Службовая запіска З. А. Давідовіча, адрасаваная
Л. Ф. Бэндэ. 1933 г.



Б. С. С. Р.
Н. К. А.
ГАЛОЎНАЕ УПРАЎЛЕНЬНЕ
па справах
ЛІТАРАТУРЫ І ВЫДАВЕЦТВА
(ГАЛОЎЛІТБЕЛ).
5 · III 1926 г.
№ 392
г. Менск, пл. Карл. № 23/2.
Тэл. № 628.

Мае сілу да „31" траўня.1926г.

22

МАНДАТ

Гэты дадзен тав. САВАНОВІЧУ П.А. у тым, што ён сапраўды зьяўляецца Загадчыкам СЛУЦКАГА Акругова-га Аддзелу па СПРАВАХ ЛІТАРАТУРЫ І ВЫДАВЕЦТВА /АКРЛІТ/ з прычыны чаго на тав.САВАНОВІЧА ускладаецца:

1/Вядзеньне палітычнага кантролю як папярэдняга гэтак і наступнага над усімі друкарскімі творамі,выходзячымі у сьвет у межах СЛУЦКАЕ Акругі,

2/Кантроль над усімі друкарнямі, бібліятэкамі,кнігарнямі як дзяржаўнымі гэтак і прыватна-грамадзянскімі.

3/Кантроль над рэпэртуарам тэатраў,кіно,канцэртаў,клюбаў /як ваенных гэтак і грамадзянскіх/ і рознага роду відовішчаў.

З прычыны вышэйпамянёнага тав.САВАНОВІЧУ прадстаўляюцца наступныя правы

а/бесперашкодны уваход ва усе памянёныя вышэй мейсцы,пры чым адміністрацыя апошніх павінна прадстаўляць па першаму патрабаваньню тав.САВАНОВІЧА усе неабходныя дзеля кантроля рэчы і матэр"ялы.

б/вынясьці з ужываньня розных кнігаў і друкарскіх твораў,распаўсюджваньне якіх не дазваляецца па закону.

в/забараніць і закрыць усякага роду відовішчаў,калі з боку апошніх будуць дапушчаны якія ліба парушэньні.

Органам Рабоча-Сялянскай Міліцыі належыць аказваць т.САВАНОВІЧУ усебаковую дапамогу пры выкананьні ім службовых абавязкаў.-

Вышэйпамянёнае подпісам ды прыкладзенай пячаткай сьведчыцца.

ПАДСТАВА: /Пастанова Саўнаркому БССР ад 18/V-23г.
Збор закон. № 1-2 ст. 7/

ЗАГАДЧЫК ГАЛОЎЛІТБЕЛ /КРАШНІКАЎ/

САКРАТАР /СУДНІК/

Мандат Слуцкага акрліта. 1926 г.



ПТИЧКА.-

Птичка божия не знает ни заботы, ни труда
Хлопотливо не свивает долговечного гнезда,
Долго ночь на ветке дремлет, солнце красное взойдет
Птичка гласу бога внемлет встрепенется и поет.
Довольно, прекратить... безобразие. Не позволю

в чем дело? Что вы сейчас пели? Самую безобидную песенку. Вот эту мерзость по Вашему безобидная песенка. Никакой тут мерзости нет. Если хотите могу повторить. А ну-ка повторите. Птичка божия не знает... Стойте довольно... Во-первых товарищ что это за птичка называйте вещи своими именами, если птичка, так скажите какая птичка, как ее название. А я знаю... Ну как хотите, ну воробей, синица, соловей, а если хотите покрупнее, то коршень, орел. Во-во я так и знал... Орел... Может быть еще двуглавый орел? Вы эти штуки бросьте слышите... Слышу хорошо я заменю. Назовьем ее воробей, затем дальше божие? Почему божие? Что за религиозный предрассудок. Религия опиум для народа, не позволю. Хорошо я вычеркну божие... А к кому ее причислить? Воробья? Воробей собирает зерна, значит в профсоюз Всеработ.Земмес. Хорошо. Дальше: "не знает"? Как это она не знает? Если не знает должна изучать политграмоту. Дальше: "ни заботы, ни труда" как это так? Если она член Профсоюза и безработная, так для этого существует Биржа Труда и Страхкасса. Ну дальше, что у Вас? Хлопотливо не свивает долговечного гнезда.... На что Вы намекаете. Этот номер вам не пройдет переделайте. Хорошо. Я переделаю. Дальше: "Долго ночь на ветке дремлет"... стойте... Что это за долгая ночь такая. Почему она долгая, чтоб бандиты больше работали. Сократите ночь. Хорошо я сокращу. Дальше: Почему она на ветке дремлет. Это намек на жилищный кризис. Она должна явиться в жилотдел и взять ордер, а с ордером я не возражаю пусть на ветке живет. А потом, что это за "дремлет".... Это же вы на Милицию намекаете..... Дальше: не позволю. Хорошо я переделаю. Дальше: что у Вас? "Солнце красное взойдет" Вот это здорово. Это можно. Солнцекрасное..только не взойдет, а уже взошло. Понимаю переделаю. Ну то-то дальше, что у Вас? "Птичка гласу бога внемлет" Опять бог.... долой бога... Раз взошло красное солнце, то птичка не гласу бога, а гласу агитпропа внемлет. Поняли? Понял, переделаю."Встрепенется и поет" А что она поет? Укажите ее репертуар. Может быть она поет, что-нибудь запрещенное. Хорошо, я напишу, что она поет... Дальше: "Людям скучно, людям горе птичка в дальние страны в теплый край, за сине море улетает до весны" Довольно. ... Не позволю.. Но позвольте. Ничего не могу позволить... Куда она улетает заграницу, а кто ей позволил вообще летать? Она записалась членом Воздухофлота. Вычеркните все и горе, и море, и полеты, и заграницу, потомучто я не люблю, чтобы Польшей пахло. Хорошо, я вычеркну. Ну читайте, что у вас там вышло? Воробей член Профсоюза, что зовут Работземлес, знает все и без конфуза поспешил на биржу в лес. Ордер взял и сел на ветку, ночь короткую не спал, взял заметку на газетку политграмоту читал и читал он не дремлет солнце красное взойдет агитпропа гласу внемлет все что было, то прошло. Правильно это можно. Молодец, давно бы так... Вот это можно.-

------------

Тэкст эстраднай мініяцюры з надпісам «Забаронена», які быў зроблены чырвоным алоўкам цэнзара. 1920-я гг.



Гэты экз. п'есы „Рысь" Ф. Ждановічу прагледжаны Галоуным Камітэтам па кантролю за рэпэртуарам пры Галоуліце НКА. Б. С. С. Р.

Z № 148

дапускаецца да публічнага у межах Б. С. С. Р.

Экзампляр п'есы з поуным тэкстам яго зарэгістраваны у Галоуным Камітэце за № 1381 ад 29/XI-26

Старшыня Галоунага Камітэту па кантролю за рэпертуарам

Сакратар Е. Сікорская

Белдзярждрамтэатр імя Янкі Купалы Бібліятэка інв. № 148

Сакратар Г.Р.К. Е. Сікорская

Дазвол Галоўрэперткама Ф. Ждановічу на пастаноўку п'есы Э. Ажэшкі «Рысь». 1926 г.



Кадр з кінафільма «Лясная быль», забаронены Галоўрэперткамам БССР у канцы 1930-х гг.



ГЛАВНОЕ УПРАВЛЕНИЕ ПО ДЕЛАМ ЛИТЕРАТУРЫ И ИЗДАТЕЛЬСТВ (ГЛАВЛИТ)

# СПИСКИ

## УЧЕБНИКОВ, УЧЕБНЫХ И МЕТОДИЧЕСКИХ ПОСОБИЙ ПО ПЕДОЛОГИИ, ПОДЛЕЖАЩИХ ИЗ'ЯТИЮ

Минск ооо 1936

Адзін са спісаў Галоўліта БССР
на адабранне літаратуры з бібліятэк. 1936 г.



Праверка газетнага тыражу ў друкарні. 1930-я гг.

Станцыя кантролю якасці ў Белрадыёцэнтры. 1930-я гг.






Карыкатура на камуністычную прапаганду з расійскага эміграцкага часопіса «Сатырыкон». Канец 1930-х гг.

У 1933 г. у БССР было праведзена скарачэнне масавых друкаваных выданняў, што афіцыйна тлумачылася фінансавай рэнтабельнасцю і мэтазгоднасцю. 1 красавіка спынілася друкаванне беларускамоўных часопісаў «Савецкая краіна», «Мастацтва і рэвалюцыя», «Напагатове», «Чырвоная Беларусь», «Ленінская вучоба», «Шляхі калектывізацыі», «Беларусь калгасная», «Кніга ў масы». З 20 красавіка зніклі газеты «Савецкая Беларусь» і «Рабочы і сялянскі карэспандэнт», газета «Сельскагаспадарчы рабочы Беларусі» аб’ядналася з газетай «Калгаснік Беларусі». Фонды

паперы ад закрытых выданняў перадаваліся для павелічэння тыражу выданняў ЦК КП(б)Б – «Звязды» і «Рабочага». Адначасова на працягу 1933 г., выконваючы пастанову ЦК УсеКП(б), партыйнае кіраўніцтва БССР стварыла 53 газеты палітаддзелаў МТС і саўгасаў. Гэтыя выданні мелі адкрыта прапагандысцкі, агітацыйны характар. Большасць з іх стваралася пры адсутнасці мінімальнай тэхнічнай базы і кваліфікаваных кадраў [15, с. 214–215].

1933 і 1934 гг. былі часам павышанай увагі партыйнага кіраўніцтва і ўрада БССР да пытанняў цэнзуры ў перыядычным друку. Гэтаму напрамку работы Галоўліта БССР было прысвечана асобнае рашэнне ЦК КП(б)Б, прынятае 26 лістапада 1933 г. А 4 і 23 снежня таго ж года СНК БССР прымае дзве пастановы, прысвечаныя арганізацыі папярэдняга і наступнага кантролю аховы дзяржаўных тайнаў у друку. 7 сакавіка 1934 г. выйшла новая сумесная пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР «Аб узмацненні аховы дзяржаўных тайнаў у друку БССР», дзе канстатавалася, што ўзгаданыя вышэй пастановы і рашэнні ЦК і СНК па пытаннях паляпшэння работы цэнзуры не выкананы.

У дадатак да прынятых раней рашэнняў ЦК і СНК іх сумесная пастанова ад 7 сакавіка 1934 г. вызначала шэраг новых мерапрыемстваў па ўзмацненні аховы дзяржаўных тайнаў у друку. У прыватнасці, неабходна было ўвесці штатныя пасады цэнзараў у газетах «Окцябер»[28], «Дэр юнгер арбетэр»[29], «Дэр юнгер ленінец», «Орка», «Раўдонайсіс артояс» [34, арк. 412–413]. На ўзмацненне жорсткасці палітычнай цэнзуры ў друку была накіравана яшчэ адна пастанова ЦК КП(б)Б – ад 3 красавіка 1934 г. Яна была выклікана дрэннай арганізацыяй цэнзурнага кантролю выданняў у раённых цэнтрах рэспублікі, што пацвярджаецца зместам сакрэтнага даклада начальніка Галоўліта і АВЦ БССР З. А. Давідовіча загадчыку аддзела

культуры і прапаганды ленінізму ЦК Д. Ю. Коніку ад 2 чэрвеня 1934 г. Да прыкладу, галоўны цэнзар рэспублікі паведамляў пра змяшчэнне сакрэтнай інфармацыі ваеннага характару ў газетах «Чырвоная Полаччына» і «Рэчыцкая праўда», нізкі тэхнічны стан сродкаў сувязі ў аршанскай газеце «Ленінскі прызыў», шклоўскай «Прамень камунізму», ушацкай «Прымежны калгаснік», клімавіцкай «Камуна» і інш. З-за гэтага згаданыя раённыя газеты выходзілі без візы райліта, у некаторых раёнах абавязкі райліта выконвалі рэдактары мясцовых газет [33, арк. 105–106].

Даклад З. А. Давідовіча, а таксама трывожная інфармацыя, што паступала з месцаў, выклікала новую пастанову ЦК КП(б)Б і СНК БССР, якая была прынята 22 ліпеня 1934 г. пад назвай «Аб рабоце цэнзуры ў друку». З мэтай кантролю за выкананнем гэтай пастановы ў кастрычніку 1934 г. Галоўлітбелам была арганізавана праверка цэнзарскай работы ў раённых газетах. Пасля заканчэння праверкі ў аддзеле культуры і прапаганды ленінізму ЦК з'явіўся цыркуляр, які Д. Ю. Конік разаслаў усім рэдактарам раённых газет у тым жа кастрычніку 1934 г. Цыркуляр патрабаваў ад рэдактараў газет прадстаўляць райліту альбо цэнзару Галоўлітбела (у цэнтральных газетах) на прагляд кожны нумар газеты ў звярстаных палосах перад пускам яе на друкарскую машыну. Рэдактары павінны былі быць пільнымі, каб не прайшло тое, што выкрэслена райлітам. За рэдактарамі пакідалася права абскардзіць заўвагі райліта, пасля іх выканання, у райкаме КП(б)Б альбо Галоўлітбеле. Асобныя пункты цыркуляра патрабавалі павышэння якасці мастацкага афармлення газет і дысцыпліны ў друкарнях [33, арк. 98].

Нарэшце, у лютым 1935 г. была прынята пастанова ЦК КП(б)Б «Аб фактах контррэвалюцыйных зіноўеўска-трацкісцкіх скажэнняў на старонках газет "Окцябер", "Дэр юнгер арбетэр", "Орка" і "Бальшавіцкі змагар"[30]». У ёй

гаварылася пра «засмечанасць апаратаў некаторых газет і асабліва друкарань антысавецкімі элементамі». Маўляў, у выніку іх падрыўной дзейнасці ў газеце «Дэр юнгер арбетэр» ад 25 студзеня 1935 г. замест «трацкісцкае ахвосце» было надрукавана «соцыялістычнае ахвосце»; у газеце «Окцябер» за 30 студзеня ў дакладзе Молатава замест «будуюць соцыялістычнае грамадства» — «будуюць капіталістычнае грамадства»; пры наборы газеты «Дэр юнгер арбетэр» за 31 студзеня ў тэксце замест слоў «ленінска-сталінскай большэвіцкай партыі» было набрана «ленінска-трацкісцкай большэвіцкай партыі»; у газеце «Бальшавіцкі змагар» у перадавым артыкуле, прысвечаным ленінскім дням, замест слоў «над гробам Леніна» было надрукавана «над гробам Сталіна». Па выніках гэтай пастановы была праведзена кадравая чыстка ў друкарні імя Сталіна, дзе выраблялiся тыражы газет «Окцябер», «Дэр юнгер арбетэр» і «Орка». Рэдактар газеты «Бальшавіцкі змагар» быў выключаны з партыі і звольнены з працы. Упаўнаважаны Галоўлітбела па друкарні Ліўшыц быў выкліканы на парткалегію, карэктар Штрыкман звольнены з работы і выключаны з партыі, лінаціпіст Бернштэйн аддадзены пад суд [34, арк. 488]. У 1930-я гг. улада ўжо разглядала друкарні не як гаспадарчыя, а палітычныя ўстановы.

Бюракратычны стыль кіраўніцтва перыядычным друкам з боку партыйных органаў нярэдка крытыкаваўся рэдактарамі на шматлікіх прафесійных сходах. Адзін з удзельнікаў Усебеларускай нарады рэдактараў газет, якая адбывалася ў 1937 г., так апісвае спробу групы рэдактараў раёнак параіцца па шэрагу пытанняў з загадчыкам аддзела друку і выдавецтваў ЦК КП(б)Б М. В. Казюком: «Прыйшлі першы раз тав. Казюк нас не прыняў. Другі раз прыйшлі паразмаўляць некалькі хвілін і вось што ён гаварыў: “Вы з трацкістамі не мелі сувязі? Не п’янствуеце?” Гэта ёсць

вывучэнне кадраў» [40, арк. 60]. На нарадзе рэдактараў абласных і раённых газет, якая адбылася ў ЦК у тым жа 1937 г. рэдактар крупскай раёнкі Казлоў зноў узняў праблему партыйнага кіраўніцтва друкам: «Я лічу, што аддзела друку мы не адчуваем, ён безабразна кіраваў намі, абмяжоўваючыся тым, што раз на месяц дасылаў цэдулку, да і толку ніякага не было ад тэй цэдулкі» [41, арк. 19].

Атмасферу, якая панавала ў рэдакцыях беларускіх газет у сярэдзіне 1930-х гг., перадаюць два наступныя сюжэты. 20 лютага 1935 г. адказны рэдактар газеты «Звязда» М. К. Сцернін (Багдановіч) накіраваў у ЦК КП(б)Б ліст, у якім паведамляў, што ў газеце ад 18 лютага «Узорны статут сельгасарцелі» быў надрукаваны з памылкаю. У сказах «У члены арцелі не прыймаюцца кулакі. У члены арцелі могуць уступаць усе працоўныя, як жанчыны, так і мужчыны, дасягнуўшыя 16-гадовага ўзросту» былі прапушчаны падкрэсленыя словы. М. К. Сцернін усклаў віну за гэту памылку на метранпажа Перакладнева, паведаміўшы, між іншым, партыйнаму кіраўніцтву, што апошні «…быў у 1933 г. выключаны пры чыстцы з партыі за сувязь з класава-чужым элементам. Брат Перакладнева быў высланы за антысавецкую работу. Лічучы, што гэта можа быць не выпадковай “памылкай”, а актам шкодніцтва ў адносінах да “Звязды” (падобныя “памылкі” у Перакладнева былі і раней), рэдакцыя зняла Перакладнева тэрмінова з працы і справу аб ім перадала ў НКУС». Далей М. К. Сцернін паведамляў, што ў бліжэйшыя дні ён распачне праверку ўсіх супрацоўнікаў рэдакцыі, выдавецтва і друкарні, таму што, паводле звестак, сярод іх — шэраг былых членаў партыі, класава-чужых элементаў і асоб, якія прыбылі з-за мяжы [33, арк. 150]. Класавая пільнасць не ўратавала рэдактара галоўнай газеты рэспублікі ад расправы — у жніўні 1936 г. ён быў звольнены з працы, а ў чэрвені 1938 г. арыштаваны.

Падобнае здарэнне адбылося напрыканцы 1935 г. у рэдакцыі ушацкай райгазеты «Прымежны калгаснік». Рэдактар газеты Берман, імкнучыся пазбегнуць памылак друку, па тры — пяць разоў перачытваў гранкі. Гэта выклікала незадавальненне машыніста друкарні Сакалова, таму што друкаванне газеты зацягвалася за поўнач. А 7 снежня Берман быў асабліва ўважлівы. Наступнай раніцай выходзіў нумар з выступленнем Сталіна на нарадзе камбайнераў, і вычытваць яго трэба было пяць разоў, што канчаткова вывела з сябе Сакалова. Ён вырашыў адпомсціць Берману і начальніку друкарні Баскіну («я ім атамшчу, падстрою штуку») і замест імя «Сталін» набраў «Сралін». Па выніках следства, якое праводзілася НКУС, нумар газеты быў адабраны, Берман звольнены і выключаны з партыі, начальнік райліта Церахаў зняты з работы з вымовай, Сакалоў арыштаваны [37, арк. 135].

Пачынаючы з мая 1937 г. уся прадукцыя беларускага аддзялення Саюзфота (фотаздымкі і анатацыі да іх), якая прызначалася для перыядычных выданняў, таксама кантралявалася Галоўлітам і АВЦ БССР. Негатывы фотаздымкаў, затрыманыя цэнзурай, падлягалі неадкладнаму знішчэнню. Прыём заказаў ад грамадскіх арганізацый і прыватных асоб, акрамя фотаздымкаў асабістага характару, Белсаюзфота ажыццяўляла таксама толькі з дазволу Галоўліта. Гэта практыка была ўведзена пасля таго, як супрацоўнікі Белсаюзфота па замове польскага консульства надрукавалі серыю здымкаў першамайскага ваеннага парада 1937 г. у Мінску. Начальнік Галоўліта і АВЦ БССР І. Л. Ахрамовіч убачыў у гэтым варожую вылазку, пра што паведаміў беларускаму партыйнаму кіраўніцтву і распарадзіўся прызначыць супрацоўніка Белсаюзфота, адказнага за знішчэнне і праўку небяспечнага матэрыялу [43, арк. 109].

У выніку абюракрачвання газеты адарваліся ад

рэальнага сацыяльнага кантэксту. А журналісты, асабліва нізавога ўзроўню, працавалі ў такіх дрэнных умовах, што нават цяжка ўявіць, як ім можна было выконваць задачы, якія ставіліся перад прэсай. Раённыя газеты не былі забяспечаны памяшканнямі, тэхнікай, кадрамі. Вось як апісваў сваё становішча рэдактар адной з раёнак: «…я асабіста, як кіраўнік партыйнай школы ў горадзе павінен вывучаць канстытуцыю, акрамя таго я выдзелены ў вёску. У нас ёсць кружок — я выкладчык секцыі, трэба там выкладаць. Кірую агітработай у калгасе, які знаходзіцца за 25 кіламетраў. Акрамя таго на пасяджэнні бюро трэба прысутнічаць. Я вымушаны пісаць артыкулы пры такой-та загрузцы, нет магчымасці падумаць, а ведь райкампартыі гэтага не ўлічвае» [40, арк. 12]. Другі рэдактар падае яшчэ больш цяжкую карціну сваёй штодзённай працы: «Намесніка ў мяне няма, быў, але знялі яго з працы. Зараз працуем удваіх без сродка транспарта. Дапамогі ніякай няма. Памяшканне Ўваравіцкай раённай газеты — гэта памяшканне, якое 20 гадоў таму было вязніцай, потым — пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі — гэта памяшканне было моргам. Я напісаў у "Звязду", але "Звязда" толькі праз 3 месяцы змясціла наш ліст. Напісаў я ў аддзел друку (праўда, тады там былі людзі, якія праводзілі шкодніцкую палітыку) і мне адказалі, што я магу са сваею паперкаю адпраўляцца» [41, арк. 33].

Беларускіх журналістаў спасціглі масавыя палітычныя рэпрэсіі. Паводле няпоўных даных, 14 з 28 рэдактараў «Звязды» былі абвешчаны «ворагамі народа», 10 з іх расстраляны [56]. У 1930 г. па справе СВБ быў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў лагераў член рэдакцыі «Звязды» П. Я. Жаўрыд. Былі рэпрэсаваны загадчык культаддзела «Звязды» М. Я. Розэнблюм і літсупрацоўнік часопіса «Полымя Рэвалюцыі» К. Ф. Зарэмбоўскі. У маі 1934 г. у ноч з 17 на 18 мая расстралялі загадчыка сектара друку ЦК А. Г.

Капуцкага, загадчыка аддзела міжнароднай інфармацыі газеты «Звязда» А. М. Мікалаева-Астравецкага. У ноч на 29 кастрычніка 1937 г. сярод іншых прадстаўнікоў беларускай інтэлектуальнай эліты былі расстраляны вядомыя журналісты П. П. Шастакоў, П. І. Іспраўнікаў і В. А. Воінаў. У 1938 г. па абвінавачанні ў контррэвалюцыйнай дзейнасці расстралялі журналіста І. І. Шыпілу. У жалобным спісе беларускіх публіцыстаў, якія загінулі ў сталінскіх засценках, аднымі з першых значацца імёны арганізатараў і кіраўнікоў сацыялістычнага перыядычнага друку БССР. У 1930 г. па справе СВБ быў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў лагераў (расстраляны ў 1937 г.) загадчык аддзела друку ЦК А. Ф. Адамовіч. І тым не менш, у маі 1938 г. на старонках газеты «Літаратура і мастацтва» загадчык аддзела друку і выдавецтваў ЦК КП(б)Б У. Н. Малін, змяніўшы на гэтай пасадзе арыштаванага М. В. Казюка, зноў ставіў задачу «…далейшага ачышчэння кадраў работнікаў друку ад прытуліўшыхся і пакуль яшчэ нявыкрытых ворагаў і іншых чужых элементаў» [14, с. 2].

Яскравую характарыстыку работы тагачаснай беларускай прэсы мы знаходзім у рабоце А. Т. Калубовіча «Айцы БССР і іхны лёс», дзе ёсць фрагменты мемуарнага характару: «Назаўтра [17 чэрвеня 1937 г. — *А. Г.*] упоўдзень (пра сьмерць А. Чарвякова публічна яшчэ нічога не было вядома) я йшоў Савецкай вуліцай у кірунку тэатральнага сквэра. Выпадкам з рэдакцыі газэты “Звязда” выходзіць мой добры знаёмы, паэт Р. К., які працуе там за стыльрэдактара. Пад вялікім сакрэтам ён расказвае мне, што калі чарговы нумар газэты быў аддрукаваны поўным тыражом, уначы пазванілі з Дому ўраду [там у той час знаходзіўся Галоўліт і АВЦ БССР. — *А. Г.*], загадалі цэлы тыраж затрымаць, а ў газэту на апошняй, 4-ай балоне пэтытам набраць паведамленьне з аднаго сказу: “Учора пакончыў самагубствам старшыня ЦВК СССР і БССР А. Р. Чарвякоў”.

Калі газэта (з спазьненьнем!) была аддрукаваная нанова, а экспэдыцыя сьпяшалася пакаваць яе на рассылку, з Дому ўраду пазванілі ізноў. Загадалі затрымаць і гэты тыраж, цалкам яго зьнішчыць, а ў паведамленьне пра самагубства А. Чарвякова ўставіць словы: "… на глебе сямейных непаразуменьняў"» [8, с. 127].

Водгук рэпрэсій 1930-х гг. мы знаходзім у партыйных дакументах таго часу, у якіх аддзел друку ЦК крытыкуецца за неўкамплектаванасць рэдакцый газет кіраўнічымі кадрамі. У сярэдзіне 1930-х г. рэпрэсіі паставілі шэраг перыядычных выданняў перад пагрозай закрыцця. У спецыяльным паведамленні сакратару ЦК УсеКП(б) М. І. Яжову і загадчыку аддзела друку і выдавецтваў ЦК УсеКП(б) Б. М. Талю ад 17 верасня 1936 г., цалкам прысвечаным гэтай праблеме, сакратар ЦК КП(б)Б М. Ф. Гікала пісаў: «Калі ў папярэднія гады ЦК КП(б)Б спрабаваў усялякімі шляхамі вырашыць пытанні аб супрацоўніках на месцы (перасоўванне працаўнікоў, прасоўванне нават слаба падрыхтаваных працаўнікоў на кіраўнічую работу і інш.), дык сёння мы гэтыя магчымасці выкарысталі і гэта тым больш, што нам адразу ж спатрэбіцца вялікая колькасць падрыхтаваных працаўнікоў. У бягучы час не хапае каля 70 кіраўнічых працаўнікоў друку. У цэнтральнай газеце "Звязда" акрамя адказнага рэдактара, аб якім мы ўжо ўздымалі пытанне, патрэбны пяць загадчыкаў аддзелаў. У рэспубліканскай газеце "Рабочы" маецца з кіраўнічых працаўнікоў толькі адзін рэдактар». Праблема недахопу журналісцкіх кадраў не вырашалася нават з дапамогай створанага ў 1932 г. у Мінску на базе газетнага аддзялення КамВНУ Камуністычнага інстытута журналістыкі [39, арк. 19].

Устаноўка на пераўтварэнне журналістыкі ў зброю партыйнай прапаганды асабліва энергічна насаджалася ў сувязі з выхадам у 1938 г. «Кароткага курса гісторыі

УсеКП(б)». У гэты час палітыка-ідэалагічны кантроль над СМІ дасягае свайго апагея. 2 снежня 1938 г. пасля аналагічнага дакумента, прынятага ў Маскве, члены бюро ЦК КП(б)Б аднадушна прагаласавалі за пастанову «Аб мерапрыемствах па перабудове партыйнай прапаганды ў сувязі з выпускам "Кароткага курса гісторыі УсеКП(б)"». У частцы, якая тычылася перыядычнага друку, гаварылася пра стварэнне аддзелаў прапаганды ў рэспубліканскіх («Звязда», «Савецкая Беларусь», «Окцябер», «Сталінская моладзь», «Чырвоная змена») і ў абласных газетах «Камунар Магілёўшчыны», «Гомельская праўда», «Віцебскі рабочы» і «Бальшавік Палесся» (орган Мазырскага абласнога і гарадскога камітэтаў КП(б)Б і савета народных дэпутатаў). Рэдактары гэтых газет, а таксама аддзел прапаганды і агітацыі ЦК абавязваліся забяспечыць новыя аддзелы кадрамі лектараў-прапагандыстаў і кансультантаў. Акрамя таго, планавалася перабудаваць работу часопіса «Бальшавік Беларусі» (орган ЦК КП(б)Б, выдаваўся з 1922 г. пад назвай «Наперад», з 1927 г. – «Бальшавік Беларусі», з 1952 г. – «Камуніст Беларусі»), з тым каб на яго старонках асвятляліся галоўным чынам пытанні марксізму-ленінізму [44, арк. 1]. Такім чынам, за перыядычнымі выданнямі дэ-факта быў замацаваны статус сродкаў партыйнай прапаганды, якімі яны насамрэч ужо з'яўляліся на працягу папярэдняга дзесяцігоддзя.

Да 1939 г. была праведзена ўніфікацыя справаводных дакументаў Галоўліта. Вось як выглядаў адзін з іх, які ўжо быў выраблены тыпаграфскім спосабам і запаўняўся па выніках работы ўпаўнаважанымі Галоўліта БССР у рэдакцыях газет.

ЗВОДКА

парушэнняў ваенных і ваенна-эканамічных тайнаў, знойдзеных у друку БССР падчас папярэдняга кантролю за красавік 1939 г.

| №№ п/п | Назва друкаванага выдання, кім выдаецца, яго дата і нумар | Прозвішча цэнзара | Кароткі змест парушэння | Прычына выкрэслівання | Заўвага |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Газета «КІМАВЕЦ», орган парткама ф-кі «КІМ» № 29 ад 5/IV-39 г. | Прахаў | У артыкуле «Лепшыя метады стаханаўскай работы — у масы» было надрукавана: «Барацьба за ліквідацыю працоўнай дысцыпліны». Трэба чытаць: «За ліквідацыю парушэнняў працоўнай дысцыпліны» | Палітычнае скажэнне | |
| 2. | Газета «Віцебскі рабочы», орган Віцебскага абкама і гаркама КП(б)Б, № 88, ад 17/IV-39 г. | Прахаў | У перадавой пад назвай «Героі вялікага народа» было надрукавана: «З імем Сталіна у думках штурмуюць савецкія людзі непрыступныя цвярдыні партыі». Павінна быць Арктыкі | Палітычнае скажэнне | |
| 3. | Газета «Віцебскі рабочы», орган Віцебскага абкама і гаркама КП(б)Б, № 80, ад 8/IV-39 г. | Прахаў | У артыкуле «Радасна жыць у краіне Сталінскай канстытуцыі» надрукавана: «Карэнным чынам змянілася сталінскае жыццё пры калгасным будаўніцтве». Павінна быць «сялянскае» | Палітычнае скажэнне | |

в. а. нач. Віцебскага абліта Вайман

[48, арк. 6].

Умяшальніцтва цэнзуры ў работу перыядычных выданняў, безумоўна, не зводзілася да папраўкі памылак друку. Прыклад цэнзурных абмежаванняў па зместавых,

ідэалагічных прыкметах дае інфармацыйны ліст начальніка гомельскага аблліта Бельцэра ў аддзел прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б, датаваны 23 студзеня 1941 г. У ім у якасці прыкладаў варожых вылазак прыводзіцца артыкул «Роля бацькоў і сям'і ў выхаванні дзяцей», надрукаваны ў органе Веткаўскага райкама КП(б)Б «За бальшавіцкія тэмпы», дзе аўтары сцвярджалі, што «…сіла прывычкі, аўтарытэт бацькоў часта аказваюцца настолькі моцныя, што школа адчувае вялікія цяжкасці, а часам бяссілле ў перавыхаванні такіх дзяцей». Бельцэр каментуе гэтую думку наступным чынам: «Так адной непрадуманай фармулёўкай газета распраўляецца не толькі з тэарэтычымі ўстаноўкамі і вопытам знакамітага савецкага педагога Макаранка, але і ўсёй савецкай выхаваўчай сістэмай». У артыкуле пад назвай «Аб справах у калгасе імя Молатава», змешчаным у тым жа выданні, на думку гомельскага цэнзара, усе людзі калгаса былі паказаны ў абсалютна чорных фарбах — «у гэтым калгасе станоўчых паказчыкаў і поспехаў калгаснікі не бачылі», «тут як не ступіў крок, абавязкова заўважыш парушэнне статута сельскагаспадарчай арцелі, або спаткаешся з калгасным злодзеем» [50, арк. 2–6]. А матэрыялы, апублікаваныя ў СМІ напрыканцы 1936 г., выклікалі спецыяльную пастанову бюро ЦК КП(б)Б «Аб газеце "Літаратура і мастацтва"». Гутарка ў ёй ішла аб пакаранні членаў рэдкалегіі газеты за выпуск 7 лістапада святочнага нумары газеты, у якім былі надрукаваны артыкулы Б. Мікуліча і С. Куніцкага, арыштаваных у тым жа месяцы як «ворагі народа» [10].

8 мая 1937 г. Старшыня Дзяржплана БССР А. М. Любовіч накіраваў першаму сакратару ЦК КП(б)Б В. Ф. Шаранговічу (праз два месяцы абодва былі арыштаваны і пазней расстраляны) нататку, дзе выкладаліся вынікі работы брыгады пры кафедры планавання Інстытута народнай гаспадаркі імя Куйбышава. Мэтай стварэння брыгады была

праверка эканамічнай літаратуры, выдадзенай за апошняе дзесяцігоддзе ў БССР для выяўлення «…асобаў, частка якіх знаходзіцца яшчэ і сёння на працы, якія праводзілі нацдэмаўскія, трацкісцкія і іншыя шкодныя ўстаноўкі». Толькі аналіз часопіса «Сацыялістычнае будаўніцтва» даў магчымасць выявіць значную колькасць «ворагаў». Так, аўтар артыкула «Аб НЭПе, плане, рынку і правым ухіле» (1929. № 9. с. 33), лічыў, што рынак рэгулюе грамадскую вытворчасць. Аўтар артыкула «Да пабудовы пяцігадовага перспектыўнага плана» (1928. № 6. С. 14) сцвярджаў, што пяцігадовы план ёсць перапляценне прагнозу і дырэктывы. У артыкуле «Стан жывёлагадоўлі Беларусі ў 1928 годзе» (1928. № 2–3. С. 130) праводзілася думка аб тым, што серадняцкія гаспадаркі, якія апынуліся перад фактам двайнога падаткаабкладання, з мэтай пазбаўлення ад яго ліквідавалі сваю жывёлу. Нарэшце, матэрыял пад назвай «Ці багата Беларусь лесам?» (1928. № 2–3. С. 38) таксама выклікаў падазронасць, бо аўтар выказаў думку пра тое, што беларускія лясныя багацці без абмежаванняў вывозяцца за межы рэспублікі [42, арк. 4–38].

Асаблівасцю савецкага перыядычнага друку 1920– 1930-х гг. была яго фармальная адкрытасць для крытыкі. Партыйныя органы увесь час патрабавалі ад газет публікацыі крытычных і самакрытычных матэрыялаў :

«…большасць беларускіх газет бяззубыя, прэсныя, … сякія-такія звёны нашага апарату трэба па-сапраўднаму прабраць у газеце» (першы сакратар ЦК КП(б)Б В. Г. Кнорын, 1928 г.) [23, арк. 189–211], «…у галіне разгортваньня самакрытыкі мы маем шэраг выпадкаў няправільнага падыходу з боку нашага друку. Мы мелі зусім недапушчальнае проціпастаўленьне газэт партыйнаму кіраўніцтву, спробы стаць над партыйным кіраўніцтвам з боку газэт. Мы мелі некаторыя выпадкі пагоні за сэнсацыяй замест разгортваньня бальшавіцкай самакрытыкі, там-сям

замест гэтага выпадкі бульваршчыны і г. д.» (другі сакратар ЦК КП(б)Б В. Ф. Шаранговіч, 1932 г.) [31, арк. 240]. Але гэта быў не проста прапагандысцкі ход. Пошукі асобных недахопаў, якія чаргаваліся з кампаніямі супраць «ворагаў народа», не толькі накіроўвалі грамадскія эмоцыі ў падрыхтаванае рэчышча (толькі ў «Звязду» штодня прыходзіла больш за 100 крытычных лістоў, якія абагульняліся і дасылаліся ў ЦК у выглядзе «рапартаў»), але павышалі мабілізацыйныя магчымасці сістэмы, яе ўстойлівасць, імунітэт.

Патрабаванне партыйнага кіраўніцтва ўзмацняць крытыку і самакрытыку ставіла рэдактараў перыядычных выданняў перад адвечным пытаннем: каго вышэйшага за домакіраўніка дазволена крытыкаваць? Вось як апісвалі свой вопыт крытыкаваць мясцовае начальства ўдзельнікі Усебеларускай нарады рэдактараў газет 1937 г.: «Канешне мы ў раёне кіруючых работнікаў павінны крытыкаваць… Калі крытыкуеш, кажуць брава рэдакцыя, што крытыкуеш, а тут адразу ж па тэлефоне выклікаюць у райкам. Тут ён табе гаворыць, што трэба было маўчаць, пакуль не ўрэгулюем» [40, арк. 21]; «Калі мы пачалі змагацца за партарганізацыю фабрыкі “Спартак” і пачалі гаварыць на поўны голас, прыйшоў упаўнаважаны з распараджэннем і паведаміў, што ад гэтага дня не дазволіць выхад газеты, калі будзе матэрыял на парткам. Я пайшоў да сакратара райкама і мне закацілі вымову… Пісаў я пра гэта ў газету “Рабочы”. Там шлі за ўсялякай кансультацыяй у аддзел друку» [40, арк. 64]; «Я прыехаў у Вушачы — прымежны раён, адразу ж звярнуўся да сакратара з прозьбай — азнаёмце мяне з партыйнымі арганізацыямі, дзе якія камуністы ёсць, дзе добрыя, дзе дрэнныя. Ён кажа — прабачце, гэта сакрэт» [39, арк. 101].

Напрыканцы разглядаемага перыяду атмасфера татальнага страху ў краіне дасягнула свайго апагею і

закранула саміх цэнзараў. Пра гэта сведчыць загад начальніка Галоўліта і аддзела ваеннай цэнзуры БССР П. Я. Фралова, выдадзены 6 мая 1941 г., дзе размова ішла пра «цэнзараў-бракадзелаў», якія зрабілі няслушныя выкрэсленні «ў парадку перастрахоўкі» [50, арк. 19].

У апошнім мірным 1940 г. у БССР пад цэнзурны кантроль падпадала 8 рэспубліканскіх, 6 абласных, больш 100 раённых, 90 фабрычна-заводскіх, 15 тысяч насценных газет і 4 часопісы. Аб'ектам найбольшай увагі цэнзараў была газета «Звязда», якая выходзіла рэкордным для рэспублікі тыражом — каля 100 тысяч асобнікаў [47, арк. 43]. Акрамя таго, пад цэнзарскі кантроль было пастаўлена Беларускае тэлеграфнае агенцтва, якое таксама было павінна візіраваць у Галоўліце ўсе матэрыялы, прызначаныя для газет і радыё.

Друкаваныя СМІ БССР, пераўтвораныя на працягу 1920–1930-х гг. у частку палітыка-прапагандысцкай машыны, зрабіліся аб'ектам найпільнейшай увагі з боку кантралюючых органаў. Ідэалагічны канфармізм быў узведзены ў прынцып «Што афіцыйна не ўхвалена — тое забаронена». Цэнзура пераўтварала газеты і часопісы ў частку партыйнай прапагандысцкай машыны, якая разбурала творчы патэнцыял журналістаў. Газетам і часопісам таго часу былі ўласцівы лаканічная і экспрэсіўная мова, загалоўкі плакатнага характару, даступныя для шырокіх, малапісьменных мас насельніцтва; выкарыстанне аднатыпнага набору адмоўных вобразаў ворагаў савецкай улады; публікацыя вялікай колькасці ананімных альбо падпісаных псеўданімамі нататак; публікацыя свядома скажонай інфармацыі, якая была падмуркам для рэпрэсіўных дзеянняў супраць узгаданых у ёй асоб. Большасць цэнзурных забарон у перыядычным друку БССР, кваліфікаваных як палітычныя дыверсіі, былі звычайнымі памылкамі друку. Многія журналісты і тэхнічныя работнікі друкарняў заплацілі за гэтыя памылкі не толькі кар'ерай,

але свабодай і нават жыццём.

Даследаванні псіхолагаў сведчаць пра магутную сілу ўздзеяння голасу без вобраза на падсвядомасць чалавека. Гэты ўнікальны псіхалагічны феномен быў на поўную моц выкарыстаны савецкай уладай адразу ж пасля 1917 г. Кіраўнікі савецкай дзяржавы карысталіся і больш прагматычнымі меркаваннямі — значная частка насельніцтва краіны была непісьменнай, а гэта значыць недасягальнай для традыцыйных друкаваных СМІ[31]. Агульнавядома ўвага, з якой ставілася да радыё кіраўніцтва партыі і ўрад, у т. л. асабіста Ленін. На працягу 1920–1930-х гг. радыё стала магутнай ідэалагічнай зброяй, інструментам шырокай агітацыі і прапаганды ўнутры краіны і па-за яе межамі.

Расійская даследчыца Т. М. Гараева падзяляе працэс станаўлення палітычнага кантролю савецкага радыё на наступныя перыяды:

1. «Ваенна-тэхнічны», абумоўлены ўмовамі і задачамі Грамадзянскай вайны (1917–1920 гг.);
2. «Пошукавы», калі формы і метады радыёвяшчання былі аб'ектам дыскусій і эксперыментаў (1921–1924 гг.);
3. «Аптымальны», вызначаны развіццём радыёсправы ў структуры акцыянернага таварыства «Радыёперадача» (1924–1928 гг.);
4. «Ведамасны», вызначаны прыналежнасцю радыёвяшчання Народнаму камісарыяту пошты і тэлеграфа (НКПіТ), а затым Народнаму камісарыяту сувязі СССР (1928–1933 гг.);
5. «Дзяржаўны», калі ўся радыёсправа была перападпарадкавана Радыёкамітэту пры СНК СССР (1933–1941 гг.) [5, с. 55].

У 1924 г. у Маскве было створана Усесаюзнае акцыянернае таварыства «Радыёперадача». Яго заснавальнікі ў асобах Расійскага тэлеграфнага агенцтва,

Народнага камісарыята пошты і тэлеграфа СССР (НКПіТ), Трэста заводаў слабых токаў і некаторых іншых арганізацый мелі на мэце аб'яднанне ўсёй радыёсправы ў СССР, арганізацыю шыракавяшчання, будаўніцтва і эксплуатацыю радыёстанцый, гандаль радыёапаратурай і іншую дзейнасць камерцыйнага характару. Ужо на працягу першага года свайго існавання «Радыёперадача» распачала эксплуатацыю радыё-тэлефонных станцый у Ленінградзе, Свярдлоўску, Растове, Тыфлісе, Харкаве, Мінску.

Апошняя станцыя, названая імем СНК БССР, пачала рэгулярнае вяшчанне на тэрыторыі БССР 15 лістапада 1925 г. Ужо праз месяц, 22 снежня 1925 г. ЦК КП(б)Б пастанавіў арганізаваць пры сваім агітацыйна-прапагандысцкім аддзеле радыёкамісію, у абавязкі якой уваходзіла прапаганда радыё ў горадзе і вёсцы, ідэйна-палітычнае кіраўніцтва работай «Радыёперадачы» і беларускага аддзялення Таварыства сяброў радыё (існавала з 1924 г.), прызначэнне кіраўнікоў радыёвяшчання, рэдактараў, зацвярджэнне структуры сеткі вяшчання [17, арк. 20]. Вось як, напрыклад, выглядала праграма радыёперадач на сакавік 1926 г.:

1) радыёгазеты (кожны дзень);
2) канцэрты (3 разы на тыдзень);
3) радыёўніверсітэт (3 разы на тыдзень);
4) палітычны даклад (1 раз на тыдзень) [21, арк. 3].

На працягу ўсяго перыяду існавання «Радыёперадачы» яе ўпаўнаважаным у БССР быў А. М. Канакоцін, які да гэтага з'яўляўся партработнікам нізавога ўзроўню. Пры ўпаўнаважаным існаваў савет, куды ўваходзілі прадстаўнікі ад ЦК КП(б)Б, ЦК ЛКСМБ, Галоўпалітасветы, НКПіТ.

13 сакавіка 1926 г. у эфіры прагучаў першы выпуск «Беларускай радыёгазеты». Яе структура выглядала наступным чынам: 1. Навіны з-за мяжы (Заходняй Беларусі); 2. Па БССР; 3. Партыйнае жыццё; 4. Рабочае жыццё; 5.

Навіны вёскі; 6. Па Мінску (хроніка, тэатр, кіно, суд і да т. п.); 7. Фізкультура; 8. Паведамленні; 9. Паштовая скрыня. Раз на два тыдні перадаваліся яўрэйскі, польскі, латышскі аддзелы, а таксама аддзел «Па СССР», які трансліраваўся з Масквы на рускай мове [18, арк. 376].

На працягу гэтага ж года пачынаюць выходзіць зарыентаваныя на іншыя групы насельніцтва радыёгазеты «Беларуская вёска», «Чырвоная змена», «Піянер Беларусі». Рэдакцыі радыёгазет выкарыстоўвалі ў сваёй рабоце традыцыйныя газетныя жанры, а таксама актыўна стваралі новыя — інфармацыйныя нататкі, карэспандэнцыі, інтэрв'ю, радыёрэпартажы. Пры гэтым выкарыстоўваліся як арыгінальныя матэрыялы, падрыхтаваныя непасрэдна ў рэдакцыях радыёгазет, так і матэрыялы прэсы і агенцтваў. У адсутнасці гуказапісваючай апаратуры першыя беларускія радыёжурналісты працавалі выключна ў прамым эфіры[32]. Да 80 % вяшчання ў другой палове 1920-х гг. вялося на беларускай мове. Параўнанне радыёінфармацыі з друкаванай красамоўна сведчыць пра галоўную перавагу першай — аператыўнасць. Гэта якасць набывала асаблівае значэнне, калі ўлічыць, што ў некаторыя раёны БССР у 1920-я гг. газета трапляла праз некалькі дзён.

Радыёгазеты, якія можна разглядаць як найвышэйшае дасягненне айчыннай радыёжурналістыкі гэтага перыяду, займалі цэнтральнае месца ў вяшчанні, але не былі яго адзінай формай. Перад мікрафонам з'яўляліся артысты, паэты, вучоныя. Трансліраваліся дэманстрацыі, з'езды, вечарыны, сходы. У 1928 г. быў адкрыты радыёўніверсітэт, пераўтвораны праз два гады ў Інстытут завочнага навучання па радыё (у 1931 г. быў расфарміраваны як неэфектыўны з пункту гледжання адукацыі). Кіраўніцтва «Радыёперадачы» абмяркоўвала ўключэнне ў сетку вяшчання матэрыялаў рэкламнага характару. Важнае месца ў эфіры 1920-х гг. займалі карэспандэнцыі рабселькораў. Большасць народных

матэрыялаў вылучалася актуальнасцю і вастрынёй.

Рабселькораўскі рух пагражаў пераўтварыцца ў небяспечную альтэрнатыву сістэме дзяржаўнай прапаганды, якая не трывала імправізацый. У жніўні 1927 г. па ініцыятыве радыёкамісіі ЦК КП(б)Б з мэтай папулярызацыі радыё адбыўся агульнарэспубліканскі радыёдзень.

5 сакавіка 1928 г. бюро ЦК КП(б)Б прыняла пастанову па далейшым разгортванні радыёфікацыі і радыёвяшчання. У ёй гаварылася пра неабходнасць пашырэння калектыўных формаў карыстання радыё ў месцах пражывання і адпачынку грамадзян (гукаўзмацняльнікі на вуліцах гарадоў, чырвоных кутках, клубах, установах адукацыі, аховы здароўя). У тым жа месяцы ЦК склікаў у Мінску рэспубліканскую партыйную нараду работнікаў радыё. На ёй таксама абмяркоўваліся пытанні пашырэння кола радыёслухачоў. Разам з тым, у рашэннях нарады мы знаходзім рэзкія крытычныя выпады ў адрас супрацоўнікаў радыё за іх адарванасць ад жыцця, вузкасць тэматыкі іх перадач і інш. [55, с. 28].

На працягу другой паловы 1920-х гг. палітыку партыі на радыё праводзіла Галоўнае ўпраўленне палітычнай асветы (Галоўпалітасвета) Народнага камісарыята асветы БССР, якое кіравала ўсёй агітацыйна-прапагандысцкай работай у рэспубліцы. Галоўпалітасвета кантралявала змест і праграмы перадач і нават пытанні па арганізацыі вяшчання. У прыватнасці, супрацоўнікі ўпраўлення арганізоўвалі закупку радыёпрыёмнікаў, папулярызавалі радыё ў акругах праз стварэнне радыёкуткоў і гурткоў прыхільнікаў радыё. Старшыня «Радыёперадачы» А. М. Канакоцін быў абавязаны рабіць рэгулярныя справаздачы на нарадах інспектуры Галоўпалітасветы, а старшыня Галоўпалітасветы прадстаўляў на пасяджэннях савета «Радыёперадачы» не толькі ўласнае ведамства, але і ЦК КП(б)Б [52, арк. 23]. Кантраляваў радыёпрадукцыю Галоўлітбел [51, арк. 1].

Спецыфіка доступу да радыёінфармацыі савецкага насельніцтва вызначалася не толькі зместам перадач, але і ўмовамі карыстання радыёпрыёмнікамі прыватнымі асобамі[33]. Так, кожны пакупнік прыёмнага прыстасавання быў павінен зарэгістраваць яго ва ўпраўленні сувязі акругі. Пры гэтым трэба было запоўніць разгорнутую анкету: год і месца нараджэння; нацыянальнасць; партыйнасць; сацыяльнае становішча; адукацыя; прафесія; месца жыхарства перад і пасля рэвалюцыі; служба ў войску; прычыны звальнення з апошняга месца працы. Рашэнне аб рэгістрацыі прымалася супрацоўнікамі ўпраўлення сувязі пасля ўзгаднення з мясцовымі паліторганамі. У заяве аб дазволе на ўстаноўку прыёмніка ўладальнік быў павінен указаць радыёстанцыі, якія збіраецца праслухоўваць, прычым прыёмнікі саматужнай вытворчасці трэба было прадстаўляць ва ўпраўленні сувязі акругі на апламбіроўку. Яшчэ больш складаным з'яўляўся парадак рэгістрацыі прыватных радыёпрыёмнікаў у 100-кіламетровай пагранічнай зоне, куды ўваходзіла значная частка тэрыторыі БССР (тут былі добра чутны Варшаўская і Кёнігсбергская станцыі). У гэтым выпадку патэнцыяльнаму ўладальніку трэба было мець трох паручыцеляў — членаў партыі. Устаноўка саматужных прыёмнікаў забаранялася. Непаўналетнія карыстальнікі павінны былі мець дазвол бацькоў ці апекуноў. Падобны парадак рэгістрацыі ў сукупнасці з дэфіцытам дэтэктарных радыёпрыёмнікаў у гандлі і іх высокім коштам прыводзілі да таго, што яны заставаліся маладаступнымі для шырокіх колаў насельніцтва [6, с. 20].

Першапачаткова радыёцэнзура (папярэдняя і наступная) была размеркавана па розных ведамствах. Папярэдні кантроль радыёгазет і мастацка-асветніцкіх праграм рабіў Галоўліт, папярэдні кантроль лекцый і дакладаў — Галоўпалітасвета, наступная ж цэнзура

ажыццяўлялася абодвума ведамствамі сумесна з прадстаўнікамі ДПУ. Калі друкаванае слова да сярэдзіны 1920-х гг. ужо цалкам знаходзілася пад ідэалагічным кантролем, то слова, якое гучала, калі-нікалі даносіла да слухача праўду жыцця. Трансляцыі радыёмітынгаў, выступленні ў прамым эфіры, нягледзячы на ўсе намаганні выключыць магчымасць непрадказальных сітуацый, давалі магчымасць запрошанаму да мікрафона выкласці сваю пазіцыю. Доступ да мікрафона знаходзіўся ў кампетэнцыі радыёвяшчальных арганізацый.

Рэформа радыёвяшчання ў СССР, якая пачалася ў 1928 г., была накіравана на пераход уласнасці радыёвяшчальных арганізацый, перш за ўсё радыёстанцый, з акцыянернай у дзяржаўную з мэтай кантралявання, а ў крайніх выпадках нават адключэння мікрафона. 13 ліпеня 1928 г. Савет працы і абароны СССР прыняў пастанову аб ліквідацыі «Радыёперадачы», і ўся справа радыёвяшчання і радыёфікацыі ўскладалася на НКПіТ. Нягледзячы на тое, што адзяржаўліванне савецкага радыё было аператыўна выканана і супраціў акцыянераў «Радыёперадачы» быў таксама хутка зломлены, унутраная прафесійная абстаноўка ўнутры радыёупраўлення НКПіТ была далёкая ад спрыяльнай для творчасці. Статус другараднай бюракратычнай установы ў складзе напоўваеннага ведамства не задавальняў ні радыёжурналістаў, ні прапагандыстаў ЦК.

Сваім рашэннем ад 21 жніўня 1931 г. Палітбюро ЦК УсеКП(б) вывела радыёвяшчанне са структуры НКПіТ і падпарадкавала яго непасрэдна ЦК, пакінуўшы ў НКПіТ толькі адміністрацыйна-гаспадарчую частку. 7 верасня 1932 г. Прэзідыум ЦВК СССР прымае рашэнне аб падпарадкаванні савецкага радыё Камітэту па радыёвяшчанні пры ЦВК СССР, які быў тады ж утвораны. 1 снежня 1932 г. на пасяджэнні Палітбюро ЦК вырашылі

перадаць Камітэт па радыёвяшчанні СНК СССР. Нарэшце, 31 студзеня 1933 г. пастановай СНК СССР быў утвораны Усесаюзны камітэт па радыёфікацыі і радыёвяшчанні пры СНК СССР, дзейнасць якога цалкам кантралявалася і фінансавалася дзяржавай. Прыналежнасць прыёмна-перадаючых сродкаў Наркамату сувязі СССР была заканадаўча пацверджана. Такім чынам, завяршыўся амаль дзесяцігадовы працэс пошуку арганізацыйных формаў работы савецкага радыё на карысць татальнага партыйнага ідэалагічнага кантролю і дзяржаўнай формы ўласнасці.

Усе змены ў сістэме арганізацыі радыёвяшчання ў БССР паўтаралі маскоўскія. У ліпені 1928 г. мінская радыёстанцыя імя СНК БССР і гомельская радыёстанцыя імя Сталіна перайшлі ад акцыянернага таварыства «Радыёперадача» ва ўласнасць НКПіТ. Аператыўнае кіраўніцтва радыёвяшчаннем у БССР ажыццяўляў Упаўнаважаны НКПіТ па радыёвяшчанні і радыёфікацыі ў БССР. Яму дапамагаў Радыёсавет, які адказваў за палітычны і мастацкі ўзровень перадач, і Радыёцэнтр, супрацоўнікі якога вырашалі ўвесь комплекс тэхнічных пытанняў радыётрансляцыі. 17 красавіка 1932 г. ЦВК БССР выдзеліў радыёвяшчанне з сістэмы сувязі. Для кіраўніцтва радыёвяшчаннем пры Прэзідыуме ЦВК БССР быў створаны Камітэт радыёвяшчання. Выканкамам гарсаветаў і райсаветаў прапаноўвалася выдзеліць па аднаму з членаў іх прэзідыумаў для кіраўніцтва радыёвяшчаннем на месцах. 27 снежня 1933 г. СНК БССР рэарганізаваў Камітэт радыёвяшчання ў Камітэт радыёінфармацыі і радыёвяшчання, які праіснаваў да 1941 г. [4, с. 25].

ЦК КП(б)Б кантраляваў журналісцка-рэдактарскі склад радыёвяшчання, змест перадач і форму падачы матэрыялу з дапамогай загадаў і дырэктыў. Як і іншыя СМІ, радыё актыўна ўдзельнічала ў палітычных кампаніях — прапагандзе пяцігодак, выбарах у Вярхоўны Савет, барацьбе

з ворагамі народа. Да сярэдзіны 1930-х гг. цэнтралізацыя і манапалізацыя творчага працэсу дасягнулі апагея. Практычна ўсе тэкставыя матэрыялы, а таксама каментарыі да музычна-мастацкіх праграм рыхтаваліся ў Маскве ў апараце Усесаюзнага радыёкамітэта, а потым рассылаліся на месцы. А ў 1936 г. у складзе апошняга з'явіўся новы аддзел — мікрафонных матэрыялаў, які займаўся цэнтралізаванай падрыхтоўкай тэкстаў радыёперадач і іх рассылкай для мясцовага вяшчання, у т. л. для радыёстанцый БССР. Гэта павінна было цалкам выключыць магчымасць выхаду ў эфір бескантрольных тэкстаў. Значна скараціўся аб'ём вяшчання на беларускай мове. У 1932 г. былі закрыты радыёгазеты. У 1933 г. ліквідавалі Таварыства сяброў радыё СССР. Замест яго пры ЦК камсамола ўтвараўся Камітэт садзейнічання радыёфікацыі краіны і развіццю радыёаматарства, а пасля ліквідацыі апошняга ў 1935 г. яго функцыі былі перададзены Усесаюзнаму радыёкамітэту. У 1937 г. — спынена практыка правядзення радыёмітынгаў і радыёпераклічак.

Адначасова з узмацненнем палітычнай і арганізацыйнай залежнасці ішло ўмацаванне радыёцэнзуры. Галоўліт і іншыя ўстановы савецкай цэнзуры з'яўляліся інструментам, які выконваў волю галоўнага ідэалагічнага заказчыка. Пры гэтым партыя «вызначала і накіроўвала», органы цэнзуры ажыццяўлялі разгалінаваны кантроль, а ДПУ–НКУС каралі вінаватых у парушэннях цэнзурных забарон.

Пастановай ад 10 студзеня 1927 г. ЦК УсеКП(б) вызначыў абавязковы парадак праходжэння ўсіх эфірных матэрыялаў праз органы Галоўліта. У студзені 1928 г. загадам па праўленні акцыянернага таварыства «Радыёперадача» быў уведзены парадак афармлення мікрафонных тэкстаў з візамі загадчыка аддзела і ўпаўнаважанага Галоўліта. Падлягалі другаснай дазваляльнай візе ўсе змены, якія былі зроблены непасрэдна перад эфірам. Пастанова СНК РСФСР ад 5

кастрычніка 1930 г. дапаўняла практыку папярэдняга прагляду Галоўлітам друкаванай прадукцыі, выставак, лекцый і тэкстаў радыёперадач наступным кантролем. Неўзабаве цэнзарская група радыёвяшчання была пераўтворана ў сектар Галоўліта, які ажыццяўляў выключна папярэднюю цэнзуру цэнтральнага эфіру і кантраляваў работу груп радыёвяшчання, якія існавалі ў структуры аблі гарлітаў. Наступны кантроль над цэнтральным вяшчаннем ажыццяўляла самастойная цэнзарская група пры радыёкамітэце. Для цэнзараў былі створаны спрыяльныя тэхнічныя ўмовы: устаноўлены радыёпрыёмнікі і радыёкропкі на рабочых месцах і ў кватэрах. Са свайго боку кіраўніцтва радыёкамітэта распрацавала дэтальную схему праходжэння матэрыялаў праз цэнзуру, парушэнне якой жорстка каралася. Нарэшце, у 1940 г., пасля перадачы цэнзурнага кантролю над мастацкім радыёвяшчаннем з Галоўрэперткама ў Галоўліт, у руках апошняга былі сканцэнтраваны ўсе віды радыёцэнзуры, што выключала ўсякую магчымасць лавіравання паміж ведамствамі.

Аднак, калі ў Маскве парушэнне альбо нават адхіленне ад усталяваных нормаў кантролю разглядалася як выключная падзея, у сталіцах саюзных рэспублік распараджэнні Галоўліта выконваліся не ў поўным аб’ёме[34], што давала падставы для крытыкі з боку Радыёкамітэта СССР. У справаздачы адказнага інструктара «Радыёперадачы», складзенай пасля праверкі работы радыёстанцый БССР у маі 1928 г., чытаем: «Як правіла, папярэдняя прапрацоўка матэрыялаў нідзе не практыкуецца. Матэрыялы дапускаюцца да мікрафона без грунтоўнай праверкі, як у сэнсе ідэалагічнай вытрыманасці, так і ў рэдакцыйнай... Палітычны прагляд матэрыялаў, як папярэдні, так і наступны нідзе не існаваў. Часта палітычна-невытрыманыя паведамленні праслізвалі міма адказных работнікаў і ў такім выглядзе перадаваліся ў эфір» [24, арк.

5].

У верасні 1930 г. «з мэтай ліквідацыі прарываў у справе радыёвяшчання на месцах», у БССР была накіравана ўдарная брыгада з Масквы. Характарызуючы работу мінскага радыёцэнтра, члены брыгады адзначалі, што «...пра яго музычна-выхаваўчую работу казаць не выпадае, бо рэпертуар складаецца з падазроных народных песен, маларасійшчыны і г. д. ...Нельга не звярнуць увагу яшчэ на адну акалічнасць: да моманта пачатку перадач Белрадыёцэнтр штодня застаецца без адказнага кіраўніцтва. Вядуць усе перадачы дыктары, якія, канешне, пазбаўлены магчымасці ўносіць тыя ці іншыя змены на хаду... Дзяжурнага, палітычна адказнага таксама няма» [29, арк. 203]. Былі таксама спробы рэтрансляцыі раённымі радыёвузламі БССР перадач замежных радыёстанцый, у прыватнасці набажэнствы ў касцёле.

Кіраўніцтвам БССР былі зроблены захады па паляпшэнні сітуацыі. У 1931 г. уведзена ў строй новая трасляцыйная станцыя магутнасцю 30 кВт. Штат супрацоўнікаў беларускага Радыёцэнтра быў павялічаны да 50 чалавек, сярод якіх былі маладыя беларускія літаратары Т. Кляшторны, С. Баранавых, В. Маракоў (усе загінулі падчас сталінскіх рэпрэсій). Пастановай сакратарыята ЦК КП(б)Б ад 21 жніўня 1931 г. у Галоўліце БССР уводзілася спецыяльная пасада цэнзара, які адказваў за радыёвяшчанне. Без яго візы на першай і апошняй старонцы ў эфір не выходзіў ніводны матэрыял. Паказальны той факт, што на пасаду старшыні Радыёкамітэта ў 1931 г. прызначылі былога загадчыка Галоўлітбела Р. К. Шукевіча-Траццякова [30, арк. 176].

З’яўленне прадстаўнікоў цэнзурнага ведамства на радыё адразу ж адбілася на яго рабоце. Пачаліся звальненні рэдактараў, літаратурных супрацоўнікаў, музыкантаў аркестра за палітычныя памылкі, прыналежнасць да

антысавецкіх арганізацый, невыкананне распараджэнняў кіраўніцтва. 17 лістапада 1932 г. на 25 хвілін цэнзарам была спынена трансляцыя з Мінска, таму што на матэрыяле адсутнічаў подпіс рэдактара. Але рэшткі лібералізму яшчэ трывалі на мінскім радыёцэнтры — рэдактары маглі аспрэчыць цэнзарскія забароны на наступны дзень пасля эфіру. Неўзабаве рашэнне цэнзара зрабілася ісцінай у апошняй інстанцыі [53, арк. 82, 93, 163].

Вось як апісвае прамую радыётрансляцыю святкавання юбілею Я. Купалы, якая была наладжана ў 1935 г. з яго мінскага дома, кампазітар М. Шчаглоў (Куліковіч):

«З вясёлым гоманам… усе занялі месцы. Але тут пачуўся голас: — Таварышы! Нашае юбілейнае пасяджэнне будзе трансляваецца па радыё на ўсю БССР. Таму папрашу быць дысцыплінаванымі і захоўваць парадак і прадугледжаны рэгламент. Зараз уключаецца мікрафон. Тут толькі госці пабачылі на стале чорны, з сярэбранымі беражочкамі чатырохвугольнік — мікрафон. Ну, а калі мікрафон, дык значыцца, і кантроль. Цэнзура, органы НКВД. Без паперкі, якая дазволеная і падпісаная ўпаўнаважаным Галоўліта, ніводнага слова не дадуць сказаць перад мікрафонам, нават сябру Палітбюро. Пабачылі, што на акне стаіць яшчэ і апарат, што памацняў гук, а пры ім тэхнік, а побач з ім яшчэ нейкая незнаёмая постаць… Госці ў імгненне згубілі святочны настрой… Юбіляр-Купала меў найсумнейшы ад усіх гасцей выгляд. Перад ім паклалі жмут друкаваных паперкаў. Гэта была “ягоная прамова”, што напісалі спрытныя і дасужлівыя партыйныя рэдактары і якую ён мусіў выдаць за “свае” — адданыя партыі і правадыру словы ўдзячнага і шчаслівага юбіляра. Усё пайшло паводле загадзя зацверджанага рэгламенту. Але было гэткае нуднае, вялае, нецікавае, што нават тыя, каму “ведаць належала”, затурбаваліся, каб радыёслухачы не зрабілі якіх непатрэбных высноваў з “хаўтурнага настрою” юбілейнага

банкету, і неўзабаве загадана было спыніць трансляцыю. Тэхнік з апаратам і постаць незнаёмага зніклі» [59, с. 130].

Да гэтага ж часу адносіцца стварэнне такой формы арганізацыйнага праслухоўвання радыёперадач, як радыёпартаўдыторыі. Яны ўяўлялі пакоі, дзе акрамя прыёмнікаў мелася невялікая бібліятэка агітацыйнай літаратуры, наглядныя дапаможнікі, перыядычныя выданні. Кожная радыёпартаўдыторыя мела на штатнай пасадзе загадчыка. Напрыканцы 1935 г. у БССР налічвалася звыш 400 радыёпартаўдыторый, якія арганізавана штомесяц наведвала звыш 6 тыс. чалавек [38, арк. 143].

Пасля ўтварэння ў 1933 г. Усесаюзнага камітэта па радыёфікацыі і радыёвяшчанні паўстала маштабная задача па развіцці праваднога радыё[35]. Пачатак работ па ўсталяванні трансляцыйных кропак у буйных гарадах БССР (Мінск, Віцебск, Гомель, Полацк, Бабруйск) адносіцца да 1928 г. На працягу першай пяцігодкі ў БССР планавалася ўсталяваць 416 тыс. радыёкропак [55, с. 30]. Гэты працэс атрымаў назву радыёфікацыі. Яна дазваляла дзяржаве ажыццяўляць жорсткі інфармацыйны кантроль, які цалкам выключаў магчымасць прыёму непажаданай інфармацыі звонку. Па сутнасці, трансляцыйная кропка — гэта прыёмнік з жорстка фіксаванай частатой, што дазваляе прымаць толькі адну, афіцыйную радыёстанцыю. Адначасова правадная сетка дзяржаўнага радыё выконвала задачу апавяшчэння людзей у надзвычайных сітуацыях. У процівагу праваднай радыёфікацыі, савецкае хвалевае радыёвяшчанне 1930-х гг. было накіравана пераважна на замежныя краіны[36].

У той жа перыяд радыёвяшчанне пачынае актыўна выкарыстоўваць гуказапіс, чаму паспрыяла ўзнікненне электрамеханічных сістэм гуказапісу. Гэта перш за ўсё электраграмафонная сістэма, а потым — тонфільмавая, якая выкарыстоўвала прынцыпы гукавага кіно. З’яўленне гэтай

тэхнікі істотна змяніла структуру радыёэфіру. Калі раней практычна ўсе перадачы ішлі ў прамым эфіры (толькі зрэдку перад мікрафонам усталёўваліся механічныя грамафоны), то да сярэдзіны 1930-х гг. да 20 % эфірнага часу ўжо было занята гуказапісам. Гэта, у сваю чаргу, прыводзіла да паступовага пераходу ад дамінавання пераважна вербальных элементаў у радыёвяшчанні да павелічэння долі элементаў невербальных, перш за ўсё музычных.

У студзені 1935 г. адбылося абследаванне дзейнасці Радыёкамітэта БССР выязной брыгадай, якая складалася з прадстаўнікоў Усесаюзнага Радыёкамітэта і культпропа ЦК КП(б)Б. У справаздачы брыгады, складзенай у характэрным для 1930-х гг. знішчальна-ваяўнічым тоне, гаварылася пра «надзвычайна нізкую — палітычную і мастацкую якасць беларускага вяшчання». Дзеля паляпшэння становішча члены брыгада лічылі неабходным:

«1. Скараціць колькасць уласных перадач для Беларускага радыёкамітэта з 9 да 5, максімум 6 гадзін, на вузлах — да 2 гадзін. 2. Цалкам ліквідаваць вяшчанне на мове эсперанта. 3. Спыніць літоўскія і латышскія перадачы, таму што ў Беларусі іх ніхто не слухае. 4. Максімальна скараціць колькасць літаратурных перадач, цалкам забараніўшы пры гэтым вытворчасць уласнымі сіламі літаратурна-мастацкіх перадач на актуальную тэматыку» [36, арк. 192].

Першая масавая чыстка працаўнікоў радыёвяшчання БССР («адзін выключаны з партыі, тры — зняты з працы як нацдэмы, неабходна зняць яшчэ трох»), адбылася ў 1933 г. падчас следства па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра», які «распаўсюдзіў сваю дзейнасць на ... Радыёцэнтр» [1, с. 46].

Вельмі цяжкім выпрабаваннем для радыёбудаўніцтва ў СССР было сфабрыкаваная ў НКУС у 1935 г. «справа Радыёкамітэта», у выніку якой увесь кіраўнічы склад

камітэта быў звольнены і рэпрэсаваны. У якасці фармальных прычын гэтай расправы называліся адсутнасць планавання і цэнтралізацыі, палітычныя памылкі ў эфіры, шкодная ганарарная палітыка і інш. У Мінску па гэтай справе разам з шэрагам таленавітых радыёжурналістаў «за трацкісцкія выступы на радыё» ў 1936 г. быў арыштаваны намеснік старшыні радыёкамітэта К. В. Рабкавец [11, с. 2].

Атмасферу, якая панавала на беларускім радыё напрыканцы 1930-х гг., можна адчуць з дакладаў, якія рэгулярна ішлі з цэнзурнага дэпартамента ў партыйнае кіраўніцтва рэспублікі. 9 сакавіка 1937 г. начальнік Галоўліта і АВЦ БССР І. Л. Ахрамовіч дакладаў у ЦК КП(б)Б па данясенні цэнзара, прыкамандзіраванага да радыёкамітэта: «Дыктар Юрэвіч зрабіў пры перадачы лекцыі 5 сакавіка 1937 г. на тэму "Сацыялізм і камунізм" шэраг памылак тэксту, завізіраванага Галоўлітам, якія мяжуюць з памылкамі стылістычнага і палітычнага характару..., [ён] дзе трэба і не трэба устаўляў словы "таварышы", скажона вымаўляў імя Леніна, напрыклад, трэба было чытаць Владзімір, а ён вымаўляў імя Леніна Владымір з націскам на апошнім складзе, дадаваў шэраг непатрэбных слоў, кшталту "ёсць, так, вось, зразумела, усемерна, з'яўляюцца ўмовы і г. д.", спрабаваў зрабіць уласныя высновы пасля прачытанай Ленінскай цытаты — "Пра две важнейшыя ўмовы неабходныя для ажыццяўлення поўнага камунізму"... Прашу Вашых указанняў дыктарам на недапушчальнасць зменаў тэкстаў лекцый пры перадачы ў мікрафон без згоды на гэта Упаўнаважанага Галоўліта. У выпадку паўтарэння падобных парушэнняў Упаўнаважаны Галоўліта будзе вымушаны выключаць мікрафон і спыняць перадачу» [43, арк. 53].

23 красавіка 1938 г. І. Л. Ахрамовіч зноў дакладаў у ЦК КП(б)Б аб палітычных памылках у матэрыялах, якія перадаваліся праз радыёстанцыю імя СНК БССР. «У адным з

матэрыялаў прыведзена цытата тав. Сталіна наступным чынам: "Трэба ўвесь наш народ трымаць у стане мабілізацыйнай гатоўнасці перад небяспекай ваеннага нападу, каб ніякая выпадковасць і ніякія фокусы нашых уласных шэрагаў (трэба было "знешніх ворагаў") не змаглі застаць нас неспадзеўкі" ... 23 сакавіка 1938 г. у перадачы гутарка ішла пра ветэранаў вайны, а дыктар перадаў "ветэрынараў" вайны... заўважана шэраг памылак літарнага кшталту» [46, арк. 23–24]. Неўзабаве па прапанове Галоўліта была праведзена нарада супрацоўнікаў Радыёкамітэта, дзе апошнія мусілі апраўдвацца: «Дыктару перадаюць матэрыял за 2–3 хвіліны да перадачы..., аддзел агітацыі [ЦК КП(б)Б] заўсёды спяшаецца, таму матэрыял недабраякасны, аўтары цягнуць да апошняга дня, машыністкі непісьменныя, умовы ў памяшканні [Радыёкамітэта] жудасныя» [46, арк. 23–24].

Палітычныя памылкі беларускага радыёкіраўніцтва заўважалі таксама пільныя радыёслухачы. Адзін з іх у сваім лісце, прысвечаным рабоце радыё ў 1937 г., у прыватнасці, пісаў: «22 студзеня, у жалобны дзень XIII гадавіны з дня смерці В. І. Леніна, бестурботныя людзі з Радыёцэнтра ўмудрыліся запоўніць эфір рознымі пошленькімі цыганскімі рамансамі, факстротамі і іншымі лёгкімі песнямі». Па выніках разгляду гэтага ліста былі звольнены з работы кіраўнікі музычнага сектара М. М. Шчаглоў (Куліковіч) і выкладчык кансерваторыі І. М. Гуральнік (расстраляны ў 1937 г.) [54, с. 2].

У абстаноўцы істэрычнага пошуку здрады і ворагаў беларускае радыё трэсла як у ліхаманцы, масавыя арышты дэзарганізоўвалі яго работу. Тагачасны слухач так апісвае работу мінскага радыёцэнтра: «Досыць праслухаць радыёперадачы станцыі імя СНК БССР у любы дзень. Перадача звычайна пачынаецца так: "Гаворыць Менск… Абвяшчаем дадатковы перапынак на 5 (бывае на 10, на 15)

мінут”. Гэта значыць, што намечаная перадача ўжо сарвалася, у пажарным парадку яна замяняецца іншай. Такія-ж вымушаныя паўзы (часам да поўгадзіны) бываюць паміж асобнымі перадачамі. Бывае нават і так, што дыктар абвяшчае наступную перадачу, а пасля пяціхвіліннай паўзы паведамляе, што перадача не адбудзецца… Лёгка таксама здагадацца, што ўведзеныя наспех, за некалькі гадзін (часам — хвілін) да перадачы праграмы не могуць ні вызначацца сваёй навізной, ні дасканаласцю падрыхтоўкі… Нядаўна перад мікрафонам выступалі адзін за другім дыктары, якія літаральна не маглі пісьменна прачытаць ні аднаго радка. Яны скажалі словы, расстаўлялі націскі так, што сказы набывалі ідыятычны сэнс, прапускалі і змянялі па-свойму словы, запіналіся і г. д. Відаць, гэта было выпрабаванне новых дыктараў… Гэтыя выпрабаванні цягнуліся тыднямі, і слухач павінен быў цярпець такое абураючае бясчынства» [9, с. 2].

У сваім рашэнні ад 11 кастрычніка 1937 г. ЦК КП(б)Б зноў выкрыў «шэраг сур’ёзных палітычных памылак у рабоце Радыёкамітэта», у выніку чаго звыш 50 супрацоўнікаў радыё розных прафесій і ўзроўняў былі звольнены з работы. Значная колькасць з іх была рэпрэсавана, у т. л. былыя старшыні Радыёкамітэта БССР Ф. П. Купцэвіч і Р. К. Шукевіч-Траццякоў. Гэта быў настолькі моцны ўдар па кадравым складзе беларускага радыё, што і ў наступным годзе найважнейшыя аддзелы Радыёкамітэта — агітацыі і прапаганды, апошніх навін, дакладаў і выступленняў не былі забяспечаны нават рэдактарамі. Не было таксама кіраўнікоў і ў дзевяці раённых рэдакцыях радыёвяшчання. У студзені 1938 г. невядомы радыёслухач у артыкуле «Радыёперадачы не задавальняюць слухачоў» пісаў, што «…праграмы складаюцца пераважна з трансляцыі радыёстанцый Масквы» [12, с. 4]. Характэрна, што сярод мер па ўмацаванні кадравага складу

Радыёкамітэта намячаўся перавод туды яшчэ двух цэнзараў з Галоўлітбела [45, арк. 39].

Абмежаванае кола архіўных першакрыніц не дазваляе нам рэканструяваць поўную карціну рэакцыі аўдыторыі на афіцыйную радыёпрапаганду 1920–1930-х гг. Аднак нават нешматлікія наяўныя звесткі, пераважна ананімнага характару, дазваляюць сцвярджаць, што не ўсё грамадства паслухмяна і задаволена слухала афіцыйны «голас праўды». Напрыклад, у 1926 г. упаўнаважаны «Радыёперадачы» па БССР А. М. Канакоцін выдзяляў асобную групу аўтараў лістоў, прысланых на радыё, якім «…надакучыла наша савецкая перадача; яны просяць не забруджваць эфіру савецкай перадачай і даць вольна прыймаць замежжа» [18, арк. 380]. На сходзе радыёслухачоў харчовых прадпрыемстваў г. Мінска, які адбыўся ў 1940 г., у прэзідыум, дзе знаходзілася кіраўніцтва Белрадыёкамітэта, трапіла нататка наступнага зместу «Чаму мала перадаюць наконт кахання?» [49, арк. 211].

Такім чынам, першы перыяд гісторыі беларускага радыё (1925–1941 гг.) супаў з нарастаннем у рэспубліцы негатыўных тэндэнцый развіцця. Партыйнае кіраўніцтва ад пачатку разглядала яго перш за ўсё як ідэалагічны інструмент і толькі ў другую чаргу як сродак інфармацыі. Паступова былі выпрацаваны спецыфічныя формы і метады кіраўніцтва радыё, паўстала самастойная радыёцэнзура. Спробы лепшых прадстаўнікаў беларускай інтэлігенцыі выкарыстаць магчымасці радыё для распаўсюджвання сапраўдных навуковых ведаў і культурных каштоўнасцей былі гвалтоўна перапынены на мяжы 1920–1930-х гг.

## Літаратура

1. Адамушка, У. І. Справа № 233771 / У. І. Адамушка // Беларуская мінуўшчына. — 1993. — № 3–4. — С. 45–52.

2. Варецкий, Б. И. Шелест страниц как шелест знамен: Пресса России в трех политических режимах : науч.-истор. очерк / Б. И. Варецкий. — М. : РеСК : Информ Форте, 2001. — 271 с.

3. Восьмой съезд РКП(б) : протоколы. — М. : Гос. изд-во полит. литры, 1919. — 602 с.

4. Гаворыць і паказвае Беларусь / склад. М. П. Валатковіч, С. М. Пуцылеў. — Мінск : Беларусь, 1975. — 240 с.

5. Горяева, Т. М. Радио России. Политический контроль радиовещания в 1920-х — начале 1930-х годов. Документированная история / Т. М. Горяева. — М. : РОССПЭН, 2000. — 175 с.

6. Деревянко, С. С. Некоторые аспекты ограничения доступа к радиоинформации в 20-е годы / С. С. Деревянко // На подступах к спецхрану : труды Межрег. науч.-практ. конф. «Свобода научной информации и охрана государственной тайны: прошлое, настоящее, будущее». 24–26 сент. 1991 г. — СПб., 1995. — С. 26–30.

7. Итоги выполнения первого пятилетнего плана развития народнога хозяйства БССР. — Минск : Госплан БССР: ЦНХУ БССР, 1933. — 147 с.

8. Калубовіч, А. Айцы БССР і іхны лёс / А. Калубовіч // Крокі гісторыі. — 1993. — Беласток–Вільня–Менск : Гамакс, Наша ніва, Мастацкая літаратура, 1933. — 285 с.

9. Карэнным чынам перабудаваць работу Белрадыёкамітэта // Літаратура і мастацтва. — 1937. — 23 сак.

10. Літаратура і мастацтва. — 1936. — 31 снеж.

11. Тамсама. — 1937. — 23 сак.

12. Тамсама. — 1938. — 6 студз.

13. Мазец, В. Таталітарызм і сродкі масавай інфармацыі ў Беларусі

/ В. Мазец // Рэпрессивная политика советской власти в Беларуси : сб. науч. тр. / сост. И. Кузнецов, Я. Басин. —

2007. — Вып. 1. — URL: http://homoliber.org/ru/rp/rp0701.html (дата звароту: 20.10.2011)

14. Малін, В. Самая вострая і самая моцная зброя нашай партыі / В. Малін // Літаратура і мастацтва. — 1938. — 6 мая.

15. Марцелев, С. В. Печать Советской Белоруссии / С. В. Марцелев. — Минск : Беларусь, 1967. — 512 с.

16. НАРБ. — Ф. 4п. — Воп. 1. — Спр. 1800.

17. Тамсама. — Спр. 2014.

18. Тамсама. — Спр. 2345.

19. Тамсама. — Спр. 2354.

20. Тамсама. — Спр. 2356.

21. Тамсама. — Спр. 2855.

22. Тамсама. — Спр. 3541.

23. Тамсама. — Спр. 4165.

24. Тамсама. — Спр. 4178.

25. Тамсама. — Спр. 4337.

26. Тамсама. — Спр. 4339.

27. Тамсама. — Спр. 4720.

28. Тамсама. — Спр. 5021.

29. Тамсама. — Спр. 5036.

30. Тамсама. — Спр. 5126.

31. Тамсама. — Спр. 5587.

32. Тамсама. — Спр. 6295.

33. Тамсама. — Спр. 6898.

34. Тамсама. — Спр. 6902.

35. Тамсама. — Спр. 6996.

36. Тамсама. — Спр. 8928.

37. Тамсама. — Спр. 9123.

38. Тамсама. — Спр. 10660.

39. Тамсама. — Спр. 10867.

40. Тамсама. — Спр. 11883.

41. Тамсама. — Спр. 11885.

42. Тамсама. — Спр. 12070.

43. Тамсама. — Спр. 12149.
44. Тамсама. — Спр. 12488.
45. Тамсама. — Спр. 12934.
46. Тамсама. — Спр. 13152.
47. Тамсама. — Спр. 13867.
48. Тамсама. — Спр. 14763.
49. Тамсама. — Спр. 15622.
50. Тамсама. — Спр. 18387.
51. Тамсама. — Ф. 42. — Воп. 1. — Спр. 201.
52. Тамсама. — Спр. 946.
53. Тамсама. — Ф. 245. — Воп. 1. — Спр. 12.
54. Пракаповіч, М. Заўвагі радыёслухача / М. Пракаповіч // Літаратура і мастацтва. — 1937. — 23 сак.
55. Радкевіч, Я. Р. Беларускае радыё: гісторыя, перспектывы развіцця / Я. Р. Радкевіч. — Мінск : БДУ, 1983. — 197 с.
56. Селяменеў, В. Пачыналі па-рознаму — завяршылі аднолькава / В. Селяменеў, Я. Бараноўскі // Звязда. — 1997. — 10 крас.
57. Советская Белоруссия. — Минск : Госиздат БССР, 1921. — 300 с.
58. Тринадцатый съезд РКП(б) : стенографический отчет. — М. : Гос. изд-во полит. лит-ры, 1924. — 883 с.
59. Шчаглоў (Куліковіч), М. Мае ўспаміны (Я. Купала) / М. Шчаглоў (Куліковіч) // На суд гісторыі / уклад., прадм. і звест. пра аўтараў Б. І. Сачанкі. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1994. — 303 с.

# ПАД ПІЛЬНЫМ ВОКАМ ГАЛОЎРЭПЕРТКАМА

Для мастацтва небяспечны
не падпальшчыкі, а пажарнікі.
*Бернар Бюфэ,*
*французскі мастак*

Адносіны паміж ідэалагічным кіраўніцтвам БССР і відовішчнымі ўстановамі ў 1920–1930-я гг. складваліся супярэчліва і драматычна. Відовішчныя мастацтвы БССР — тэатр, кінематограф, эстрада займалі важнае месца ў культурным жыцці рэспублікі. Яны адразу ж звярнулі павышаную ўвагу партыйнага кіраўніцтва з прычыны іх масавасці і даступнасці шырокім колам малаадукаванага насельніцтва, што адкрывала шырокія перспектывы іх выкарыстання ў прапагандысцкіх мэтах. Гэта, у сваю чаргу, вымагала ўсталявання жорсткага і ўсеабдымнага кантролю за імі. Да таго ж тэатры, кінатэатры, цыркі выклікалі падазронасць па кадравым складзе — у іх працавалі пераважна беспартыйныя інтэлігенты, «спадарожнікі». Ад ідэалагічнага кіраўніцтва партыі паступалі ўстаноўкі, якія зводзіліся да засцярогі творчай думкі ад любых контррэвалюцыйных праяў, усталявання прыярытэту выхаваўчых функцый над забаўляльнымі, а таксама аднолькавых эстэтычных стандартаў у адносінах да ўсіх відаў мастацтва.

У 1920-я гг., калі гэтыя ўстаноўкі мелі пераважна рэкамедацыйны характар, беларускія савецкія відовішчныя мастацтвы перажывалі перыяд уздыму, разнастайнасці формаў і жанраў. Былі закладзены іх нацыянальныя і прафесійныя асновы. У той жа час партыйнае кіраўніцтва праз цэнзурыя органы фарміравала іх сервільныя якасці,

татальную залежнасць ад дзяржавы. У лютым 1923 г. па маскоўскім узоры ў Галоўлітбел са складу Галоўпалітасветы быў перададзены орган, спецыяльна створаны там у 1922 г. для кантролю за відовішчамі, — Галоўны камітэт па кантролю за рэпертуарам (Галоўрэперткам). На чале Галоўрэперткама стаяў старшыня і грамадская калегія, якая складалася з прадстаўнікоў Галоўлітбела, агітацыйна-прапагандысцкага аддзела ЦК КП(б)Б, паліткантролю ДПУ і ваеннага ведамства. Па меры неабходнасці калегія прыцягвала да сваёй працы прадстаўнікоў літаратуры, тэатра і кіно.

Механізм кантролю за відовішчамі ў БССР у 1920-я гг. выглядаў наступным чынам. На кожны тэатр, кінематограф, цырк, клуб у Галоўрэперткаме заводзілася ўліковая картка. Усім гэтым установам на рэгістрацыю давалася 7 дзён. У выпадку спазнення ўстанова прымусова закрывалася, а яе адміністрацыя падлягала судовай адказнасці. Арганізатары спектакля ці канцэрта за сем дзён да прэм’еры павінны былі звярнуцца па дазвол у Галоўрэперткам альбо яго раённыя аддзяленні, а з 1924 г. — у акруговыя аддзяленні. Зварот змяшчаў поўны сцэнарый пастаноўкі і падаваўся ў трох экзэмплярах: адзін — у Галоўрэперткам, другі — у Галоўпалітасвету, якая на працягу 1920-х гг. ажыццяўляла ідэалагічнае кіраўніцтва відовішчамі, трэці — у ДПУ, сіламі якога каралі парушальнікаў. Два апошніх ведамствы ў выключных выпадках мелі права даваць дазвол на пастаноўку самастойна (у спрэчных выпадках арбітрам выступалі партыйныя органы). Адзін экзэмпляр звароту вяртаўся заяўляльніку з адпаведнай візай. Кантроль за відовішчамі на раённым узроўні ажыццяўлялі «рэпертуарныя тройкі», якія складаліся з прадстаўнікоў райкамаў партыі, райвыканкамаў і міліцыі. Усе арганізатары відовішчных мерапрыемстваў былі абавязаны прадставіць бясплатныя месцы ў зале для прадстаўнікоў

Галоўрэперткама, Наркамасветы, выканаўчай улады і ДПУ [30, арк. 8].

Уяўленне пра кірункі дзейнасці і паўнамоцтвы старшыні Галоўрэперткама ў першы перыяд яго існавання дае мандат Я. Г. Ракава, падпісаны намеснікам наркама асветы А. В. Баліцкім у сакавіку 1923 г. Старшыні Галоўрэперткама дазвалялася «…права кантроля ўсіх публічных відовішчаў і забаў, якія адбываюцца ў тэатрах, кіно і клубах г. Мінска. тав. Ракаву даецца права закрыцця усіх відовішчаў, дзе б яны не адбываліся, калі яны наладжаны без адпаведнай згоды камітэта, альбо будзе заўважана адступленне ад зацверджанай праграмы, дзеля чаго тав. Ракаву даецца права вольнага ўваходу ва ўсе тэатры, кіно, клубы, як ваенныя, так і грамадзянскія г. Мінска. Міліцыя павінна садзейнічаць тав. Ракаву пры выкананні апошнім ускладзеных на яго абавязкаў» [30, арк. 8].

Папярэдні кантроль ажыццяўляўся Галоўрэперткамам у выглядзе разгляду і зацвярджэння рэпертуараў тэатраў, цыркаў, кіно, выяўлення забароненых тэм (крытыка ўлады, выданне ваеннай тайны, паклёп, рэлігійны і нацыянальны фанатызм, парнаграфія), складання спісаў забароненых п’ес і кінафільмаў, а таксама распрацоўцы інструкцый. Наступны кантроль уяўляў нагляд за ўсімі відовішчнымі ўстановамі, забарону і канфіскацыю шкоднай прадукцыі, а таксама рэпрэсіўныя меры ў адносінах да аўтараў і да цэнзараў, якія прапусцілі шкодную прадукцыю.

Для сістэматызацыі рэпертуарнага матэрыялу кіраўніцтвам савецкай цэнзуры выкарыстоўваўся метад літарацыі. Першапачаткова ўвесь матэрыял сістэматызаваўся з дапамогай дзвюх літар — А (дазволена паўсюдна) і Б (не для рабоча-сялянскай аўдыторыі), а з 1929 г. з дапамогай чатырох — А (ідэальна вытрымана з палітычнага і мастацкага пунктаў гледжання), Б (прымальна

па тых жа паказчыках), В (каштоўна з мастацкага, але нявартае з ідэалагічнага пункту погляду) і Г (ідэалагічна вытрыманае, але прымітыўнае з мастацкага боку).

На працягу 1920-х гг. цэнзура відовішчаў давала прыбытак Наркамасвеце, што натуральна ўкладалася ў рэчышча новай эканамічнай палітыкі. За цэнзурны дазвол на правядзенне відовішчнага мерапрыемства спаганяўся грашовы збор: з прыватных асоб (антрэпрэнёраў і гастралёраў) — 1 рубель, з арганізацый і асоб, якія арэндуюць памяшканні ў Наркамасветы — 50 капеек, з навучэнцаў — 20 капеек. Кожны цэнзарскі прагляд мастацкай кінакарціны абыходзіўся яе пракатчыкам у 1 рубель, камедыі (у залежнасці ад даўжыні) — ад 50 капеек да 1 рубля, дэтэктыва — у 1 рубель 50 капеек, фарса — у 3 рублі. Рэпертуарным зборам — у памерах ад 1 рубля да 1 рубля 50 капеек абкладаліся таксама ўсе жадаючыя зарэгістраваць прыватную фотастудыю [30, арк. 12].

З'яўленне цэнзуры відовішчаў адразу ж сустрэла супраціў з боку іх арганізатараў і артыстаў. На працягу 1923 г. старшыня Галоўрэперткама шматразова звяртаўся ў ДПУ з просьбамі пакараць вінаватых у арганізацыі недазволеных кінасеансаў, тэатральных пастановак, вечарын («ладзяцца рознага кшталту відовішча, нават маскарады і скокі»). 14 кастрычніка старшыня Галоўрэперткама Грэкаў звярнуўся ў ДПУ з просьбай прыцягнуць да суровай адказнасці артыстаў «Тэатра жаху» грамадзян Нясмелага і Анскага: «Першага за выкананне ў памяшканні Дзяржтэатра непрагледжанага Камітэтам маналога "Прамова адваката" і за заяву перад публікай на біс, што больш выконваць маналог не можа, бо яго рэпертуар яшчэ не прагледжаны мясцовай цэнзурай. Другога за зламыснае выкананне апошняга куплета ў дуэце "Няўдалае выступленне", нягледзячы на тое, што Камітэтам гэты куплет быў выкрэслены». Спрабуючы ўнікнуць забароны, рэжысёры прыносілі п'есы ў Галоўрэперткам

напярэдадні іх прэм′еры, спадзеючыся, што прэм′еру не забароняць з эканамічных меркаванняў, улічваючы факт затрат дзяржаўных грошай на рэпетыцыйны працэс [30, арк, 74].

Заўсёды насцярожаныя былі адносіны цэнзуры да імкнення прадстаўнікоў нацменшасцей БССР наладзіць уласнае культурнае жыццё. 29 чэрвеня 1926 г. загадчык Галоўлітбела П. Л. Арэшнікаў паведамляў усім акрлітам і палітрэдактарам рэспублікі, што «некалькі дзён таму ініцыятыўная група зьвярнулася ў Галоўлітбел з прозьбай даць дазвол на наладжаньне …вечара новае яўрэйскае літэратуры і музыкі на стараяўрэйскай мове»… «З прычыны таго, што па маючыхся ў нас весткам гэтая група ідэалагічна зьвязана з сіонізмам, які за апошні час набыў відочна анцісавецкі характар — Галоўлітбел, па ўзгадненьні пытаньня з адпаведнымі ворганамі — у арганізацыі вечара адмовіў. Галоўлітбел прапануе Вам у разе, калі прадстаўнікі памянёнае групы зьвярнуцца да Вас з прозьбай аб выдачы дазволу на падобны вечар — дазволу ні ў якім выпадку не даваць» [13, арк. 61].

Варта адзначыць, што партыйныя дырэктывы, якія давалі асноўны палітычны кірунак работы цэнзараў, пакідалі ім адносную свабоду дзеянняў у галіне эстэтычнай і маральнай. Прыкладам падобнай эстэтыка-маральнай цэнзарскай «творчасці» можа быць забарона аддзелам агітацыі і прапаганды ЦК КП(б)Б дэманстрацыі ў лютым 1925 г. фільма «Прэзідэнт Самасадкін» (экранізацыя папулярнай у той час у СССР аперэты з вядомым савецкім артыстам аперэты і рэжысёрам Р. М. Яронам у галоўнай ролі) «як беззмястоўнага» [11, арк. 124]. Са снежня 1924 г. Галоўлітбел катэгарычна забараніў правядзенне ў рэспубліцы касцюміраваных і танцавальных баляў [11, арк. 100]. У тым жа 1924 г. у Слуцкай акрузе браліся на ўлік грамафоны і грампласцінкі [29, арк. 49 адв.]. Пра гэту ж

«творчасць» сведчыць не толькі змест, але нават лексіка цэнзарскіх рэзалюцый («упадніцкі эксцэнтрычны амерыканскі аркестр Джас Банд», «плоскі французскі вадэвіль», «замаскіраваны факстрот» і інш.).

Пазітыўным бокам работы цэнзараў на працягу першага дзесяцігоддзя савецкай улады было пазбаўленне беларускай сцэны ад праяў нізкапробных твораў, якія валам абрынуліся на савецкую публіку перыяду НЭПа. Так, у 1924 г. Галоўлітбел забараніў выступленні на сцэне віцебскага тэатра ленінградскага кабарэ «Баба Яга», рэпертуар якога складаўся пераважна з танных французскіх вадэвіляў. Але побач з рознай драбязой пад цэнзарскі прэс траплялі мастацкія творы маладых беларускіх драматургаў. У 1927–1928 гг. па прапанове інспектара відовішчаў Галоўліта В. Ф. Вольскага з палітычных меркаванняў былі забаронены для паказу п'есы «Жывы нябожчык» М. Ільінскага, «Краб» і «Рвачы» У. Галубка.

Найбольшую ўвагу цэнзары надавалі тэатру і кіно як найбольш масавым і сур'ёзным відам мастацтва. Музыка і эстрада таксама не пазбаўляліся ад цэнзурнага ўціску, хоць і лічыліся лёгкімі жанрамі.

Кіраўніцтва тэатральнай дзейнасцю ў БССР ажыццяўляў мастацкі аддзел Наркамасветы, які пры пільным ідэалагічным наглядзе з боку Галоўпалітасветы на працягу 1920-х гг. праводзіў работу па стварэнні высокамастацкага прафесійнага нацыянальнага тэатра.

У 1920 г. у Мінску ў будынку гарадскога тэатра адбылося ўрачыстае адкрыццё Беларускага дзяржаўнага тэатра (з 1926 г. — БДТ-1). Яго трупа складалася пераважна з удзельнікаў Першага таварыства беларускай драмы і камедыі пад кіраўніцтвам Ф. Ждановіча. З 1921 па 1931 г. генеральную лінію развіцця тэатра вызначала мастацкая філасофія і дзейнасць рэжысёра, акцёра і драматурга Е. Міровіча. У 1926 г. у Віцебску распачаў дзейнасць Другі Беларускі

драматычны тэатр (БДТ-2). У 1928 г. у Магілёве адкрыўся тэатр (з 1932 г. пераутвораны ў Рускі тэатр БССР) пад кіраўніцтвам У. Кумельскага. У 1932 г. сталую базу ў Гомелі атрымаў унікальны вандроўны тэатр (БДТ-3) пад кіраўніцтвам першага народнага артыста рэспублікі У. Галубка. Акрамя беларускіх існаваў Дзяржаўны яўрэйскі тэатр БССР, створаны ў 1926 г. у будынку мінскай харальнай сінагогі пад кіраўніцтвам акцёра і пастаноўшчыка М. Рафальскага. З 1929 г. у будынку касцёла Св. Сымона і Алены (Чырвоны касцёл у Мінску) працаваў Дзяржаўны польскі тэатр БССР. Значнай падзеяй з'явілася стварэнне першага ў рэспубліцы Тэатра юнага гледача (1931), які ўзначаліў рэжысёр М. Кавязін. У 1933 г. у Мінску адкрыўся Беларускі дзяржаўны тэатр оперы і балета.

Дзяржаўны кантроль тэатра ажыццяўляўся ў выглядзе папярэдняй цэнзуры, калі прачытваліся п'есы і праглядаліся рэпетыцыйныя прагоны. Арганізатары павінны былі загадзя прадставіць у адпаведнае цэнзурнае ведамства рукапіс п'есы пастаноўкі, і ў выніку станоўчага рашэння наступны цэнзурны кантроль праводзіўся сумесна з цэнзарам Галоўлітбела і супрацоўнікам ДПУ непасрэдна на прэм'еры.

У спрэчных сітуацыях, якія перыядычна ўзнікалі паміж Галоўрэперткамам — састаўной часткай Галоўлітбела і Галоўпалітасветай падчас ажыццяўлення іх цэнзарскай і ідэалагічнай работы як арбітры прыцягваліся партыйныя органы. У найбольш жорсткай і адкрытай форме канфлікт паміж Галоўпалітасветай у асобе яе старшыні С. С. Шамардзіной[37] і Галоўлітбелам у асобе яго начальніка П. Л. Арэшнікава праявіўся ў лістападзе 1926 г. у сувязі з прэм'ерай п'есы Я. Купалы «Тутэйшыя». Як вядома, прэм'ера гэтага шматпакутнага твора, якая адбылася 16 лістапада 1926 г. у БДТ-1 у пастаноўцы рэжысёра М. Папова, была прымеркавана да правядзення Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі,

якая праходзіла ў Мінску 14–19 лістапада 1926 г. Паводле намераў арганізатараў, канферэнцыя была павінна перад усім светам прадэманстраваць адзінства паміж КП(б)Б, заходнебеларускім нацыянальным рухам і беларускай палітычнай эміграцыяй. Таму забарона П. Л. Арэшнікавым п'есы пасля яе прэм'еры з прычыны ігнаравання рэжысёрам цэнзарскіх заўваг адразу ж набыла характар скандалу. Беручы пад увагу сур'ёзнасць палітычнага моманту, а таксама асобу аўтара (за год да гэтага Я. Купалу было нададзена званне народнага паэта), калегія Наркамасветы са згоды С. С. Шамардзіной скасавала забарону Галоўлітбела.

Парадаксальнасць сітуацыі была ў тым, што абедзве структуры фармальна падпарадкоўваліся кіраўніцтву Наркамасветы, але насамрэч мелі асобы статус. Галоўпалітасвета з'яўлялася праваднікам палітыкі партыі ў галіне навукі, адукацыі і культуры, Галоўлітбел адказваў за палітыка-ідэалагічны змест вынікаў навуковай, адукацыйнай і культурнай дзейнасці ў БССР. Таму і Галоўпалітасвета, і Галоўлітбел у якасці свайго рэальнага кіраўніцтва разглядалі ЦК КП(б)Б. Менавіта там і было знойдзена кампраміснае рашэнне, калі 19 лістапада 1926 г. пытанне аб п'есе «Тутэйшыя» разглядалася на калегіі аддзела друку. Галоўпалітасвета была прызнана вінаватай у тым, што дапусціла п'есу да пастаноўкі ў арыгінальным аўтарскім варыянце. Галоўлітбел — у тым, што зняў яе адразу ж пасля прэм'еры. Саму ж п'есу было дазволена прадставіць гледачу пасля аўтарскай перапрацоўкі і пакаяннага ліста, апублікаванага на старонках перыядычнага друку [14, арк. 67].

У 1928 г. Галоўрэперткам са сваёй калегіяй і саветам быў перападпарадкаваны іншай структуры Наркамасветы — Галоўмастацтву, што, на думку ідэалагічнага кіраўніцтва партыі, было павінна наблізіць цэнзараў да працэсу стварэння культурных каштоўнасцей. Пры захаванні ў

цэлым папярэдніх задач і зместу дзейнасці новы статус Галоўрэперткама выклікаў пашырэнне яго структуры. Цяпер у яго склад акрамя двух прадстаўнікоў Наркамасветы (Галоўмастацтва і Галоўлітбела) уваходзілі па адным прадстаўніку ад аддзела агітацыі і прапаганды ЦК КП(б)Б, паліткантролю ДПУ, культаддзела Цэнтральнага савета прафсаюзаў БССР з вырашальным голасам. Прадстаўнікі творчых арганізацый (усіх тэатраў, Белдзяржкіно, БелАПП) уваходзілі ў савет пры Галоўрэперткаме, мелі дарадчы голас і ніяк не ўплывалі на рашэнні аб дазволе альбо забароне мастацкага твора. Цэнзарская піраміда ў галіне відовішчаў у БССР цяпер выглядала наступным чынам: Галоўрэперткам у Мінску — гаррэперткамы ў Віцебску і Гомелі — райрэперткамы ў раёнах.

Новае палажэнне аб Галоўрэперткаме ўключала ў сферу яго дзейнасці новыя кірункі, у прыватнасці мастацкія перадачы беларускага радыё і аматарскія пастаноўкі, якія наладжваліся ў клубах, народных дамах і хатах-чытальнях. У выключных выпадках цэнзарам Галоўрэперткама цяпер дазвалялася спыняць спектаклі падчас іх публічнай дэманстрацыі. Пункт 14-ты палажэння прадугледжваў правядзенне ўсёй работы рэперткамамі «…у цеснай сувязі з грамадскасцю данага гораду, раёну, наладжвая грамадскія прагляды, абгаварэньні, дыспуты, чыткі твораў маючых быць прынятымі да пастаноўкі, прыцягвая да работы па кантролю за рэпертуарам партыйную, камсамольскую і савецкую грамадскасць». Аднак адразу ж аўтары дакумента зрабілі агаворку: «Рашэнні дыспутаў, грамадскіх праглядаў, абгаварэньняў і г. д., улічваюцца пры вынясеньні рашэньня рэперткома, але не з’яўляюцца для рэперткома абавязковымі» [31, арк. 1–5].

Гэтыя структурныя змены ў цэнзурным падраздзяленні па кантролі за відовішчамі былі выкліканы важнай падзеяй — І Усесаюзнай партыйнай нарадай па пытаннях тэатра,

якая праходзіла ў Маскве 9–13 мая 1927 г. Па выніках яе работы ў жніўні таго ж года сакратарыят ЦК КП(б)Б прыняў рэзалюцыю «Аб задачах партыі ў галіне тэатральнай палітыкі», якая ўжо разглядала тэатр як сродак мастацка-ідэалагічнага ўздзеяння на масы ў інтарэсах пралетарскай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва. Рэзалюцыя, у падрыхтоўцы якой актыўна ўдзельнічаў В. Г. Кнорын, давала цэнзарам крытэрыі, адпаведна якім тэатральная п′еса павінна была быць безумоўна забаронена: «варожая пралетарыяту ідэалогія, элементы нацыянал-дэмакратызму, шовінізму, упадніцтва і антыпролетарскіх настрояў».

Адной з першых буйнамаштабных акцый Галоўрэперткама ў новым статусе быў агляд работы дзяржаўных тэатраў БССР, вынікі якога абмяркоўваліся на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б у сакавіку 1928 г. У прыватнасці, на ім БДТ-1 крытыкаваўся за пастаноўкі наступных п′ес: «Тутэйшыя» Я. Купалы («Уся п′еса перапоўнена як замаскіраваных, так і яўных выпадаў супроць савецкае улады»), «Перамога» А. Міровіча («павярхоўная трактоўка сюжэту»), «Вір» А. Рамановіча («Зусім не паказаны адмоўныя праяўленьні фэадалізму»), «Лес цёмны» М. Ільінскага («Вялікае значэньне прыдаецца ў п′есе выпадковасьці»), «Змрок» В. Шашалевіча («Зусім не ўлічана роля кампартыі і савецкае ўлады ў ломцы старога вясковага быту»). Сярод пастановак БДТ-2 незадавальненне цэнзараў выклікала п′еса «Апраметная» В. Шашалевіча («насычана містыкай, перасыпана рознага роду выкрутасамі»). Сярод недахопаў у рабоце Дзяржаўнага вандроўнага тэатра У. Галубка называліся «адсутнасьць правільнага мастацкага кіраўніцтва, а таксама якіх-бы то ні было жаданьняў да набыцьця тэхнічных тэатральных ведаў з боку актораў». Да таго ж адзначалася, што «…сцэнічнае афармленьне тэатру Галубка працягвае заставацца на традыцыях старога бытавога тэатру, мастацкія прыёмы

прымітыўны, шаблонны і зацяганы». Пра Беларускі дзяржаўны яўрэйскі тэатр у аглядзе лаканічна сказана, што ён «…стаў на правільны шлях па абслугоўваньню культурных запатрабаваньняў рабочага гледача». У заключэнні агляду кіраўніцтва Галоўрэперткама запэўнівала ЦК у тым, што выправіць сітуацыю ў тэатральнай сферы БССР можна шляхам абнаўлення рэпертуару за кошт выкарыстання твораў савецкіх драматургаў, у тым ліку расійскіх і ўкраінскіх [15, арк. 1031–1040].

Падобная палітыка Галоўрэперткама выклікала дзве тэатральныя дыскусіі, штуршок якім далі артыкулы крытыка Т. Глыбоцкага (паэта Алеся Дудара) [17, арк. 16–22], дзе канстатаваўся крызісны стан БДТ-1 як вынік дзяржаўнай рэпертуарнай палітыкі. Напрыклад, калі ў 1926 г. БДТ-1 паставіў 15 прэм′ерных спектакляў, то ў 1928 г. усяго два. Аўтар бачыў выйсце з гэтага крызісу ў стварэнні самабытнага тэатра як часткі паглыблення беларусізацыі. У адказ на выступленне Т. Глыбоцкага газета «Звязда» распачала кампанію ў абарону сталінскай мадэлі культуры. Тэатральную дыскусію спыніла бюро ЦК КП(б)Б сваёй пастановай ад 17 снежня 1928 г., якая асуджала Т. Глыбоцкага і З. Х. Жылуновіча за падтрымку яго [32, с. 241–255].

У лістападзе 1929 г. старшыня Галоўрэперткама І. Д. Гурскі дакладаў, што за апошнія паўгода з беларускага тэатральнага рэпертуару ён выкрасліў наступныя п′есы: «Дзядзька Якуб» Ф. Аляхновіча, «Нажыўся» І. Бэна, «Астап» А. Глобы, «Фанатык» У. Галубка, «Скарынін сын з Полацку» М. Грамыкі, «Айцец Мікола» і «Снягурачка» М. Ільінскага, «Тутэйшыя» Я. Купалы, «Слуцкая варона» М. Кудзелькі (М. Чарота), «Чаму змоўк гармонік над Дзвіной» Я. Рамановіча, «Апраметная» В. Шашалевіча, «Каля тэрасы» М. Грамыкі. І, наадварот, пад ціскам цэнзараў да 10-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі БДТ-1 паставіў п′есу Д. Фурманава «Мяцеж»,

БДТ-2 у 1928 г. — Б. Лаўранёва «Разлом» і Ю. Юр'іна «Калі пяюць пеўні».[38] Акрамя таго, тады ж для пракату ў БССР Галоўрэперткамам былі забаронены 11 савецкіх і 70 замежных кінакарцін [17, арк. 16–22].

Кінематографу, а яго, паводле слоў А. В. Луначарскага, Ленін лічыў найважнейшым з усіх мастацтваў, партыйныя ідэолагі надавалі значэнне вядучага сродку выхавання і прапаганды.

Да 1925 г. уласнай кінавытворчасці ў БССР не было. Кіназдымкі на тэрыторыі рэспублікі праводзілі хранікёры з Масквы і Ленінграда. У 1922 г. у Мінску было створана Упраўленне па справах кінематаграфіі «Кінарэсбел», а ў 1924 г. — арганізацыя «Пралеткіно», якая займалася кінапракатам. У той час большая частка сельскіх жыхароў БССР пра кіно наогул не мела ніякага ўяўлення, у гарадах 4/5 рэпертуару складалі замежныя і расійскія дарэвалюцыйныя фільмы.

17 снежня 1924 г. было створана Галоўнае ўпраўленне па справах кінематаграфіі і фатаграфіі (Белдзяржкіно), якое мела манапольнае права на пракат фільмаў на тэрыторыі рэспублікі. Яно ж давала дазвол на кіназдымкі ўнутранага жыцця БССР па ўзгадненні з НКУС [12, арк. 32]. Кіраўнік Белдзяржкіно прызначаўся наркамам асветы і быў яму падпарадкаваны. На працягу першага дзесяцігоддзя гэтую пасаду займаў былы кіраўнік відовішчных устаноў Віцебска А. І. Галкін. Адначасова са стварэннем Белдзяржкіно пры агітацыйна-прапагандысцкім аддзеле ЦК КП(б)Б паўстаў кінакамітэт, які акрамя арганізацыйных і тэхнічных пытанняў разглядаў і зацвярджаў змест сцэнарыяў. Напрыклад, са сцэнарыя кінахронікі БССР за 1925 г. членамі камітэта быў выкраслены сюжэт пра прызначаных адказных работнікаў; выклікаў пытанні сюжэт пра злом у Мінску старых яўрэйскіх могілак і брукаванне вуліц магільнымі плітамі [12, арк. 8–9].

Уласная беларуская кінавытворчасць пачалася ў 1925 г. з кінахронікі аб святкаванні 1 Мая. З гэтага часу сталі ствараўца хранікальныя кінавыпускі, у якіх адлюстроўвалася грамадска-палітычнае жыццё рэспублікі. Сталы кіначасопіс — «За сацыялістычную Беларусь», пазней перайменаваны ў «Савецкую Беларусь», пачаў выходзіць толькі ў 1931 г. у Ленінградзе. У 1935 г. сектар кінахронікі Белдзяржкіно быў перайменаваны ў Мінскую студыю кінахронікі. Большасць сюжэтаў яе вытворчасці адразу прысвячалася палітычным мерапрыемствам, сацыялістычным пераўтварэнням на Беларусі, мела форму палітычнага кінаплаката. У 1920-я гг. быў шырока распаўсюджаны тэрмін «культурфільм», ён уключаў фільмы агітпрапагандысцкія, навукова-папулярныя, вучэбна-школьныя і навукова-даследчыя.

У 1928 г. у Ленінградзе паўстала кінастудыя мастацкіх фільмаў «Савецкая Беларусь». Ля вытокаў беларускай кінатворчасці стаялі два вопытныя рэжысёры Ю. Тарыч і У. Гардзін. Непасрэдны ўдзел у станаўленні беларускай кінематаграфіі бралі маладыя беларускія літаратары М. Чарот, А. Вольны, Р. Кобец. Намеснік загадчыка Белдзяржкіно Я. Дыла адказваў за нацыянальны змест сцэнарнага матэрыялу. Рэальную сітуацыю з кінапракатам ў БССР у 1925 г. паказвае загадчык Белдзяржкіно А. І. Галкін у сваім лісце ў ЦК КП(б)Б: «Гледача не задавальняюць часта вельмі прымітыўныя агіткі савецкай вытворчасці надта аднастайныя (усе на тэму грамадзянскай вайны) і часам антымастацкія і халтурна зробленыя; па-гэтаму заўважаюцца адмовы не толькі прафесійных кіно, але і клубаў браць карціны савецкай вытворчасці, што прымусіць Белдзяржкіно ўрэшце рэшт больш арыентавацца на замежную фільму, што вельмі непажадана» [12, арк. 97].

Першы мастацкі фільм, над якім распачалася работа на «Савецкай Беларусі» ў Ленінградзе — «Прастытутка» быў

невысокай мастацкай якасці, меў «заказны» характар (барацьба за новы савецкі быт), але прынёс кінатрэсту немалы даход. Пры зацвярджэнні сцэнарыя гэтага фільма сярод членаў кінакамітэта пры агітацыйна-прапагандысцкім аддзеле ЦК узніклі спрэчкі. Начальнік Галоўлітбела П. Л. Арэшнікаў патрабаваў перанесці падзеі стужкі ў дакастрычніцкі час, а Я. Дыла прапанаваў перадаць сцэнарый, які не меў дачынення да Беларусі, для рэалізацыі маскоўскай кінафабрыцы. У выніку сцэнарый «Прастытуткі» быў прыняты да пастаноўкі з невялікімі зменамі ў бок барацьбы савецкай улады з прастытуцыяй [12, арк. 34]. Цэнзурныя нажніцы не абмінулі першы беларускі мастацкі фільм, які выйшаў на экраны — славутую «Лясную быль». Як вядома, гэтую стужку Ю. Тарычу ў 1926 г. дапамаглі зняць партыйныя і дзяржаўныя дзеячы, якія ў гады нямецкай і польскай акупацыі ўзначальвалі партызанскі рух на Беларусі: старшыня СНК БССР Я. А. Адамовіч, загадчык аддзела ЦК УсеКП(б) В. Г. Кнорын, старшыня ЦВК БССР А. Р. Чарвякоў, за што Ю. Тарыч зняў іх у адной са сцэн фільма. У 1937 г. А. Р. Чарвякоў і Я. А. Адамовіч скончылі жыццё самагубствам, годам пазней быў расстраляны В. Г. Кнорын, а сцэну з іх удзелам з фільма выразалі. Па настойлівай прапанове кінакамітэта ЦК Ю. Тарычу прыйшлося даздымаць шэраг кадраў, якія падкрэслівалі ролю партыі ў савецка-польскай вайне.

11–12 лютага 1928 г. агітацыйна-прапагандысцкі аддзел ЦК КП(б)Б склікаў партыйную нараду па пытаннях кіно. На ёй разглядаліся пытанні кіраўніцтва беларускім кінематографам. Лейтматывам выступленняў усіх удзельнікаў нарады было пытанне аб тым, як спалучыць неспалучальнае — камерцыйны прынцып работы Белдзяржкіно і ідэалагічныя патрабаванні партыі. У выніку пераважыла ідэалогія. У пастанове, прынятай па выніках нарады, адзначалася значэнне кіно не толькі як «сродка

забавы і адпачынку, але перш за ўсё як магутнага рычага па падняцьцю агульнакультурнага ўзроўню і сацыяльна-палітычнага выхаваньня працоўных мас горада і вёскі», указвалася на «вострую неабходнасьць партыі авалодаць кіно — як адным з найбольш магутных сродкаў барацьбы з дробна-буржуазнымі ўплывамі». Канстатавалася, што «… пакуль што пераважае ідэалагічна малацэнная, а часта нават шкодная кінафільма». Ставілася задача «…пераўтварэння кіно ў магутную зброю пралетарыяту на фронце культурнай рэвалюцыі» [16, арк. 320–331].

Падчас падрыхтоўкі да нарады ў Мінску, Барысаве, Гомелі, Оршы і Віцебску былі праведзены грамадскія дыспуты па пытаннях кіно. У «тыповых» выступленнях, спецыяльна адабраных для нарады і патрабуючых дэманстрацыі новага, пралетарскага кіно, можна было пачуць нешматлікія словы праўды: «Дзіцячы глядач запаўняе глядзельную залу нашых кіно [дзеці складалі палову савецкіх кінагледачоў таго часу. — *А. Г.*], калі дэманструюцца такія карціны, як “Індыйская грабніца”, “Чорны канверт” і г. д.»; «Калі дэманстраваліся карціны “Кляймо злачынства” і “Вялікі шлях”[39], мы бачылі, што большасць гледачоў падае на карціну “Кляймо злачынства”».

Выступленні ўдзельнікаў грамадскіх дыспутаў дазваляюць таксама скласці ўяўленне пра культурны ўзровень працоўных мас, які разглядаўся ўдзельнікамі нарады як аб’ект ідэалагічнага ўздзеяння: «калі на экране паказалася кавалерыя, вясковыя гледачы напалохаліся і паляглі», «калі на экране паказаўся аўтамабіль і хутка знік, дык селянін падыйшоў да экрана, паспрабаваў на вобмацак палатно і кажа “Во нячыстая сіла, уласнымі вачыма бачыў аўтамабіль, а зараз яго няма”», «у нас ёсць шмат рабочых, якія яшчэ не разумеюць зместу кінакарцін, для гэтага неабходна практыкаваць дэманстрацыю фільмы ў

саправаджэнні лектара, які б тлумачыў рабочаму змест карціны» [16, арк. 336–339].

Лінія на ідэалагізацыю кінематографа, абраная на кінапартнарадзе 1928 г., была замацавана 6 лютага 1930 г., калі ў Мінску ў ЦК КП(б)Б адбылася кінапартнарада, дзе абмяркоўваліся пытанні стварэння пры Белдзяржкіно мастацка-палітычнага савета, прыцягнення да напісання сцэнарыяў пісьменнікаў-камуністаў і камсамольцаў, чыткі сцэнарыяў на рабочых сходах. Лютаўская (1930) кінапартнарада цікавая тым, што на ёй у першы і апошні раз Белдзяржкіно адкрыта і прынцыпова ўзняло пытанне сваіх адносін з Галоўрэперткамам. Не падвяргаючы абмеркаванню права апошняга на правядзенне палітычнай цэнзуры кінапрадукцыі, Белдзяржкіно прапаноўвала абмежаваць сферу ўмяшальніцтва Галоўрэперткама ў кінапрацэс толькі ідэалагічнымі пытаннямі, пакінуўшы ацэнку мастацкага боку кінастужак прафесіяналам. Белдзяржкіно прасіла «пры забароне сцэнарыя дакладна матываваць прычыны яго ідэолёгічнай няпрыемнасьці, а пры неабходнасьці ўнясеньня паправак дакладна ўказываць дзе якія недахопы знойдзены ў тым ці іншым сцэнарыі», а таксама «дабіцца такога становішча, каб сцэнарыі разглядваліся Галоўрэперткамам ня больш чым на працягу сямідзённага тэрміну». Асобна ўздымалася пытанне паўторнага цэнзурнага разгляду беларускіх фільмаў у Галоўрэперткамах саюзных рэспублік перад іх пракатам за межамі БССР [18, арк. 24].

Уладная палітыка ў адносінах да кіно зводзілася да максімальнага павелічэння пракату стужак вытворчасці савецкіх кінастудый за кошт замежных і дарэвалюцыйных расійскіх карцін. Праводзілася практыка жорсткага кантролю не толькі работы сцэнарыстаў, але таксама ўсіх знятых матэрыялаў на спецыяльных праглядальных сеансах. Усе кінакарціны, якія паступалі ў пракат з Белдзяржкіно,

падлягалі папярэдняму прагляду Галоўрэперткамам, пасля чаго атрымлівалі пашпарт. «Удасканальванне» кінакарцін адбывалася шляхам выразання найбольш «шкодных месцаў» і замены тытраў. Афіша кожнага фільма, які быў дазволены для прагляду дзецям, павінна была змяшчаць інфармацыю: «Дапушчаюцца дзеці». Калі гэта звестка ў афішы адсутнічала, то дадзены фільм для прагляду дзецям аўтаматычна забараняўся. Узроставае абмежаванне допуску на ўсе кінасеансы складала 15 гадоў [30, арк. 68].

На мяжы 1920–1930-х гг. змяняюцца змест і формы правядзення культурнай рэвалюцыі, якую сталі называць «трэцім фронтам», па аналогіі з «першым фронтам» (індустрыялізацыяй) і «другім фронтам» (калектывізацыяй). Пачынаецца працэс поўнага адзяржаўлівання сферы культуры, калі дзяржава фінансавала, кантралявала і накіроўвала ўсё. У мастацтве пасля творчага плюралізму і барацьбы розных напрамкаў у 1920-я гг. мастацкай інтэлігенцыі пачала навязвацца ідэйна-творчая платформа сацыялістычнага рэалізму. Нацыянальна арыентаванае мастацтва, якое не ўкладалася ў рэчышча марксісцка-ленінскай ідэалогіі, а фактычна — сталінізму, выціскалася з культурнай прасторы краіны. На змену яму прыходзіла новае мастацтва, якое на сцэне ўвасабляў Беларускі тэатр рабочай моладзі, створаны ў 1929 г.[40] У галіне відовішчных мастацтваў лозунг «Культуру — у масы!» праявіўся не толькі ў змене рэпертуару і змесце рэжысёрска-акцёрскай работы, але нават у з’яўленні т. зв. «рабочай паласы» — спецыяльных бясплатных месцаў у глядзельных залах для рабочых прамысловых прадпрыемстваў. Тады ж сфарміравалася «добраахвотна-прымусовая» сістэма наведвання ідэалагічна-вытрыманых, выхаваўчых тэатральных пастановак. Адным з найважнейшых сродкаў правядзення культурнай рэвалюцыі, выхавання «новага чалавека» робіцца цэнзура.

Да канца 1920-х гг. задачы і метады дзейнасці цэнзуры ў

галіне відовішчаў змяняюцца. Прапаноўваць дарэвалюцыйны расійскі (за выключэннем дзясятка дазволеных класікаў) ці замежны буржуазны рэпертуар у атмасферы 1930-х гг. ніхто з арганізатараў відовішчных мерапрыемстаў нават не спрабаваў. Таму асноўны ўдар наносіўся па творах маладых беларускіх савецкіх аўтараў. Абстаноўка сталінскага тэрору вымагала ад цэнзараў больш жорсткіх у параўнанні з ліберальнымі 1920-мі гадамі дзеянняў. А сама цэнзарская забарона часта азначала для аўтара турэмнае пакаранне альбо смяротны прысуд.

Важнай вехай у працэсе фарміравання таталітарнай мадэлі культуры ў БССР стаў пленум ЦК КП(б)Б, які праходзіў з 20 па 25 кастрычніка 1930 г. у Мінску. На пленуме паслядоўна фарміраваўся негатыўны вобраз нацыянальна-дэмакратычнай інтэлігенцыі. Устаноўка на прамое падпарадкаванне мастацкай культуры інтарэсам партыі, якая прагучала на кастрычніцкам пленуме, была пакладзена ў аснову рашэнняў І Усебеларускай нарады сцэнарыстаў, Усебеларускай партыйнай нарады па пытаннях мастацтва, Усебеларускай канферэнцыі мастакоў, якія адбыліся ў 1931 г. У тым жа годзе ў Мінску адбыліся дзве выстаўкі — IV Усебеларуская, якая дэманстравала ўзоры новага, рэвалюцыйнага мастацтва, і «нацдэмаўская», закліканая папярэдзіць беларускіх мастакоў пра тое, якую небяспеку тоіць у сабе зварот да нацыянальна-гістарычнай тэматыкі.

Новы курс правядзення культурнай рэвалюцыі ў галіне відовішчных мастацтваў у БССР вызначыла першая ўсебеларуская партыйная нарада па пытаннях мастацтва, якая адкрылася 6 снежня 1931 г. Ва ўступным слове загадчык агітацыйна-прапагандысцкага аддзела ЦК КП(б)Б А. А. Чарнушэвіч наступным чынам акрэсліў галоўную задачу правядзення нарады: «…актывізаваць мастацтва, як зброю барацьбы за генеральную лінію нашай партыі з правым

ухілам — найбольш небяспечным на гэтым этапе і з “левымі” загібамі і з прымірэнчымі да іх адносінамі, …у барацьбе з беларускім нацдэмакратызмам, шавінізмам і шавінізмамі яўрэйскім, польскім і інш.». Нарада 1931 г. па пытаннях мастацтва мела пагромны характар, а многія выступоўцы, прыкрываючыся ваяўнічай фразеалогіяй, зводзілі асабістыя рахункі са сваімі калегамі.

Так, акцёры БДТ-2 крытыкавалі работу дырэктара тэатра М. Красінскага, які ўжо год знаходзіўся ў зняволенні. Акцёр і тэатральны дзеяч У. Стэльмах абрушыўся на тэатры рабочай моладзі. Цэнзар і літаратуразнавец В. Вольскі сцвярджаў, што за перыяд з 1921 па 1928 г. нацдэмы здолелі захапіць у свае рукі беларускі тэатр, ілюструючы гэта на прыкладзе пастановак п’ес «Кастусь Каліноўскі» А. Міровіча, «Над Нёмнам» М. Грамыкі (ужо арыштаванага), «Вір» І. Левановіча. Незадавальненне маладога музыкі І. Любана выклікаў апошні зборнік вядомага беларускага кампазітара і дырыжора В. Яфімава з прычыны змяшчэння ў ім «…польскай мазуркі накшталт “яшчэ Польска не згінэла”, …піянэрскіх песен, якія з’яўляюцца пахабнымі, …з яўрэйскіх песен выбраны нацыянальныя рэчы, …ёсць улюбёная песьня банды Булаховіча “Ай бары, бары”». Намеснік дырэктара Інстытута літаратуры і мастацтва Беларускай акадэміі навук Я. Ліманоўскі (у часы нямецкай акупацыі працаваў у мінскім тэатры і ад’ехаў у 1944 г. разам з нацыстамі) папракаў Я. Цікоцкага і М. Аладава за іх наватарскія музычныя творы. Не абмінулі выступоўцы нават народную песню «Саўка і Грышка» за тое, што ў ёй ужываюцца словы «Каляды» і «Хрыстос». На нарадзе ўпершыню прагучала думка пра стварэнне дзяржаўнай арганізацыі, якая б аб’яднала ўсе эстрадныя калектывы з мэтай усталявання над імі ідэалагічнага кантролю [22, арк. 1–191].

Ідэалагічнае кіраўніцтва тэатрамі было цэнтральнай

тэмай абмеркавання на Усебеларускай партыйнай нарадзе «Аб становішчы і задачах развіцця тэатраў БССР», якая адбылася ў лістападзе 1932 г. [25, арк. 137–144].

Ёй папярэднічалі дзве пастановы ЦК КП(б)Б. Першая з іх — ад 21 жніўня 1931 г. пад назвай «Аб рабоце Беларускага дзяржаўнага яўрэйскага тэатру» рэзка крытыкавала кіраўніцтва апошняга за «…адсутнасьць у партфэлі тэатру неабходнага запасу ідэолёгічна каштоўных п’ес і сталай організаванай сувязі з пролетарскімі пісьменьнікамі і драматургамі, дрэнную організацыю творчай працы, [у выніку чаго] …партячэйка і мясцком не сталі на чале разгортваньня ўдарніцтва і соцспаборніцтва сярод работнікаў тэатру» [20, арк. 132]. Другая пастанова — «Аб становішчы і кіраўніцтве тэатральнай справай у БССР» ад 23 жніўня 1932 г. ужо канстатавала «…разгром уплываў нацыянал-дэмакратызму ў рабоце тэатраў» [24, арк. 84].

Галоўным вынікам лістападаўскай (1932) нарады было абранне новага курсу на пабудову савецкага пралетарскага тэатра з новым рэпертуарам для новага гледача. Усе тэатры былі павінны ўдзельнічаць у гаспадарча-палітычных кампаніях — калектывізацыі вёскі, авалоданні новай тэхнікай, перавыбарах у саветы, падпісцы на займы і інш. Не менш пільна партыйныя ідэёлагі сачылі за ўкараненнем у тэатрах новых формаў працы, такіх як мастацка-палітычныя саветы, якія існавалі пры кожным тэатры, канферэнцыі рабочага гледача, дыспуты аб пастаўленых п’есах, «культвылазкі» на прадпрыемствы. Для павышэння ідэалагічнага ўзроўню тэатральных калектываў уводзіліся прымусовая палітвучоба, падпіска на газеты, заняткі ў ваенна-спартыўных гуртках.

Удзельнікі партнарады па музычным мастацтве, якая адбылася ў Мінску ў снежні 1932 г., вызначыўшы ў якасці галоўных ворагаў пабудовы сацыялістычнага музычнага мастацтва рускіх шавіністаў на чале з вядомым беларускім і

рускім кампазітарам, музычным этнографам Я. Прохаравым (настаўнік М. Аладава) і беларускіх нацыяналістаў на чале з кампазітарам У. Тэраўскім, заклікалі да стварэння «Асацыяцыі беларускіх музыкаў» [23, арк. 360].

На восень 1930 г. у якасці альтэрнатывы «нізкаясным гастралёрам-эстраднікам», а таксама мясцовым музычным і харавым калектывам, «засмечаным прадстаўнікамі культа», было запланавана стварэнне паказальнай перасоўнай эстраднай групы, якая б паклала «…пачатак ідэалагічна і па-мастацку каштоўнаму абслугоўванню рабочых і калгасных мас БССР з клубнай сцэны і летняй эстрады». Неўзабаве з мэтай цэнтралізаванага распаўсюджвання п’ес сярод драматычных гурткоў горада і вёскі было створана мінскае аддзяленне Цэнтральнага ўпраўлення па распаўсюджванні драматычных твораў (Цэдрам) [19, арк. 153].

У сакавіку 1931 г. у Мінску прайшла I нарада сцэнарыстаў, дзе парткіраўніцтва патлумачыла, хто, навошта і якія кінасцэнарыі павінен пісаць. 22 ліпеня таго ж года выйшла пастанова ЦК КП(б)Б «Аб выніках абследваньня кінематаграфіі БССР», у якой былі вызначаны напрамкі ідэйна-мастацкага развіцця беларускага кіно. 25 кастрычніка 1932 г. адбылася другая ўсебеларуская партыйная нарада па пытаннях мастацтва, дзе была прынята рэзалюцыя «Вынікі і асноўныя задачы разьвіцця кінематаграфіі БССР». У ёй канстатавалася, што кінематограф значна адстае ў колькасным і якасным паказчыках ад патрабаванняў рабочых і калгасных мас: «Ацэньваючы сацыяльныя вынікі кінапрадукцыі Белдзяржкіно за ўвесь прайшоўшы перыяд часу… — неабходна прызнаць, што ў некаторай частцы гэтай прадукцыі (“Лясная быль”, “Хвоі гамоняць”, “Гатэль Савой”) маюцца элементы паашчрэньня экзотыкі, этнаграфічнай, рамантычна-нацыяналістычнай плыні, падыход да кінематаграфіі БССР як кінематаграфіі этнаграфічнай».

Фільмы «Кастусь Каліноўскі», «Яго правасходзіцельства», «Наша Беларусь» крытыкаваліся за паказ «прыроджаных рысаў беларусаў і яўрэяў». Творчасць У. Корш-Сабліна і Ю. Тарыча была названа творчасцю папутчыкаў, якія імкнуцца да перабудовы. У. Гардзін апынуўся ў лагеры буржуазных элементаў. Крытыкаваліся карціны «Песня вясны» (за адсутнасць кіруючай ролі партыі), «Суд павінен працягвацца» (за дробнабуржуазны суб'ектывізм), «Май калгасны» (за левыя загібы), «Асабістае жыццё» (за прыстасавальніцтва і чырвоную халтуру) [25, арк. 149–161].

Настроі, што панавалі ў час «крутога павароту» ў асяроддзі стваральнікаў кіно, перадае наступны фрагмент даклада сакрэтна-палітычнага аддзела АДПУ, які ў снежні 1931 г. выкрыў на кінафабрыцы «Белдзяржкіно»

«групу відавочна антысавецкі настроеных рэжысёраў, палітычна непісьменных, неталенавітых рамесьнікаў. Яны дасягнулі "знешняга дабрабыту", дэкларуючы сваю адданасць савецкай уладзе і здымаючы псеўдарэвалюцыйныя, "лакіраваныя" карціны». Сярод апошніх называўся У. Вайншток[41], якому прыпісваліся наступныя словы: «Вось раблю пастаноўкі. Палітычна "на ура" (як гэта атрымліваецца, не ведаю, — усё навокал не радуе). ГРК[42] задаволены. Публіка не ходзіць. Я працую на ГРК. Сметы і тэрміны ў парадку, пры гэтым я — першы ўдарнік і грамадскі работнік, — вось весела!» [3, с. 162].

Гадавая прадукцыя Белдзяржкінахронікі ў 1930-х гг. выглядала наступным чынам: 24 нумары кіначасопіса «За Савецкую Беларусь», 12 нумароў — «Калгаснік Беларусі», 12 — «Быць на варце», а таксама кінанарысы «Дзень ударніка», «Абарона межаў узімку», «Летні дзень піянера» і інш. Спецыяльным рашэннем Белдзяржкіно абавязвала рэжысёраў уключаць ва ўсе кіначасопісы сюжэты, прысвечаныя выкананню партыйных пастаноў [25, арк. 161]. Палітызацыя прадукцыі Белдзяржкіно выклікала

незадаволенасць насельніцтва, якое пасіўна пратэставала супраць сумнага прапагандысцкага рэпертуару — не хадзіла на тыя кінасеансы. Пра гэта сведчыць ліст, атрыманы ў сакавіку 1932 г. гомельскім аддзяленнем Белдзяржкіно ад загадчыка культсектара Юравічскай прамкааперацыі Мазырскага раёна Кузняцова. «Па даручэнні мас» ён пісаў: «Кінафільмы, якія вы дасылаеце ў мястэчка Юравічы, як "Зямля пайшла", "Алкаголь" і інш. хаця яны і навуковыя, але яны не падыходзяць для нашай аўдыторыі. І пагэтаму, сярод нашых сябраў арцелі знізілася цікавасць да наведвання кіно. Даходзіць да таго, што кіно фільмы прапускаюцца пры пустой зале. Мы просім вас прысылаць не агітацыйныя карціны, але замежныя камедыі і трагедыі. У іншым выпадку адмаўляемся выконваць дамову» [21, арк. 95]. Цалкам натуральнае імкненне людзей да забаўляльнага кінажанру было расцэнена як ідэалагічная дыверсія. Гомельскае аддзяленне Белдзяржкіно перадало ліст з Юравіч у Рэчыцкі райкам партыі, намаганнямі якога Кузняцоў быў выключаны з арцелі як «сын кулака і п'яніца».

Ва ўмовах татальнага тэрору не спрацоўвала схема цэнзуры кінарэпертуару, адрэгуляваная яшчэ ў ліберальныя 1920-я гг. 13 снежня 1931 г. у аддзел культуры і прапаганды ЦК КП(б)Б паступіў ліст ад Слуцкага райкама партыі наступнага зместу: «У Слуцку 10, 11-га сьнежня ў кіно "Зорка" дэманстравалась кіно-карціна і як дадатак да яе журнал-хроніка № 20. Зьмест гэтага журнала-хронікі наступны: пасьля паказу ўрачыстасьці сьвяткаваньня 10-годзьдзя БССР у Маскве, дзе была беларуская дэлегацыя дэманструецца Акадэмія Навук БССР. Перад глядачом праходзяць Ігнатоўскі, Некрашэвіч, Ластоўскі, Бялуга і інш. Потым камісія навуковай мовы, дырэктар інстытуту навуковай мовы Лёсік, старшыня камісіі па складаньню слоўніка Шыпіла. Далей дэманструецца Бел. Дзярж. Музэй з яго "дасягненьнямі" у час кіраўніцтва нац. дэмамі: дарагія

сэрцу нацдэмократа атрыбуты беларускай самабытнасці: печ, кросна, узорны рушнік і саматужныя вырабы. Яўрэйскі аддзел з сьвятынямі, падсьвечнікамі і іншым. Заканчываецца гэты журнал такой сымболікай: Груганы. Чорныя вораны стаяй кружацца, дзёўбят, рвут кускамі якое-та цела. Вельмі падазроная сымболіка. Як гэты журнал папаў у кіно? Ён да гэтага быў у такіх гарадох як Бабруйск, Гомель, Асіповічы і інш. Паспарт, па словам Заг. кіно, асобна на кіно-журнал не даецца. Выдаецца паспарт на ту карціну пасьля якой ён дэманструецца. Паспарт на гэту карціну выдан у Менску 1/1-34 г., г. зн. год таму назад. Нічога дзіўнага, што пападаецца гэткае "мастацтва". У раёне (у Слуцку) яна дэманстравалась таму, што ні Райліта, ні яго намесьніка у РВК не было: паехалі на раён. Зараз яна затрымана і будзе накіравана ў Менск. Райком зрабіў пэўнае ўзьдзейнічаньне на віноўных у гэтым раёне асобы. Даводзячы аб гэтым да ведама адпаведныя арганізацыі лічу неабходным давесьці гэта і да вашага ведама» [21, арк. 12].

Падобныя лісты партыйныя і ўрадавыя органы рэгулярна атрымлівалі на працягу 1930-х гг. Так, напачатку 1939 г. старадарожскі і смалявіцкі райліты дакладалі ў Галоўрэперткам, што «…у апошні час мінская пракатная кантора Белдзяржкіно дасылае ў раёны кіначасопісы, у якіх папулярызуюцца ворагі народа — Наседкін, Касіор і інш.» [28, арк. 16]. Адказам на падобныя звароты з месцаў было не толькі адабранне з пракату стужак, але таксама рэпрэсіі супраць супрацоўнікаў Белдзяржкіно. Так, у чэрвені 1932 г. за памылковую ўклейку ў кінахроніку тытраў з іншага фільма («Нашу пяцігодку пастараемся выканаць, калі нам не перашкодзяць аб'ектыўныя прычыны») была аддадзена пад суд правершчыца Алексютовіч [21, арк. 136].

Акрамя праглядаў у партыйных інстанцыях і Галоўрэперткаме фільмы, прысвечаныя ваенна-абарончай тэматыцы, праглядалі ваенныя цэнзары, а стужкі, дзе

паказвалася жыццё за мяжой, праглядалі супрацоўнікі Упраўлення упаўнаважанага Наркамата замежных спраў СССР у Мінску. Менавіта з-за ігнаравання апошняга быў забаронены да паказу фільм «Шчасце» (1932, рэжысёры А. Файнцымер, Ул. Салаўёў), прысвечаны гаротнаму сялянскаму жыццю ў Заходняй Беларусі.

Аб ідэйна-тэматычнай скіраванасці Белдзяржкіно дае ўяўленне тэматычны план яго работы на 1928–1929 гг. План складаўся з наступных тэм: 1. Сацыяльна-побытавыя; 2. Агульнапалітычныя; 3. Гістарычныя і гісторыка-рэвалюцыйныя; 4. Дзіцячыя; 5. Палітыка-асветніцкія [5, с. 20]. Спробы адыходу ад звыклых агітацыйна-прапагандысцкіх стэрэатыпаў адразу ж выклікалі негатыўную рэакцыю цэнзуры. Так было з гісторыка-рэвалюцыйным фільмам «Першы ўзвод», знятым У. Корш-Саблiным у 1932 г. і карцінай аб сучаснасці «Двойчы народжаны» (рэжысёр Э. Аршанскі, 1933). Прычым, першы гукавы фільм на беларускай мове «Двойчы народжаны» з’явіўся на экранах паводле рашэння партыйнага кіраўніцтва рэспублікі насуперак адмоўнаму стаўленню да яго Галоўліта. Цэнзар прагнуў крыві. Ён не быў задаволены тым, што аўтар сцэнарыя Р. Кобец асудзіў героя фільма – канакрада Лапуха да пяці гадоў зняволення ўмоўна. На думку Галоўліта, гэты тэрмін трэба было падоўжыць да дзесяці гадоў ці замяніць расстрэлам, што было б для калгаснікаў прыкладам таго, як трэба змагацца з «ворагамі народа».

Не ўбачылі шырокага экрана сатырычныя стужкі «Хамелеон» (рэжысёр – дэбютант А. Леўшын, 1930)[43], «Інжынер Гоф» (рэжысёры Б. Шпіс і Р. Мільман, 1935). Фільм «Салавей» паводле вядомай аповесці З. Бядулі (рэжысёр Э. Аршанскі, 1937) – адзіная экранізацыя твора беларускай літаратуры ў 1930-я гг. – быў забаронены загадам Дзяржаўнага ўпраўлення кінематаграфіі СССР. І толькі пасля шматлікіх зваротаў Белдзяржкіно ў Маскву фільм

дазволілі да паказу толькі ў беларускім рэспубліканскім кінапракаце. Героіка-рэвалюцыйнаму фільму «Балтыйцы» саюзны Галоўрэперткам доўгі час не адважваўся выдаць пашпарт. Маскоўскіх цэнзараў стрымлівалі сумненні адносна таго, як у беларускай карціне быў выведзены вобраз Сталіна. У 1939 г. агітацыйна-прапагандысцкі аддзел ЦК КП(б)Б з-за эпізода, дзе гераіня крыўдзіць героя-стаханаўца, уключыў у катэгорыю «нерэкамендаваных да прагляду» фільм У. Корш-Сабліна «Маё каханне». Партыйных ідэолагаў не спыніла тое, што да таго часу фільм карыстаўся надзвычайнай папулярнасцю ў СССР, а яго ардэнаносны рэжысёр, лаўрэат Сталінскай прэміі з'яўляўся мастацкім кіраўніком беларускай кінастудыі [7, с. 447].

У адной з лепшых на той час стужак — «Двойчы народжаны» з У. Крыловічам у галоўнай ролі (рэжысёр Э. Аршанскі, сцэнарый Р. Кобеца, 1933), замянілі 5-ю частку, прыбраўшы з яе партрэт «ворага народа», старшыні ЦВК БССР А. Р. Чарвякова. Падобныя аперацыі праводзіліся над стужкамі «Вяртанне Натана Бекера» (рэжысёр Б. Шпіс, 1932), «Сосны шумяць» (рэжысёр Л. Малчанаў, 1928) і інш. Яшчэ большую працу па «кастрацыі» цэнзарам давялося зрабіць у кінахроніцы — знішчальныя нажніцы прайшліся па кожнай стужцы. У 1930-я гг. шэраг беларускіх кінакарцін быў фізічна знішчаны. Так, не ўратавала імя заснавальніка беларускага кінематографа Ю. Тарыча ад гэтага лёсу яго фільм пра дэзерціра-чырвонаармейца «Уцекачы» (1932) [5, с. 142].

Аб працэдуры цэнзуравання кінакарцін дае ўяўленне «Пратакол № 9/3 прагляду кінафільмаў», які праводзіўся супрацоўнікамі культасветаддзела ЦК КП(б)Б на чале з яго загадчыкам В. К. Шчарбаковым 17 верасня 1935 г. Прывядзём гэты дакумент цалкам: «1. "Інжэнер Гоф". Рэжысёры Мільман і Шпіс. Вытворчасць: Белдзяржкіно. У фільме палітычна шкодна трактуецца беларускае калгаснае

сялянства. Карціну на экран не выпускаць.

2. “Корэнь жыцця”. Рэжысёр Літвінаў. Вытворчасць: Масфільм. а) Назву карціны змяніць. б) Надпіс у пачатку карціны “навокал вайна…” зняць. Пасля выпраўленняў дазволіць надрукаваць 75 копій. Дапусціць дэманстрацыю фільма “Корэнь жыцця” для дзяцей. 3. “Шлях карабля”. Рэжысёр Тарыч. Вытворчасць: Белдзяржкіно. а) дазволіць выпуск карціны на экран. б) устанавіць тыраж у 150 экз. в) абавязаць Белдзяржкіно рабіць нямы варыянт карціны» [26, арк. 242]. У рэзалюцыях партыйных цэнзараў звяртаюць на сябе ўвагу дзве акалічнасці. Па-першае, цэнзарскія паўнамоцтвы беларускіх партыйных чыноўнікаў распаўсюджваліся на маскоўскую кінапрадукцыю. Па-другое, партцэнзары не толькі забаранялі паказ і рабілі купюры ў фільмах, але таксама абмяжоўвалі кола іх гледачоў шляхам вызначэння колькасці копій і мэтавай аўдыторыі.

У жніўні 1937 г. кіраўнік трэста «Белдзяржкіно» Д. Ю. Конік паведаміў у Дзяржаўнае ўпраўленне кінематаграфіі ў Маскву, што з 46 мастацкіх фільмаў, створаных за дзесяць гадоў існавання беларускага кіно, 18 былі забаронены для паказу. Акрамя таго, былі зняты ўсе дакументальныя карціны для знішчэння «шкодных» кадраў [8, с. 499].

У сярэдзіне 1930-х гг. пасля рэпрэсій у адносінах да кінакарцін настала чарга іх стваральнікаў. У выніку разгромнага артыкула ў «Звяздзе» ад 8 сакавіка 1935 г. і спецыяльна прынятай у тым жа месяцы пастановы ЦК КП(б)Б быў звольнены дырэктар беларускай кінафабрыкі ў Ленінградзе А. Я. Некрашэвіч. 17 верасня 1936 г. ЦК КП(б)Б і СНК БССР прынялі новую пастанову «Аб рабоце Белдзяржкіно і кіна-студыі “Савецкая Беларусь” у Ленінградзе». У ёй рэзка крытыкавалася кіраўніцтва беларускага кіно за адсутнасць карцін актуальнай палітычнай тэматыкі на беларускім матэрыяле, а таксама за

кадравую і фінансавую палітыку. Канстатаваліся факты засмечанасці Белдзяржкіно «класава-чужымі, кансерватыўнымі і рвачаскімі элементамі рэжысёрскага і акторскага складу». У выніку ў наступным годзе як былога члена БУНДа, які «…прыкармліваў нацыянал-фашыстаў Чарота, Зарэцкага, Гартнага, Дудара, Вольнага і інш.», знялі з пасады дырэктара Белдзяржкіно А. І. Галкіна (яму прыпомнілі таксама тыражаванне і пракат фільма «Дняпро ў агні», прызнанага на грамадскім праглядзе шкодным), а таксама некаторых іншых кіруючых супрацоўнікаў. У тым жа 1937 г. быў расстраляны малады рэжысёр, адзін з аўтараў «Палескіх рабінзонаў» І. Бахар. Былі арыштаваны і выдалены з кіно пісьменнікі і грамадскія дзеячы Я. Дыла, Р. Кобец і А. Александровіч.

Крытыка ў адрас беларускай кінавытворчасці, якая ўжо падпарадкоўвалася агульнасаюзнаму Камітэту па справах кінематаграфіі, зноў прагучала ў спецыяльнай пастанове бюро ЦК КП(б)Б, прынятай 21 жніўня 1938 г. У той час усе тэматычныя планы кінастудыі «Савецкая Беларусь» ужо разглядаліся і зацвярджаліся на бюро ЦК. У якасці прыярытэтных для сцэнарыстаў тэм былі вызначаны: перамога ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, гераіка сацыялістычнага будаўніцтва, памежнае становішча БССР, роля Сталіна ў станаўленні беларускай дзяржаўнасці. Нацыянальная тэматыка ў планах кінастудыі была ўсяго толькі данінай таму, што сёння мае назву «паліткарэктнасць» [27, арк. 4]. Але нават з выкананымі ў рэчышчы гэтай тэматыкі фільмамі ў цэнзараў паўставалі праблемы. Апошняя даваенная беларуская кінастужка «Сям′я Януш» (рэжысёр С. Наўроцкі, 1941), прысвечаная вызваленню Заходняй Беларусі, таксама лягла на паліцу як забароненая [4, с. 106].

Такім чынам, творчаму і арганізацыйнаму неспакою беларускіх кінематаграфістаў у 1930-я гг. спадарожнічалі

выкрывальныя партнарады і сходы, дзе кляймілі «ворагаў народа», чаканне арыштаў і змыванне негатываў, страх і адчай.

27 чэрвеня 1934 г. СНК БССР скасаваў сваю пастанову ад 18 мая 1923 г. «Аб камітэце па кантролю за рэпертуарам» і замест яе за подпісам М. М. Галадзеда зацвердзіў палажэнне «Аб сектары па кантролю за відовішчамі і рэпертуарам пры Наркамасветы БССР». Згодна з новым палажэннем, Галоўрэперткам (цяпер афіцыйна — «Сектар па кантролю за відовішчамі і рэпертуарам») па-ранейшаму ажыццяўляў палітыка-ідэалагічны і мастацкі кантроль, як папярэдні, так і наступны, над усім тэатральным, музычным і кінарэпертуарам на тэрыторыі БССР. Ён па-ранейшаму выдаваў дазвол на дзейнасць ўсіх відовішчаў. Разам з пацвярджэннем папярэдніх напрамкаў дзейнасці Галоўрэперткама новае палажэнне пашырала іх за кошт увядзення абавязка цэнзураваць усе творы мастацтва з пункту гледжання захавання ваенных тайнаў. Афіцыйна ўводзіўся новы напрамак цэнзурнай дзейнасці — мастацкае радыёвяшчанне. Нарэшце, сектар пачаў выдаваць дазволы на ўвоз з-за мяжы і вываз за мяжу музычных твораў, фільмаў, грамафонных пласцінак і драматычных пастановак [1, арк. 16–18].

Неўзабаве выйшла сумесная інструкцыя Наркамасветы, Наркамюста і НКУС БССР, якая дэталізавала палажэнне СНК у бок пашырэння кампетэнцый сектара па кантролю за відовішчамі і рэпертуарам. Напрыклад, у яго абавязкі пачало ўваходзіць цэнзураванне кінафільмаў і грампласцінак, выробленых у РСФСР і іншых саюзных рэспубліках. Усе сцэнарыі і мантажныя аркушы, а таксама афішы аўтары мусілі падаваць у сектар у двух экзэмплярах. Замежныя грампласцінкі, якія ўвозіліся з-за мяжы для распаўсюджвання, таксама прадстаўляліся ў двух экзэмплярах з перакладам на рускую або беларускую мову.

Асобнымі часткамі твор не прымаўся. Калі сектар прымаў станоўчае рашэнне аб дазволе, то адзін экзэмпляр сцэнарыя з візай вярталі аўтару ці арганізацыі, а другі пакідалі ў сектары. Кінастудыі дазвол давалі на кожную копію карціны. Забароненыя фільмы і грампласцінкі адбіраліся. Дазволы, дадзеныя раённымі аддзяленнямі сектара, дзейнічалі толькі на тэрыторыі іх раёнаў. Нават калі дазвол выдаваў начальнік сектара ў Мінску, арганізатары відовішчаў мусілі «рэгістраваць» дазволены твор у яго мясцовым аддзяленні. Арганізатар відовішча за пяць дзён павінен быў прадставіць (а паведаміць — за дзесяць дзён) падрабязную праграму з указаннем назвы і адраса, дзе адбудзецца спектакль, канцэрт альбо кінасеанс, анкетных даных выканаўцаў, а таксама адказнага за імпрэзу.

У абавязкі сектара па кантролю за відовішчамі і рэпертуарам таксама ўваходзіла зацвярджэнне рэпертуарных планаў відовішчных прадпрыемстваў. Загадчыкі рэпертуарных частак тэатраў прызначаліся па ўзгадненні з кіраўніцтвам сектара. Спіс асоб, якім дазвалялася прысутнічаць на цэнзурных праглядах, таксама зацвярджаўся яго кіраўніцтвам.

Пасля кожнага прагляду складаўся акт прыёмкі ў двух экзэмплярах. Усе відовішчныя прадпрыемствы мусілі браніраваць на кожны спектакль два месцы ў партэры не далей чацвёртага рада для кіраўніцтва ў Мінску і адно месца для ўпаўнаважанага ў раёнах. Цэнзары мелі бесперашкодны ўваход на ўсе мерапрыемствы. У выніку парушэнняў на арганізатара альбо выканаўца цэнзары складалі акты, па якіх органы пракуратуры заводзілі судовыя справы. Нагляд за выкананнем забарон камітэта па-ранейшаму ўскладаўся на органы дзяржбяспекі [1, арк. 18–24].

Ахвярамі цэнзуры сярэдзіны 1930-х гг. былі ўжо не прадстаўнікі старых драматургічных школ, але аўтары павярхоўных, зробленых па замове п’ес на надзённую,

пераважна калгасную тэматыку, кшталту «За калгас», «Трактар», «Помста кулацкая». У 1935 г. з-за адсутнасці класавай складаючай у каханні галоўных персанажаў забаранілі камедыю «Герой» загадчыка літаратурнай часткі БДТ-1 Я. Рамановіча. Такі ж нешчаслівы лёс напаткаў прысвечаную калектывізацыі п′есу драматурга В. Сташэўскага «На платформу», урывак з якой паспеў з′явіцца ў друку ў 1934 г.

У сакавіку 1936 г. сектар па кантролю за відовішчамі і рэпертуарам як структурнае падраздзяленне Галоўмастацтва Наркамасветы БССР падвысіў статус, калі на аснове Галоўмастацтва было створана Упраўленне па справах мастацтва, падпарадкаванае непасрэдна СНК БССР. Сектар атрымаў статус структурнай адзінкі ўпраўлення. Адной з яго першых акцый было зняцце з рэпертуару БДТ-1 спектакляў «Сімфонія гневу» В. Шашалевіча (пастаноўка Л. Літвінава), «Недарасль» Фанвізіна (пастаноўка П. Данілава), «Жакерыя» па матывах П. Мерымэ (пастаноўка Л. Літвінава), «Зямля і неба» Л. Тура (пастаноўка М. Зорава), «Далёкае» А. Афінагенава, з рэпертуару БДТ-2 — «Лухта» К. Фіна (пастаноўка А. Дзікога), «Жаніцьба Фігаро» Бамаршэ (пастаноўка П. Антакольскага), «Ігра інтарэсаў» Х. Бенавентэ, з рэпертуару БДТ-3 — «Рыкашэт» У. Галубка (пастаноўка С. Разанава), «Контратака» Д. Курдзіна, з рэпертуару ТЮГа — «Мікола Гоман» В. Сташэўскага, «Ная» М. Зарэцкага, з рэпертуару ТРАМа — «Тарцюф» Мальера і «Наша маладосць» С. Карташова, з рэпертуару Яўрэйскага тэатра БССР — «Забастоўка жняцоў» В. Зускінда і «Авечая крыніца» Лопэ дэ Вега. «З мэтай далейшага ачышчэння беларускага тэатральнага мастацтва ад палітычна-шкодных, нізкаякасных, скажаючых гісторыю і савецкую рэчаіснасць спектакляў» пры Упраўленні па справах мастацтва была створана спецыяльная камісія, якая займалася праглядам рэпертуару тэатраў БССР [9, с. 4].

Неўзабаве пасля студзеньскага (1938) Пленума ЦК УсеКП(б), які асудзіў практыку неабгрунтаваных рэпрэсій, а таксама бюракратычныя адносіны да апеляцый і скаргаў грамадзян, дзейнасць упраўлення стала аб'ектам публічнай грамадскай крытыкі. Вось як апісвае сучаснік стыль работы гэтай структуры, у т. л. яе цэнзурную практыку: «На шостым паверсе Дома ўрада, у ціхіх пакоях, месціцца ўстанова, якая ўзначальвае фронт мастацтва нашай рэспублікі — Упраўленне па справах мастацтваў пры СНК БССР. Ідуць дні. Пухнуць тоўстыя папкі "спраў" — падшываюцца новыя і новыя загады, адносіны, планы. Браскочуць касцяшкі шчотаў у бухгалтэрыі. Усё гэта сведчыць аб тым, што ўстанова жыве, працуе. Але з дня ў дзень творчыя работнікі нашага мастацтва сцвярджаюць адно: не адчуваем мы сапраўднага кіраўніцтва сваёй працы, дапамогі, клопатаў… Тэатральны аддзел Упраўлення, які ўзначальвацца тав. Уханавым, абмяжоўвае свае функцыі толькі праглядам спектакляў пасля іх выпуску. Аддзел не займаецца важнейшымі пытаннямі кіраўніцтва — арганізацыяй творчай працы, вучобай і творчым ростам работнікаў тэатраў, іх палітычным выхаваннем… Калгасна-соўгасныя тэатры БССР таксама ведаюць работнікаў Упраўлення толькі як кантралёраў зробленай працы, а не як кіраўнікоў і творчых памочнікаў» [34, с. 3].

Пра арганізацыйны стан цэнзуры відовішчаў пасля масавых рэпрэсій 1937 г. сведчыць таксама зварот начальніка Упраўлення па справах мастацтва да сакратара ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнкі і старшыні СНК БССР К. В. Кісялёва, датаваны 27 снежнем 1938 г. Начальнік Упраўлення ў ім, у прыватнасці, канстатаваў, што ўсю цэнзуру відовішчаў у маштабах рэспублікі ажыццяўляў адзін «недастаткова кваліфікаваны» чалавек, які знаходзіўся ў апараце ўпраўлення ў Мінску. У абласных цэнтрах спецыяльных асоб па кантролі за відовішчамі не існавала ўвогуле. На

раённым узроўні відовішчы кантралявалі мясцовыя літы па сумяшчальніцтве, што дрэнна адбівалася на якасці іх работы. Атмасферу татальнага страху перадаюць прапановы кіраўніка беларускага мастацтва высокаму партыйнаму і дзяржаўнаму кіраўніцтву па паляпшэнні кантролю за рэпертуарам. Так, калі прапанова стварыць (чытай — аднавіць) апарат Галоўрэперткама ў цэнтры і на месцах — зразумелая і падаецца лагічнай, то просьба аб дапамозе, адрасаваная партыйным і савецкім уладам («… заслухваць пытанні рэпертуарных планаў тэатраў, канцэртаў і самадзейнасці»), была прадыктаваная жаданнем перакласці ці, прынамсі, падзяліцца адказнасцю за непазбежныя ў тых умовах палітычныя памылкі з партыйнымі і ўладнымі структурамі [28, арк. 5].

Палітычныя рэпрэсіі самым негатыўным чынам адбіліся на стане тэатральнага мастацтва. Іх ахвярамі сталі ўсе — ад вартаўніка Тэатра оперы і балета да кіраўніка Упраўлення па справах мастацтва. Пасля турэмнага зняволення ў 1925 г. быў вымушаны з’ехаць з БССР адзін з заснавальнікаў беларускага тэатра У. Фальскі. У 1930 г. па справе СВБ як «члена кантррэвалюцыйнай тэатральнай групы» арыштавалі і асудзілі на 5 год лагераў Ф. Ждановіча (расстраляны ў 1937 г.). У 1937 г. амаль у поўным складзе была арыштавана і расстраляна трупа БДТ-3 на чале з яе кіраўніком У. Галубком. Неаднаразова арыштоўваўся, звальняўся з працы як нацдэм і быў расстраляны ў 1938 г. дырыжор і кампазітар, галоўны хормайстар БДТ-1 У. Тэраўскі. У 1937 г. арыштавалі і расстралялі кіраўніка Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра М. Рафальскага. У 1936 г. быў арыштаваны па абвінавачванні ў трацкізме і ў 1937 г. расстраляны намеснік наркама асветы (1933–1935), рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» Х. М. Дунец. У канцы 1937 г. арыштавалі і ў 1938 г. расстралялі начальніка Упраўлення па справах мастацтва пры СНК БССР П. В. Пасюкевіча (пасаду

загадчыка Галоўрэперткама ў той час выконваў крытык і тэатразнаўца Я. І. Любамірскі).

Рэпрэсіі прывялі да вострага дэфіцыту кадраў. На працягу года са жніўня 1937 г. работай Тэатра оперы і балета кіраваў прысланы з Масквы партпрызначэнец Ф. А. Ярыкаў (яго намеснікам быў былы дырэктар мінскай фабрыкі-кухні Нагорскі), які фактычна разваліў работу тэатра [2, с. 4]. У другой палове 1930-х гг. Галоўрэперткам не паспяваў здымаць з рэпертуару тэатраў творы арыштаваных драматургаў. Тады ўключаўся НКУС, прэса, грамадскасць. У 1937 г. СМІ абвясцілі палітычна і мастацка-шкоднымі ўсе спектаклі арыштаванага НКУС мастацкага кіраўніка БДТ-1 Л. Літвінава. Тады ж спектакль ТЮГа «Хлопчык-невідзімка» быў зняты з рэпертуару настаўнікамі, якія забаранілі сваім вучням глядзець «палітычна шкодны твор» [33, с. 3]. Адразу ж пасля закрыцця ў 1938 г. тэатра імя У. Мейерхольда «ЛіМ» у сваёй перадавіцы «Супроць фармалізма ў мастацтве»

жорстка крытыкаваў Дзяржаўны яўрэйскі тэатр БССР за «фармалістычнае засілле» і вызначыў у якасці галоўнага фармаліста мастацкага кіраўніка тэатра В. Галаўчынера [10, с. 1].

У сакавіку 1939 г. спецыяльная брыгада, накіраваная з Масквы, праводзіла праверку работы ўстаноў, якія ўваходзілі ў структуру Упраўлення па справах мастацтва пры СНК БССР. Вынікі праверкі былі абагульнены ў дакладной пад назвай «Аб стане працы па мастацтву ў Беларускай ССР», накіраванай тады ж у Камітэт па справах мастацтва пры СНК СССР. У ёй, у прыватнасці, адзначалася, што, «нягледзячы на …надзвычай складаныя ўмовы для свайго існавання [мелася на ўвазе «шкодніцкая дзейнасць ворагаў народа». — *А. Г.*] беларускае мастацтва знаходзіцца на ўздыме».

У БССР у гэты час працавала дзевяць прафесійных стацыянарных тэатраў (беларускія драматычныя тэатры ў

Мінску, Віцебску, Мазыры, яўрэйскі тэатр у Мінску, рускі тэатр у Магілёве, оперны тэатр, тэатр музкамедыі, тэатр юнага гледача, тэатр лялек у Мінску) і шэсць калгасна-саўгасных тэатраў у Барысаве, Полацку, Рагачове, Бабруйску, Лепелі, Слуцку.

Аўтары дакладной, характарызуючы беларускую драматургію, адзначалі яе народнасць, значнасць тэм і патрыятычную накіраванасць. У той жа час п'есы тагачасных беларускіх драматургаў характарызаваліся як рыхлыя, прымітыўныя і плакатныя. Вобразы ў іх паўтараліся з п'есы ў п'есу (мудры дзед, малады беларус, хісткі серадняк). Рэжысёр Віцебскага беларускага драматычнага тэатра «асучасніў» п'есу Горкага «На дне» да таго, што «Ніл выглядае тыповым камсамольцам». У рэпертуарных планах тэатраў не хапала п'ес савецкіх аўтараў. Так, у Тэатры юнага гледача з дзесяці пастаўленых п'ес толькі адна была прысвечана сучаснай тэматыцы. У Палескім тэатры ў Мазыры не ставілася ніводнай п'есы на сучасную тэматыку. У рэпертуары большасці тэатраў БССР абаронная тэматыка не закраналася наогул. Указвалася таксама на дрэнную арганізацыю палітычнага выхавання беларускіх акцёраў. «У Беларускім тэатры (Мінск) …склад вельмі засмечаны. Большасць акцёраў звязана з замежжам. Актрыса Ржэцкая[44] была звязана з Галадзедам і Чарвяковым, дачка папа, бацькі ў Польшчы, Радзялоўская[45] – полька, Грыгоніс[46] – былы сябра Польскай вайсковай арганізацыі. Частка акцёраў служыла ў белых». Моцна засмечаны «ворагамі народа» быў Тэатр юнага гледача. З гэтага аўтары рабілі выснову пра неабходнасць узмацніць тэатральныя трупы кадрамі з рабочай самадзейнасці.

Адкрыццё ў 1937 г. Дзяржаўнай філармоніі БССР дало магчымасць стварэння пры ёй прафесійных сімфанічнага аркестра, ансамбля песні і танца, ансамбля народных інструментаў і дзяржаўнага хору. Найгоршым недахопам у

рабоце філармоніі, на думку членаў брыгады правершчыкаў, была яе адарванасць ад музычнай грамадскасці рэспублікі. Пераходзячы да канкрэтнага музычнага матэрыялу, яны крытыкавалі оперу Я. Цікоцкага «Міхась Падгорны» за «...адсутнасць палітычнай і мастацкай завостранасці ...брыгада лічыць, што ў фінале оперы нельга абмежавацца толькі тэмай раздзела зямлі, як выніку Кастрычніцкай рэвалюцыі. У папярэдніх карцінах оперы даволі яскрава намаляваны паражэнчыя настроі салдацкай масы, якая не жадае ваяваць з немцамі для спасення царскай Расіі. Аднак, гэтым настроям не супрацьстаіць ідэя барацьбы з немцамі — інтэрвентамі ў фінале оперы, падзеі трэба было б давесці да 1918 г.». Кампазітарам А. Туранкову («Купальская ноч»), М. Шчаглову («Кацярына Жарнасек») і М. Крошнэру («Салавей») рэкамендавалі перапрацаваць свае оперы і балет.

Справаздачу аб рабоце беларускай эстрады правершчыкам давала Кіраўніцтва цыркавымі, эстраднымі і музычнымі прадпрыемствамі, створанае ў 1935 г. на падмурку паказальнай перасоўнай эстраднай групы.

Брыгада праверчыкаў нездавальняюча ацаніла работу апарата Упраўлення па справах мастацтва пры СНК БССР. Сярод іншых арганізацыйных недахопаў адзначалася, што ў 1939 г. у ім працаваў толькі адзін беларус [28, арк. 21–45 ].

Некампетэнтная, суб'ектыўная як на кіраўнічым, так і нізавым узроўні, цэнзурная практыка ў галіне відовішчных жанраў мела яскрава акрэсленую палітычную накіраванасць. Людзі, якія мелі слабае ўяўленне пра нацыянальную і сусветную мастацкую культуру, у дыдактычнай манеры выносілі вердыкты адносна патрэбнасці альбо непатрэбнасці яе твораў. Ідэалагічная залежнасць і прафесійная некампетэнтнасць Галоўрэперткама (у апошні мірны год яго ўзначальваў

трыццацігадовы партвылучэнец С. І. Гершэнзон, які не меў ніякай спецыяльнай адукацыі) прыводзіла да супрацьлеглых рашэнняў, а таксама да падмены аб'ектыўных крытэрыяў палітычнай мэтазгоднасцю і асабістымі прыхільнасцямі. Да канца разглядаемага перыяду сфарміравалася такая з'ява, як дзяржзаказ на выраб твораў пэўнай тэматыкі — ад асушэння балот да сацыяльнага вызвалення жанчын. З 1940 г. беларускія работнікі літаратуры і мастацтва палітычна выхоўваліся ў Мінскім універсітэце марксізму-ленінізму, дзе для іх было прадугледжана 150 месцаў.

Вынікі дзяржаўнай цэнзурнай палітыкі ў галіне відовішчаў у БССР прадэманстравала Першая дэкада беларускага мастацтва ў Маскве, якая праводзілася з 5 па 15 чэрвеня 1940 г. Падчас яе наладжваліся спектаклі, канцэрты, быў арганізаваны прагляд беларускіх фільмаў. Скласці ўражанне пра стылістыку і ідэалагічны змест гэтай найважнейшай, з дзяржаўнага пункту гледжанняя, падзеі ў мастацкім жыцці БССР даваеннага часу дае магчымасць план заключнага канцэрта дэкады, які прыводзіцца цалкам у перакладзе на беларускую мову.

## КАРОТКІ ПЛАН ЗАКЛЮЧНАГА КАНЦЭРТА

К. Я. Галяйзоўскі[47] Разглядаючы заключны канцэрт як выніковы фінал дэкады беларускага мастацтва і надаючы яму выключнае значэнне, неабходна надзвычай сур'ёзна паставіць арганізацыйны бок падрыхтоўкі канцэрта.

Асноўным з'яўляецца фінансаванне.

Неабходнасць у абсалютным аўтарытэце ў прынятці рашэнняў, а таксама пазбягання інстанцый і затрымак фінансавання патрабуе, каб агульнае кіраванне і распараджэнне крэдытамі належала Начальніку ўпраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР.

Дзякуючы гэтаму можна пазбегнуць інстанцый

узгаднення, цяганіны, безадказнасці.

Уся работа па заключным канцэрце павінна праводзіцца ў такіх тэмпах, каб час, які застаўся, быў выкарыстаны максімальна.

Асобы, прыцягнутыя да арганізацыі заключнага канцэрта дэкады беларускага мастацтва, павінны адчуць і асэнсаваць, што яны заклікаы да вырашэння ганаровай і адказнай задачы; работа мусіць праходзіць у парадку баявога задання. І гэта павінна гучаць не як дэкларацыя.

Вопыт, веды, абсалютная працаздольнасць павінны быць аддадзены цалкам гэтай выключнай рабоце — здачы заліку мастацтва беларускага народа.

1. Канцэрт складаецца з 2-х аддзяленняў, працягласцю па 50 хвілін кожнае.

2. Першае аддзяленне падзяляецца на 3 часткі і ўключае:

а) Уступ;

б) Паказ беларускага фальклору;

в) Чырвонаармейская самадзейнасць;

3. Другое аддзяленне падзяляецца на 3 часткі і ўключае:

а) Уступ;

б) Паказ беларускага мастацтва і яго культурных дасягненняў;

в) Фінал;

4. Музычнае і дэкаратыўнае афармленне і сама пастаноўка канцэрта даручаецца рэжысёру (пастаноўшчыку), кампазітару, мастаку;

5. Адбор нумароў, удзельнікаў і інш. праводзіцца на месцы 3-ма ўзгаданымі вышэй кіраўнікамі канцэрта;

6. Адбор удзельнікаў паказу трэба завяршыць на працягу 2-х месяцаў (да 1 красавіка), а самі нумары павінны быць зроблены і скончаны на працягу наступных 2-х месяцаў (да 1 чэрвеня);

7. Зводныя рэпетыцыі пачынаюцца ў памяшканні

Белдзяржтэатра Оперы і Балета з 1 чэрвеня 1939 г.;

8. Да гэтага часу з большага павінны быць скончаны музычнае і дэкаратыўнае афармленне.

9. Генеральныя рэпетыцыі пачынаюцца з жніўня 1939 г.;

10. Кожны з 3-х пастаноўшчыкаў канцэрта абірае сабе патрэбную колькасць памочнікаў і па адным намесніку.

Змест канцэрта павінен базіравацца на падмурку наступных тэм: «БССР — ФАРПОСТ САВЕЦКАГА САЮЗА», «КАЛІ ЗАЎТРА ВАЙНА».

## 1-е АДДЗЯЛЕННЕ

### *Уступ*

Па зацямненні глядзельнай залы сімфанічны аркестр выконвае пад'ёмны, бадзёры, урачысты марш на тэму «Савецкая Беларусь».

Уступ непрацяглы — дзесьці на 32-м такце гэтага марша хутка раскрываецца заслона Вялікага Маскоўскага тэатра, адкрываючы наступную карціну: на фоне празрыстай цюлевай заслоны, якая прадстаўляе беларускі арнамент, змешчана вялікая група фанфарыстаў-герольдаў (чалавек 25–30). Асноўны іх касцюм — пагранформа, але фанфары ўпрыгожаны кавалкамі тканіны, арнаментаванай у духу беларускіх вышывак.

Фанфары ўздымаюцца ўверх разам са змешчаным ззаду групы «Прывітаннем» у выглядзе прамянёў, якія разыходзяцца па ўсёй прасторы.

Запоўніўшы прастору сцэны, «Прывітанне» застаецца нерухомым на працягу некалькіх секунд.

### *ЭСКІЗ № 1.*

Потым «Прывітанне» знікае наверсе, узняўшы за сабою вясёлку з характэрных беларускіх кветак.

Праз цюлевую заслону, якая раскрываецца ў момант пад'ёму вясёлкі, бачна грандыёзная група, якая складаецца з

усіх удзельнікаў дэкады, апранутых у беларускія нацыянальныя строі, і заканчваецца наверсе гербам БССР. Група змешчана на фурцы[48], якая рухаецца наперад, з такім разлікам, каб удзельнікі бліжэйшых выступленняў знаходзіліся наперадзе.

Шэраг геральдыстаў-пагранічнікаў, падзяліўшыся на дзве часткі, разыходзяцца па сцэне ўправа і ўлева.

Наперад выходзіць дэкламатар (піянер, дарослы?) і, як вуснае прывітанне і ўступ да «ПЕСНІ ПРА СТАЛІНА», чытае васьмірадкоўе.

*ЭСКІЗ № 2.*

«ПЕСНЮ ПРА СТАЛІНА» выконваюць усе ўдзельнікі дэкады. У фінале песні вясёлка знікае наверсе і з двух бакоў закрываецца заслона ў выглядзе вышытага беларускага ручніка. Гэтая заслона хавае частку групы, пакідаючы перад гледачом толькі тых, хто павінен у дадзены момант пачаць выступленні.

*ЭСКІЗ № 3.*

*ПАКАЗ БЕЛАРУСКАГА ФАЛЬКЛОРУ*

а) Савецкі фальклор — самадзейнасць: песні, частушкі, скокі, музыка, гульні і інш.

б) Стары беларускі фальклор — ансамбль песні і танца: песні, скокі, музыка, гульні і інш.

*ЧЫРВОНААРМЕЙСКАЯ САМАДЗЕЙНАСЦЬ*

Нечаканая паўза. Зацямненне. Удзельнікі паказу беларускага фальклору паварочваюцца да заслоны.

Здалёк чуецца цокат капытоў і песня кавалерыстаў, якія набліжаюцца (тэма песні — “на варце”).

Заслона прасвечваецца. Ценямі бачны сілуэты пагранічнікаў. Арнамент пераўтвараецца ў пагранзаставу.

*ЭСКІЗ № 4.*

Заслона адкрываецца, паказваючы карціну беларускага пейзажу.

*ЭСКІЗ № 5.*

З глыбіні сцэны з песняй выязджаюць на конях кавалерысты. У руках многіх з іх аднарадкі-лівенкі. Песня набывае ліхі характар. Сустрэча калгаснікаў з пагранічнікамі-чырвонаармейцамі. Вясёлая, кароткая мізансцэна. Перакідка жартаўлівымі фразамі.

Затым ідуць лірычныя праслойкі ў духу паказа старой Беларусі, у выглядзе апавяданняў і песень старых. Тэмы: «Доля жанчыны», «Батрацтва», «Жабрацтва» і інш. Усё гэта пераходзіць у паказ армейскай самадзейнасці.

Хоры, скокі.

Фінальнай дзеяй з’яўляецца агульная «Лявоніха». Танчаць яе чырвонаармейцы і калгаснікі разам. Сканчаецца раптоўна, на вялікім фортэ.

*ЗАСЛОНА*

*II АДДЗЯЛЕННЕ*

*Уступ*

Аркестр іграе прыгожы, сімфанічны марш-песню (тэма: «Прывітанне, Масква»).

Заслона Вялікага Маскоўскага тэатра адкрываецца адначасова з першымі гукамі аркестра, адкрываючы на другім плане сцэны заслону, якая ўяўляе вышытыя ручнікі (з першага аддзялення), з-за якой чутны галасы аб’яднанага хору ўдзельнікаў дэкады.

Расшытая заслона раскрываецца, прапускаючы на сцэну групу ў нацыянальных строях. З гучнай песняй яны разыходзяцца ў бакі, размяшчаюцца на прыступках з бакоў сцэны.

За першай заслонай адкрываецца наступная, на якой змешчана панарама Мінска. З-за яе таксама з песняй з’яўляецца вялікая група ўдзельнікаў дэкады. Гэтая група, таксама падзяліўшыся на дзве часткі, змяшчаецца на бакавых прыступках каля куліс.

*ЭСКІЗ № 6.*

За заслонай з панарамай Мінска адкрываецца імправізаваная плошча перад будынкам Белдзяржтэатра Оперы і Балета, якая з трох бакоў акружана прыгожымі прыступкамі. Уся гэтая карціна — на фоне цюлевай, празрыстай заслоны, на якой бачны фасад Белдзяржтэатра Оперы і Балета.

У гэты час па прыступках, змешчаных насупраць гледача, ідуць (нібыта ўзнімаюцца на гару) групамі піянеры — вучні школ, ардэнаносны Інстытут фізкультуры са сваімі сцягамі і беларускія артысты.

*ЭСКІЗ № 7.*

З апошнімі тактамі песні заканчваецца ўрачыстая карціна гэтага марша, якая паказвае, па сутнасці, — шэсце беларускага мастацтва да сцен Крамля.

Цюлевая заслона з выявай тэатра адкрываецца, паказваючы панараму Крамлёўскіх сцен.

*ЭСКІЗ № 8.*

На сярэдзіну сцэны выходзіць піянер і іграе «пад’ём», як сігнал да пачатку паказу.

*ПАКАЗ БЕЛАРУСКАГА МАСТАЦТВА*

Дэкламатар пад акампанемент аркестра народных інструментаў чытае верш «Добры дзень, Масква — Добры дзень, Сталін» (музыку і верш напісаць).

Далей ідзе паказ: а) Дзіцячай піянерскай самадзейнасці — танцавальная песня;

б) Таленавітых дзяцей — сола на скрыпцы, юная піяністка, група віяланчэлістаў;

в) Балетнай школы — танец;

г) Нумароў салістаў тэатра: Александроўскай, Млодэк, Балоціна, Дзянісава, Мурамцава, Руч'ёвай;

д) Танцаў балерын;

е) Групы балета Белдзяржтэатра Оперы і Балета;

ж) Хораў філармоніі (можа быць аб'яднаныя з хорам Белдзяржтэатра);

з) Аркестра народных інструментаў; і) Саліста — музыканта;

к) Інстытута фізкультуры.

*ФІНАЛ.*

Пасля выступлення фізкультурнікаў, пасярод сцэны пад адпаведную музыку (сімфанічны аркестр), паўстае высокая піраміда, упрыгожаная наверсе імгненна раскрытым сцягам з партрэтам таварыша СТАЛІНА і пад ім — 11 сцягамі Саюзных рэспублік. Таксама раскрываюцца нечакана.

Наперадзе піраміды — герб БССР. Каля герба з двух бакоў памежныя слупы і пагранічнікі. З бакоў, ззаду і на самой пірамідзе размешчаны групы фізкультурнікаў. Прыступкі вакол сцэны, на якіх змешчаны ўдзельнікі паказу і дэкады, прасоўваюцца наперад, акаляючы піраміду і ўсю групу ў выглядзе падковы.

Ззаду гэтай агульнай групы незвычайна хутка разыходзяцца адзінаццаць прамянёў з гербамі 11 Саюзных Рэспублік, запаўняючы ўсю прастору сцэны.

Гэта група павінна ўвасабляць энтузіязм.

Удзельнікі прамаўляюць па прынцыпе масавага чытання верш:

Вядзі нас любімы,
Табой мы з'яднаны
Ты наша жыццё

Дарагі правадыр.

*ЭСКІЗ № 9.*

Раптоўна паветра праразаюць гукі сірэны. Уся група дэфармуецца, прымаючы абаронны характар. Касцюмы таксама трансфармуюцца ў ваенны тып.

На заднім плане па небе плывуць самалёты. Яркае святло на групу.

Цяпер яна ўжо кажа аб гатоўнасці абараніць РАДЗІМУ.

Заключная «ПЕСНЯ АБ РАДЗІМЕ» (8 радкоў — 2 куплеты), якая пераходзіць у ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ.

(З першымі гукамі ІНТЭРНАЦЫЯНАЛА даць святло ў глядзельную залу).

28 студзеня 1939 г.
г. Мінск.

[28, арк. 6–11].

**Літаратура**

1. БДАМЛМ. Ф. 126. — Воп. 1. — Спр. 20.

2. Белкін, В. Злачынныя справы ў тэатры оперы і балета / В. Белкін, А. Есакоў // Літаратура і мастацтва. — 1937. — 22 ліст.

3. Власть и художественная интеллигенция: Документы ЦК РКП(б) — ВКП(б), ВЧК — ОГПУ — НКВД о культурной политике. 1917– 1953 / под ред. А. Н. Яковлева. — М. : МФД, 2002. — 872 с.

4. Все белорусские фильмы: Т. 1. Игровое кино (1926–1970) : каталог-справочник. — Минск : Беларус. навука, 1996. — 239 с.

5. Гісторыя кінамастацтва Беларусі : у 4 т. / Нац. акад. навук Беларусі; Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы. — Т. 1. 1924–1959 / А. В. Красінскі. — Мінск : Бел. навука, 2001. — 278 с.

6. Глыбоцкі, Т. Даволі анэкдотаў / Т. Глыбоцкі //

Савецкая Беларусь. — 1928. — 11 ліст.; Глыбоцкі, Т. Таптаньне на месцы / Т. Глыбоцкі // Савецкая Беларусь. — 1928. — 13 ліст.

7. Кремлевский кинотеатр. 1928–1953 / под ред. Г. Л. Бондаревой. — М. : Росспэн, 2005. — 1117 с.

8. Летопись российского кино : в 3 т. — Т. II. 193–1945 / под общ. ред. В. И. Фомина. — М. : Материк, 2004. — 846 с.

9. Літаратура і мастацтва. — 1936. — 31 снеж.

10. Тамсама — 1938. — 10 студз.

11. НАРБ. Ф. 4п. — Воп. 1. — Спр. 1800.

12. Тамсама. — Спр. 2313.

13. Тамсама. — Спр. 2354.

14. Тамсама. — Спр. 2356.

15. Тамсама. — Спр. 3122.

16. Тамсама. — Спр. 3520.

17. Тамсама. — Спр. 4339.

18. Тамсама. — Спр. 4579.

19. Тамсама. — Спр. 5016.

20. Тамсама. — Спр. 5126.

21. Тамсама. — Спр. 5442.

22. Тамсама. — Спр. 5463.

23. Тамсама. — Спр. 5464.

24. Тамсама. — Спр. 5679.

25. Тамсама. — Спр. 6099.

26. Тамсама . — Спр. 8937.

27. Тамсама. — Спр. 12447.

28. Тамсама. — Спр. 13004.

29. Тамсама. — Ф. 42. — Воп. 1 — Спр. 934.

30. Тамсама. — Спр. 1578.

31. Тамсама. — Спр. 1960.

32. Пурышава, Н. Страсці за кулісамі: Тэатральная палітыка ў БССР у 20-я гг. / Н. Пурышава // Маладосць. — 2001. — № 11.

33. Цімскі, В. За большэвіцкі стыль у кіраўніцтве / В.

Цімскі, М. Львовіч // Літаратура і мастацтва. — 1937. — 6 мая.

34. Юрын, Р. Па-большэвіцку кіраваць мастацтвам / Р. Юрын // Літаратура і мастацтва. — 1938. — 6 лют.

# ЗНІКНЕННЕ КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ

Культура — гэта толькі танюткая
яблычная лупіна над
распаленым хаосам.
*Ф. Ніцшэ*

Чалавечая цывілізацыя на працягу тысячагоддзяў сфарміравала тры сацыяльныя інстытуты для захавання, вывучэння і выкарыстання культурнай спадчыны: архіў, бібліятэку і музей. Іх адкрытасць для грамадства, якая ўвасабляецца ў навукова-даследчай і адукацыйна-асветніцкай сацыяльных функцыях, — адна з найважнейшых характарыстык гэтых інстытутаў. У той жа час у розных краінах свету публічнасць архіваў, бібліятэк і музеяў мела і мае пэўныя абмежаванні. Напрыклад, для захоўвання дзяржаўных тайнаў у архівах, бібліятэках і музеях маюцца структуры закрытага характару («спецсховы», «спецфонды»), недаступныя для агульнага карыстання[49]. Але ўварванне камуністычнай ідэалогіі і практыкі сацыялістычнага будаўніцтва ў дзейнасць інстытутаў сацыяльнай памяці чалавецтва не толькі паслужыла прычынай адасаблення іх ад грамадства, але і паставіла пад пагрозу самі асновы іх існавання.

Безумоўна, савецкі перыяд гісторыі архіўнай, бібліятэчнай і музейнай справы Беларусі не зводзіцца выключна да цэнзурных абмежаванняў, масавага знішчэння нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны і рэпрэсій. Але цэнзурныя абмежаванні з’яўляюцца неад’емнай і малавядомай часткай гісторыі гэтых устаноў, якая значна паўплывала на сённяшні духоўны стан беларускага народа.

## Знікненне дакумента

Абмежаванні доступу да архіўных дакументаў і іх знішчэнне па палітыка-ідэалагічных матывах маюць даўнюю традыцыю на беларускіх землях. Сімвалічнае значэнне набыў вываз у 1795 г. у Пецярбург Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага, а таксама прыватных архіваў з секвестраваных сядзіб удзельнікаў паўстання 1830–1831 гг. На працягу стагоддзяў царкоўныя іерархі з ідэалагічных меркаванняў знішчалі архівы варожых канфесій.

Каласальныя страты архівы Беларусі панеслі падчас Першай сусветнай вайны. Сотні дакументальных збораў былі знішчаны ў ходзе баявых дзеянняў, эвакуацыі, а таксама ва ўмовах акупацыі. Дакументы спальвалі, адпраўлялі на папяровыя фабрыкі, прадавалі ў якасці абгортачнай паперы. Сітуацыя змянілася да лепшага, калі пасля адступлення польскіх войскаў, у жніўні 1920 г. у Мінску пры аддзеле аховы помнікаў мастацтва і даўніны Наркамасветы Ваенрэўкама БССР была створана архіўная секцыя. Сваю задачу яна бачыла ў арганізацыі ўліку ўсіх архіваў Мінска, іх ацэнцы і навукова-тэхнічнай апрацоўцы. Але ўжо на першым пасяджэнні секцыі было пастаўлена пытанне аб зборы архіўнай макулатуры. З гэтай мэтай былі створаны дзве камісіі — прадстаўнікоў розных ведамстваў і прафесіяналаў-гісторыкаў, у дапамогу якім прызначаліся «чытальшчыкі» (служачыя ліквідаваных дарэвалюцыйных устаноў). Камісіі павінны былі вызначаць з архіўных фондаў матэрыялы, якія падлягалі знішчэнню. Пры гэтым крытэрыі адбору былі вельмі цьмяныя і шмат у чым залежныя ад суб'ектыўных меркаванняў «чытальшчыкаў» [12, с. 106].

Наркамасветы Ваенрэўкама БССР не быў ініцыятарам збору архіўнай макулатуры. Работа камісій у Мінску праходзіла ў разгар агульнарасійскай макулатурнай кампаніі, якая пачалася ў жніўні 1919 г. Уся далейшая работа па адабранні макулатуры з архіваў БССР, якая неўзабаве

набыла перманентны характар, таксама праводзілася па загадзе з Масквы. Пачатак макулатурных кампаній ужо меў відавочную палітычную афарбоўку. Ва ўмовах ваеннага камунізму найбольш радыкальныя прадстаўнікі новай улады прапаноўвалі вырашаць задачы дзяржаўнага будаўніцтва ўвогуле без айчыннай дакументальнай спадчыны. Падобны пралеткультаўскі падыход не быў падтрыманы Леніным, але, безумоўна, паўплываў на лёс архіваў у СССР.

20 студзеня 1921 г. Савет народнай гаспадаркі БССР стварыў новую экспертную камісію па разборы архіўных дакументаў, у якую акрамя прадстаўнікоў Наркамата асветы ўваходзілі супрацоўнікі Наркамата юстыцыі. У красавіку з яе дазволу на барысаўскую папяровую фабрыку «Папірус» старшыня архіўнай секцыі М. П. Шкляеў адправіў 951 пуд «архіўных папер» [64, арк. 35]. Трэба адзначыць, што работа экспертнай камісіі праходзіла ўжо пасля прыняцця 23 студзеня 1921 г.

СНК БССР пастановы «Аб уліку і захаванні архіўных матэрыялаў» [2, с. 16].

15 снежня 1921 г. архіўная секцыя, перададзеная Акадэмічнаму цэнтру Наркамасветы, сфарміравала чарговую разборачную камісію па ўтылізацыі архіўных дакументаў у складзе прафесара У. І. Пічэты[50], прафесара А. А. Савіча і старшыні секцыі М. П. Шкляева, якая сярод іншых матэрыялаў вывучала архівы былой Кантрольнай палаты. Работа разборачнай камісіі праходзіла падчас выканання дзвюх пастаноў СНК БССР аб утылізацыі архіваў камісарыятаў і устаноў, падпісаных А. Р. Чарвяковым у снежні 1924 і студзені 1925 г. Па выніках яе работы было ўтылізавана 155 пудоў паперы [65, арк. 1–10].

Падобныя работы ішлі ў архіўных установах усходнебеларускіх зямель. У 1920–1923 гг. з архіваў Віцебскай губерні было выдзелена на перапрацоўку 2 687 пудоў

«архіўнай паперы» [66, арк. 89], у 1919–1923 гг. з архіваў Магілёўскай губерні — 8 357 пудоў [66, арк. 46].

Спецыяльнай пастановай ад 12 верасня 1922 г. ЦВК БССР зацвердзіў Палажэнне аб Цэнтральным архіве (Цэнтрархіве) БССР, згодна з якім апошняму перадаваліся ўсе архівы рэспублікі, незалежна ад іх падпарадкаванасці, для ўтварэння адзінага Дзяржаўнага архіўнага фонду. На месцах пры выканкамах ствараліся павятовыя аддзелы Цэнтрархіва са статусам яго філіялаў. Цэнтрархіў знаходзіўся ў падпарадкаванні ЦВК БССР. Пасля ўвядзення ў 1924 г. новага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу БССР пры кожным з дзесяці акруговых выканаўчых камітэтаў (акрамя мінскага) былі створаны аддзяленні Цэнтрархіва БССР — адзіныя ўстановы, якія кантралявалі арганізацыю справаводства і архіўную справу ва ўсіх установах і канцэнтравалі ў сваіх сховішчах архіўныя фонды акруг.

Праз тры месяцы пасля стварэння Цэнтрархіва БССР выйшла пастанова Прэзідыума ЦВК БССР, прысвечаная перадачы ў Дзяржаўны архіўны фонд матэрыялаў і парадку іх знішчэння. Зыходзячы з тэкста пастановы, не падлягалі захаванню справы, не маючыя значэння для вывучэння гісторыі, дыпламатычных зносін, палітычнага, грамадскага і іншага жыцця і яго праяваў. Але на практыцы прынцыпы перадачы на вечнае захаванне каштоўных матэрыялаў парушаліся з-за ўмяшальніцтва дзяржаўных органаў і гаспадарчых арганізацый. Масавая ўтылізацыя архіўных дакументаў пачалася пасля звароту Савета народнай гаспадаркі БССР 21 мая 1923 г. у Цэнтрархіў з просьбай паведаміць аб магчымасці закупкі архіўнай паперы для патрэб мясцовай прамысловасці. Загадчык Цэнтрархіва З. Х. Жылуновіч (Цішка Гартны) паабяцаў адабраць некалькі тысяч пудоў паперы. У ліпені 1923 г. у адрас Савета народнай гаспадаркі адгрузілі 227 пудоў архіўных

дакументаў, у жніўні — 128, у верасні — 75, у кастрычніку — 200, у лістападзе — 260, у снежні — 167 пудоў. Разборачнай камісіяй Цэнтрархіва БССР, якая карысталася ў справе ўтылізацыі правіламі, усталяванымі для Цэнтрархіва РСФСР, кіраваў А. А. Шлюбскі [67, арк. 1–31].

У 1923 г. Цэнтрархіў БССР прадаў розным гаспадарчым установам на макулатуру 1 050 пудоў дакументаў, у 1924 г. — 150, у 1925 г. — 550 пудоў коштам ад 50 капеек да 1 рубля за пуд. Сярод іншага на ўтыль прадалі архіў Мінскай кантрольнай палаты, паперы Мінскага і Віцебскага губернскіх праўленняў, пракурорскага нагляду, Таварыства ўзаемнага крэдытавання землеўласнікаў, Мінскай казённай палаты, Мінскай паштова-тэлеграфнай канторы, Мінскай духоўнай кансісторыі і інш., якія кваліфікаваліся як «папяровы хлам» [68, арк. 47–48].

У 1923–1925 гг. Цэнтрархіў БССР у Мінску вылучыў 2 002 пуды паперы, Віцебскі акруговы архіў — 5 195, Магілёўскі акруговы архіў — 8 375 пудоў [69, арк. 23].

Вядомы архівіст таго часу М. В. Мялешка называе 80 тон архіўнай макулатуры, якая з 1922 па 1927 г. была адпраўлена архівамі БССР ва ўтыль [23, с. 63]. Гэта лічба значна зменшана, нават калі ўлічыць, што аўтар не браў пад увагу архіўную макулатуру, адабраную з віцебскіх, магілёўскіх і гомельскіх архіваў у перыяд іх знаходжання ў складзе РСФСР. Напрыклад, толькі ў 1926/27 бюджэтным годзе Віцебскі акруговы аддзел Цэнтрархіва прадаў 13 158 кг архіўнай паперы на суму 1048 руб. 48 кап. (большую частку прададзенага складалі справы былой Віцебскай казённай палаты) [70, арк. 8].

У 1927 г. на базе Цэнтрархіва БССР было створана Цэнтральнае архіўнае кіраўніцтва (ЦАК) БССР з акруговымі аддзяленнямі, гістарычнымі архівамі ў Мінску, Віцебску і Магілёве, а таксама Цэнтральным архівам Кастрычніцкай рэвалюцыі у Мінску. Стварэнне ЦАК БССР супала з

пачаткам масавай утылізацыі матэрыялаў, якія захоўваліся ў архівах устаноў і прадпрыемстваў. У гэтых умовах кіраўніцтва ЦАК БССР прыкладала намаганні, каб засцерагчы ад знішчэння найбольш каштоўныя дакументы, якія захоўваліся ў гэтых архівах. Напрыклад, з Мінска ў акруговыя аддзяленні дасылаліся пералікі відаў дакументаў, якія было забаронена ўтылізаваць без дазволу Цэнтрархіва.

20 снежня 1928 г. Наркамат рабоча-сялянскай інспекцыі РСФСР прыняў пастанову аб разгрузцы ўстаноў і прадпрыемстваў ад архіўнай макулатуры. А ўжо 2–3 студзеня 1929 г. адбылася міжведамасная нарада пры рабоча-сялянскай інспекцыі БССР па пытаннях адабрання макулатуры з архіваў устаноў і прадпрыемстваў. На нарадзе, дзе Цэнтрархіў БССР прадстаўлялі М. В. Мялешка і С. Г. Цытовіч, была прынята падрабязная класіфікацыя дакументаў — якія падлягалі здачы на макулатурную перапрацоўку і якія былі павінны захоўвацца ў архівах. Тады ж гэтая класіфікацыя ў дырэктыўным выглядзе была разаслана ўсім дзяржаўным, кааператыўным, прафсаюзным і іншым установам, прадпрыемствам і арганізацыям БССР. Адразу ж пасля нарады пры ўсіх аддзелах ЦАК БССР былі створаны праверачныя камісіі, якія давалі дазвол на ўтылізацыю матэрыялаў архіваў устаноў і прадпрыемстваў. 3 кастрычніка 1929 г. выйшла сумесная пастанова ЦАК БССР, Наркамюста БССР і НКУС БССР, якая забараняла прадаваць архіўныя дакументы ва ўтыль без дазволу ЦАК БССР. Акрамя таго, дазвалялася прадаваць архіўную паперу выключна органам Наркамгандлю (прыватнікам і кааператыўным прадпрыемствам дакументы прадаваць забаранялася) [78, арк. 10].

Тым не менш, знішчэнне каштоўных гістарычных дакументаў ішло поўным ходам. У праекце «Палажэння пра Цэнтральнае архіўнае кіраўніцтва БССР і яго органы» 1930 г. у п. 4 было ўжо запісана: «ЦАК БССР мае права прадаваць

вылучаную з архіваў макулатуру, прызначаную да зьнішчэньня праверачнай камісіяй» [54, арк. 3]. Нарыхтоўкі макулатуры ўзмацніліся пасля дзвюх пастаноў — Эканамічнай нарады пры СНК БССР (1 лютага 1930 г.) і Савета працы і абароны (27 сакавіка 1931 г.), спецыяльна прысвечаных гэтаму пытанню.

У 1930 г. ЦАК БССР распрацавала падрабязную «Інструкцыю разборачным камісіям», дзе агаворваўся механізм адабрання на перапрацоўку архіўных матэрыялаў. Перад разборкай таго ці іншага фонду камісія павінна была скласці схему структуры і справаводства ўстановы альбо прадпрыемства, у выніку дзейнасці якіх утварыўся фонд. Пры гэтым трэба было высветліць, якія кнігі, справы і дакументы ў дадзеным фондзе з'яўляліся асноўнымі.

Калі фонд не быў да гэтага сістэматызаваны, то ў абавязкі членаў камісіі ўваходзіла яго разбіўка згодна структуры ўстановы. Архіўныя справы перад знішчэннем павінны былі абавязкова прагледацца. У найбольш складаных сітуацыях прыцягваліся спецыялісты вузкага профілю. Інструкцыя катэгарычна забараняла знішчаць архіўныя матэрыялы, датаваныя 1825 г. і раней. Дакументы перыяду 1826–1875 гг. разглядаліся кожны паасобку. Архіўныя паперы пазнейшага часу знішчаліся па «Пераліках», якія дасылаліся з Масквы.

У асобных выпадках інструкцыя дапускала да макулатуры дарэвалюцыйны матэрыял, які не меў практычнага альбо навуковага характару, без яго папярэдняга вывучэння. Паняцце «практычны альбо навуковы характар» аўтары інструкцыі патлумачылі наступным прыкладам: «…пры зьнішчэньні спраў аб выдачы дапамогі "чынам паліцыі" захоўваецца справа аб выдачы дапамогі "чынам паліцыі, якія пацярпелі ад тэрарыстычнага акта"». Гэта значыць, захаванню падлягалі матэрыялы, якія тычыліся гісторыі рэвалюцыйнага руху.

Акрамя таго, па выніках сваёй працы мясцовыя разборачныя камісіі прадстаўлялі на зацвярджэнне ў цэнтр толькі сумарныя спісы адабранага, з якіх цяжка было зразумець дакладны змест прымеркаванага для знішчэння [75, арк. 80–85].

Згодна «Інструкцыі па вылучэнню уцілізацыйных архіўных матэрыялаў з архіўных частак устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў БССР», распрацаванай у 1931 г. ЦАК [72, арк. 24], у Мінску пры ЦАК дзейнічала Цэнтральная разборачная камісія, якая збіралася тры разы на месяц. Пры аддзяленнях у Віцебску, Магілёве і Гомелі, а таксама пры ўстановах, арганізацыях і прадпрыемствах працавалі мясцовыя разборачныя камісіі. Усе спісы на ўтылізацыю, якія складаліся разборачнымі камісіямі пры ўстановах, арганізацыях і прадпрыемствах, зацвярджаліся разборачнымі камісіямі пры архіўных аддзяленнях, а пасля — разборачнай камісіяй пры ЦАК. Інструкцыя патрабавала ад членаў камісій уважлівага стаўлення да архіўнага матэрыялу, асабліва да дакументаў па гісторыі рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны, структурнага аналізу фондаў, выдзялення найважнейшых і другасных матэрыялаў. Але выканаць усе гэтыя патрабаванні было практычна немагчыма.

У 1930 г. з мэтай павелічэння макулатурных нарыхтовак з 10 да 3 гадоў былі скарочаны тэрміны захоўвання бягучых архіваў ва ўстановах і на прадпрыемствах. Гэта прывяло да масавага наплыву спраў у дзяржархівы, які значна ўскладніў работу разборачных камісій. Адначасова дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы працягвалі самавольна здаваць ва ўтыль свае архівы. У 1932 г. без дазволу ЦАК БССР знішчылі свае архівы Белкалгасцэнтр і Белдзяржвыдавецтва. У наступным годзе — Наркампрацы, Віцебскі гарсавет, Галоўдартранс, магілёўскі завод «Чырвоны адраджэнец» і інш. Аб'ёмы самавольна здаваемых папер павялічваліся

падчас правядзення чарговых макулатурных месячнікаў. У гэтых умовах беларускае архіўнае кіраўніцтва намагалася спыніць знішчэнне архіваў нават з дапамогай карных органаў. 29 лістапада 1932 г. ЦАК БССР ініцыяваў пастанову ЦВК БССР, згодна з якой вінаватыя ў здачы на ўтыль архіўных матэрыялаў без дазволу ЦАК прыцягваліся да адказнасці Пракуратурай БССР [74, арк. 2]. А пастанова ЦВК БССР «Аб становішчы архіўных частак у арганізацыях, прадпрыемстваў», прынятая 15 красавіка 1933 г., прадугледжвала акрамя пакаранняў за знішчэнне архіваў прыцягненне да іх аховы рабоча-сялянскай інспекцыі, грамадскасці і …лёгкай кавалерыі [2, с. 68]. Але ў канцы 1930-х гг. адбор дакументаў на знішчэнне быў канчаткова даручаны прадстаўнікам фондаўтваральнікаў. Пра неабходнасць прысутнасці ў складзе разборачных камісій супрацоўнікаў дзяржаўных архіваў нават не ўзгадвалася.

Падчас работы камісій усіх узроўняў паўставала шмат спрэчных пытанняў. Вырашаліся яны, як правіла, на карысць дзяржплана па нарыхтоўках утылю, а не на карысць архіваў. Напрыклад, 26 кастрычніка 1931 г. пад кіраўніцтвам дырэктара беларускага архіўнага кіраўніцтва А. Р. Іодкі адбылося пасяджэнне Цэнтральнай разборачнай камісіі, на якім абмяркоўвалі работу віцебскай разборачнай камісіі. Было выяўлена шмат парушэнняў: знішчаліся матэрыялы практычнага і даведачнага характару, не запрашаліся ў склад камісіі зацікаўленыя асобы, спісы складаліся фармальна, зыходзячы з назваў архіўных спраў, а не зместу, у асобных выпадках рашэнні аб утылізацыі тых ці іншых дакументаў прымаліся завочна. Тым не менш, «улічваючы асобыя ўмовы працы», праверачная камісія дазволіла віцебскай разборачнай камісіі ўтылізаваць дакументы самастойна без папярэдяга дазволу з Мінска, куда дасылаліся спісы ўжо знішчанага [73, арк. 258–259].

Уласныя разборачныя камісіі дзейнічалі таксама пры

дзяржаўных архівах, фонды якіх па-ранейшаму прыцягвалі ўвагу нарыхтоўшчыкаў папяровай сыравіны. Згодна з планам работы Цэнтрархіва на 1929–1930 гг., за гэты перыяд ён быў павінен здаць ва ўтыль 15 тон архіўнай макулатуры, у т. л. Цэнтральны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі — 3 тоны, Віцебскае, Магілёўскае і Гомельскае аддзяленні — па 2 тоны, Полацкі, Аршанскі, Мінскі, Бабруйскі і Мазырскі акруговыя архівы, а таксама Мінскі гістарычны архіў — па 1 тоне [71, арк. 3].

Аб'ёмы архіўных макулатурных нарыхтовак увесь час павялічваліся, што прымушала архівы адсунуць іншыя заданні і кінуць усе сілы на выкананне макулатурнага плана. У 1932 г. пры гадавым плане ў 110 тон дзяржаўныя архівы БССР сабралі 114 тон макулатуры. У наступным годзе гэткі ж дзяржаўны план макулатурных нарыхтовак (Мінскі гістарычны архіў — 25 тон, Магілёўскае аддзяленне ЦАК — 45 тон, Віцебскае аддзяленне ЦАК — 30 тон, Гомельскае аддзяленне ЦАК — 10 тон) быў выкананы ўжо на працягу першага паўгоддзя [76, арк. 1–7]. Акрамя плана па здачы макулатуры з уласных архіўных сховішчаў на 1930 г. да ЦАК БССР быў даведзены гадавы план нарыхтоўкі макулатуры ў архівах ведамстваў і прадпрыемстваў у аб'ёме 90 тон [77, арк. 1].

Наяўныя крыніцы дазваляюць толькі часткова рэканструяваць тое, што знішчалася. Так, у красавіку 1930 г. Мінскі гістарычны архіў аддаў на макулатуру 47 кніг рэлігійнага культу XIX–XX стст., дакументы архіва мінскай шпалернай фабрыкі Кантаровіча (пач. XX ст.), мінскага рэальнага вучылішча, натарыяльных кантор, міравых суддзяў і інш. Вось пералік архіўных фондаў, прымеркаваных на адабранне, якія разглядаліся разборачнай камісіяй Цэнтральнага архіўнага кіраўніцтва БССР на пасяджэнні 17 лістапада 1931 г.: 1) Віцебскі губернскі харчовы камітэт. 1923 г.; 2) Упаўнаважаны па

нарыхтоўцы ў Віцебскай губерні саломы і сена для арміі. 1916–1917 гг.; 3) Віцебскае губернскае праўленне. 1834– 1880 гг.; 4) Віцебскае губернскае акцызнае ўпраўленне. 1882–1914 гг.; 5) Віцебская гарадская ўправа. 1870– 1916 гг.; 6) Чашніцкі райвыканкам. 1924–1928 гг.; 7) Белдзяржснабзбыт. 1922–1929 гг.; 8) Белкаапсаюз. 1924– 1930 гг.; 9) Мінская казённая палата [73, арк. 262].

Макулатурныя кампаніі супалі з закрыццём цэркваў і манастыроў, дакументы якіх таксама передаваліся на папяровыя фабрыкі. У лютым 1936 г. разборачная камісія Мінскага гістарычнага архіва (старшыня — дырэктар архіва І. Ф. Шпілеўскі[51]) адабрала з архіўных матэрыялаў Дукорскай царквы для знішчэння друкаваныя царкоўныя кнігі (спеўныя зборнікі, актоіхі, абіходы), а таксама падшыўкі царкоўных ведамасцей [80, арк. 3]. Тады ж знішчылі 18 тон архіўных матэрыялаў мінскай сінагогі [81, арк. 21]. На папяровыя фабрыкі ў Добруш і Шклоў цалкам, без разбору былі адпраўлены архівы Магілёўскай духоўнай кансісторыі і Магілёўскага дваранскага сходу. У Сёмкавым Гарадку каля Мінска знішчылі прыватны архіў роду Хмараў [18].

Правядзенне макулатурных кампаній, якія супярэчылі самой сутнасці архіўнай працы, выклікалі ў архівістаў разгубленасць, дэмаралізавалі іх. Разумеючы разбуральны характар макулатурных кампаній, яны ў кожным выпадку імкнуліся забяспечыць сябе кіраўнічым дазволам альбо загадам. Але і архіўнае кіраўніцтва таксама не жадала браць на сябе ўвесь цяжар адказнасці за знішчэнне гістарычных першакрыніц. Напрыклад, на дасланую ў лютым 1933 г. просьбу Мінскага гістарычнага архіва паведаміць, якія матэрыялы аддзялення дзяржаўнага банка не падлягаюць захаванню, А. Р. Іодка цьмяна тлумачыў, што «ЦАК… канкрэтных паказаньняў аб тым, якія менавіта матар’ялы зьнішчыць па тых, ці іншых фондах, безумоўна, даць ня

можа, бо пры гэтым, як вядома, патрэбна ўлічваць: а) склад і ступень захаванасьці фонда; б) справаводзтвенныя сыстэмы, прынятыя ў установе, склаўшай фонд; в) адбітак (і ступень адбітку) канкрэтных матар'ялаў і г. д. Наогул-жа ЦАК рэкамендуе мясцовым архорганам пры вывучэньні макулатуры з фондаў аддзяленьняў дзяржаўнага банку ў асноўным карыстацца пералікамі ЦАК РСФСР, узгодненымі з НКФ СССР» [76, арк. 8].

Непрацяглы перапынак працы па збіранні макулатуры ў архіўных сховішчах скончыўся пасля пастановы Прэзідыума ЦВК СССР ад 27 чэрвеня 1935 г.

«Аб мерапрыемствах па ўпарадкаванню архіўнай справы». 15 снежня таго ж года падобную пастанову прыняў Прэзідыум ЦВК БССР. Яе пяты пункт загадваў правесці ўпарадкаванне архіўных фондаў установаў і прадпрыемстваў такім чынам, каб у іх «…заставаліся на захове архіўныя матэрыялы толькі з 1931 г.» [79, арк. 8]. На працягу 1938 г. Гомельскі абласны архіў выдзеліў для здачы на макулатуру 32 148 адзінак захоўвання (пры плане ў 50 184 адзінак захоўвання) вагою ў 1,8 тоны. Цэнтральны гістарычны архіў выдзеліў 39 798 адзінак пры плане ў 10 000 адзінак, Віцебскі абласны архіў здаў 61 500 адзінак пры плане ў 30 432 адзінкі, Цэнтральны архіў Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва — 18 570 адзінак пры плане 38 796 адзінак, Мінскі абласны архіў — 2216 адзінак пры плане ў 18 000 адзінак [82, арк. 28, 93]. Адпаведна актывізавалася перманентнае супрацьстаянне паміж ЦАК БССР і ўсесаюзнай канторай «Саюзутыль».

Апошняя макулатурная кампанія разглядаемага часу была санкцыянавана сакрэтным «Палажэннем аб Дзяржаўным архіўным фондзе СССР» ад 29 сакавіка 1941 г., згодна з якім палітычную, навуковую і практычную каштоўнасць дакументальных матэрыялаў і тэрміны іх захавання вызначалі архіўныя органы НКУС [92, с. 94]. На

практыцы гэта азначала пазбаўленне ад «непатрэбных для сацыялістычнага будаўніцтва» дакументаў, перш за ўсё дарэвалюцыйнага паходжання.

Правядзенне макулатурных кампаній у архівах мела агульнасаюзны характар. Іх бачнай, знешняй прычынай быў недахоп сыравіны для савецкай цэлюлозна-папяровай прамысловасці. Але ў выбары дзяржаўнага архіўнага фонду ў якасці сыравіны для папяровай прамысловасці праглядалася нешта больш злавеснае, а менавіта імкненне маніпуліраваць гістарычнымі першакрыніцамі, дакументамі з мэтай прымусіць даследчыкаў, а праз іх — шырокае грамадства рабіць патрэбныя ўладзе высновы пра сваё гістарычнае мінулае.

У выніку макулатурных кампаній беларуская гістарычная навука згубіла значную частку першакрыніц, пераважна па эканамічнай і канфесійнай гісторыі, а таксама гісторыі дзяржаўных устаноў. У найбольшай ступені пацярпелі архівы валасных і павятовых устаноў, а таксама прыватнаўласніцкія архівы. Разбуральны эфект макулатурных кампаній на месцах узмацняўся тым, што на працягу 1930-х гг. праводзілася маштабная перакройка адміністрацыйна-тэрытарыяльных межаў. Для нізавых архіўных устаноў гэта азначала катастрофу: пры ліквідацыі мясцовых устаноў і стварэнні новых адміністрацыйных цэнтраў старыя дакументы знішчаліся тонамі. Вялікую шкоду нанесла выразка з архіўных спраў чыстай паперы.

Паказаць у абсалютных лічбах альбо ў працэнтных адносінах, частку нацыянальнай архіўнай спадчыны якая загінула падчас макулатурных кампаній 1920– 1930-х гг. у БССР, сёння немагчыма. Агульнае ўяўленне пра архіўныя страты ў выніку макулатурных кампаній таго часу даюць лічбы, прыведзеныя расійскімі даследчыкамі. Дзяржаўныя архівы РСФСР здалі на макулатуру 28 млн тон архіўных спраў — на мільён больш, чым іх заставалася ў дзяржаўным

архіўным фондзе ў 1933 г. [92, с. 92].

Таталітарныя тэндэнцыі ў архіўнай справе БССР, увасобленыя ў знішчэнні масіваў дакументаў, непатрэбных новаму грамадству («архіўная справа — не самамэта, а палітычная зброя дыктатуры пралетарыята і сродак сацыялістычнага будаўніцтва»), спалучаліся з натуральным імкненнем архівістаў спыніць, прынамсі, запаволіць руйнаванне дакументальнай спадчыны. Як вынік — макулатурныя кампаніі суправаджаліся рэпрэсіямі архіўных кадраў. З 1929 г. вучоных-архівістаў на ўсіх пазіцыях змянялі тэхнічныя выканаўцы і чыноўнікі-партыйцы. Пачаліся кампаніі па «камунізацыі» і «арабочванні» кадраў архівістаў. Першыя арганізатары архіўнай справы ў БССР аказаліся «ворагамі народа» — А. В. Баліцкі, З. Х. Жылуновіч, М. В. Мялешка, А. А. Шлюбскі. За «шпіянаж» да вышэйшай меры пакарання ў 1937 г. быў асуджаны А. Р. Іодка. У 1938 г. такі ж лёс напаткаў дырэктара Цэнтральнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі, «агента польскай разведкі» П. Е. Вашкевіча. Загінула ў ГУЛАГу загадчыца Паўночна-беларускага аддзялення ЦАК у Віцебску Э. К. Лейланд. Удзельнікам «нацыяналфашысцкай арганізацыі» аказаўся дырэктар ЦАК БССР А. С. Град. Шмат хто з беларускіх архівістаў пацярпеў падчас выкрыцця ў 1938 г. «шпіёнскай арганізацыі Цэнтральнага архіўнага кіраўніцтва». Новая хваля рэпрэсій, накіраваных супраць архіўных кадраў, прайшла пасля далучэння ЦАК да НКУС.

У сусветнай архіўнай практыцы адбор дакументаў для захавання заўсёды суправаджаецца знішчэннем пэўных матэрыялаў. Але палітыка, якая праводзілася савецкім кіраўніцтвам у 1920–1930-я гг. у адносінах да Дзяржаўнага архіўнага фонду, не мае прэцэдэнтаў. Гэтая палітыка, у якой перапляліся эканамічныя і палітычныя элементы, уключала не толькі правядзенне макулатурных кампаній, але нігілістычнае стаўленне да архіўнага фонду.

Праілюстраваць гэтую думку дазваляе наступны зварот П. Е. Вашкевіча ў Прэзідыум ЦВК БССР, накіраваны 26 жніўня 1933 г.:

26/VIII. 33 г.

ПРЭЗЫДЫЎМУ ЦВК БССР

У лютым месяцы г. г. Менскі Гарсавет бяз згоды Цэнтральнага Архіўнага Кіраўніцтва і Сакратарыяту ЦВК заняў пад Папраўча-працоўную калёнію памяшканьне архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Менску па вул. Бакуніна № 1, зваліўшы архіўныя матар'ялы каля 25 вагонаў ў кучу і зьнішчыўшы ўсё абсталяваньне[52]. Дзякуючы ўмяшальніцтву ў гэтую справу НК РСІ БССР гэта памяшканьне было аслабонена праз 5 месяцаў (1 ліпеня г. г.) і намі прыступлена да васстанаўленьня яго абсталяваньня і разьмяшчэньня архматар'ялаў. Пры гэтым выяўлена, што значная частка каштоўных архматар'ялаў прышла ў нягоднасьць з прычыны вільготнасьці паветра і згружанасьці іх у кучу, а таксама дзякуючы таму, што безсыстэмна іх зваліліі ў кучу, яны патрабуюць паўторнага поўнага ўпарадкаваньня. Да гэтай працы ўжо прыступлена, але Менгарком КП(б)Б відаць не ўлічыў вышэйсказанага, выдаў пастанову аб ізьяцці гэтага памяшканьня пад збожжа (пастанова прыкладаецца).

Цэнтральнае Архіўнае Кіраўніцтва БССР ня можа згадзіцца з аддачай памяшканьня патрэбнага яму для захаваньня архіва Кастрычніцкай Рэвалюцыі, якому зьявіцца пагроза поўнага зьнішчэньня і просіць Прэзыдыўм ЦВК не дапусьціць канчатковай страты арх. матар'ялаў шляхам недапушчэньня ізьяцьця ў нас гэтага памяшканьня.

НАМ. ДЫРЭКТАРА ЦАК БССР П. ВАШКЕВІЧ

[78, арк. 12].

Фізічнае знішчэнне дакументальнай спадчыны Беларусі

ў разглядаемы час суправаджалася паступовым абмежаваннем доступу да яе, а таксама звужэннем кола крыніц камплектавання дзяржаўных архіваў.

У ліпені 1924 г. калегія Цэнтрархіва зацвердзіла «Правілы карыстання архіўнымі матэрыяламі Адзінага дзяржаўнага архіўнага фонду», згодна з якімі да заявы аб допуску ў архіў неабходна было прыкладаць анкету з падрабязнымі звесткамі пра даследчыка, у т. л. пра яго партыйнасць. 15 кастрычніка 1930 г. ЦВК БССР зацвердзіў «Палажэнне аб архіўным кіраўніцтве БССР», якое ўводзіла новы парадак выкарыстання дакументаў. З'явілася паняцце «сакрэтны дакумент», што азначала «…матэрыялы сакрэтнага і несакрэтнага справаводства ўстаноў і арганізацый, якія паступілі ў архівасховішча ў якасці сакрэтных, а таксама матэрыялы, абвяшчэнне якіх па характару іх зместу Цэнтральным архіўным кіраўніцтвам альбо яго аддзяленнем прызнаецца немагчымым». Уводзіліся абмежаванні сацыяльна-прававога парадку, у прыватнасці на выдачу даведак і копій аб прававым і маёмасным стане грамадзян. Замежнікі маглі карыстацца архіўнымі фондамі толькі з дазволу Наркамата па замежных справах СССР. Права адабрання дакументаў з архіваў атрымалі пракуратура і следчыя органы [2, с. 59–61].

У «Правілах карыстання архіўнымі матэрыяламі» 1932 г. ужо з'яўляецца паняцце «сакрэтна-палітычны фонд», карыстацца якім можна было толькі з дазволу ЦАК БССР. З'явілася таксама «Інструкцыя аб прыёме і захаванні сакрэтных архіўных матэрыялаў ва ўстановах ЦАК БССР», адпаведна якой даследчыкам выдаваліся такія матэрыялы [72, арк. 43–61].

У 1928 г. у Цэнтрархіве быў створаны асобны палітычны аддзел, куды ўвайшлі справы былых жандармскіх і ахоўных упраўленняў, а таксама дакументы, якія тычыліся падзей Кастрычніцкай рэвалюцыі [53, арк. 32]. У 1930 г., нягледзячы

на шматлікія пратэсты беларускіх вучоных, Цэнтральны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі было вырашана перавесці ў Магілёў. Там жа сфарміравалі «сакрэтны архіў БССР», куды трапілі разнастайныя дакументы дасавецкага і савецкага перыядаў. Падобны працэс засакрэчвання фондаў ішоў і ў іншых архівах. Сакрэтныя аддзелы ствараліся ў бібліятэках архіваў.

Склад засакрэчаных архіўных фондаў сведчыць пра тое, што туды перш за ўсё траплялі дакументы, якія б маглі абвергнуць тэзіс аб заканамернасці рэвалюцыі альбо раскрывалі сапраўдную ролю ў ёй лідараў партыйнай апазіцыі. У 1936 г. спецыяльным цыркулярам ЦАК СССР было забаронена выдаваць архіўныя матэрыялы, звязаныя з імёнамі Троцкага, Каменева, Зіноўева. Яны засакрэчваліся і перадаваліся ў спецсхоў.

У 1930-я гг. моцна скарацілася даведачная работа архіваў, зменшылася колькасць даследчыкаў, а колькасць спраў, выдадзеных карным органам у часовае карыстанне (чытай, адабраных імі), рэзка ўзрасла. У 1920-я гг. супрацоўнікі Цэнтрархіва выконвалі тэматычныя запыты наркаматаў, Інбелкульта, Гістпарта і іншых дзяржаўных і грамадскіх устаноў. Паступова ўлады пачынаюць выкарыстоўваць архіўныя дакументы як зброю ў барацьбе з іншадумцамі. Напрыклад, у спісе ўстаноў, якім Мінскі абласны архіў выдаваў справы на часовае карыстанне ў 1938 г., пазначаны толькі пракуратура, НКУС і суды [82, арк. 89]. У 1936 г. супрацоўнікаў архіўных частак устаноў і прадпрыемстваў абавязалі выяўляць і перадаваць у спецаддзелы дакументы, падпісаныя «ворагамі народа». Беларускага пісьменніка, акадэміка, дзяржаўнага дзеяча І. А. Пятровіча (Я. Нёманскага) прыгаварылі ў 1937 г. да вышэйшай меры пакарання менавіта на падставе расшуканых у архіве матэрыялаў аб яго членстве ў маскоўскай эсэраўскай арганізацыі, а таксама

супрацоўніцтве разам з З. Х. Жылуновічам у газеце «Дзянніца», якая выдавалася Белнацкамам. Дырэктара ДВБ Ф. А. Браўковіча асудзілі ў 1936 г. на 10 гадоў працоўна-папраўчых лагераў на падставе архіўнай даведкі аб яго ўдзеле ў трацкісцкай апазіцыі ў рагачоўскай павятовай партарганізацыі.

Хто прыходзіў у тагачасныя беларускія архівы? У справаздачы Віцебскага абласнога архіва за 1938 г. чытаем: «У складзе 23 даследчыкаў, якія займаліся ў чытальнай зале нашага архіва, галоўным чынам прадстаўнікі рэдакцый рэспубліканскіх і абласной газеты» [82, арк. 46]. Цэнтральны архіў Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва за той жа год выдаў даследчыкам 2 946 архіўных спраў. [82, арк. 64]. Кола тэм даследаванняў карыстальнікаў дзяржаўных архіваў, за нешматлікімі выключэннямі, абмяжоўваўся гісторыяй рабочага руху і Кастрычніцкай рэвалюцыі.

З самага пачатку, у 1924 г., у СССР быў парушаны прынцып цэнтралізацыі архіўнай справы. Гістпарт стварыў уласнае сховішча гісторыка-партыйных дакументаў (Белпартархіў), якія не ўваходзілі ў склад дзяржаўнага архіўнага фонду і з’яўляліся ўласнасцю партыі. Архіў ЦК КП(б)Б фарміраваўся наступным чынам: сакрэтныя дакументы накіроўваліся ў сакрэтны архіў бюро ЦК, несакрэтныя матэрыялы траплялі ў агульны архіў ЦК, адкуль яны праз тры гады перасылаліся ў Белпартархіў.

У 1930-я гг. Белпартархіў знаходзіўся ў Магілёве (больш за 100 тыс. адзінак захоўвання). Існавала таксама архіўнае спецсховішча пры Інстытуце гісторыі партыі ў Мінску (каля 3 тыс. адзінак захоўвання). Па правілах выкарыстання матэрыялаў партархіва, якія вызначаліся спецыяльнымі пастановамі ЦК, архіўныя справы выдаваліся для выкарыстання ў чытальнай зале толькі навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі партыі з дазволу

загадчыка архіва. Даведкі па архіўных матэрыялах выдаваліся выключна па запытах партарганізацый не ніжэй райкама [55, арк. 5].

Пастанова ЦК КП(б)Б ад 5 студзеня 1934 г. патрабавала «ўстанавіць у дачыненні да ўсіх дакументаў, якія хаваюцца ў архівах Гістпарта такі ж парадак скарыстоўвання, які ўстаноўлены для сакрэтных дакументаў» [3, с. 14]. А пастанова ЦК ад 4 ліпеня 1937 г. патрабавала «забараніць пад адказнасць т. Пасэ[53] і загадчыка парт. архіва тав. Васільева допуск да партыйнага архіва і выдачу копій без санкцыі сакратароў ЦК КП(б)Б» [3, с. 15]. Пасля арганізацыі ў 1940 г. абласных партархіваў выкарыстанне іх матэрыялаў для даследчыцкай работы адбывалася з дазволу сакратара абкама па прапагандзе [3, с. 17]. Трапіць у партархіў чалавеку, які не працаваў у Гістпарце, нават калі ён займаў высокую дзяржаўную пасаду, было практычна немагчыма. Такім чынам, архіў Інстытута гісторыі партыі ўяўляў вялікі спецсхоў.

Працэдуру атрымання дазволу на работу ў партархіве, а таксама ступень сакрэтнасці яго фондаў дазваляе ўявіць наступны дакумент:

Б.С.С.Р.
Саюз Совецкіх ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
Ліпеня ……..1935 г. Менск, Совецкая, 68
Тэлефоны: 22-158, 20-831, 22-792 САКРАТАРУ ЦК КП(б)Б
т. Валковічу

З прычыны таго, што я працую над тэмай «Супроць нацдэмаўскай літаратурнай крытыкі» — прашу дазволіць мне азнаёміцца ў архівах Гістпарта — у Менску і Магілёве — з рашэннямі Бюро і Пленумаў ЦК КП(б)Б па пытаннях культуры, нацыянальнай палітыкі і літаратуры за гады 1921–1929.

СТАРШЫНЯ ПРАЎЛЕННЯ
ССП БССР /Клімковіч[54]/.

На заяву накладзена рэзалюцыя Д. І. Валковіча наступнага зместу: «Дазволіць азнаёміцца на мейсцы ў архіве без зняцця копій. Усялякія спасылкі павінны быць узгоднены са мною» [56, арк. 58–59].

Па прыкладзе партыі шляхам засакрэчвання ўласных архіваў таксама ішлі розныя, перш за ўсё сілавыя, ведамствы. А найбольш уплывовыя з іх нават заяўлялі свае правы на асобныя часткі дзяржаўнага архіўнага фонду. Так было, напрыклад, у снежні 1925 г., калі АДПУ патрабавала перадачы яму архіва Дэпартамента паліцыі, які пазней выкарыстоўваўся ў аператыўных мэтах для складання картатэк на грамадзян [17, с. 134].

Пасля стварэння ў 1929 г. ЦАК СССР, ЦАК БССР пераўтварыўся ў структурную частку саюзнага ведамства, а дакументы беларускіх архіваў сталі часткай агульнасаюзнага архіўнага фонду. Нягледзячы на прынцып цэнтралізацыі, які замацоўваўся стварэннем ЦАК СССР, і ў 1930-я гг. узмацняўся ведамасны падыход, ішло адчужэнне ад дзяржаўнага архіўнага фонду цэлых комплексаў дакументаў. Да ўжо цалкам закрытых для грамадства архіваў партыі і АДПУ–НКУС далучаліся новыя архівы. Ведамствы шырока выкарыстоўвалі артыкул «Палажэння аб архіўным упраўленні БССР» 1930 г., які дазваляў ім па ўзгадненні з мясцовымі органамі ўлады пакідаць у сябе дакументы на дадатковы (большы за 3 гады) тэрмін. У 1937 г. гэты тэрмін быў афіцыйна падоўжаны да 5 гадоў [2, с. 79].

Пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 27 верасня 1938 г. архіўныя ўстановы БССР былі перададзены ў падпарадкаванне НКУС. У значнай ступені гэта рашэнне было абумоўлена патрэбай масавага выкарыстання архіўных дакументаў для правядзення палітычных рэпрэсій. Беларускія архівісты выконвалі запыты рэўтрыбуналаў,

органаў ДПУ–НКУС, кантрольнай камісіі КП(б)Б на пэўных асоб і раней. З 1921 г. складаліся нават архіўныя картатэкі на прадстаўнікоў дарэвалюцыйных следчых і карных органаў, контррэвалюцыянераў, членаў антыпартыйнай апазіцыі (найбольш актыўна гэтая работа вялася ў партархіве). Але з 1938 г. збор кампраметуючых матэрыялаў на грамадзян стаў неад'емнай планавай часткай архіўнай работы. Для яе актывізацыі ў архіўную галіну прыцягваліся праверaныя чэкісцкія кадры. Архівісты рэгулярна атрымлівалі цыркуляры НКУС аб пераносе на карткі ўліку ўсіх асоб, што праходзілі па архіўных дакументах пэўных фондаў. Гэтыя карткі меркавалася выкарыстоўваць падчас аператыўнай работы. Былі выпадкі выездаў архівістаў з аператыўнымі групамі для правядзення арыштаў.

Пасля далучэння Заходняй Беларусі архіўныя органы заходніх абласцей распрацоўвалі архіўныя фонды польскіх устаноў з мэтай выяўлення патэнцыяльных ворагаў. Была ўведзена спецыяльная інструкцыя па ўліку контррэвалюцыянераў — армейскіх афіцэраў, супрацоўнікаў спецслужбаў, членаў палітычных партый і інш. Архіўныя органы НКУС выявілі і ўзялі на ўлік па заходніх абласцях 49 350 чалавек, у т. л. па Беластоцкай вобласці — 4 900, па Брэсцкай — 37 000, па Вілейскай — 4 860, па Баранавіцкай — 2 590 [12, с. 148]. Усяго ў 1939 г. савецкімі архівістамі было выяўлена і перададзена ў аператыўныя падраздзяленні НКУС звестак на 108 694 чалавек, а ў 1940 г. — ужо больш чым на мільён [22, с. 129].

У перадваенны час засакрэчваюцца не толькі архіўныя дакументы, але таксама публікацыі архіваў. У надрукаваных архіўных дакументах скажаліся лічбы і фальсіфікаваліся даныя, здымаліся подпісы рэпрэсаваных рэвалюцыйных дзеячаў. Ствараліся сакрэтныя даведнікі па архівах і нават сакрэтныя (для службовага карыстання) зборнікі дакументаў. У архівах ствараліся спецыяльныя адзінаццатыя

аддзелы, альбо «аддзелы сакрэтных фондаў» для захавання дакументаў на «ворагаў народа», якія маглі быць аператыўна выкарыстаны следчымі НКУС. Прыярытэт сакрэтнай работы архіваў быў замацаваны ў «Палажэнні аб Дзяржаўным архіўным фондзе СССР», падпісаным Л. П. Берыя ў сакавіку 1941 г.

### Знікненне кнігі

Чысткі фондаў бібліятэк — з'ява, якая мае глыбокія гістарычныя карані. З часу з'яўлення напісанага слова з'явіліся і палітыка-ідэалагічныя матывы, згодна якім яно павінна было быць схавана ад чытача. Першапачаткова знішчэнне кніг адбывалася ў рэчышчы рэлігійна-палітычный палемікі. Агульнавядомы факты спалення Мікалаем Крыштафам Радзівілам Сіроткай «Катэхізіса» Сымона Буднага (1562) і Брэсцкай Радзівілаўскай Бібліі (1563), цэнзураванне кніг і чысткі бібліятэк дысідэнтаў, якія ажыццявілі езуіты ў Вільні ў 1581 г., паленне бібліятэк уніяцкіх цэркваў і манастыроў у сярэдзіне XIX ст., канфіскацыі з віленскіх друкарняў і паленне беларускіх кніг, напісаных лацінкай, генерал-губернатарам М. М. Мураўёвым [7, с. 23– 34]. Але пасля ўсталявання савецкай улады чысткі бібліятэчных фондаў набылі настолькі арганізаваны і масавы характар, што гэта дазваляе разумець іх як самастойную сацыяльна-культурную з'яву.

Усе бібліятэкі БССР у 1919–1941 гг. падзяляліся на дзве катэгорыі: навуковыя (спецыяльныя) і масавыя.

Да першай катэгорыі адносілася Дзяржаўная бібліятэка БССР з аддзяленнямі ў Віцебску, Магілёве і Гомелі, якая выдзелілася ў 1926 г. са складу ўніверсітэцкай бібліятэкі. З 1934 г. пачаў працаваць яшчэ адзін філіял бібліятэкі пры Доме ўрада, створаны на аснове даведачных кніжных сховішчаў ЦВК, СНК, Дзяржплана БССР. У 1932 г. Дзяржаўная бібліятэка БССР была рэарганізавана ў

Дзяржаўную бібліятэку і Бібліяграфічны інстытут імя Леніна, а да 1941 г. пераўтварылася ў найбуйнейшае кнігасховішча рэспублікі, фонд якога перабольшваў 2 млн экзэмпляраў. У 1929 г. на базе бібліятэкі Інбелкульта, якая складалася з 30 тыс. кніг і іншых друкаваных матэрыялаў, была заснавана бібліятэка АН БССР. Уласнымі кнігасховішчамі валодалі ўсе ВНУ рэспублікі, найвялікшыя з якіх мелі выключнае навуковае і культурнае значэнне, напрыклад бібліятэкі Горацкага земляробчага інстытута і БДУ, якія налічвалі адпаведна 600 тыс. і 200 тыс. кніг. Акрамя таго, да першай катэгорыі адносіліся спецыялізаваныя бібліятэкі шэрага навукова-даследчых устаноў, савецкіх, партыйных і камсамольскіх арганізацый, прадпрыемстваў і калгасаў (саўгасаў).

Пераважная большасць бібліятэк адносілася да катэгорыі масавых, куды ўваходзілі акруговыя (пазней абласныя), раённыя, павятовыя, а таксама бібліятэкі пачатковых і сярэдніх школ, дзіцячых садкоў, дзіцячых дамоў, хаты-чытальні. Меншая колькасць масавых бібліятэк знаходзілася ў сістэме Цэнтральнага Савета прафсаюзаў Беларусі, прамысловай і лясной кааперацыі, прафтэхнічных навучальных устаноў.

Са студзеня 1919 г. і да канца разглядаемага перыяду за развіццё сеткі масавых бібліятэк БССР, іх фінансаванне, забеспячэнне літаратурай і метадычным кіраўніцтвам адказваў аддзел пазашкольнай адукацыі (пазней бібліятэчны пададдзел) Народнага камісарыята асветы. За выкарыстанне ж бібліятэчных фондаў у мэтах сацыялістычнага будаўніцтва адказваў Галоўпалітасветы БССР. Гэта структура, як ужо сказана вышэй, мела асобы статус, які ў значнай ступені тлумачыўся тым, што старшынёй Галоўпалітасветы РСФСР была Н. К. Крупская, жонка правадыра рэвалюцыі. Галоўпалітасвета на працягу 1920-х гг. з’яўлялася ініцыятарам і натхняльніцай

бібліятэчных чыстак. Практычныя мерапрыемствы ў гэтым кірунку праводзіла Цэнтральная бібліятэчная камісія пры Галоўпалітасвеце, куды ўваходзілі прадстаўнікі Наркамасветы БССР, ЦК КП(б)Б, Белсаўпрафа і Белдзяржвыдата.

Адразу ж пасля ўтварэння БССР у 1919 г. пачаўся працэс нацыяналізацыі публічных, царкоўных, земскіх і прыватных бібліятэк і ўтварэнне на іх падмурку цэнтралізаванай бібліятэчнай сеткі [13]. Гэты працэс аб'ектыўна адлюстроўваў імкненне народа да пісьменнасці, адукацыі, культуры, усплёск энтузіязму сярод бібліятэкараў і чытачоў. Але на самай справе значная частка дарэвалюцыйных кніжных збораў трапляла ў катэгорыю контррэвалюцыйных, і, адпаведна гэтаму статусу, падобныя кнігі адпраўлялі ў спецсховы альбо на макулатуру.

Новае разуменне сутнасці бібліятэчнай работы ў сціслым выглядзе было выкладзена ў пастанове I Усебеларускай канферэнцыі бібліятэчных работнікаў БССР па цэнтралізацыі бібліятэчнай справы, прынятай у снежні 1921 г.: «Разглядаць бібліятэчную справу як адну з форм прапаганды, і таму ўсю бібліятэчную справу сістэматычна ўжываць да бягучага палітычнага моманту і ні ў якім разе не весці як самастойную, што назіралася дагэтуль амаль паўсюдна» [49, арк. 16].

Падобнае пралеткультаўскае стаўленне да кніжнай спадчыны выразна прасочваецца ў артыкуле старшыні Галоўлітбела Р. К. Шукевіча-Траццякова, надрукаваным ў жніўні 1923 г. у газеце «Звязда». Галоўны цэнзар рэспублікі канстатаваў перапоўненасць валасных бібліятэк састарэлай літаратурай, пасля чаго заклікаў кіраўніцтва Галоўпалітасветы сіламі мясцовых настаўнікаў «...правесці грунтоўную праверку валасных бібліятэк, прасачыць, куды падзяваліся найбольш каштоўныя кнігі, сабраць у навакольнага насельніцтва рэшткі былых бібліятэк

памешчыкаў і школ. Пасля ўважлівай праверкі, з гэтага хламу можна адабраць сёе-тое падыходзячае для валасных бібліятэк» [101]. З пададзеных радкоў цікавыя два аспекты: аднясенне значнай часткі сусветнай літаратуры да катэгорыі «хламу» (на працягу разглядаемага перыяду гэта катэгорыя будзе увесь час пашырацца) і нейтральнае стаўленне савецкай улады да рабаўніцтва сфарміраваных у дарэвалюцыйны час прыватных і грамадскіх бібліятэк мясцовым насельніцтвам (не пакараць рабаўнікоў, не спыніць рабаўніцтва, а «сабраць» нарабаванае). Апошні сюжэт, які знаходзіцца па-за тэмай даследавання, яшчэ ў 1920-я гг., па гарачых слядах развіў вядомы бібліёграф і літаратуразнаўца А. Шлюбскі, які паказаў сапраўды апакаліптычную карціну знішчэння ў першыя паслярэвалюцыйныя гады сялянамі і вайскоўцамі прыватных і грамадскіх бібліятэк у шляхецкіх рэзідэнцыях і гарадах [100].

Першыя чысткі бібліятэчных фондаў і выдаленне ідэалагічна непажаданай літаратуры пачаліся неўзабаве пасля ўсталявання ў Беларусі савецкай улады і былі звязаны з дзейнасцю Галоўлітбела. Ужо на трэцім пасяджэнні калегіі Галоўлітбела 25 лістапада 1922 г. камандзіраваны з Масквы інструктар Галоўліта РСФСР паставіў перад беларускімі калегамі задачу складання спісаў дазволеных і недазволеных кніг, выдадзеных раней, яшчэ да ўтварэння Галоўлітбела. У якасці метадычнай дапамогі ён пакінуў у Мінску спісы забароненай літаратуры, складзеныя Галоўлітам РСФСР [24, арк. 6]. Але Р. К. Шукевіч-Траццякоў не абмежаваўся расійскімі выданнямі і пашырыў спіс за кошт мясцовага матэрыялу. У выніку праверкі фондаў бібліятэк і складоў выдавецтваў на тэрыторыі БССР, якая праводзілася са снежня 1922 па май 1923 г., быў складзены спіс забароненай літаратуры, які змяшчаў 196 пазіцый (кнігі і часопісы).

З беларускіх кніг у чорны спіс трапілі: «Патрэбнасьць

нацыянальнага жыцьця для беларусаў і самавызначэньне народу» Ф. Шантыра (слуцкае выданне 1918 г.); «Усходняя Беларусь» (выдадзена Народным сакратарыятам міжнародных спраў у 1918 г. у Мінску); «Беларускі каляндар» за 1921 г. (віленскае выданне 1920 г.); «Наша крыніца» Я. Лёсіка (берлінскае выданне 1922 г.); «Расійска-польскі баль і беларускае пахмельле» А. Бярозы (пінскае выданне 1921 г.); «Статут аб выбарах у ўстаноўчы збор» (петраградскае выданне 1917 г., пераклад на беларускую мову З. Жылуновіча, зацверджаны Я. Варонка); усе выданні вайсковай камісіі БНР; «Слова а праклятай гарэлке» (пецярбургскае выданне 1900 г.); камедыі Ф. Аляхновіча «Птушка шчасця», «Шчаслівы муж»

(віленскія выданні 1922 г.); «Слуцкая варона» М. Кудзелькі (выданне Беларускай цэнтральнай школьнай рады 1920 г.); «Гутарка аб беларускай мове» С. Рака (мінскае выданне 1919 г.); «Першае чытанне для дзетак беларусаў» Цёткі (пецярбургскае выданне 1906 г.); «Дзіцячая чытанка» (мінскае выданне 1918 г.). Былі таксама забаронены кнігі шэрага яўрэйскіх і польскіх аўтараў [25, арк. 2–27].

Падобны механізм складання спісаў «шкоднай» літаратуры ў БССР захоўваўся і надалей. З Масквы дасылаўся спіс недазволеных расійскіх аўтараў (з сярэдзіны 1930-х гг. у яго ўключалі таксама забароненыя кнігі, выдадзеныя ў саюзных рэспубліках), які мясцовыя цэнзары пашыралі беларускімі выданнямі. У якасці своеасаблівай кампенсацыі за адабраную беларускую літаратуру, Галоўпалітасвета РСФСР рэгулярна дасылала з Масквы ў Мінск савецкую прапагандысцкую літаратуру для размеркавання па масавых бібліятэках.

У 1920-я гг. у СССР прайшлі тры хвалі масавых чыстак бібліятэк ад «контррэвалюцыйнай літаратуры» — у 1923, 1926 і 1929 гг. Першая хваля была вызначана інструкцыяй Галоўпалітасветы, Галоўліта і Цэнтральнай бібліятэчнай

камісіяй РСФСР «Аб пераглядзе кніжнага складу з мэтай адабрання контррэвалюцыйнай і антымастацкай літаратуры», прынятай у 1923 г. і накіраванай на чыстку масавых бібліятэк (гарадскіх, раённых, павятовых, сельскіх, рабочых клубаў, бібліятэк-перасовак). У ёй не толькі былі змешчаны спісы забароненых аўтараў і кніг, але нават пазначаны «недапушчальныя» напрамкі ў культуры, навуцы, літаратуры. Кіраўніцтва Галоўпалітасветы БССР без істотных змен разаслала маскоўскую інструкцыю сваім акруговым інспектарам з патрабаваннем яе тэрміновага выканання [51, арк. 1–95].

У БССР маскоўскую інструкцыю выконвалі камісіі, якія ствараліся акруговымі інспектарамі палітасветы. У выніку іх дзейнасці на працягу 1924 г. у акруговых бібліятэках з'явіліся т. зв. «архівы» (спецсховы), дзе захоўвалася «контррэвалюцыйная і антымастацкая» літаратура, адабраная з акруговых і раённых бібліятэк. Іх змест вызначаўся інструкцыяй Галоўпалітасветы РСФСР, а памеры — наяўнасцю ў бібліятэках акругі дарэвалюцыйнай літаратуры. Напрыклад, «архіў» Мінскай гарадской пушкінскай бібліятэкі налічваў 16 тыс. кніг, пры тым што агульная колькасць дазволеных выданняў у ёй складала 21 тысячу. На 4 317 выданняў, даступных для чытачоў Полацкай гарадской бібліятэкі (польскіх — 300, беларускіх — 70, астатнія — расійскія), прыходзіўся «архіў», дзе было схавана каля 2 тыс. кніг [83, арк. 61]. На працягу 1930-х гг. усе спецсховы масавых бібліятэк будуць знішчаны, а прывілей мець уласны спецсхоў атрымаюць толькі навуковыя і спецыяльныя бібліятэкі.

Вынікі чысткі масавых бібліятэк, праведзенай у 1924–1925 гг., мелі для большасці з іх катастрафічны характар. Аўтары справаздач бібліятэчнага аддзела Наркамасветы БССР таго часу скардзяцца на надзвычайную беднасць акруговых і раённых бібліятэк, асабліва беларускіх аддзелаў.

Кніжны фонд хат-чытальняў і народных дамоў у сярэднім складаў ад 200 да 2 000 кніг. Такое жахлівае спусташэнне дэзарганізоўвала бібліятэчную працу, зрывала планы па развіцці бібліятэчнай сеткі, дэмаралізоўвала бібліятэкараў. Неабходнасць адмены інструкцыі 1923 г. для многіх зрабілася відавочнай.

У 1926 г. Наркамасветы РСФСР па загадзе ЦК УсеКП(б) выдае новую «Інструкцыю па праглядзе кніг у бібліятэках», якая выклікала другую хвалю бібліятэчных чыстак. Як падкрэслівалася ў яе ўводнай частцы, інструкцыя была накіравана на выпраўленне памылак і перагібаў, дапушчаных падчас агульнасаюзнай кампаніі па ачыстцы фондаў бібліятэк 1923–1924 гг. Меліся на ўвазе перш за ўсё працы заснавальнікаў марксізму-ленінізму, а таксама хрэстаматыйныя творы рускіх і замежных класікаў, бо іх, перастрахоўваючыся, адпраўлялі на ўтылізацыю напалоханыя бібліятэкары. Вяртанню на бібліятэчныя паліцы падлягалі таксама капітальныя працы па гісторыі рэлігіі, філасофіі, грамадазнаўстве, некаторыя дарэвалюцыйныя часопісы, дзіцячая літаратура. Работа бібліятэкараў па адабранні «шкоднай» літаратуры ставілася пад кантроль камісій, складзеных з прадстаўнікоў Галоўліта, а таксама партыйных, прафсаюзных, камсамольскіх арганізацый, і зацвярджалася ў Галоўпалітасвеце. На жаль, кіраўніцтва апошняй, якое праводзіла ў жыццё інструкцыю 1926 г. на працягу амаль двух гадоў, зрабіла акцэнт не на ўзнаўленне кніжных фондаў, а на іх далейшае разбурэнне.

У сакавіку 1926 г. Галоўлітбел і Галоўпалітасвета БССР на маскоўскі ўзор ўтварылі камісію па праверцы кніжнага складу ўсіх масавых бібліятэк. Адпаведна спісам, дасланым са сталіцы, былі адабраны кнігі расійскіх (М. Загоскін, І. Бунін, Р. Данілеўскі, І. Лажэчнікаў, С. Салаўёў, Р. Авенарыус, С. Аксакаў, К. Станюковіч) і замежных (Г. Флабэр, М. Твен, Ф. Брэт-Гарт, Г. Спенсэр, Г. Хагард, Г.

Сянкевіч, Э. Растан) «шкодных» аўтараў [26, арк. 1–6]. Жорсткі курс адносна непралетарскай кнігі быў замацаваны ў маі 1926 г., калі адбылася Усебеларуская нарада акруговых аддзелаў палітасветы. На ёй было ўхвалена рашэнне «ўзяць рашучы напрамак на сканчэньне працы па ізьяцьцю ўстарэлых і непадходзячых кніжак» [27, арк. 251].

Яшчэ адным, незапланаваным напрамкам цэнзарскай дзейнасці ў бібліятэках была праверка фізічнага стану грамадска-палітычнай літаратуры. У чэрвені 1926 г.

Галоўлітбел разаслаў акруговым літам дырэктыўны ліст, дзе, у прыватнасці, было сказана: «З азнаямлення са станам інвентара некаторых кнігасховішч БССР высветлілася, што абаненты на палях кніг правадыроў Кастрычніцкай Рэвалюцыі робяць часамі алоўкам альбо чарнілами нататкі непрымальнага характару. На палях збору твораў т. Леніна — лаянка ў адрас Уладзіміра Ільіча, часам мудрагелістыя меньшавіцкага кшталту рэляцыі радкоў на 30 і г. д. З гэтымі з’явамі трэба тэрмінова скончыць» [28, арк. 43]. Галоўлітбел загадваў начальнікам акруговых літаў абавязаць загадчыкаў мясцовых бібліятэк праглядаць усе старонкі па вяртанні абанентамі твораў Маркса, Энгельса, Леніна, Троцкага, Сталіна, Зіноўева, Бухарына, Калініна і іншых тэарэтыкаў марксізму. У выпадках знаходжання якіх-небудзь паметак з абанента спаганяўся кошт кнігі, а сама кніга адсылалася праз акрліт у ЦК КП(б)Б (пра адрас адсылкі загадчыкам бібліятэк казаць забаранялася). Два разы на месяц акрліты павінны былі правяраць якасць работы бібліятэкараў шляхам прагляду кніг вышэйназваных аўтараў.

Першыя чысткі бібліятэк, якія праводзіліся Галоўпалітасветай і Галоўлітбелам, супалі па часе з рэзкім скарачэннем колькасці бібліятэк у СССР, што было абумоўлена ўвядзеннем новай эканамічнай палітыкі. У шэрагу паветаў засталося па адной бібліятэцы, валасныя

бібліятэкі перадаваліся хатам-чытальням. Новай літаратурай яны не ўзбагачаліся і існавалі на грошы, якія браліся за чытанне кніжак [103, с. 5]. Вось як апісваецца стан бібліятэчнай справы ў БССР у дакладзе Галоўпалітасветы для ЦК КП(б)Б у сакавіку 1928 г.: «...ахапіць усіх жадаючых і разгарнуць больш менш шырокую работу па ўцягванню шырокіх мас, нашы бібліятэкі не ў стане па шэрагу прычын. Абмежаванасць кніжнага інвентару, мізэрная і несваечасовая папаўняемасць і абнаўляемасць апошняга, цесната памяшканняў, слабая падрыхтаванасць і недастатковасць бібліятэчных кадраў і малы заробак, пры поўнай адсутнасці кіраўніцтва з боку цэнтральных органаў, адмоўна адбіваецца на справе ўцягвання новых мас чытачоў». Сярод прапаноў па паляпшэнні матэрыяльна-тэхнічнага стану бібліятэчнай справы ў БССР аўтары даклада асобным пунктам вызначылі неабходнасць «...правядзення палітычнай і метадычнай чысткі ўсіх бібліятэк, звязаўшы яе з камплектаваннем, дзеля чаго выпрацаваць належную інструкцыю» [30, арк. 50, 61].

Трэцяя хваля спусташэння фондаў савецкіх бібліятэк была выклікана афіцыйным разгромам трацкізму і жаданнем Сталіна ліквідаваць апазіцыйныя ідэі, у тым ліку з кніжных палічак. У пастанове ЦК УсеКП(б) «Аб паляпшэнні бібліятэчнай работы», прынятай 30 кастрычніка 1929 г., сказана: «На працягу 1929–1930 года правесці прагляд кніжнага складу ўсіх бібліятэк і ачысціць яго ад ідэалагічна шкоднай, састарэлай і непадыходзячай да дадзенага тыпу бібліятэкі літаратуры». Як і раней, выкананне пастановы даручылі Галоўпалітасвеце, кіраўніцтва якой неўзабаве выдала адпаведны інструкцыйны ліст за подпісам Н. К. Крупскай. Галоўным адрозненнем гэтай інструкцыі ад двух папярэдніх было тое, што спісы выданняў, якія падлягалі адабранню з бібліятэк, складаліся пераважна з твораў «ворагаў народа» Л. Д. Троцкага, Р. Я. Зіноўева, Л. Б.

Каменева і іх паплечнікаў. Чыноўнікі Галоўпалітасветы і Галоўліта знаходзіліся напярэдадні выканання новага маштабнага задання — савецкія выдавецтвы публікавалі творы былых правадыроў рэвалюцыі на працягу 1920-х гг. агромністымі тыражамі.

Напачатку 1930-х гг. наступіў новы перыяд у гісторыі бібліятэчных чыстак у СССР. Пасля расфарміравання ў 1930 г. Галоўпалітасветы гэтая справа цалкам перайшла ў сферу адказнасці Галоўліта. Характар і маштабы рэпрэсій, накіраваных супраць кнігі ў 1930-я гг., вызначаліся новым эканамічным і сацыяльна-палітычным курсам, які быў распачаты Сталіным пасля «крутога павароту». Бібліятэкі прыцягваліся да ўдзелу ў палітычных кампаніях, паляпшэнні прамысловай вытворчасці, правядзенні сельскагаспадарчых работ. Паступова негатыўныя тэндэнцыі пераважылі, што прывяло да разбурэння апарата кіраўніцтва бібліятэчнай справай, знішчэння старых бібліятэчных кадраў, збяднення і палітызацыі бібліятэчных фондаў. Хвалі бібліятэчных чыстак 1930-х гг. былі ў значнай ступені абумоўлены палітычнымі працэсамі над «ворагамі народа», узгадванне імён якіх, нават ускосна, на старонках кніг, часопісаў ці газет азначала знішчэнне гэтых выданняў альбо перадачу іх у спецсхоў. Маштабы чыстак, асабліва ў 1935–1937 гг., вялі да амаль поўнага спусташэння масавых бібліятэк, а навуковых — да ператварэння ў гіганцкія спецсховы.

Аднак новы перыяд у гісторыі бібліятэчных чыстак пачаўся з непрацяглай адлігі. Яна была выклікана шматлікімі «перагібамі» ў рабоце па ачыстцы бібліятэк, асабліва правінцыяльных. Пад артыкулы па адабранні, выкладзеныя ў інструкцыях Галоўпалітасветы і Галоўлітбела, можна было падвесці большасць літаратуры, якая захоўвалася ў фондах масавых бібліятэк. Напалоханыя, малакультурныя, часта выпадковыя на бібліятэчных пасадах

людзі пераводзілі на макулатуру цэлыя паліцы і шафы лепшых кніг. Гэта не магло не адбіцца на зніжэнні цікавасці чытачоў да бібліятэк, на ўзроўні іх абслугоўвання, што стала відавочным для высокага партыйнага кіраўніцтва. Магчыма, да яго таксама прыйшло разуменне таго, што асноўныя задачы па ідэалагічным выпрамленні бібліятэк ужо выкананы. 4 кастрычніка 1932 г. выйшла пастанова калегіі Наркамасветы РСФСР, якая рэзка крытыкавала дзейнасць прадстаўнікоў мясцовых улад і супрацоўнікаў бібліятэк па масавым адабранні кніг. Гэтая пастанова была сігналам для кіраўніцтва саюзных рэспублік, і на непрацяглы перыяд бібліятэчныя чысткі былі спынены.

31 ліпеня 1933 г. ЦК КП(б)Б прыняў пастанову «Аб стане бібліятэчнай справы і кнігагандлю ў БССР», дзе канстатавалася, што «...ачыстка бібліятэк ад класава варожай літаратуры... была пушчана на паўнейшы самацёк, адсутнічала строгая адказнасць за гэтую справу і неабходная класавая пільнасць..., у Суражскім, Дрысенскім і Буда-Кашалёўскім раёнах былі выпадкі адабрання марксісцка-ленінскай літаратуры і пакідання нацдэмаўскай». Згодна з пастановай, дзеля арганізацыі належнага кіраўніцтва ачысткай бібліятэчных фондаў ад класава варожай літаратуры, а таксама з мэтай ліквідацыі дапушчаных скажэнняў стваралася новая Цэнтральная бібліятэчная камісія пры Народным камісарыяце асветы. Усе чысткі бібліятэк павінны былі адбывацца толькі з яе дазволу. Культпропу ЦК сумесна з Наркаматам асветы даручалася ў сціслыя тэрміны перабудаваць сетку бібліятэк з мэтай максімальнага набліжэння кнігі да масавага чытача. Меркавалася стварыць новыя бібліятэкі пры прамысловых прадпрыемствах, калгасах, саўгасах, МТС, дзіцячых установах, домакіраўніцтвах, а таксама шэраг чытальняў у месцах масавага скаплення людзей (садах, скверах, вакзалах). Пастанова заканчвалася рэпрэсіўнай часткай, згодна з якой

ЦКК–РСІ павінны былі ў сціслыя тэрміны правесці пагалоўную праверку бібліятэчных кадраў і іх ачыстку ад варожых элементаў [32, арк. 36–38].

Асноўныя ідэі ліпеньскай (1933 г.) пастановы ЦК былі замацаваны ў пастанове СНК БССР «Аб мерапрыемствах па ахове кніжных фондаў у бібліятэках», якая выйшла 30 студзеня 1934 г. У яе першым пункце было запісана: «Забараніць усялякае выключэнне, продаж і перадачу ў макулатуру кніг з дзяржаўных, навуковых, палітасветных, прафсаюзных і іншых масавых бібліятэк без асобнага дазволу ў кожным асобным выпадку адпаведных арганізацый, якім падпарадкаваны гэтыя бібліятэкі, і заключэння Цэнтральнай бібліятэчнай камісіі Народнага камісарыята асветы» [33, арк. 138].

Храналагічна канец адлігі быў вызначаны забойствам С. М. Кірава ў снежні 1934 г. і пачаткам палітычных працэсаў над членамі партыйнай апазіцыі. З гэтага часу і да канца 1938 г. масавыя бібліятэчныя чысткі адлюстроўвалі працэс арыштаў «ворагаў народа», кнігі і артыкулы якіх адбіраліся з бібліятэк і кнігарняў. У БССР прэлюдыяй да чыстак з'явілася следства па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра» (1933), які «распаўсюдзіў сваю дзейнасць на ...Дзяржаўную бібліятэку». Былі праведзены маштабныя праверкі бібліятэчных работнікаў, якія скончыліся шматлікімі звальненнямі і арыштамі [1, с. 46]. Для многіх аўтараў адабранне іх кніг падчас папярэдніх чыстак у 1933 г. аўтаматычна азначала кляймо ворага. Так, «грубейшыя палітычныя скажэнні», зробленыя пры перакладзе на беларускую мову кнігі Сталіна «Пытанні ленінізму» (выданне Дзяржаўнага выдавецтва БССР, 1931) каштавалі жыцця навуковаму супрацоўніку БАН Я. Ф. Густыру [31, арк. 248].

У студзені 1935 г. начальнік Галоўліта БССР З. А. Давідовіч атрымаў ад маскоўскага кіраўніцтва сакрэтны ліст

наступнага зместу: «Загадваю адабраць з усіх бібліятэк Наркамасветы, ваенных, прафсаюзных, ведамасных і іншых а) працы, цалкам належачыя Троцкаму, Зіноўеву, Каменеву, Сафараву і іншым асуджаным трацкістам і зіноўеўцам; б) зборнікі, падручнікі і хрэстаматыі, выдадзеныя ў мінулыя гады (да 1931 г.) і ў якасці навучальных дапаможнікаў альбо масавай літаратуры пад рэдакцыяй узгаданых асоб, альбо з іх артыкуламі альбо вытрымкамі з іх; в) дыяпазітывы, улёткі, плакаты з выявамі ўзгаданых асоб і з вытрымкамі (цытатамі) з іх твораў, а таксама іх партрэты. Гэта тычыцца таксама ўсіх музеяў і выстаў» [33, арк. 138].

У тым жа лісце ўказвалася літаратура, якая не падлягала адбіранню: «а) пратаколы савецкіх, партыйных, прафсаюзных і іншых з'ездаў і канферэнцый (стэнаграфічныя справаздачы), дзе маюцца выступленні альбо даклады ўзгаданых асоб; б) тамы сачыненняў У. І. Леніна (усіх трох выданняў) і аналагічных матэрыялаў (напрыклад, "Ленінскія зборнікі") на якіх значыцца "пад рэдакцыяй Каменева"; в) газеты і часопісы з артыкуламі ўзгаданых асоб; г) выданні, якія выходзілі пад рэдакцыяй узгаданых асоб, але не выклікаюць з боку зместу цэнзурных сумненняў» (напрыклад, выданні «Акадэміі» — «Бацюшкаў», «Герцэн» альбо кнігі з серыі «Жыццё выдатных людзей», якія таксама выходзілі пад рэдакцыяй Каменева). Кіраўніцтва Галоўліта БССР не пагадзілася з тым, што газеты і часопісы, а таксама пратаколы з'ездаў і канферэнцый, якія змяшчалі артыкулы і выступленні ўдзельнікаў «трацкісцка-зіноўеўскіх тэрарыстычных арганізацый», не падлягалі адабранню з бібліятэк, лічачы гэта палажэнне палітычна шкодным, пра што паведаміла ў Маскву. Але маскоўскія цэнзары не ацанілі пільнасць беларускіх калег і ў сваім адказе лаканічна паведамілі, што «трэба дакладна выконваць указанні ЦК УсеКП(б) і Упаўнаважанага Галоўліта пры ЦК УсеКП(б)» [41, арк. 58].

Напачатку 1935 г. Галоўліт БССР пад кіраўніцтвам З. А. Давідовіча распрацаваў некалькі сакрэтных цыркуляраў, якія змяшчалі спісы забароненых выданняў і інструкцыі па адабранні іх з бібліятэк рэспублікі. Для выяўлення выданняў нацыяналістычнага і трацкісцкага характару адпаведна складзеных Галоўлітам спісаў ствараліся камісіі, у якія ўваходзілі прадстаўнікі мясцовых партыйных арганізацый, аддзелаў народнай адукацыі і літаў. Па выніках работы камісій загадчыкі бібліятэк складалі спісы забароненай літаратуры, адбіралі яе і дастаўлялі ў спецыяльныя пункты, вызначаныя камісіямі. У выпадках, калі члены камісій альбо бібліятэкары выяўлялі падазроныя выданні, не ўключаныя Галоўлітам БССР у спісы, пра іх трэба было паведамляць кіраўніцтву апошняга. Адзін экзэмпляр кожнага адабранага выдання перадаваўся ў спецсховы цэнтральных бібліятэк [33, арк. 139].

Напярэдадні правядзення масавых бібліятэчных чыстак 1935 г. спецсховы ўжо існавалі ў найбуйнейшых бібліятэках краіны (Дзяржаўнай імя Леніна, БелАН, Гістпарта і інш.). Найбольшы з іх, які знаходзіўся ў Дзяржаўнай бібліятэцы імя Леніна, быў утвораны ў маі 1934 г. Першапачаткова ён меў назву «асобага сектара» (на правах аддзела), у ім канцэнтравалася захаванне кніг, газет і часопісаў па асобных спісах Галоўліта. Акрамя таго, туды перадаваліся ўсе замежныя перыядычныя выданні, а таксама «ўсе безгаспадарчыя кніжныя фонды і выданні ...з масавых бібліятэк, а таксама неліквідаваныя рэшткі выдавецкіх складоў». Значную колькасць фонду складалі творы нацыянальных аўтараў. Рабілася гэта з мэтай «...барацьбы супроць магчымага скарыстання кнігі ў класава-варожых інтарэсах». Права на сталае карыстанне гэтымі выданнямі мелі асобы, занесеныя ў спіс Наркамасветы. Дырэктару бібліятэкі і яго наменікам было дазволена выкарыстоўваць выданні асобага сектара часова, для вырашэння канкрэтнага

пытання. Уваход у пакой, дзе змяшчаўся асобы сектар, абавязкова апячатваўся. Адказным за захаванне асобага сектара (да прызначэння сталага загадчыка) прызначаўся намеснік дырэктара бібліятэкі, былы рэвалюцыянер, гісторык-марксіст І. П. Ашаровіч [83, арк. 61].

У 1935 г. Галоўліт РСФСР паспрабаваў спыніць генеральную чыстку, даслаўшы ў расійскія абласныя і саюзныя літы дырэктыву, якая патрабавала кіравацца выключна спісамі, якія рассылаліся з Масквы, і санкцыямі мясцовых партыйных органаў. 19 красавіка 1935 г. у ЦК КП(б)Б прыйшла тэлеграма ад загадчыка агітпропа ЦК УсеКП(б) А. І. Стэцкага: «Адабранне кніг з бібліятэк спыніць. Забяспечце ахову адабраных кніг. У бліжэйшы час будуць прысланы канкрэтныя інструкцыі, якія кнігі павінны быць адабраны канчаткова і якія можна звярнуць бібліятэкам» [33, арк. 153]. Па прапанове маскоўскага кіраўніцтва 2 ліпеня 1935 г. ЦК КП(б)Б прыняў пастанову «Аб становішчы бібліятэчнай справы ў сістэме Наркамасветы БССР», якая мела ў цэлым міралюбівы характар, а яе пункт № 8 змяшчаў выразнае патрабаванне «даручыць ворганам пракуратуры прыцягваць да строгай адказнасці вінаватых у злачынных адносінах да бібліятэчных кніг як у справе захавання, так і ў справе абыходжання з імі» [15].

Аднак менавіта ў 1935 г. у БССР з’явіўся, па нашых звестках, першы друкаваны (у выглядзе брашуры тыражом у тысячу асобнікаў) спіс літаратуры, якая падлягала адабранню з масавых бібліятэк, бібліятэк навучальных устаноў і кнігагандлёвай сеткі. Спіс складаўся з 492 беларускіх кніг, выдадзеных у Мінску, Вільні, Коўне, Беластоку ў 1917–1935 гг. У якасці дадатка прыкладаліся прозвішчы 28-мі аўтараў, усе творы якіх падлягалі адабранню:

Ф.Аляхновіч,Р.Астроўскі,А.Бабарэка,А.Багдановіч,А.

Баліцкі, В. Воўк-Левановіч, А. Гарун, М. Гарэцкі, З. Даўгяла, У. Дзяржынскі, М. Доўнар-Запольскі, В. Друшчыц, У. Дубоўка, Х. Дунец, У. Ігнатоўскі, В. Ластоўскі, Я. Лёсік, С. Ліхадзіеўскі, А. Луцкевіч, С. Некрашэвіч, У. Пічэта, Д. Прышчэпаў, Я. Пушча, С. Рак-Міхайлоўскі, А. Смоліч, Ю. Таўбін, А. Цвікевіч [35, арк. 1–10].

Наступныя, 1936–1937 гг. былі часам найбольш маштабных бібліятэчных чыстак у СССР. Упаўнаважаны СНК СССР па ахове ваенных тайнаў у друку і начальнік Галоўліта С. Б. Інгулаў літаральна закідваў Галоўліт БССР дырэктыўнымі лістамі, якія змяшчалі спісы твораў забароненых аўтараў: 13 снежня 1936 г. — спіс са 119 пазіцый, 23 снежня 1936 г. — з 270-ці, 26 снежня 1936 г. — з 62-х, 25 студзеня — з 60-ці, 28 студзеня 1937 г. — два спісы: з 16 і 67 пазіцый, 31 сакавіка 1937 г. — з 220 пазіцый. Калі за ўвесь перыяд, які папярэднічаў 1 студзеня 1937 г., цэнзурнымі органамі БССР было праверана 280 масавых бібліятэк, з якіх адабрана 2 175 назваў трацкісцка-зіноўеўскай, 1 693 — нацдэмаўскай і 367 — педалагічнай літаратуры, то ўжо праз месяц агульная колькасць правераных бібліятэк павялічылася да 483-х, а колькасць назваў забароненых кніг вышэйпададзеных катэгорый павялічылася да 3 849, 3 023 і 816 адпаведна [41, арк. 58]. Паралельна з масавымі праводзіўся адбор «састарэлай» літаратуры з ведамасных бібліятэк [98, с. 23].

23 сакавіка 1937 г. зноў прызначаны начальнік Галоўліта і Аддзела ваеннай цэнзуры пры Савеце Міністраў БССР І. Л. Ахрамовіч дакладаў сакратару Мінскага гаркама КП(б)Б, што «...па Мінску і Мінскаму раёну работа па праверцы і ачыстцы бібліятэк ад трацкісцка-зіноўеўскай кантррэвалюцыйнай літаратуры правальваецца. Таварышы, выдзеленыя пастановай гаркама ад 13 лістапада 1936 г., нягледзячы на нашы шматлікія звароты да іх, гэтую працу не распачалі. У бягучы момант апарат Галоўліта БССР

складаецца з двух чалавек і непасрэдна ўласнымі сіламі забяспечыць гэты ўчастак работы ні ў якім выпадку не можа». 9 красавіка 1937 г. ён зноў звяртаў увагу вышэйшага партыйнага кіраўніцтва рэспублікі на нездавальняючы стан праверкі бібліятэк і кнігагандлёвай сеткі з мэтай адабрання трацкісцка-зіноўеўскай і нацдэмаўскай літаратуры [41, арк. 75].

Тэндэнцыя падпарадкавання думак, поглядаў, паводзін людзей адзінай ідэалогіі вымагала змагацца з тымі, хто з'яўляўся перашкодай на гэтым шляху. Наймацнейшым цэнзурным нападкам падвяргалася літаратура па беларускай гісторыі, грамадазнаўстве, мастацтве, філалогіі, геаграфіі, гаспадарцы, якая несла ў грамадства ліберальна-дэмакратычныя ідэі ў спалучэнні з задачамі нацыянальнага адраджэння. Звяртае таксама на сябе ўвагу занепакоенасць цэнзараў (разам з асобнымі беларускімі лемантарамі, чытанкамі, граматыкамі) нацыянальнымі тэрміналагічнымі слоўнікамі, якіх толькі ў спісах 1937 г. мы знаходзім дваццаць шэсць. Асаблівую нянавісць арганізатараў бібліятэчных чыстак выклікала маладая беларуская літаратура. 29 красавіка 1937 г. І. Л. Ахрамовіч разаслаў усім акруговым, гарадскім і раённым літам наступны спіс прозвішчаў літаратараў, усе творы якіх падлягалі адабранню з бібліятэк і кнігагандлёвай сеткі: С. Баранавых, М. Багун, А. Вольны, С. Дарожны, А. Дудар, Ц. Гартны, С. Знаёмы, А. Звонак, М. Зарэцкі, Л. Зіскінд, В. Каваль, С. Куніцкі, Т. Кляшторны, В. Маракоў, Б. Мікуліч, З. Піваварaў, В. Сташэўскі, Я. Скрыган, У. Хадыка, М. Чарот. Тым жа цыркулярным лістом І. Л. Ахрамовіч рэкамендаваў сваім падначаленым паведамляць у Мінск пра выяўленне кніг і артыкулаў «ворагаў народа» альбо спасылкі на іх, а таксама катэгарычна забараняў адбіраць літаратуру не па спісах Галоўліта, у прыватнасці творы Леніна. Адпаведна яго загаду ад 29 чэрвеня 1937 г. з усіх бібліятэк масавага карыстання і кнігагандлёвай сеткі

адбіраліся ўсе брашуры і партрэты рэпрэсаванага першага сакратара ЦК КП(б)Б В. Ф. Шаранговіча [41, арк. 75].

Вялікую складанасць для цэнзурнага ведамства ўяўлялі шматлікія перыядычныя выданні, якія меліся ва ўсіх без выключэння бібліятэках. Калейдаскоп палітыка-ідэалагічных кампаній 1930-х гг., якія перапляталіся і ішлі адна за адной, нараджаў усё новыя постаці замоўчвання, большасць з якіх фігуравала ў перыядычных выданнях у якасці аўтараў ці герояў матэрыялаў. У сувязі з тым, што адабранне ўсіх «шкодных» перыядычных выданняў было тэхнічна немагчыма, зважаючы на іх тыражы, вырашылі скарыстаць метад закрэслівання імёнаў і выразання старонак. Аднак часопісы, рэдакцыйныя рады і аўтары якіх скрозь складаліся з «ворагаў», — «Маладняк», «Полымя» і «Узвышша» — знішчаліся альбо хаваліся ў спецсхоў за ўсе гады выдання згодна спісу № 33 1937 г.

Ахвярамі рэпрэсій сталі шматлікія беларускія бібліяграфіі і дакументальныя зборнікі, без якіх немагчыма засваенне кніжнай і дакументальнай спадчыны. Асноўным матывам іх уключэння ў праскрыпцыйныя спісы было змяшчэнне ў бібліяграфіях і зборніках літаратуры і дакументаў «кантррэвалюцыйнага» альбо «нацдэмаўскага» зместу, а таксама абвяшчэнне аўтараў кніг «ворагамі народа». Так, калі згодна з галоўлітаўскім спісам 1937 г. «Матэрыялы да вывучэння Віцебскай краёвай літаратуры і мастацтва» (Менск, 1927), «Бібліяграфія літаратуры аб Польшчы, Заходняй Беларусі, Заходняй Украіне» (Менск, 1933), «Матэрыялы па вывучэнню геалогіі, гідралогіі і карысных выкапняў БССР» (Менск, 1933) зніклі з паліц з-за іх зместу, то зборнік «ЛКСМБ у дакументах і матэрыялах. 1918– 1920» (Менск, 1934) пайшоў ва ўтыль таму, што яго рэдактарам быў рэпрэсаваны гісторык рэвалюцыйнага руху С. М. Агурскі [39, арк. 41–48]. Замест бібліяграфічных даведнікаў сур'ёзнага навуковага зместу з'явіліся шматлікія

рэкамендацыйныя спісы літаратуры, якія мелі яскрава акрэслены прапагандысцкі характар, напрыклад «Рэкамендацыйны спіс літаратуры да XI гадавіны са дня смерці В. І. Леніна», выдадзены Дзяржаўнай бібліятэкай імя Леніна ў 1935 г.

Партыйныя ідэолагі імкнуліся знішчыць усе сведчанні пра бундысцка-сіяністцкі рух на Беларусі, удзельнікі якога імкнуліся абараняць спецыфічныя палітычныя і сацыяльныя інтарэсы яўрэйскіх працоўных. Пачынаючы з 1937 г. з бібліятэк БССР зніклі кнігі З. Бядулі «Жыды на Беларусі» (Менск, 1918), А. Навіны «Жыдоўскае пытанне ў беларускай літаратуры» (Вільня, 1921), «Другі Ўсебеларускі з’езд яўрэяў-сялян (стэнаграфічная справаздача)» (Менск, 1928), Г. Чарняўскага «Яўрэйскі рабочы на зары рэвалюцыйнага руху» (Менск, 1932), «Яўрэйска-беларускі слоўнік» (Менск, 1932), М. Дубравіцкага «БССР — шеф Биробиджана» (Менск, 1933) і інш.

Пад падазрэнне трапляла літаратура, адрасаваная сялянству, сярод якога былі традыцыйна моцныя прыватнаўласніцкія настроі, напрыклад: І. Шыпіла «Што кожны селянін павінен ведаць аб каапераццыі» (Менск, 1925), Зм. Прышчэпаў «Сялянка ў сельскай гаспадарцы» (Менск, 1925), М. Уліцын «За ураджай» (Менск, 1929). Не меншае падазрэнне выклікала рэлігійная літаратура, якая мізэрнымі тыражамі выдавалася на працягу 1920-х гг., напрыклад «Праваслаўны каляндар на 1929 г.» (Менск, 1929) і інш.

Ва ўмовах навешвання ярлыкоў і татальных абвінавачванняў у ідэалагічным шкодніцтве пад крытыку падпадалі таксама пазаштатныя цэнзары, якія выконвалі палітычны заказ партыйнага кіраўніцтва па разгроме «нацдэмаўшчыны». У спісы забароненых трапілі кнігі С. Х. Агурскага, Л. А. Бэндэ, С. Я. Вальфсона, А. Е. Кучара. І, што падаецца зусім неверагодным, — «Драматычныя творы» І. Д. Гурскага, які з 1927 па 1930 г. узначальваў Галоўлітбел [39,

арк. 41–48].

Да таго часу ўжо была адпрацавана працэдура адбірання з бібліятэк «шкодных» кніг. Спіс забароненых выданняў, складзены Галоўлітам, рассылаўся ў абласныя, гарадскія і раённыя літы, а іх супрацоўнікі перадавалі кнігі пад подпіс дырэктарам бібліятэк. На апошніх ускладалася непасрэдная работа па ачыстцы бібліятэчных фондаў. Пасля адбірання кніг у трох экзэмплярах складаліся адпаведныя акты, першы з якіх адсылаўся ў Галоўліт БССР, другі накіроўваўся ў НКУС, трэці заставаўся ў мясцовым ліце. Усе кнігі, пазначаныя ў акце, падлягалі знішчэнню, пра што насупраць кожнай пазіцыі спісу рабілася пазнака. Знішчаліся кнігі з дапамогай рэзальных машын, пасля чаго рэзаную паперу здавалі ва ўтыль. У райцэнтрах, дзе рэзальных машын не існавала, кнігі спальвалі. Сумнымі помнікамі эпохі барацьбы з іншадумствам з'яўляюцца ацалелыя інвентарныя кнігі Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна за 1937 г., дзе забароненыя кнігі старанна выкраслены чорнай тушшу [84, арк. 1–100].

Звычайна спісы выданняў, якія падлягалі адабранню, выглядалі лаканічна, без тлумачэнняў прычын, па якіх тая ці іншая кніга павінна была быць знішчана альбо знікнуць у спецсхове. Выключэннем з'яўляецца спіс Галоўліта БССР 1938 г., які мае анатацыі, адрасаваныя кіраўнікам культпропа ЦК КП(б)Б. Сярод іншых мы знаходзім у ім кнігі С. Баркоўскага «1-е мая на Беларусі» (Менск, 1927) — «ідэалізацыя бунда, стар. 15 і інш., на стар. 54 — цытата Кнорына, у бібліяграфічным спісе рэкамендуюцца творы «ворагаў народа»; В. Вольскага «Праблемы беларускай савецкай драматургіі» (Менск, 1934) — «на стар. 21 і інш. ідэалізацыя п'есы Александровіча "Напор", на стар. 26 ідэалізацыя Мікуліча»; літаратурна-лінгвістычны зборнік на яўрэйскай мове «Да 15-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі» (Менск, 1932) — «на 3–45 стар. артыкул Бранштэйна, усе

творы якога адбіраюцца па загаду нач. Галоўліта БССР № 60»; альманах «Байцы» (Менск, 1935) — «аповяд Платона Галавача» [42, арк. 98–102].

Пасля такіх маштабных чыстак кніг не хапала нават у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя Леніна. Вось як сучаснік апісвае абстаноўку ў ёй у сярэдзіне 1930-х гг.: «Пры Саўнаркаме была вялікая бібліятэка й чытальная заля. Доступ туда быў толькі для супрацоўнікаў Дому Ўраду. Я дастаў дазвол у гэтую бібліятэку, бо меў прапустку як вучыцель непісьменных. Пасьля заняткаў ішоў у чытальню, тут мог дастаць патрэбныя мне кніжкі, якіх у Ленінскай бібліятэцы дастаць было цяжка, бо там у чарзе чакала шмат студэнтаў з усяго гораду. Дый кнігі выдавалі там на дзьве гадзіны пакарыстацца й вярнуць, таму што на іхняе чытаньне чакалі і іншыя» [99, с. 24].

Хваля палітычных рэпрэсій, якая дасягнула свайго апагея ўвосень 1937 г., значна ўскладніла работу Галоўліта БССР. Цэнзары не паспявалі адбіраць з бібліятэк і кнігарняў выданні, на старонках якіх узгадваліся ў тым ці іншым кантэксце імёны рэпрэсаваных прадстаўнікоў партыйнай і савецкай наменклатуры. Пасля сумна вядомага ліпеньскага (1937 г.) пленума ЦК КП(б)Б пакончыў жыццё самагубствам старшыня ЦВК БССР. А. Р. Чарвякоў, быў арыштаваны старшыня СНК БССР М. М. Галадзед, які таксама загінуў у выніку самагубства, рэпрэсаваны першы сакратар ЦК КП(б)Б М. Ф. Гікала. Была рэпрэсавана абсалютная большасць першых сакратароў райкамаў партыі, многія прадстаўнікі навуковай і творчай інтэлігенцыі.

Маштабы бібліятэчных чыстак 1936–1937 гг., якія пагражалі суцэльна спусташыць кнігасховішчы, прымусілі партыйных ідэолагаў крыху змяніць тактыку. Было вырашана адбіраць толькі аўтарскія кнігі «ворагаў народа», а тыя выданні, дзе яны фігуравалі ў якасці аўтараў прадмоў ці каментарыяў выпраўляць з дапамогай уклеек альбо

выкрасленняў. Пра гэта сведчыць ліст І. Л. Ахрамовіча, адасланы ў аддзел друку ЦК КП(б)Б 4 кастрычніка 1937 г.: «На беларускай мове маецца шэраг выданняў класікаў марксізма, Леніна, Сталіна, Маркса, Энгельса пад рэдакцыяй ворагаў народа (Кнорына, Ігнатоўскага, Дзякава, Шаранговіча і інш.). Гэтыя выданні, безумоўна, не павінны быць рэалізаваны праз кнігагандлёвую сетку, а экзэмпляры, якія знаходзяцца ў бібліятэках, выклікаюць зразумелы сумнеў у чытачоў. Замест таго, каб зверыць якасць і сапраўднасць перакладаў і зрабіць адпаведныя праўкі — замяніць тытульныя старонкі гэтых выданняў і перадаць іх у грамадскае карыстанне (пры ўмове дакладнасці перакладаў) Партвыдат адмахнуўся рукамі ад сваёй прадукцыі і адыгрывае ролю ціхамірнага назіральніка. Лічу, што падобная алімпійская абыякавасць да сваіх выданняў Партвыдата і яго дырэктара т. Драгуна злачынная. Прашу даць указанне Партвыдату аб праверцы сапраўднасці перакладаў класікаў марксізма і аб сцягванні на базу Партвыдата ўсіх выданняў, якія выйшлі пад рэдакцыяй ворагаў народа для выпраўлення, таму што Партвыдат даў указанне рабіць уклейкі і папраўкі на месцах, што выкліча розныя меркаванні і скажэнні. Звяртаю Вашу ўвагу на тэрміновасць і неабходнасць гэтага мерапрыемства, якое захавае для краіны каштоўныя творы і сотні тысячаў рублёў дзяржаўных сродкаў» [41, арк. 75].

На працягу 1920–1930-х гг. вельмі вострай была праблема кадравай забяспечанасці бібліятэк. Нягледзячы на тое, што ў БССР рабіліся спробы ўзняць прафесійны ўзровень бібліятэкараў, пазітыўныя зрухі былі вельмі сціплыя. Тлумачылася гэта малымі заробкамі, што прыводзіла да цякучасці кадраў, перарывам традыцыі, абумоўленым звальненнем з працы і рэпрэсіямі супраць бібліятэкараў старой школы. Чысткі фондаў адмоўна ўплывалі на прафесійную свядомасць бібліятэчных

работнікаў, ператвараючы іх у безадказных, бяздумных выканаўцаў. Палітычныя рэпрэсіі не абмінулі галоўную бібліятэку рэспублікі. Артыкул Р. Фралова «Хто ўзначальвае Дзяржаўную бібліятэку», які меў характар палітычнага даносу і быў надрукаваны ў газеце «Звязда» 14 верасня 1937 г., стаў пачаткам «чысткі радоў». Былі адхілены ад работы дырэктар бібліятэкі, вядомы бібліятэказнаўца і бібліёграф, які атрымаў прафесійную адукацыю ў Сарбонскім і Бернскім універсітэтах, І. Б. Сіманоўскі; вучаніца акадэміка У. І. Пічэты, загадчыца беларускага аддзела бібліятэкі, укладальніца першай краязнаўчай бібліяграфічнай картатэкі Ю. І. Бібіла і некаторыя іншыя супрацоўнікі. Тады ж са структуры бібліятэкі зніклі яўрэйскі і польскі аддзелы, загадчыкі якіх згубілі свае пасады за «палітычныя памылкі», зробленыя ў 1935–1936 гг.

Рэпрэсіі супраць кнігі, якія дасягнулі свайго апагея ў 1937 г., паставілі на мяжу татальнага крызісу ўсю бібліятэчную справу БССР. Пра гэта сведчаць тэмы выступленняў удзельнікаў нарады бібліятэчных работнікаў рэспублікі, якая адбылася ў верасні 1937 г. у Мінску: «18 тысяч кніг без нагляду», «Школьныя бібліятэкі забыты», «Навесці парадак у бібліятэцы», «Перасоўкі не забяспечаны кнігамі». Выклікае здзіўленне востра крытычны характар гэтых тэм выступленняў, асабліва калі ўзяць пад увагу сацыяльна-палітычныя рэаліі таго часу. Але здзіўленне знікае падчас азнаямлення з іх зместам — абсалютная большасць удзельнікаў нарады бачыла выйсце з крытычнай сітуацыі ў далейшых чыстках і пошуку шкоднікаў у галіне бібліятэчнай справы. Пра гэта, напрыклад, сведчыць вытрымка з выступу адной з удзельніц нарады, загадчыцы бібліятэкі Камуністычнага інстытута журналістыкі: «Колькі я, напрыклад, не хадзіла ў Наркамасветы, усё ж не даведалася як паступаць з часопісамі. Пэўных указанняў дагэтуль не дадзена. Адзін гэты факт ужо дастаткова

характарызуе работу Наркамасветы ў напрамку дапамогі бібліятэкам па ачыстцы ад варожай літаратуры» [16].

Да канца 1930-х гг. рэпрэсіі ў краіне пачалі слабець. Пасля арышту М. І. Яжова прыкметна аслабела цэнзура ў інтэлектуальнай сферы, а таксама маштабы чыстак бібліятэк. Але знешнепалітычныя падзеі паставілі беларускую цэнзуру ў спецыфічныя ўмовы. У верасні 1939 г. адбылося ўз'яднанне БССР з Заходняй Беларуссю, што адкрывала новае поле дзейнасці перад цэнзурным ведамствам. Адразу ж пасля далучэння да БССР заходнебеларускіх зямель пошук і знішчэнне «контррэвалюцыйных выданняў» у заходнебеларускіх бібліятэках ажыццяўляліся палітработнікамі Чырвонай Арміі, супрацоўнікамі партапарата, саветаў і кіравання народнай адукацыі абласнога і раённага ўзроўню. Гэта работа ніяк не планавалася і не каардынавалася з цэнтра. Уся шкодная, з пункту гледжання добраахвотных цэнзараў, літаратура складзіравалася ў спецыяльныя сховішчы. Пэўная частка бібліятэчнага фонду рэгіёна, як адзначаецца ў справаздачы Галоўліта за 1940 г., была ў гэты час разрабавана.

Стварэнне сеткі абласных і раённых літаў у Заходняй Беларусі пачалося ў сярэдзіне снежня 1939 г. А ўжо ў сакавіку 1940 г. разгарнулася работа па ачыстцы заходнебеларускіх бібліятэк. Толькі за другі квартал 1940 г. Галоўлітам БССР было выдадзена адзінаццаць загадаў, паводле якіх з гарадскіх, абласных, раённых і школьных бібліятэк Заходняй Беларусі было адабрана 76 239 экзэмпляраў кніг беларускіх, яўрэйскіх і рускіх аўтараў[55]. Забараняліся паасобныя творы 549 аўтараў, у 206 — усе творы. Падрыхтоўкай спісаў забароненай літаратуры займаўся спецыяльна камандзіраваны з Мінска ў Беластак палітрэдактар Галоўліта. Замест адабранай літаратуры праз створаныя ў Беластоку, Баранавічах, Вілейцы і Брэсце

бібліятэчныя калектары толькі за апошнія месяцы 1939 г. па бібліятэках Заходняй Беларусі размеркавалі больш за паўмільёна экзэмпляраў прац класікаў марксізму-ленінізму, твораў рускіх і савецкіх пісьменнікаў, савецкай дзіцячай літаратуры.

У параўнанні з маштабам дзейнасці Галоўліта БССР спісы Галоўліта РСФСР, паводле якіх у другім квартале 1940 г. адбывалася чыстка заходнебеларускіх бібліятэк, былі даволі сціплыя — 9 246 адзінак. Найгоршае становішча склалася ва ўсходняй частцы БССР, дзе за папярэднія гады з бібліятэк былі вынішчаны ўсе творы беларускіх аўтараў, якія не ўкладаліся ў рэчышча камуністычнай ідэалогіі. Барацьба вялася пераважна з творамі савецкіх гісторыкаў, філосафаў, эканамістаў, якія гублялі актуальнасць пасля чарговай змены палітычнага курсу УсеКП(б). Так, за другі квартал 1940 г. з усходнебеларускіх бібліятэк было адабрана 20 349 экзэмпляраў выданняў паводле спісаў Галоўліта РСФСР і 6 952 экзэмпляраў выданняў паводле спісаў Галоўліта БССР [44, арк. 9–12].

Нешматлікія крыніцы дазваляюць нам у самым агульным выглядзе ўявіць, якім быў попыт чытачоў на літаратуру розных катэгорый. Нягледзячы на вялікія намаганні партыйных ідэолагаў палітызаваць склад бібліятэчных фондаў, накіраваць цікавасць чытачоў у патрэбным рэчышчы, іх вынікі былі абмежаваныя. Так, у 1937 г. узгаданы вышэй Р. Фралоў з гневам канстатаваў, што адкрыты ў тым жа годзе ў Дзяржаўнай бібліятэцы імя Леніна кабінет рабочага чытача «амаль заўсёды пусты» [96]. У 1940 г. з агульнай колькасці кніг, выдадзеных чытачам масавых бібліятэк (3,2 млн), 44% складала мастацкая літаратура, і толькі 11,2 % — грамадска-палітычная, што таксама выклікала рэзкую незадаволенасць кіраўніцтва Наркамасветы [46, арк. 4].

Да канца 1940 г. у БССР было больш за 500 спецыяльных

бібліятэк з фондам, які набліжаўся да 5 млн экзэмпляраў кніг, а таксама 4 172 масавых (наркамасветаўскіх, прафсаюзных і іншых) бібліятэк з фондам, які перабольшваў 5 млн экзэмпляраў кніг [86, с. 113]. Захаваныя архіўныя дакументы не дазваляюць даць дакладную статыстыку бібліятэчных страт і, самае галоўнае, змераць скажэнні ў грамадскай свядомасці як вынік апошніх. Аднак некаторыя дакументальныя сведчанні дазваляюць зазірнуць за фасад афіцыйнай статыстыкі і скласці ўяўленне пра вынікі культурнай палітыкі ў галіне бібліятэчнай справы на працягу першых дваццаці гадоў савецкай улады. Вось як апісвае стан Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна наркам асветы Е. І. Уралава у сваім дакладзе сакратару ЦК КП(б)Б У. Н. Маліну ад 15 лютага 1941 г.: «Падобнае захаванне кніжнага фонду ў Дзяржаўнай Бібліятэцы сёння прыводзе яго ў непатрэбны стан, бо гэта захаванне не адпавядае існуючым бібліятэчным правілам. Звыш 50 тыс. тамоў звалены на падлозе паміж паліцамі ў дапаможным кнігасховішчы, у якім і так, замест належных 400 тыс. тамоў, набіта да 1 млн. Дастаць камплект старых газет немагчыма, бо яны складзены вялікімі ярусамі. Як “выйсце” са становішча, Бібліятэцы было прадстаўлена памяшканне былога касцёла па Даўгабродскай вуліцы[56]. У гэта памяшканне звезена звыш 700 тыс. тамоў. Памяшканне вільготнае, халоднае, кнігі пакрываюцца цвіллю і трухлеюць. Памяшканне да гэтай пары цалкам не абсталявана. Вялікая колькасць кніг размешчана па розных пакоях Бібліятэкі» [45, арк. 16].

## Знікненне артэфакта

Цэнзура ў дачыненні да музеяў — гэта ідэалагічны кантроль за зместам фондавых калекцый і пабудовай экспазіцый, адрасаваных шырокаму гледачу, а таксама

стварэнне на аснове забароненых матэрыялаў музейных спецсховаў альбо іх знішчэнне. Менавіта такое разуменне задач у дачыненні да музеяў знаходзім у звароце Галоўліта РСФСР (жнівень 1938 г.) у ЦК УсеКП(б) з прапановай уключыць музеі ў сферу сваёй дзейнасці. 25 кастрычніка таго ж года начальнік Галоўліта РСФСР ужо выдаў загад, які тычыўся непасрэдна музеяў. Загад пачынаўся словамі: «З мэтай упарадкавання ўліку, захавання і выкарыстання экспазіцыйных матэрыялаў, якія маюць асобае гістарычнае, мастацкае, навуковае і спецыяльнае значэнне для музеяў СССР, а таксама адабрання шкодных і макулатурных матэрыялаў загадваю». Далей у ім сказана: «1. дазволіць музеям саюзнага, рэспубліканскага, краёвага і абласнога падпарадкавання стварэнне асобых фондаў экспазіцыйных і неэкспазіцыйных матэрыялаў… 4. Начальнікам Галоў-край-абллітаў сумесна з дырэктарамі музеяў і прадстаўнікамі органаў Цэнтрархіва адабраць на прадмет знішчэння экспазіцыйны і неэкспазіцыйны матэрыял, які не мае гістарычную, мастацкую і іншую навуковую і мастацкую каштоўнасць» [17, с. 137].

Ужо першы публічны музей, які распавядаў пра беларускую гісторыю, — Віленскі музей старажытнасцей — стаў ахвярай палітычнай цэнзуры. У 1865 г., неўзабаве пасля падаўлення паўстання К. Каліноўскага, 256 прадметаў з экспазіцыі музея, «…якія нагадвалі польскае ўладанне ў краі і штучна падтрымлівалі ў насельніцтва дарэмныя надзеі і нядобрыя памкненні», былі перададзены ў Румянцаўскі музей у Маскву. Да польскіх прадметаў тады аднеслі ў асноўным беларускія матэрыялы, у т. л. партрэты Барбары Радзівіл, Антонія Тызенгаўза, Тэадора Нарбута, уніяцкія царкоўныя старажытнасці з Брэста, Слуцка і г. д. [9, с. 83]. Цэнзурныя меркаванні адбіваліся таксама на змесце гістарычных экспазіцый іншых музеяў Беларусі канца XIX — пачатку XX ст.

Ад пачатку ўсталявання савецкай улады на Беларусі былі распачаты канкрэтныя захады, накіраваныя на тое, каб усе скарбы мастацтва, гістарычныя рэліквіі як мага хутчэй зрабіліся даступнымі для шырокіх мас. На працягу 1920-х гг. у БССР была сфарміравана музейная сетка, якая складалася з дзяржаўных музеяў сістэмы Наркамасветы (Беларускі дзяржаўны музей у Мінску з аддзяленнямі ў Віцебску, Магілёве і Гомелі), музеяў ведамстваў і ўстаноў (ЦК КП(б)Б, Наркамзема, Інбелкульта, БДУ і інш.), а таксама грамадскіх краязнаўчых музеяў, колькасць якіх на 1 студзеня 1928 г. дасягнула 34 (7 акруговых і 27 раённых).

Адначасова ствараўся падмурак музейнага заканадаўства, ішоў пошук арганізацыйных формаў дзейнасці музеяў, да гэтай работы прыцягваліся дарэвалюцыйныя кадры навуковай і мастацкай інтэлігенцыі. Упершыню на беларускіх землях быў створаны орган кіраўніцтва музейнай справай — музейны аддзел Наркамасветы. Асноўную ўвагу ў той час музейнае кіраўніцтва БССР надавала збору і ахове культурных каштоўнасцей, а таксама іх папулярызацыі сярод насельніцтва. Сетка дзяржаўных музеяў на чале з выдатнымі дзеячамі беларускай навукі і культуры — С. М. Некрашэвічам, П. В. Харламповічам, В. Ю. Ластоўскім і інш., стала важнай часткай сістэмы нацыянальнага выхавання, інструментам палітыкі беларусізацыі.

Да Першай сусветнай вайны сфарміраваўся агульнаеўрапейскі погляд на музей як на месца вытанчаных эстэтычных практыкаванняў, процілеглых прагматычнаму суроваму свету. Падобная канцэпцыя музея не магла задаволіць ідэолагаў новага савецкага ладу з іх імкненнем зламаць бар'ер, які аддзяляў музей ад жыцця, надаць яму сацыяльную функцыю, інтэграваць у сацыяльнае асяроддзе. Калі на Захадзе антымузейныя тэндэнцыі 1920–1930-х гг. выліліся ў авангардныя мастацкія творы (якія экспанаваліся

ў музейных залах) і не ставілі пад сумненне існаванне самога музея як грамадскага інстытута, то ў СССР музей стаў полем ідэалагічнай бітвы. Савецкія ідэолагі прапанавалі новае разуменне музея як месца, дзе чалавек атрымлівае ўтылітарныя веды і выхоўваецца для канкрэтных мэт — пабудовы сацыялізму. На гэтае разуменне ў значнай ступені паўплывалі лозунгі рускага мастацкага авангарда пачатку XX ст., лідэры якога (К. Малевіч, В. Татлін, А. Родчанка) заклікалі да знішчэння традыцыйнага музея як месца захавання «мёртвых цел».

1928–1929 гг. былі часам узмацнення і перамогі ў СССР спрошчаных уяўленняў пра культуру, што замацавала адносіны дзяржавы да музея як да інструмента ідэалагічнага ўздзеяння на масы ў неабходным кірунку. У 1930-я гг. развіццё савецкіх музеяў з’яўлялася часткай агульнадзяржаўнай і партыйнай прапагандысцкай работы. Гіпертрафіраваліся прапагандысцкія функцыі музеяў пры недаацэнцы спецыфікі музея як навукова-даследчай і навукова-асветніцкай установы. Былі скасаваны Галоўнавука і Музейная рада як калегіяльныя органы, якія ўключалі буйнейшых прадстаўнікоў «старой» навукі і культуры. Замест іх у складзе Наркамасветы быў створаны бязлікі аддзел, дзе музеі згубіліся паміж клубамі і хатамі-чытальнямі. Дзяржаўныя музеі апынуліся ў падпарадкаванні розных ведамстваў без каардынацыі паміж імі. Пачалася перабудова іх работы, падчас якой значна змяніліся не толькі змест і напрамкі дзейнасці, але і склад фондавых калекцый. Ад музеяў патрабавалі перш за ўсё ўдзелу ў класавай барацьбе пралетарыяту з капіталістычнымі контррэвалюцыйным элементамі. Гэтыя негатыўныя тэндэнцыі прывялі да ўсталявання партыйнай цэнзуры і стандартызацыі музейных экспазіцый, а таксама вялікіх страт кваліфікаваных спецыялістаў і нацыянальнай культурнай спадчыны.

1 жніўня 1929 г. спецыяльная камісія Наркамасветы, якая абследавала Беларускі дзяржаўны музей (БДМ), — яго фондавы збор складаў каля 60 тыс. прадметаў — рэзка крытыкавала аддзел «Стары Менск» за экспанаванне партрэтаў мінскіх ваявод, яўрэйскі — за паказ яўрэйскіх культавых старажытнасцей, этнаграфічны — за дэманстрацыю выключна сялянскіх рэчаў, мастацкі — за набыццё царкоўных прадметаў. Канстатавалася, што, «акрамя бюста Леніна на ўваходзе больш няма камуністычнай прапаганды» [63, арк. 34]. Заўвагі наркамасветаўскага начальства супрацоўнікі музея выканаць не паспелі. У пачатку 1930 г. СНК БССР выселіў БДМ з будынка Архірэйскага падвор’я (вул. Чырвонаармейская, 3), выдзеліўшы для музея ў часовае карыстанне чатыры пакоі ў Доме селяніна. У наступным годзе экспазіцыю перакінулі ў адзін з павільёнаў I Усебеларускай сельскагаспадарчай і прамысловай выстаўкі. У гэтым памяшканні калекцыі музея, перайменаванага ў Мінскі сацыяльна-гістарычны, нягледзячы на шматлікія звароты яго супрацоўнікаў у самыя высокія інстанцыі з просьбамі вярнуць былы будынак, заставаліся да іх вывазу нямецкімі акупацыйнымі ўладамі ў 1944 г.

У лютым 1931 г. пасаду дырэктара Мінскага сацыяльна-гістарычнага музея (былога БДМ) заняў С. А. Рак-Міхайлоўскі. У хуткім тэмпе пад яго кіраўніцтвам замест старой стацыянарнай экспазіцыі, збудаванай па калекцыйным прынцыпе, разгарнулі новую, у аснову якой была пакладзена марксісцкая схема змены сацыяльна-эканамічных фармацый. Усе матэрыялы аўтары падзялілі па перыядах: першабытнае грамадства; феадалізм; капіталізм; дыктатура пралетарыяту і сацыялістычнае будаўніцтва. Найбольшая ўвага была нададзена апошняму перыяду, дзе з дапамогай макетаў, мадэляў і дыяграм распавядалася пра Кастрычніцкую рэвалюцыю, Грамадзянскую вайну,

індустрыялізацыю, электрыфікацыю, сацыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі, дасягненні ленінскай нацыянальнай палітыкі [88, с. 50].

У асветніцкай (дакладней кажучы, прапагандысцкай) дзейнасці асноўная ўвага была звернута на стварэнне перасоўных выстаў, прысвечаных гаспадарча-палітычным кампаніям, рэвалюцыйным святам і інш. Выставы накіроўваліся ў школы, калгасы, вайсковыя часці, на прамысловыя прадпрыемствы. Ідэалагічную танальнасць гэтых экспазіцый добра перадае назва выставы, падрыхтаванай да Міжнароднага Чырвонага дня, — «Супраць імперыялістычнай вайны — за вайну грамадзянскую» [63, арк. 14].

Пасля арышту ў 1933 г. С. А. Рака-Міхайлоўскага на пасаду дырэктара Мінскага сацыяльна-гістарычнага музея быў прызначаны яго наменнік, аспірант гістарычнага факультэта БДУ С. М. Якубчык. Пасля двух гадоў змагання з уладамі за музейны будынак, ён пайшоў на своеасаблівы крок адчаю — звярнуўся з лістом у рэдакцыю газеты «Праўда». У прыватнасці, ён пісаў: «Музейная справа ў БССР відавочна недаацэньваецца. Цэнтральны Гістарычны Музей у Мінску знайшоў прытулак у 4 маленькіх пакойчыках. Мастацкі аддзел музея зачынены, таму што няма выставачнай плошчы. Багацейшы фонд помнікаў мастацтва, археалагічныя калекцыі, вялікі этнаграфічны і антырэлігійны матэрыял музей вымушаны ўтрымліваць у вільготных скляпеннях...» [87].

Публікацыя гэтага крытычнага ліста ў галоўнай партыйнай газеце краіны выклікала прыняцце трох пастаноў бюро ЦК КП(б)Б, спецыяльна прысвечаных стану музейнай справы ў рэспубліцы. Першая з іх, якая выйшла 29 красавіка 1935 г., пачыналася з рэзкай крытыкі ўсіх напрамкаў музейнай дзейнасці ў БССР. Партыйнае кіраўніцтва было незадаволена адсутнасцю работы па

стварэнні музейнай сеткі, слабым паказам сацыялістычнага будаўніцтва, адсутнасцю сувязі з гаспадарчымі і навукова-даследчымі ўстановамі, дрэнным улікам і аховай помнікаў, нізкай якасцю экскурсійнага абслугоўвання. Прычым віна за ўсё гэта ўскладалася на Наркамасветы і БАН. Паляпшэнню стану музейнай справы, на думку аўтараў пастановы, павінна было паспрыяць неадкладнае выкананне наступных мер: стварэнне спецыяльнага органа кіраўніцтва музеямі рэспублікі, паляпшэнне іх матэрыяльна-фінансавага становішча, стварэнне сістэмы прафесіянальнай падрыхтоўкі музейных супрацоўнікаў, увядзенне крымінальнай адказнасці за псаванне гістарычных помнікаў [34, арк. 126].

Трэба адзначыць, што ні адна з гэтых мер (кожная з якіх, безумоўна, спрыяла б паляпшэнню стану музейнай справы ў БССР) не была і не магла быць выканана ва ўмовах ідэалагічнага клімату, які існаваў у рэспубліцы ў 1930-х гг. Тым не менш 21 чэрвеня 1936 г. з'явілася новая пастанова ЦК КП(б)Б «Аб краязнаўчай рабоце і становішчы музейнай справы ў БССР», якая дубліравала папярэднюю пастанову [36, арк. 12]. Але і гэтая пастанова не была выканана, што зафіксавана ў лютым 1937 г. у трэцяй пастанове бюро ЦК КП(б)Б «Аб выкананні рашэнняў бюро ЦК КП(б) ад 29 красавіка 1935 г. і 21 чэрвеня 1936 г. аб музеях» [37, арк. 230].

У сваёй аснове трэцяя пастанова ўздымала пытанні дзвюх папярэдніх — сістэму кіраўніцтва, кадраў, матэрыяльна-фінансавага забеспячэння, — але з іншай палітычнай афарбоўкай. Тон усёй пастанове задаваў першы сказ, дзе, у прыватнасці, сказана: «…ідэйна-палітычны змест работы музеяў яшчэ не перабудаваны ў адпаведнасці з патрабаваннямі партыі ў галіне прапаганды грамадзянскай гісторыі, гісторыі бальшавізму і сацыялістычнага будаўніцтва» [37, арк. 230]. Экспазіцыі ўсіх музеяў гісторыка-краязнаўчага профілю планавалася перабудаваць у

адпаведнасці са зместам пастановы ЦК УсеКП(б) «Аб выкладанні грамадзянскай гісторыі ў школах СССР». На бліжэйшы час было намечана ліквідаваць Мінскі сацыяльна-гістарычны музей шляхам зліцця яго з Музеем рэвалюцыі і ўтварэння адзінага Цэнтральнага гісторыка-рэвалюцыйнага музея (гэта не было здзейснена). Усіх беспартыйных кіраўнікоў музеяў загадвалася замяніць камуністамі і камсамольцамі. Працаваць на пасадах навуковых супрацоўнікаў беспартыйныя маглі толькі пад пільным наглядам камуністаў.

На гэты раз партыйнае кіраўніцтва не абмежавалася цьмянымі абвінавачваннямі ў адрас Наркамасветы і Акадэміі навук. «За сабатаж» выканання пастаноў ЦК быў зняты са сваей пасады і ў маі 1938 г. расстраляны С. М. Якубчык. «За сувязь з трацкісцкімі тэрарыстамі» звольнілі дырэктара Віцебскага культурна-гістарычнага музея А. С. Рафаловіч, а ў адносінах да папярэдніка апошняй — Ю. Т. Шэўчыка было распачата следства. Рашэнні лютаўскай пастановы бюро ЦК КП(б)Б 1937 г. замацавала Усебеларуская нарада музейных супрацоўнікаў, якая праходзіла ў Мінску 25–26 лютага 1938 г.

Сучаснік так перадае ўмовы экспазіцыйнай работы ў Мінскім сацыяльна-гістарычным музеі ў канцы 1936 — пачатку 1937 г.: «Сядзеў разам са мною ў мінскай турме супрацоўнік Беларускага гістарычнага музея (прозвішча не памятаю) за арганізацыю экспазіцыі, прысвечанай легендарнаму Гаю. Зразумела, экспазіцыя была створана задоўга да абвяшчэння Гая "ворагам народа". Пасля гэтага ніхто не рызыкнуў бы, ведаючы становішча ў краіне, папулярызаваць імя і заслугі героя грамадзянскай вайны. Органы канфіскавалі экспазіцыю з музея і знішчылі яе. Аднак нейкі службіст-энкэвэдзіст дакапаўся, відаць, не без дапамогі даносчыкаў, да таго, хто ствараў экспазіцыю. Такім чынам, чалавек пацярпеў з прычыны таго, што не валодаў здольнасцю прадбачання і не змог наперад угадаць, якая

палітычная трансфармацыя адбудзецца з славаю Гая» [102, с. 50].

Гэткімі ж цяжкімі, як і для Мінскага сацыяльна-гістарычнага музея, былі вынікі новай савецкай культурнай палітыкі для яго былых філіялаў у Віцебску, Магілёве і Гомелі.

У лютым 1930 г. спецыяльная камісія Рабоча-сялянскай інспекцыі, правяла праверку экспазіцыі Віцебскага культурна-гістарычнага музея. Камісія канстатавала яе нізкі ідэалагічны ўзровень. Так, у побытавым аддзеле не дэманстравалася перамога калектыўнай гаспадаркі над індывідуальнай, у антырэлігійным — прадметы культа не атрымалі антырэлігійнага тлумачэння, у мастацкім — не было ніводнага малюнка з рэвалюцыйным сюжэтам. Аўтары экспазіцыі крытыкаваліся за дэманстрацыю чатырох выяваў Ф. Скарыны, «…разнастайных Цяпінскіх, Будных, Каліноўскіх» [21, с. 13].

Дырэктару музея Я. І. Васілевічу была ўзгадана яго дзейнасць па арганізацыі беларускай гімназіі падчас нямецкай акупацыі, навуковым супрацоўнікам М. М. Дабравольскаму — служба афіцэрам у царскай арміі, В. В. Багародскаму — пасада рэдактара епархіяльных ведамасцей. Па выніках работы камісіі 11 лютага 1930 г. Віцебскі акруговы камітэт КП(б)Б прыняў пастанову, згодна з якой увесь навуковы персанал музея быў звольнены, многія пазней рэпрэсаваны. Пасля выгнання спецыялістаў з музеяў пачалі знікаць аўтэнтычныя помнікі — іх замянілі плакаты, фотаздымкі, макеты. 11 красавіка 1932 г. згодна з пастановай сакратарыята віцебскага ГК КП(б)Б Віцебскі культурна-гістарычны музей быў перайменаваны ў сацыяльна-гістарычны «з адлюстраваннем грамадскіх фармацый і рэвалюцый» [91, с. 130]. За выкананнем рашэнняў, выкладзеных у пастанове сакратарыята віцебскага ГК КП(б)Б, назіраў новы дырэктар, малады партыец С. Р.

Шчуцкі, а таксама музейны савет, утвораны з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і рабочых. Вынікам іх дзейнасці было рэзкае скарачэнне фондавых калекцый (да 1938 г. агульная колькасць прадметаў зменшылася да 17 тыс. адзінак) і «поўны развал музейнай гаспадаркі» [6, арк. 2].

У 1933 г. па загадзе мясцовага партыйнага кіраўніцтва з будынка былога Сялянскага банка выселілі Магілёўскі музей. Яго разманціраваную экспазіцыю са значнымі стратамі перавезлі ў невялікі, непрыстасаваны будынак. Праз непрацяглы час там была разгорнута новая экспазіцыя па гісторыі савецкага грамадства. Прадметы з каштоўных металаў і камянёў (у тым ліку крыж Еўфрасінні Полацкай і Слуцкае Евангелле) засталіся ў браніраваным пакоі-сейфе банкаўскага будынка пад наглядам яго новага гаспадара — магілёўскага абкама КП(б)Б. У 1938 г. па распараджэнні ЦК КП(б), нягледзячы на адчайнае супраціўленне дырэктара музея І. С. Мігуліна, была ўзарвана Іосіфаўская царква, дзе месціўся філіял — Музей гісторыі рэлігіі і атэізму. Экспазіцыю філіяла, дзе акрамя прадметаў па гісторыі хрысціянства на Беларусі дэманстраваліся археалагічная і палеанталагічная калекцыі, перавезлі ў будынак закрытай сінагогі, потым — у струхнелы будынак летняга цырка. Урэшце каля 7 тыс. прадметаў, што складала прыкладна 25 % ад колішніх фондаў, перавезлі ў капліцу на Успенскіх могілках [43, арк. 42–45].

Пастановай ЦК КП(б)Б ад 28 ліпеня 1937 г. было вырашана закрыць Гомельскі гістарычны музей, які з-за спецыфікі сваіх калекцый не мог выконваць прапагандысцкія функцыі. У палацы Румянцавых-Паскевічаў адкрылі палац піянераў. І толькі выпадковая рэпліка пра неабходнасць берагчы сабранае, кінутая К. Я. Варашылавым падчас агляду палаца, уратавала каштоўны збор [38, арк. 54].

Новай з’явай у развіцці музейнай справы БССР было

ўзнікненне музеяў, прысвечаных палітычнай гісторыі. Знаходзячыся ў сістэме Гістпарта (Камісіі па гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі і УсеКП(б)), гэтыя музеі ствараліся перш за ўсё з мэтай прапаганды бальшавіцкай ідэалогіі. Яны з'яўляліся таксама важнымі цэнтрамі па захаванні першакрыніц па гісторыі рэвалюцыйнага руху. Першы падобны музей быў створаны ў Мінску, калі пастановай ад 19 студзеня 1923 г. ЦВК БССР нацыяналізаваў дом № 135 па вул. Савецкай, дзе адбыўся І з'езд РСДРП. Яго экспазіцыя мела мемарыяльны характар і паказвала абстаноўку, у якой праходзілі пасяджэнні з'езда ў сакавіку 1898 г. [14].

У 1935 г. работу Дома-музея правярала камісія Інстытута гісторыі партыі. Яна знайшла шэраг недахопаў, у т. л. дрэнны паказ ролі Леніна–Сталіна як стваральнікаў партыі, іскраўскага перыяду дзейнасці бальшавікоў, барацьбы бальшавікоў з народнікамі. Для выпраўлення гэтых памылак у выглядзе рээкспазіцыі музейным супрацоўнікам спатрэбілася каля двух гадоў. Калі 12 красавіка 1937 г. Дом-музей І з'езда РСДРП зноў адчыніў свае дзверы для наведвальнікаў, апошнія былі шчыра здзіўлены… адсутнасцю прадметаў інтэр'ера, у якім праходзіў з'езд. Іх замянілі стэнды з прапагандысцкімі матэрыяламі па гісторыі РСДРП(б) [5].

Праз некалькі месяцаў пасля адкрыцця Дома-музея І з'езда РСДРП з праверкай у ім з'явілася новая камісія Інстытута гісторыі партыі, па выніках якой была прынята адпаведная пастанова. Другі пункт пастановы пад назвай «Фальсіфікацыя дакументаў» варты таго, каб яго прывесці без скарачэнняў: «У шэрагу выпадкаў пры падачы групавых фота і тэкста, асабліва, калі на гэтых фота ці ў тэксце ўзгадваюцца людзі, якія сталі пазней ворагамі партыі, альбо якія належылі да антыпартыйных груповак, у Музеі практыкуецца фальсіфікацыя гэтых дакументаў: а) на фота,

дзе паказана дэманстрацыя пратэста супроць пагромаў у 1905 годзе, дзе на першым плане быў бундаўскі сцяг з надпісам "Бунд — яўрэйскі рабочы саюз у Польшчы і Літве", слова "Бунд" было вытраўлена, астатнія словы пакінуты і падобнае фота змясцілі ў экспазіцыі; б) у аддзеле "Партыя ў гады імперыялістычнай вайны" пададзена фота Сталіна сярод групы бальшавікоў у Туруханскай ссылцы. На гэтым групавым фота была выява і Л. Каменева. Але ў фота-лабараторыі Музея Каменеў быў пераўтвораны ў куст і пасля гэтага фота было змешчана ў экспазіцыі. Тое самае мае месца на шэрагу іншых групавых здымкаў, дзе асобныя твары зарэтушаваны, дзе ў сярэдзіне фота замест твару відаць толькі чорныя плямы; в) у аддзеле "Барацьба за мір" змешчана фота тэкста паседжання ЦК ад 18-га лютага 1918 года (па дадаткам да твораў Леніна). У тэксце паўсюдна, дзе трапляюцца прозвішчы Каменева і Зіноўева яны замаляваны белай фарбай, але зафарбаваны так, што іх можна прачытаць; г) тое самае мы знаходзім у аддзеле "Утварэнне БССР", дзе ў дэкларацыі аб зліцці Беларускай Савецкай Рэспублікі з Савецкай Рэспублікай Літвы і ў тэлеграме аб утварэнні БССР на імя Саўнаркама РСФСР подпісы Рэйнгольда, Найдзенкова і Пікеля[57] замаляваны фарбаю, але пад фарбаю лёгка чытаюцца; д) у другім дакуменце гэтага ж аддзела подпіс Найдзенкова зняты толькі напалову. Пакінута "Най" — астатняе прыбрана; е) тое самае зроблена з подпісамі на маніфесце аб утварэнні БССР. Няма неабходнасці казаць пра вялікую шкоду, якая атрымліваецца ў выніку такой працы. Гэтай практыцы ў Музеі павінен быць пакладзены канец» [52, арк. 14].

Пасля прачытання гэтага ўрыўка паўстае пытанне: што ж незадаволіла членаў камісіі — фальсіфікацыя гістарычных першакрыніц у музейнай экспазіцыі ці дрэнная якасць работы фальсіфікатараў? Адказ на гэтае пытанне дае пяты пункт пастановы: «…[У музеі] не выконваюцца правілы

захавання закрытых дакументаў. Неабходна адзначыць, што ў Музеі назапашана калі 6000 негатываў (тут розныя здымкі, у тым ліку розных контррэвалюцыянераў, розныя фота з варожым нам зместам, тут і здымкі членаў партыі і буйнейшых партработнікаў і г. д.) якія захоўваюцца зусім немагчымым чынам. Па сутнасці яны дасягальныя для ўсіх. Толькі апошнім часам пачаўся іх прагляд. Сярод матэрыялаў архіва Музея знаходзяцца а) дакументы партыйнага характару, якія ў Музеі зусім не павінны знаходзіцца; б) шэраг арыгінальных вельмі важных дакументаў, якія ў якасці экспанатаў немагчыма выставіць і павінны знаходзіцца ў архіве Гістпарта; в) большасць газет, часопісаў і інш. друкаваных матэрыялаў контррэвалюцыйнага характару павінна захоўвацца толькі ў сховішчах Гістпарта». Акрамя вышэйпералічаных у архіў Гістпарта, які меў закрыты характар, з Дома-музея І з’езда РСДРП забралі ўсе матэрыялы, што тычыліся нямецкай і польскай акупацыі, а таксама Заходняй Беларусі [52, арк. 14].

Падчас падрыхтоўчых работ па мемарыялізацыі дома, дзе праходзіў І з’езд, супрацоўнікі Гістпарта звярнуліся ў ЦК КП(б)Б з прапановай аб арганізацыі Музея рэвалюцыі ў Мінску. Па выніках падрыхтоўчых работ супрацоўнікі Гістпарта правялі выстаўку сабраных матэрыялаў, на аснове якой 2 мая 1926 г. у будынку па вул. Урыцкага, 4 адбылося ўрачыстае адкрыццё Музея рэвалюцыі. Экспазіцыя новага музея будавалася па ўзоры Цэнтральнага музея рэвалюцыі ў Маскве і ў асноўным уключала копіі матэрыялаў, што адлюстроўвалі гісторыю рэвалюцыйнага руху ў Расіі ад дзекабрыстаў да сацыялістычнага будаўніцтва — партрэты, карціны, фота, газеты, улёткі, кнігі, рукапісы. Але быў і беларускі аддзел, які меў арыгінальныя дакументы па дзейнасці народнікаў, Бунда, нацыянальных сацыялістычных арганізацый, камплекты газет, якія выходзілі ў беларускіх гарадах ў 1917–1921 г., і іншыя

каштоўныя помнікі палітычнай гісторыі. Першым дырэктарам стаў удзельнік рэвалюцыі 1905 г., вядомы дзеяч Бунда, загадчык Гістпарта С. Х. Агурскі [61, арк. 120].

На працягу 1930-х гг. Музей рэвалюцыі перыядычна падпадаў пад жорсткую крытыку вышэйшага рэспубліканскага кіраўніцтва, перш за ўсё за экспазіцыйны паказ гістарычных падзей, якія навуковыя супрацоўнікі не паспявалі падладжваць пад змены палітычнай кан'юнктуры. Так, у верасні 1931 г. прэзідыум ЦВК БССР на сваім пасяджэнні прыйшоў да высновы, што галоўным недахопам у рабоце музея з'яўляецца «…недастатковае выяўленне ролі бальшавізму і гісторыі класавай барацьбы на Беларусі, абмежаванасць экспазіцыі перыядам Грамадзянскай вайны і амаль поўная адсутнасць матэрыялаў перыяду сацыялістычнага будаўніцтва (1921–1931)» [47, арк. 93]. На тым жа пасяджэнні было вырашана правесці ў 1932 г. рэарганізацыю ўсёй экспазіцыі. У выніку адтуль зніклі нават згадкі пра існаванне небальшавіцкіх палітычных партый.

У 1935 г. музей наведала камісія Інстытута гісторыі партыі (пра яе дзейнасць у Доме-музеі І з'езда РСДРП сказана вышэй), якая выявіла «шэраг палітычных памылак, фальсіфікацыю матэрыялаў у экспазіцыі, неапрацаванасць архіўных дакументаў». «Палітычнымі памылкамі і фальсіфікацыяй» члены камісіі назвалі экспанаванне партрэта і асабістых рэчаў рэпрэсаванага вядомага савецкага военачальніка Г. Д. Гая, групавога фотаздымка — са сцягам на заднім плане з надпісам «Бунд», партрэта гісторыка партыі У. І. Неўскага, абвінавачанага ў трацкізме, і г. д. Вынікі работы камісіі каштавалі жыцця некальнім супрацоўнікам музея. Увосень 1935 г. па абвінавачванні ў трацкізме былі арыштаваныя і асуджаныя адпаведна да пяці і трох гадоў папраўчапрацоўных лагераў дырэктар А. А. Данільчык і навуковы супрацоўнік М. Ф. Кійко (абодва пазней загінулі ў ГУЛАГу). Палітычныя памылкі падчас

правядзення экскурсій каштавалі трох з паловай гадоў лагераў навуковаму супрацоўніку С. Г. Розінай. У 1937 г. рашэннем Інстытута гісторыі партыі былі закрыты раздзелы экспазіцыі «Ад лютага да Кастрычніка», «Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя», «Рэканструктыўны перыяд», а таксама перададзена ў партархіў рэшта дакументаў па гісторыі палітычных партый [57, арк. 1–3].

Пасля чысткі 1937 г. Музей рэвалюцыі БССР канчакова губляе сваё значэнне як цэнтр вывучэння і папулярызацыі палітычнай гісторыі. У ліпені 1938 г. быў ліквідаваны Інстытут гісторыі партыі, а летам 1939 г. музей перавялі ў адзін з будынкаў Акадэміі навук у непрыстасаванае для музейнай эксплуатацыі памяшканне, дзе была разгорнута экспазіцыя, збудаваная паводле «Кароткага курса УсеКП(б)». Там музей спыніў свае існаванне ў 1941 г.

Паступова з канца 1920-х гг. узмацнілася імкненне ўлады да ідэалагізацыі работы краязнаўчых музеяў. Гэта прасочваецца па выступленнях на краязнаўчых канферэнцыях дзяржаўных і палітычных дзеячаў, публікацыях у перыядычным друку, арганізацыйна-метадычнай дзейнасці Цэнтральнага бюро краязнаўства (ЦБК).

Работа краязнаўцаў 1920-х гг. была формай дэмакратычнай самадзейнасці, самаарганізацыі жыцця, яна брала пачатак ад дарэвалюцыйных традыцый. Далучэнне да ведаў адбывалася ў абход дзяржаўных кіраўнічых устаноў, без уніфікаваных методык і абавязковых распараджэнняў. Гэта не адпавядала курсу на бюракратызацыю грамадскага жыцця, які быў узяты ва ўмовах фарміравання культу асобы Сталіна. Калі ўлады імкнуліся ўсё нівеліраваць, краязнаўцы лічылі сваім абавязкам знайсці адметнасць, своеасаблівасць. Калі ўлады сілаю намагаліся падзяліць грамадства і навязаць думку пра абвастрэнне класавай барацьбы, краязнаўцы імкнуліся захапіць агульнай культурнай працай людзей

розных пакаленняў, рознага сацыяльнага паходжання, рознага ўзроўню адукаванасці. У гады паўсюдных міграцый намецілася тэндэнцыя разрыву насельніцтва са сваімі каранямі. Краязнаўцы ж імкнуліся захаваць гэтыя сувязі, зрабіць іх крыніцай далейшага культурнага развіцця. Такім чынам, краязнаўчы рух зрабіўся непатрэбным ва ўмовах каманднa-адміністрацыйнай сістэмы, якая фарміравалася Сталіным.

Пачынаючы з 1930 г. у агульнасаюзным маштабе разгортваецца кампанія за «новы этап» у развіцці краязнаўства, з тым каб цесна звязаць яго з задачамі сацыялістычнага будаўніцтва. У якасці галоўнай задачы краязнаўцаў было пастаўлена вывучэнне пяцігадовага плана развіцця раёна і практычная дапамога ў яго выкананні. Новы курс у краязнаўстве быў абвешчаны на III Усебеларускай краязнаўчай канферэнцыі, якая адбылася ў Мінску 25–26 студзеня 1930 г. На ёй гучала разгромная крытыка дзейнасці лепшых краязнаўчых арганізацый, загадзя арганізаваная партыйным кіраўніцтвам рэспублікі. Цэнтральнае бюро краязнаўства абвінавацілі ў адсутнасці яснай устаноўкі па эканамічных пытаннях. Праінструктаваныя дэлегаты адзначалі нізкі ўзровень работы па вывучэнні калгаснага руху і прамысловасці, патрабавалі ліквідацыі нацыянальных секцый пры таварыствах.

У павестку дня канферэнцыі было ўключана пытанне пра стан музейнай справы. Падчас яго абмеркавання член Цэнтральнага бюро краязнаўства М. І. Касьпяровіч заклікаў дэлегатаў арганізоўваць краязнаўчыя музеі на новых прынцыпах. Гэтыя прынцыпы былі выкладзены ў спецыяльнай брашуры, дзе змяшчаўся пералік экспанатаў, якія дазваляліся дэманстраваць у музеях. Падобныя музеі, паводле яго вобразнага выказвання, павінны былі стаць «катэдрамі сацыялістычнага будаўніцтва»[58]. Прадстаўнік

Музея рэвалюцыі прапаноўваў краязнаўцам засяродзіцца на зборы матэрыялаў па гісторыі рэвалюцыйнага руху. Загадчык Полацкага музея гаварыў пра неабходнасць аб'яднання ўсіх музеяў у межах аднаго горада. Упершыню прагучала трывожная інфармацыя пра знішчэнне музеяў. Першай ахвярай стаў краязнаўчы музей у Камарыне, які быў выкінуты на вуліцу мясцовай кааперацыяй, а ў музейным памяшканні адкрылі сталоўку [85, с. 61].

Адначасова з канферэнцыяй у рэспубліканскім маштабе праходзіла краязнаўчая пяцідзёнка (25–30 студзеня 1930 г.) пад лозунгам раскрыцця нацыяналізму ў краязнаўстве. Гэтая акцыя, якая дапаўняла канферэнцыю, напалохала найбольш актыўных краязнаўцаў. Член ЦБК Ф. П. Садоўскі ў сярэдзіне 1931 г. быў вымушаны канстатаваць, што ў шэрагу месцаў назіраецца поўны развал краязнаўчай работы, што старыя краязнаўцы адышлі ад работы, а новыя не прыцягнуты. Былі разгромлены краязнаўчыя арганізацыі ў Барысаве, Ветцы, Оршы, Віцебску, Полацку, Лепелі, Дрысе, Крупках, Горках, Мінску. «Паверыўшы контррэвалюцыйным шкодніцкім чуткам, што краязнаўства і беларускі нацдэмакратызм адно і тое ж, група краязнаўцаў, якая раней актыўна працавала, адышла, адмахнулася ад краязнаўства і ў шэрагу раёнаў …зусім адсутнічаюць краязнаўчыя арганізацыі» [93, с. 3].

І, тым не менш, падставы для атаясамлівання паняццяў «нацдэмакратызм» і «краязнаўства» ўсё ж былі. У лік нацдэмаў трапілі найбольш актыўныя дзеячы краязнаўчага руху — арыштаваныя АДПУ В. Ю. Ластоўскі, М. І. Касьпяровіч, А. А. Шлюбскі, С. М. Мялешка і інш. Толькі адзінкі старых навукоўцаў, яшчэ не зразумеўшы кардынальнага павароту ў дзяржаўнай культурнай палітыцы, наіўна спрабавалі прыстасаваць краязнаўчыя напрацоўкі 1920-х гг. да новых сацыяльна-эканамічных рэалій.

У апошні перыяд існавання ЦБК (1930–1933 гг.), краязнаўчая работа разумелася як частка масавай навукова-даследчай работы на фабрыках і заводах, у калгасах і саўгасах. Узнік новы тэрмін — «вытворчае краязнаўства». Падобнае ж стаўленне да задач грамадскіх краязнаўчых музеяў было замацавана на Усебеларускай нарадзе музейных работнікаў у 1932 г. Галоўная ўвага на становішча краязнаўчых музеяў была звернута ў дакладзе В. С. Серафімава «Музей і краязнаўчая работа». У ім не ўлічвалася спецыфіка работы краязнаўчага музея, што адбілася на змесце рэзалюцыі, прынятай па дакладзе. Краязнаўчым музеям у максімальна кароткія тэрміны прапаноўвалася стварыць новыя марксісцкія экспазіцыі, але не раскрываліся канкрэтныя спосабы рэалізацыі гэтай задачы. В. С. Серафімаў не падкрэсліў значэння збіральніцкай працы для адлюстравання сацыялістычнага будаўніцтва, хоць і паставіў такую задачу перад усімі краязнаўчымі музеямі. Гэта прыводзіла да таго, што новыя раздзелы экспазіцый не мелі аўтэнтычных помнікаў і ствараліся на ілюстрацыйным і тэкставым матэрыялах. Барацьба супраць так званага «рэчавага фецішызму» абумовіла амаль поўнае выключэнне артэфактаў з экспазіцый краязнаўчых музеяў і ператварала іх ў збор этыкетак і тэкстаў. Уплыў сацыялагізму і схематызму адбіўся ў рэкамендацыях па стварэнні спрошчаных экспазіцый, у якіх пад загадзя прынятую схему падганяліся экспанаты, а калі такіх не знаходзілася, выраблялiся навукова-дапаможныя матэрыялы [89, с. 71].

Паводле вынікаў Усебеларускай нарады, 11 красавіка 1932 г. калегія Наркамасветы БССР прыняла пастанову № 58, у якой загадала ўсім музеям правесці рэарганізацыю сваіх экспазіцый, звярнуўшы асаблівую ўвагу «…на асвятленне соцбудаўніцтва, класавай барацьбы пралетарыяту, антырэлігійнай работы, узмацненне абароназдольнасці

краіны і вытворча-тэхнічную прапаганду» [90, с. 85].

Імкненне накіраваць краязнаўчы рух у рэчышча бягучых гаспадарчых патрэб ужо ў сярэдзіне 1930-х гг.

прывяло да катастрафічных вынікаў — была ліквідавана большасць краязнаўчых арганізацый разам з іх музеямі. З 1930 па 1939 г. Аршанскі краязнаўчы закрывалі 6 разоў, яго калекцыі перакідвалі з аднаго памяшкання ў другое, звальвалі іх ў падвалы і на гарышчы. У верасні 1939 г. рэшткі калекцый па загадзе старшыні гарсавета Шчэрбы былі выкінуты на вуліцу з апошняга прытулку ў будынку райвыканкама. Праз нейкі час гарадскія ўлады загадалі пагрузіць карціны і іншыя творы мастацтва на фурманку з-пад цэглы і перавезці ў гарадскі тэатр. Але месца для музейных калекцый там не знайшлося, і яны вярнуліся назад. У выніку частка музейнага збору была скінута ў кут аднаго з пакояў райвыканкама, астатняе так і засталося на двары пад адкрытым небам [43, арк. 265]. У 1936–1938 гг. закрыліся краязнаўчыя музеі ў Слуцку, Мазыры, Нароўлі, Мсціславе, Чэрвені і некаторых іншых гарадах, лёс калекцый якіх невядомы. Некалькі грамадскіх краязнаўчых музеяў захаваліся, набыўшы дзяржаўны статус шляхам перадачы іх у падпарадкаванне Наркамасветы.

Як частку дзяржаўнай палітыкі трэба разглядаць продаж артэфактаў, які даваў валютныя сродкі для вырашэння эканамічных задач савецкай дзяржавы. Знікалі шэдэўры еўрапейскіх майстроў, мэбля, ювелірныя вырабы, рэлігійныя помнікі, старадрукі і рукапісы. Першая партыя «экспартнага тавару» з музеяў БССР складалася з 132 прадметаў (сеўрскі і венскі фарфор, дробная пластыка, у тым ліку венецыянская шкатулка XV ст., посуд эпохі барока, старажытныя музычныя інструменты, гравюры) і была адпраўлена з Мінска ў Маскву ў чэрвені 1922 г. [62, арк. 46]. Але найбуйнейшыя продажы «экспартнага тавару» з музеяў БССР прыпалі на гады выканання першага пяцігадовага

плана (1928–1933).

Пытанні адабрання і адсылкі ў Маскву гісторыка-культурных каштоўнасцей з беларускіх музеяў кантраляваліся вышэйшым партыйным кіраўніцтвам рэспублікі. Пра гэта сведчыць даклад намесніка Наркамгандлю БССР другому сакратару ЦК КП(б)Б І. А. Васілевічу, які датуецца 17 снежня 1928 г. У ім паведамлялася, што пытанне аб экспарце рэчаў мастацтва, даўніны і іншых каштоўнасцей з музеяў рэспублікі ўзгоднена з Наркамасветы БССР, разасланы спецыяльныя апытальныя лісты ва ўсе акругі, арганізаваны спецыяльныя камісіі «для выяўлення у мясцовых музеях рэчаў годных для экспарту». Высокі чыноўнік Наркамгандлю з жалем канстатаваў, што праца камісій дагэтуль не дала аніякага выніку. З мэтай выпраўлення сітуацыі ў акругі быў камандзіраваны адказны супрацоўнік Дзяржаўнай экспартна-імпартнай гандлёвай канторы пры Упраўленні ўпаўнаважанага Наркамата знешняга гандлю РСФСР пры СНК БССР (Дзяржгандальбел). Гэта арганізацыя была абрана не выпадкова. Яна ўжо мела вялікі вопыт «нарыхтоўкі» беларускіх мастацкіх каштоўнасцей у экспартных мэтах, якая ажыццяўлялася з 1922 г. [19, с. 18–23].

У дакладзе мы знаходзім механізм і крытэрыі адбору рэчаў для продажу. «Прынцып адбора з музеяў рэчаў для экспарту такі, што адбору падлягаюць выключна рэчы другараднага музейнага значэньня, не звязаныя з краем і не каштоўныя з боку гістарычнага. Асноўныя музейныя калекцыі пры гэтым не зачапляюцца [гэта, канешне, было не так — напрыклад, пасля агляду Аршанскага музея, былі адабраны малюнкі франка-прускай вайны ў колькасці 132 адзінак і рэчы кітайска-японскага выяўленчага мастацтва. — *А. Г.*]. Што датычыцца экспарту розных рэлігійных рэчаў праз Дзяржгандбел, апошнім зроблена вялікая падрыхтоўчая праца ў гэтым напрамку. Была выяўлена

наяўнасьць вялікай колькасці такіх рэчаў, як іконы, рызы, яўрэйскія торы, тэфілін (філакцерыі) і інш., якія можна дастаць для гэтай мэты і на якія маецца вялікі попыт за мяжой (на іконы ў Чэхаславакіі і Югаславіі, на яўрэйскія рэчы ў Амерыцы і іншых краінах). На экспарт усіх вышэйпамянутых рэчаў, асабіста рэчаў культу чакаем Вашага прынцыповага ўзгадненьня» [29, арк. 766].

Першай ахвярай рабаўніцтва стаў Беларускі дзяржаўны музей у Мінску, дзе, нягледзячы на супраціўленне С. М. Некрашэвіча і В. Ю. Ластоўскага, у канцы 1928 г. быў адабраны шэраг абразоў, якія зацікавілі заходніх калекцыянераў. У тым жа годзе з фондаў музея зніклі карціны М. Антакольскага, Ю. Пэна, Я. Кругера і іншых вядомых мастакоў. У наступным годзе вываз артэфактаў з музеяў БССР дасягнуў такога ўзроўню, што паўстала неабходнасць стварыць у Мінску экспартную камісію і экспартны музейны фонд.

14 студзеня 1929 г. сакратарыят ЦК КП(б)Б заслухаў пытанне «Аб экспарце старажытных мастацкіх і музейных каштоўнасьцяў». Па выніках абмеркавання была прынята наступная пастанова:

«1. У мэтах пасіленьня экспарту, лічыць неабходным адабраць у музеях БССР каштоўнасьці, не маючыя гістарычнага значэньня і ўтварыць з іх фонд для экспарту.

2. Абавязаць Наркамгандлю па ўзгадненьню з Галоўнавукай скончыць да 1 красавіка абследаваньне ўсіх музеяў БССР, з мэтай выяўленьня і вынядцця ўсіх каштоўнасьцяў для экспарту.

3. Абавязаць фракцыі Акрвыканкомаў забясьпечыць поўнае садзейнічаньне прадстаўнікам Наркамгандлю і НКАсьветы ў правядзеньні гэтай працы на мясцох.

4. Даручыць Дзяржгандлю практыкаваць вываз за межы мастацкіх малюнкаў сучасных мастакоў БССР.

5. Дазволіць Наркамгандлю і Дзяржгандлю арганізаваць

вываз усіх прадметаў культу (ікон, тор і г. д.) з тым, каб вываз для продажу за межы праводзіўся ўжо маючыхся прадметаў, не арганізуючы ніякай новай вытворчасьці.

6. У мэтах папулярызацыі прадметаў мастацтва БССР, як музейных, так і іншых за межамі, лічыць мэтазгодным практыкаваць удзельнічаньне Дзяржгандлю ў выстаўках наладжваемых арганізацыямі СССР за мяжой.

7. Ускласці поўную адказнасць на Наркамгандлю і Дзяржгандлю за тое каб закупка прадметаў культу, згодна п. 5-га праводзілася такім чынам, каб не было ніякіх палітычных ускладненьняў» [29, арк. 766].

Але тэмпы і аб'ёмы адабранняў з музеяў БССР не задавальнялі саюзнае кіраўніцтва. Загадчыкі музеяў шукалі хоць якія зачэпкі, каб замарудзіць справу. Таму ў лістападзе 1931 г. з Масквы ў БССР быў камандзіраваны прадстаўнік «Антыкварыяту», які ажыццявіў буйнамаштабнае адабранне. Тады з Мінскага, Магілёўскага, Віцебскага і Гомельскага дзяржаўных музеяў вывезлі 285 гістарычных і мастацкіх помнікаў [10, с. 56–59].

Куды ж трапілі прадметы з беларускіх музейных калекцый? Асноўнай краінай прамысловага імпарту ў СССР і яго асноўным крэдыторам была Германія. Яна ж паглынула асноўную частку агульнага аб'ёму савецкага антыкварнага экспарту (каля 60 %). Амаль трэцяя частка была адпраўлена ў ЗША. Астатняе асела ў Аўстрыі, Вялікабрытаніі, Фінляндыі і Францыі. У канцы 1920-х — пачатку 1930-х гг. галоўны маршрут, па якім музейныя каштоўнасці вывозілася на Захад, праходзіў параходамі ад Ленінграда да Рыгі і Шчэціна, а адтуль сухапутным шляхам у Берлін. Рэалізацыяй савецкіх музейных каштоўнасцей у Германіі займаліся антыкварныя фірмы «Рудольф Лепке», «Інтэрнацыянале кунстаўкцыён-хаўз», «К. Г. Бернэр хаўз», «Непке», якія наладжвалі аўкцыёны ў Берліне і іншых гарадах краіны. Трэба адзначыць, што ва ўмовах сусветнага

эканамічнага крызісу 1929–1933 гг. скіфскае золата і палотны майстроў Рэнесансу, унікальная мэбля, парцаляна, бронза, абразы, старадрукі і іншыя музейныя каштоўнасці рэалізоўваліся на Захадзе па заніжаных, дэмпінгавых цэнах. Яны змяншаліся з кожным аўкцыёнам. І, тым не менш, Наркамгандль СССР не жадаў спыняць вар'яцкія камерцыйныя аперацыі і прадаваў за бясцэнак. Падлічана, што ў сярэднім упаўнаважаныя Наркамгандлю атрымлівалі за прададзенае 30–40 % ад рэальнага кошту рэчаў, і нават меней [11, с. 95].

Апошняе масавае і найбольш варварскае адабранне артэфактаў з каштоўных металаў з музеяў сістэмы Наркамасветы БССР для пераўтварэння іх у сродак аплаты заходняга імпарту адбылося ў 1933 г. На пасяджэнні сакратарыята ЦК КП(б)Б 22 жніўня 1933 г. пад старшынствам першага сакратара М. Ф. Гікала была прынята пастанова «Аб каштоўнасьцях у музэях БССР». На тым жа пасяджэнні ў якасці рэакцыі на заяву загадкавага паходжання «Аб неблагапалуччы з вучотам і хаваньнем матар'яльных каштоўнасьцяў у музэях БССР» была ўтворана змешаная камісія, у якую ўваходзілі прадстаўнікі Рабоча-сялянскай інспекцыі, Наркамфіну і АДПУ. На працягу верасня камісія правярала дзяржаўныя музеі ў Мінску, Магілёве, Гомелі і Віцебску, у выніку чаго высветлілася наступнае. «Шэраг каштоўнасцей (золата і срэбра) падлягае адабранню і рэалізацыі. Акрамя таго, ва ўсіх музеях маецца значная колькасць прадметаў, якія не маюць гістарычнай, навуковай і мастацкай каштоўнасці. Рэчы гэтыя захламляюць сховішчы музеяў, паступова сапсуюцца і патрабуюць тэрміновай рэалізацыі (адзенне, посуд, карціны і інш.)» [48, арк. 169].

Пра сапраўдныя мэты камісіі, работа якой была закамуфліравана пад праверку, сведчаць наступныя радкі з яе справаздачы: «За немагчымасцю праверыць поўнасцю

захаванасць музейных фондаў — камісія праверыла на выбарку наяўнасць залатых і срэбраных рэчаў і буйных срэбраных манет» [48, арк. 175–188]. Членаў камісіі цікавілі перш за ўсё каштоўныя металы і камяні, якія разглядаліся як залаты альбо срэбны лом. Пра гэта кажа тое, як яны вызначалі помнікі — напрыклад, «рыза срэбная з абразам» (а не «абраз у рызе»). Спісы таксама сведчаць пра дылетанцкі ўзровень людзей, якія адбіралі прадметы: «срэбны галубок», «залаты замочак у футляры», «срэбнае вядро, прыз 1922 г.» і інш. Не фіксаваліся ні іх мастацкая, ні гістарычная значнасць. Залатой шыйнай грыўне XII ст. аўтары спісу надавалі не большае значэнне, чым залатой шпільцы для гальштука 1916 г.

Тэхніка прыёмкі прыёмшчыкамі-ацэншчыкамі (прабірэрамі) «Антыкварыяту» і пераўтварэнне артэфактаў у сродак плацяжу была варварскай: золата і срэбра прымалася як лом, каштоўныя камяні, механізмы, эмаль, дрэва, косць выламваліся, старажытныя манеты і ўзнагароды пераплаўляліся ў зліткі. Такім чынам, нацыянальныя гісторыка-культурныя каштоўнасці знікалі не толькі з краіны іх паходжання (у дачыненні да музейных рэчаў, прададзеных на заходніх аўкцыёнах можна суцяшацца, прынамсі, тым, што беларуская гісторыка-культурная спадчына стала часткай агульнасусветнай культурнай прасторы), яны знікалі ўвогуле!

**Літаратура**


1. Адамушка, У. І. Справа № 233771: Беларускі нацыянальны цэнтр / У. І. Адамушка // Беларуская мінуўшчына. — 1993. — № 3–4.

2. Архивное дело в БССР (1918–1968) / сост. Е. Ф. Шорохов; под ред. А. И. Азарова. — Минск : Полымя, 1972. — 142 с.

3. Архіўная справа на Беларусі ў дакументах і

матэрыялах (1921–1995 гг.) / склад. С. У. Жумар [і інш.]. — Мінск : БелНДІДАС, 1996. — 180 с.

4. Библиотечное дело в БССР: Документы и материалы. 1918–1941 / Гос. б-ка БССР им. В. И. Ленина; сост.: Р. С. Васильева [и др.]. — Минск : Вышэйшая школа, 1978. — 248 с.

5. Бронский, Н. Открытие домика, где проходил I съезд РСДРП / Н. Бронский // Рабочий. — 1937. — 14 апр.

6. Віцебскі абласны краязнаўчы музей. — Ф. 1. — Спр. 28.

7. Герасімаў, В. М. Гісторыя цэнзуры друку на Беларусі: стагоддзе за стагоддзем / В.М. Герасімаў // Матэрыялы першых кнігазнаўчых чытанняў. Мінск, 15 верас. 1998 г. / Нац. б-ка Беларусі; склад. Т. І. Рошчына. — Мінск, 2000. — 159 с.

8. Глазков, М. Н. Чистки фондов массовых библиотек в годы советской власти (октябрь 1917 — 1939) / М. Н. Глазков. — М. : Пашков дом, 2001. — 104 с.

9. Гужалоўскі, А. А. Нараджэнне беларускага музея / А. А. Гужалоўскі. — Мінск : НАРБ, 2001. — 124 с.

10. Гужалоўскі, А. А. Як рабавалі беларускія музеі / А. А. Гужалоўскі // Спадчына. — 1992. — № 5.

11. Жуков, Ю. Н. Операция Эрмитаж / Ю. Н. Жуков. — М. : Москвитянин, 1993. — 120 с.

12. Жумарь, С. В. Очерки истории архивного дела в Беларуси (XV в. — 1991 г.) / С. В. Жумарь, Д. В. Карев, М. Ф. Шумейко; науч. ред. А. Н. Михальченко. — Минск : БелНИИДАД, 1999. — 294 с.

13. Звезда. — 1919. — 31 янв.; Звезда. — 1920. — 25 дек.

14. Тамсама. — 1923. — 14 марта.

15. Тамсама. — 1935. — 2 ліп.

16. Тамсама. — 1937. — 24 верас.

17. Зеленов, М. В. Спецхран и историческая наука в Советской России / М. В. Зеленов // Отечественная история. — 2000. — № 2.

18. Клепиков, Н. Е. Макулатурные кампании в белорусских архивах 1920-х – начала 1930-х гг. / Н. Е. Клепиков // Отечественные архивы. – 2009. – № 3.
19. Клепікаў, М. Распрадажа музейных каштоўнасцей Беларусі на замежных аўкцыёнах у 1920-я гг. / М. Клепікаў // Беларускі гістарычны часопіс. – 2008. – № 4.
20. Лукашук, А. «За кіпучай чэкісцкай работай»: З жыцця катаў / А. Лукашук. – Мінск : Бел. гуманіт. фонд «Наша ніва», 1997. – 190 с.
21. Лявонны, Ю. Музей у палоне / Ю. Лявонны // Чырвоная Беларусь. – 1931 – № 1. – С. 13–14.
22. Малышева, С. Ю. Основы архивоведения : учеб. пособие / С. Ю. Малышева. – Казань : Хэтэр, 2002. – 170 с.
23. Мялешка, М. Архівы БССР за 10 год Кастрычніка / М. Мялешка // Наш край. – 1927. – № 10.
24. НАРБ. – Ф. 4п. – Воп. 1. – Спр. 134.
25. Тамсама. – Спр. 214.
26. Тамсама. – Спр. 1576.
27. Тамсама. – Спр. 2332.
28. Тамсама. – Спр. 2354.
29. Тамсама. – Спр. 3762.
30. Тамсама. – Спр. 4123.
31. Тамсама. – Спр. 5029.
32. Тамсама. – Спр. 6380.
33. Тамсама. – Спр. 6898.
34. Тамсама. – Спр. 7735.
35. Тамсама. – Спр. 8959.
36. Тамсама. – Спр. 9159.
37. Тамсама. – Спр. 10989.
38. Тамсама – Спр. 11005.
39. Тамсама. – Спр. 11880.
40. Тамсама. – Спр. 11893.
41. Тамсама. – Спр. 12149.
42. Тамсама. – Спр. 12488.

43. Тамсама. — Спр. 13005.
44. Тамсама. — Спр. 13867.
45. Тамсама. — Спр. 13983.
46. Тамсама. — Спр. 15603.
47. Тамсама. — Ф. 6. — Воп. 1. — Спр. 2294.
48. Тамсама. — Ф. 15п. — Воп. 4. — Спр. 586.
49. Тамсама. — Ф. 42. — Воп. 1. — Спр. 880.
50. Тамсама. — Спр. 931.
51. Тамсама. — Спр. 941.
52. Тамсама. — Ф. 60п. — Воп. 1. — Спр. 4.
53. Тамсама. — Спр. 28.
54. Тамсама. — Спр. 63.
55. Тамсама. — Спр. 131.
56. Тамсама. — Спр. 166.
57. Тамсама. — Спр. 284.
58. Тамсама. — Ф. 93. — Воп. 1. — Спр. 2215.
59. Тамсама. — Спр. 2294.
60. Тамсама. — Спр. 3504.
61. Тамсама. — Спр. 4706.
62. Тамсама. — Ф. 101. — Воп. 1. — Спр. 2215.
63. Тамсама. — Спр. 3504.
64. Тамсама. Ф. 249. — Воп. 1. — Спр. 1.
65. Тамсама. Спр. 5.
66. Тамсама. — Спр. 24.
67. Тамсама. — Спр. 43.
68. Тамсама. — Спр. 46.
69. Тамсама. — Спр. 127.
70. Тамсама. — Спр. 195.
71. Тамсама. — Спр. 298.
72. Тамсама. — Спр. 350.
73. Тамсама. — Спр. 382.
74. Тамсама. — Спр. 438.
75. Тамсама. — Спр. 446.
76. Тамсама. — Спр. 499.

77. Тамсама. — Спр. 500.
78. Тамсама. — Спр. 546.
79. Тамсама. — Спр. 637.
80. Тамсама. — Спр. 750.
81. Тамсама. — Спр. 900.
82. Тамсама. — Спр. 1125.
83. Тамсама. — Ф. 546. — Воп. 1. — Спр. 2.
84. Тамсама. — Спр. 38.
85. Наш край. — 1930. — № 2. — С. 61.
86. Покало, М. И. История библиотечного дела в БССР / М. И. Покало. — Минск : Вышэйшая школа, 1986. — 200 с.
87. Правда. — 1935. — 21 апр.
88. Пружинина, Я. Б. Музейное строительство в БССР / Я. Б. Пружинина // Советский музей. — 1933. — № 2. — С. 50–52.
89. Савецкая краіна. — 1930. — № 1–2.
90. Тамсама. — 1932. — № 3.
91. Тамсама. — 1932. — № 5.
92. Савин, В. А. «Хранить нельзя уничтожить» / В. А. Савин // Формирование и организация Государственного архивного фонда РСФСР–СССР в 1918 — 1950-е годы. — М. : 2000, РГГУ. — 225 с.
93. Садоўскі, Ф. П. Аб недаацэнцы краязнаўства / Ф. П. Садоўскі // Савецкая краіна. — 1931. — № 6. — С. 3–6.
94. Смиловицкий, Л. Л. Книга в годы сталинских репрессий / Л. Л. Смиловицкий // Кніга, бібліятэчная справа і бібліяграфія Беларусі : зб. навук. арт. / АН Беларусі, Цэнтр. навук. б-ка імя Я. Коласа; рэдкал.: Н. Ю. Бярозкіна [і інш.]. — Мінск, 1993. — 137 с.
95. Собрание законов и распоряжений Рабоче-крестьянского правительства БССР. — 1934. — № 4. — Пост. 18.
96. Фралоў, Р. Хто ўзначальвае дзяржаўную бібліятэку / Р. Фралоў // Звязда. — 1937. — 14 верас.

97. Фядорына, А. І. Уклад І. Б. Сімано̆ўскага ў развіццё бібліятэчнай справы Беларусі / А. І. Фядорына // Вопросы библиографоведения и библиотековедения : межведом. сб. / Мин. культ. БССР, Мин. ин-т культуры. — Минск : Университетское, 1992. — Вып. 13. — 184 с.

98. Шапиро, Л. Библиотека Минского дома Красной Армии / Л. Шапиро // Красный библиотекарь. — 1937. — № 2.

99. Шаўцоў, С. Мая адысея / С. Шаўцоў. — Вільня : Рунь, 1999. — 135 с.

100. Шлюбскі, Ал. Матэр'ялы да крыўскае гісторапісі. Доля кнігасховаў і архіваў / Ал. Шлюбскі // Крывіч. — 1925. — № 9 (1).

101. Шукевич-Третьяков, Р. Спасайте волостные библиотеки / Р. Шукевич-Третьяков // Звезда. — 1923. — 11 авг.

102. Шыдлоўскі, В. Рысы майго пакалення / В. Шыдлоўскі. — Минск : Белфранс, 2001. — 215 с.

103. Якименко, В. Ф. Руководство Коммунистической партией Белоруссии библиотечным строительством / В. Ф. Якименко // Библиотечное дело и библиографоведение в БССР / Фунд. б-ка им. Я. Коласа АН БССР, Мин. ин-т культуры, Гос. б-ка БССР им. В. И. Ленина; редкол.: М. П. Стрижонок [и др.]. — Минск, 1978. — 187 с.

1 Дарэвалюцыйны расійскі орган цэнзуры друку.

2 Цытуемыя ў кнізе архіўныя дакументы і літаратурныя тэксты падаюцца з захаваннем іх правапісу, за выключэннем цытат, перакладзеных з рускамоўнага арыгінала.

3 Шукевіч-Траццякоў Радзівон Канстанцінавіч (1893, в. Навіны Мінскага пав. — 1942), дзяржаўны і палітычны дзеяч, журналіст. Пасля заканчэння Мінскага рэальнага вучылішча, вучыўся ў Політэхнічным інстытуце ў Пецярбургу. У 1914 г. пайшоў дабравольцам на фронт. Доўгі час знаходзіўся ў нямецкім палоне. З 1918 г. — на савецкай рабоце, у 1919–1921 гг. у Чырвонай Арміі — баец, палітработнік, рэдактар газеты «Чырвонаармейская праўда» і ваенны цэнзар друку ў Смаленску. Звольнены за пропуск у друк акраверша «Далой камуністаў». З 1922 г. працаваў у Галоўпалітасвеце, Галоўліце (1922–1924), з'яўляўся сакратаром Мінскага павятовага камітэта камітэта КП(б)Б. З 1924 г. — рэдактар газеты «Беларуская вёска». У 1931–1932 гг. — старшыня Усебеларускага камітэта радыёвяшчання, у 1932–1936 гг. працаваў навуковым супрацоўнікам Інстытута філасофіі, загадчыкам масавага сектара Беларускай Акадэміі Навук (БАН). Пасля выключэння з партыі ў 1935 г. — метадыст шахматнага клуба Камітэта па справах фізкультуры і спорту пры СНК БССР. 18 жніўня 1938 г. арыштаваны, 9 лютага 1940 г. прыгавораны да 5 гадоў папраўчапрацоўных лагераў. Памёр у час зняволення ў Паўночна-Усходнім лагеры. Рэабілітаваны ў 1956 г.

4 Арэшнікаў Павел Леанідавіч, 1894 г. н., рускі, ураджэнец г. Севастопаля, паходзіў з мяшчан. Да пачатку і ў першыя гады Першай сусветнай вайны працаваў журналістам, быў забраны ў армію, у 1918 г. дэмабілізаваны ў чыне падпаручніка, інвалід, параліч левай рукі. У 1917–1918 гг. з'яўляўся членам партыі левых эсэраў. Па заканчэнні

трох курсаў юрыдычнага факультэта Ленінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта з 1922 г. працаваў у газеце «Праўда». Пасля партчысткі 1923 г. выйшаў з членаў УсеКП(б) па стане здароўя. У снежні 1924 г. накіраваны ў БССР на пасаду начальніка Галоўлітбела. У 1926 г. адначасова працаваў літаратурным супрацоўнікам часопіса «Полымя» (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 2. Спр. 4139. Арк. 3).

5 Гурскі Ілья Данілавіч (1899–1972) стаў начальнікам Галоўлітбела ў сакавіку 1927 г. Нарадзіўся ў в. Замосце Ігуменскага пав. Мінскай губерні ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння народнай школы батрачыў, працаваў падсобным рабочым, качагарам. Член ВКП(б) з 1919 г., у 1919– 1924 гг. — у Чырвонай Арміі. З 1924 г. — супрацоўнік Галоўліта. 17 красавіка 1930 г. быў вызвалены з пасады загадчыка Галоўлітбела і прызначаны на пасаду старшыні Галоўмастацтва БССР. У 1932 г. скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне БДУ, у 1932–1935 гг. аспірант БАН, у 1935–1941 гг. — рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва». У гады Вялікай Айчыннай вайны — франтавы журналіст. У пасляваенны час рэдагаваў часопіс «Беларусь» (1944–1960), вядомы беларускі празаік, драматург, член Саюза пісьменнікаў БССР, заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1969). Яго імем у Мінску названа адна з вуліц.

6 Маецца на ўвазе, хутчэй за ўсё, Музей рэвалюцыі ў Мінску, дзе ў 1930-я гг. быў раздзел экспазіцыі, прысвечаны Г. Д. Гаю.

7 Знаходжанне ў складзе партыйнай наменклатуры давала пэўныя льготы, але не пазбаўляла ад галоўнай бытавой праблемы гараджан таго часу — недахопу жылля. У дакладзе начальніка Галоўліта першаму сакратару ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнку, падрыхтаваным у жніўні 1938 г., чытаем: «Працаўнікі цэнтральнага апарата цэнзуры БССР знаходзяцца ў такіх умовах, што я Начальнік Галоўліта і Аддзела Ваеннай Цэнзуры БССР 2 гады жыў увогуле без

кватэры, а цяпер ужо год жыву ў памяшканні былой крамы — проста хлеў; Намеснік па Ваеннай цэнзуры ўвогулле не мае кватэры, а жыве за горадам на адлегласці ў 4 клм. у ваеннай часці і там яму неаднаразова прапаноўвалі высяляцца. Таксама жывуць без кватэр і шэраг работнікаў цэнзуры» (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Спр. 13152. Арк. 52).

8 Давідовіч Залман Аронавіч быў прызначаны начальнікам Галоўліта і аддзела ваеннай цэнзуры БССР у маі 1934 г. Нарадзіўся ў 1903 г. у Бабруйскім павеце ў сям'і прыказчыка, яўрэй, у гады Першай сусветнай вайны працаваў прыказчыкам на лесараспрацоўках. Скончыў хедэр і першы курс тэхнічнага вучылішча. З 1921 г. знаходзіўся на камсамольскай рабоце, займаўся літасветработай. Член ВКП(б) з 1924 г., у 1928 г. быў інструктарам аддзела друку ЦК КП(б)Б, у тым жа годзе камандзіраваны на вучобу ў КІЖ. Рашэннем бюро ЦК КП(б)Б ад 20 жніўня 1936 г. З. А. Давідовіч быў зняты са сваёй пасады «за сувязь з актыўным контррэвалюцыянерам — трацкістам Розэнблюмам» (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Спр. 9173. Арк. 162). Тады ж быў выключаны з партыі. Арыштаваны ў жніўні 1938 г. Асуджаны, 8-гадовы тэрмін пазбаўлення волі адбываў ва Усцьвымлагу (Комі АССР). У 1948 г. арыштаваны паўторна і высланы на спецпасяленне ў Краснаярскі край. Вызвалены ў 1954 г. Рэабілітаваны ў 1955 г. (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 2. Спр. 1455. Арк. 13).

9 Ахрамовіч Іван Лявонцявіч (1905–1980), нарадзіўся ў в. Ванькоўшчына Рудзенскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і, беларус, адукацыя — сярэдняя. З 1920 г. працаваў рабочым на крухмальным заводзе, у 1927– 1935 гг. — у Чырвонай Арміі, выпускнік Арлоўскай бранятанкавай школы і Кіеўскага ваеннага вучылішча. Пасля звальнення ў запас па стане здароўя ў 1935 г. прыняты на работу раённым цэнзарам, са студзеня 1936 г. — намеснік начальніка аддзела ваеннай цэнзуры БССР. У студзені 1937 г. быў зацверджаны

начальнікам Галоўліта і аддзела ваеннай цэнзуры пры Савеце Міністраў БССР, дзе працаваў да жніўня 1938 г. На працягу наступнага дзесяцігоддзя — у апараце ЦК КП(б)Б, з 1948 г. працаваў у апараце Белсаўпрафа (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 106. Спр. 81. Арк. 4).

10 З восені 1939 г. і да пачатку Вялікай Айчцыннай вайны начальнікам Галоўліта і аддзела ваеннай цэнзуры БССР з'яўляўся Пётр Якаўлевіч Фралоў (1908–1975). Нарадзіўся ў в. Гар Разанскай губерні ў сялянскай сям'і, рускі, адукацыя — сярэдняя. У 1925–1931 гг. працаваў рабочым на прадзільных фабрыках. У 1931–1938 гг. — у Чырвонай Арміі, скончыў Палтаўскае ваенна-палітычнае вучылішча, у 1935 г. прыбыў для прахаджэння службы палітруком вучэбнай роты ў 2-ю Беларускую стралковую дывізію. Звольнены ў запас па стане здароўя. З сакавіка 1938 г. працаваў намеснікам начальніка Галоўліта і аддзела ваеннай цэнзуры БССР, з верасня 1939 г. па ліпень 1941 г. — начальнікам. У гады Вялікай Айчыннай вайны з'яўляўся начальнікам Галоўліта Каракалпакскай аўтаномнай вобласці, потым — на афіцэрскіх курсах «Выстрал». Пасля заканчэння вайны працаваў памочнікам сакратара ЦК КП(б)Б, загадчыкам аддзела кадраў Дзяржплана БССР (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 113. Спр. 2179. Арк. 4).

11 Мікола Хведаровіч (Чарнушэвіч) быў выключаны з УсеКП(б), асуджаны, але ў сталінскіх лагерах выжыў, вярнуўся ў Мінск, выдаваў свае кнігі, шмат перакладаў, памёр у 1981 г.

12 Олікер Барыс Львовіч (1901–1978) у 1918 г. кіраваў мінскай падпольнай камсамольскай арганізацыяй, удзельнік III з'езда РКСМ, у 1933– 1935 гг. намеснік наркама аховы здароўя БССР. Арыштаваны ў 1936 г.

13 За два гады да яго арышту пастановай бюро ЦК КП(б)Б быў зняты з пасады разам з наркамам асветы БССР А. М. Платуном дырэктар БДВ А. Я. Некрашэвіч.

14 Пасля перамогі Хрушчова і абрання курса на дэсталінізацыю грамадства «адпраўлены ў ссылку» — загадчыкам сектара дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізму ў Інстытут філасофіі і права АН БССР.

15 Напрыклад, загадчыка яўрэйскага аддзела БАН, навуковага супрацоўніка Гістпарта М. Т. Агульніка, які прапусціў «бундаўскую» кнігу, звольнілі з працы, у 1938 г. ён быў асуджаны на 5 гадоў лагераў.

16 Раман «чырвонага бунтара» М. Зарэцкага «Крывічы» ў 1929 г. выклікаў не толькі буру ў прэсе, але і цэнзурную забарону. У ім быў выведзены вобраз нацыянальнага правадыра, прататыпам якога з'яўляўся В. Ластоўскі. Лёгка пазнаваліся іншыя прататыпы герояў — Я. Купала, М. Чарот, А. Александровіч.

17 Паэма «Сымон-музыка», тэкст якой тройчы перажыў грунтоўнае перарэдагаванне аўтарам, у першай сваёй рэдакцыі напісана падчас перапынку ў стварэнні другой яго вялікай паэмы — «Новая зямля». Першую частку Я. Колас пісаў на працягу месяца — ад 22 лістапада да 21 ліпеня 1911 г. Другую частку — у красавіку — пачатку мая 1912 г. У ліпені 1917 г. — снежні 1918 г. у Курскай губерні нараджаюцца трэцяя, чацвёртая і пятая часткі. Друкаваў паэму Я. Колас у першым паслярэвалюцыйным беларускім часопісе «Вольная Беларусь», які выходзіў у Мінску пад рэдакцыяй яго дзядзькі і духоўнага настаўніка Я. Лёсіка. Асобным выданнем «Сымон-музыка» ў першай рэдакцыі ніколі не з'яўляўся. У 1923– 1924 гг. Я. Колас грунтоўна перарабляе гэты тэкст, але рукапіс яго знік улетку 1924 г. падчас падарожжа паэта на Каўказ. Да канца 1925 г. з'яўляецца ў друку новая, трэцяя грунтоўна перароблена рэдакцыя паэмы.

18 Маецца на ўвазе публікацыя: Баранавых, С. Матчын сын : [імпрэсія] // Літаратура і мастацтва. 1932. 10 верасня.

19 Маецца на ўвазе артыкул А. Сідарэнкі «Шлях

паэта», апублікаваны ў юбілейным нумары часопіса «Беларусь калгасная» (1932. № 6–7. С. 145–159), дзе аўтар дазволіў сабе станоўча ацэньваць дарэвалюцыйную творчасць паэта.

20 Шэраг гісторыкаў савецкай літаратуры сцвярджаюць, што ідэя стварэння вялікага Саюза Савецкіх Пісьменнікаў як сродка ліквідацыі іншадумства і арганізацыі кантролю за пісьменнікамі належала асабіста Сталіну.

21 Маецца на ўвазе акадэмік І. А. Пятровіч (Я. Нёманскі).

22 Адной з формаў палітычнага кантролю за дзейнасцю пісьменнікаў былі сакрэтныя інфармацыйныя агляды Галоўлітбела, якія складаліся на аснове забароненых літаратурных твораў і рэгулярна дасылаліся цэнзарамі ў ЦК КП(б)Б.

23 Гэта быў не першы выпадак, калі партыйныя літаратурныя крытыкі былі ахвяраваны іх ідэалагічнымі кіраўнікамі. Яшчэ ў 1934 г., калі пачалася кампанія барацьбы з «вульгарызатарамі», з БССР быў вымушаны збегчы Л. Бэндэ.

24 Гл., напр.: Лынькоў, Р. Важнейшая задача беларускай лінгвістыкі / Р. Лынькоў // ЛІМ. 1939. 3 верас. С. 2; Осіпаў, Д. Пра «дзецтва» і партвыдавецтва / Д. Осіпаў // ЛІМ. 1939. 23 ліст. С. 4; і інш.

25 «Дэр юнгер ленінец» («Юны ленінец») — орган ЦК ЛКСМБ, выдаваўся ў Мінску на мове ідыш з 1930 па 1938 г.

26 «Орка» («Ворыва») — орган ЦК КП(б)Б, выдаваўся ў Мінску на польскай мове з 1926 па 1937 г.

27 «Раўдонайсіс артояс» («Чырвоны араты») — орган ЦК КП(б)Б, выдаваўся ў Мінску на літоўскай мове з 1927 па 1937 г.

28 «Окцябер» («Кастрычнік») — орган ЦК КП(б)Б, выдаваўся ў Мінску на мове ідыш з 1925 па 1941 г.

29 «Дэр юнгер арбетэр» («Малады рабочы») — орган ЦК ЛКСМБ, выдаваўся ў Мінску на мове ідыш з 1922 па 1936 г.

30 «Бальшавіцкі змагар» — орган Ельскага РК КП(б)Б і раённага савета.

31 У 1926 г. у БССР было 49,6 % непісьменнага насельніцтва.

32 У 1935 г. на Берлінскай выстаўцы быў прадстаўлены першы серыйны магнітафон «К-1» вытворчасці фірмы BASF, але ў савецкіх радыёцэнтрах магнітафоны з'явіліся толькі напрыканцы 1940-х гг.

33 Першы савецкі серыйны прыёмнік «БВ», выпуск якога пачаўся ў 1925 г., адыграў асноўную ролю ў радыёфікацыі рабочых клубаў, хат-чытальняў, забеспячэнні радыётрансляцыйных работ у горадзе і на вёсцы.

34 У 1927 г. у сваёй інструкцыі Гомельскаму акрліту Галоўлітбел прапанаваў падчас правядзення кантролю работы Гомельскай станцыі «быць даволі гібкім, каб не зрываць працу радыёвяшчальных арганізацый» (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Спр. 3546. Арк. 189).

35 Ідэю стварэння праваднога радыё (г. зн. сістэмы перадачы навін, музыкі, лекцый, рэкламы ў дамы кліентаў па электраправадах) у 1922 г. прапанаваў і рэалізаваў амерыканец Дж. О. Сквайр.

36 Нацыянал-сацыялісты таксама актыўна выкарыстоўвалі вуснае слова дзеля дасягнення сваіх амбіцыйных мэт, але, з пэўнымі тэхнічнымі адрозненнямі. Летам 1933 г. пад дэвізам «Радыё — у кожны дом» 28 вядучых радыёфірм Германіі ў прымусовым парадку павінны былі распачаць работы па стварэнні простага, таннага і якаснага радыёпрыёмніка. «Масавы прыёмнік» (Volksempfaenger) быў разлічаны на прыём толькі мясцовых радыёстанцый. Неўзабаве быў выдадзены закон, адпаведна якому забаранялася праслухоўванне замежных «галасоў». Да канца

1939 г. у Германіі было ўжо 35 радыёцэнтраў магутнасцю да 150 кВт. Захопніцкая палітыка нацыстаў дазволіла пашырыць сетку вяшчання краіны за кошт радыёстанцый на акупіраваных тэрыторыях. Большая частка Еўропы была вымушана атрымліваць інфармацыю ў нацыянал-сацыялістычнай афарбоўцы.

37 Шамардзіна Соф’я Сяргееўна (1894–1980) скончыла мінскую жаночую гімназію, Бястужаўскія жаночыя курсы ў Пецярбургу; жонка старшыні СНК БССР Я. А. Адамовіча; сябравала з І. Севяраніным, У. Маякоўскім, К. Чукоўскім, Я. Купалам. Пасля самагубства ў 1937 г. Я. А. Адамовіча адбывала 10-гадовы тэрмін зняволення ў ГУЛАГу.

38 Падобная практыка Галоўрэперткама ўжо напрыканцы 1920-х гг. прывяла тэатры БССР да рэпертуарнага крызісу і крызісу беларускага тэатра ўвогуле, што зафіксавалі дзве «тэатральныя дыскусіі». Напрыклад, калі ў 1926 г. БДТ-1 паставіў 15 прэм’ерных спектакляў, то ў 1928 г. усяго два (Пурышава, Н. Страсці за кулісамі: Тэатральная палітыка ў БССР у 20-я гг. / Н. Пурышава // Маладосць. 2001. № 11. С. 241–255.

39 Маецца на ўвазе фільм савецкай рэжысёркі Э. Шуб, зняты ў жанры гістарычнай кінахронікі да дзесяцігоддзя Кастрычніцкай рэвалюцыі.

40 Мастацкі кіраўнік БелТРАМа П. Шамшур пэўны час адначасова з’яўляўся старшынёй Галоўрэперткама.

41 Вайншток Уладзімір Пятровіч (1908–1978) — беларускі, расійскі рэжысёр, пачаў сваю прафесійную дзейнасць у канцы 1920-х гг. на кінафабрыцы «Белдзяржкіно», узначальваў кінастудыю «Масфільм», заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР.

42 ГРК — Галоўрэперткам.

43 Гэты фільм, зняты вучнем С. Эйзенштэйна, не быў дапушчаны да пракату самім кіраўніцтвам трэста «Белдзяржкіно» яшчэ да прагляду яго ў Галоўрэперткаме.

44 Ржэцкая Лідзія Іванаўна (1899–1977), беларуская савецкая актрыса, народная артыстка СССР, з 1920 г. у трупе БДТ-1.

45 Радзялоўская Алена Паўлаўна (1904–1971), беларуская савецкая актрыса, народная артыстка БССР, з 1926 г. у трупе БДТ-2.

46 Грыгоніс Генрых Юр'евіч (1889–1955), беларускі савецкі акцёр, народны артыст БССР, з 1921 г. у трупе БДТ-1.

47 Галяйзоўскі Касьян Яраславіч (1892–1970) — рускі артыст балета і балетмайстар. У 1909–1918 гг. выступаў на сцэне Вялікага тэатра ў Маскве. Быў заснавальнікам і кіраўнікам эксперыментальнага Маскоўскага камернага балета (1922–1925), якому былі ўласцівы навізна тэм, харэаграфіі і сцэнічнага афармлення спектакляў. У той час у К. Я. Галяйзоўскім бачылі аднаго з лідэраў савецкага авангарднага мастацтва. З сярэдзіны 1930-х гг., калі афіцыйная ідэалогія абвясціла вайну «фармалізму», К. Я. Галяйзоўскаму зрэдку даводзілася працаваць у Маскве, калі не лічыць пастаноўкі фізкультурных парадаў на Краснай плошчы. У гэты час балетмайстар працаваў у саюзных рэспубліках, у т. л. у БССР, дзе ставіў спектаклі і ўдзельнічаў у падрыхтоўцы дэкад нацыянальнага мастацтва.

48 Фурка — частка сцэнічнага абсталявання — перасоўная пляцоўка на роліках.

49 Пра наяўнасць падобных матэрыялаў у сучасных архіўнабібліятэчна-музейных беларускіх сховішчах ускосна ўзгадвае артыкул № 16 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб інфармацыі, інфарматызацыі і абароне інфармацыі». Гл.: Национальный реестр правовых актов Республики Беларусь. 28 ноября 2008 г. № 279 (1839). С. 14–27.

50 У. І. Пічэта ўжо меў вопыт падобнай дзейнасці, набыты ў 1918 г. у складзе разборачнай камісіі пры Галоўархіве ў Маскве.

51 Пасля звальнення па палітычных матывах з пасады

дырэктара Мінскага гістарычнага архіва і выключэння з партыі І. Ф. Шпілеўскі працаваў загадчыкам сектара макулатуры (sic!) Мінскай гарадской канторы «Саюзутыль».

52 У сувязі з прымежным становішчам сталіцы БССР, ЦВК рэспублікі ў жніўні 1929 г. прыняў пастанову аб пераводзе Цэнтральнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Магілёў. Але пераезд праходзіў у цяжкіх умовах і зацягнуўся.

53 Пасэ С. У. (1909–1938) — дырэктар Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б. Адным з абвінавачванняў яго пасля арышту быў «крадзеж архіўных дакументаў».

54 Невядома, ці выкарыстоўваў будучы аўтар слоў Дзяржаўнага гімна БССР вынікі архіўных пошукаў ва ўласных творах.

55 Адабраннем польскамоўнай літаратуры з бібліятэк Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі было даручана займацца Галоўліту Украінскай ССР.

56 Касцёл Св. Роха на Залатой горцы ў Мінску.

57 Рэйнгольд І. І. — член Часовага рабоча-сялянскага ўрада БССР па справах фінансаў, расстраляны ў 1936 г. як «член трацкісцка-зіноўеўскага тэрарыстычнага цэнтра»; Пікель Р. В. — член Часовага рабоча-сялянскага ўрада БССР, старшыня Савета народнай гаспадаркі, расстраляны ў 1936 г. «за тэрарыстычную дзейнасць супраць кіраўнікоў партыі і дзяржавы»; Найдзянкоў Г. П. — член Часовага рабоча-сялянскага ўрада БССР, член ЦК КП(б) Літвы і Беларусі, расстраляны ў 1919 г. па рашэнні Вярхоўнага рэвалюцыйнага трыбунала пры ЦВК Літбела.

58 Безумоўна, беручы пад увагу ўсю папярэднюю дзейнасць М. І. Касьпяровіча, усё гэта ён казаў пад прымусам партыйных ідэолагаў. Падобныя словы выціскаліся з людзей, якія мелі значна большую грамадска-палітычную вагу. На жаль, М. І. Касьпяровіча гэта не выратавала — праз паўгода пасля заканчэння III

Усебеларускай краязнаўчай канферэнцыі ён быў арыштаваны і асуджаны да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў, а ў снежні 1937 г. — да вышэйшай меры пакарання.